# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ



## КРАСАВІК
## 1929




БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

# КРЫВІЧЫ

*Роман*

**Міхась Зарэцкі**

Пролёг

## СЬМЕРЦЬ АНДРЭЯ БЕРАЗОЎСКАГА

17 жніўня 192... году ў невялічкім, па-мяшчанску прытульным дамку на Пярэсьпе памёр галоўны герой гэтага роману Андрэй Іванавіч Беразоўскі.

Гэта была спакойная ціхая сьмерць, якая зьявілася законным і зусім спадзяваным канцом маруднага—на працягу цэлага году—згасаньня. Але не ўважаючы на гэта, нямала людзкіх сэрцаў аблілося крывёй, калі па сталіцы разьнеслася вестка аб яго сьмерці.

Астатнія хвіліны нябожчыка былі атулены сьветлай ласкай і цеплатой. У гэты дзень было надзвычайна прыгожае надвор'е, і доктар дазволіў адчыніць у пакоі хворага вокны, якія выходзілі ў маленькі дзікі садок. Адтуль шырокай патокай лілася ў пакой густая слодыч квяцістага дня, нямотна застылага ў млявым жнівеньскім сонцы. Адтуль ціхенька, спадкрадня ўляцела была кволая павучынка і, нікім не заўважаная, лягла на чало Беразоўскаму першым надгробным вянком.

Пах сьвежых яблыкаў дзівосна сплятаўся з бяздушным пахам лякарства.

У гэты дзень з самага ранку ля хворага неадступна знаходзілася дачка яго Зена і тры блізкія яму чалавекі: Мікола Аржановіч, Сьляпень і Саўка Малахавіч. Яшчэ ўчора ўвечары хворы страшэнна аслаб, і доктар зусім выразна намякнуў на блізкі канец.

Зена ўвесь час з трагічным неўразуменьнем глядзела на бацькаў твар—сухі, нярухомы, з ледзьве прыметным сьледам жыцьця. Яна была хваравіта бледная, вочы ў яе глыбока запалі і пацямнелі—яна выглядала цяпер намнога старэйшай за свае дзевятнаццаць год. Праз цэлы дзень яна амаль-што не сказала ні слова, быццам не заўважала нікога, хто быў каля яе, на ўсіх забылася, аддаўшыся свайму ўпартаму маўклівому сузіраньню. Часамі да яе падыходзіў Саўка Малахавіч—любы сівеньні дзядок,—абнімаў за плечы і пяшчотна гладзіў яе залацістыя валасы. Потым з раптоўнай хапліваасьцю цалаваў яе ў галаву, недалужна крывіўся, усхліпваў і скоранька адбягаў на сваё месца—каля расчыненага вакна.

Сьляпень з Аржановічам былі ў суседнім пакоі. Аржановіч панура сядзеў у кутку, узьлёгшыся локцем на край шахматнага століка. Яго прыгожы твар сьвіціўся глыбокай ціхай журбой. А Сьляпень, як і заэвычай, бясконца хадзіў па пакою, поўны рэзкай нэрвовай энэргіі.

Гадзіне а чацьвертай спаўдня на хворага сышла хвіліна апошняга прасьвятленьня. Яго застылы твар раптам сагрэўся праменем яснай сьвядомасьці, ён некалькі раз плюснуў вачмі, нібы адганяючы сон, і зрабіў усім целам кароткі напружны рух, каб павярнуцца ў той бок, дзе сядзела дачка. Зена ў радасным парываньні кінулася прад ім на калены і сударгава прыціснулася да яго рукі. Вусны хворага слаба зашавяліліся і ён ледзь чутна прашаптаў:

— Хто тут... усе...

Зена зрабіла нецярплівы знак Саўку Малахавічу, і той пабег у суседні пакой, каб гукнуць хлопцаў.

Усе падышлі да ложка і ў урачыста-глыбокім маўчаньні чакалі, што скажа хворы. Андрэй Беразоўскі шырока расплюшчыў вочы і абвёў усіх марудным, цяжкім, але зусім ясным поглядам. Потым, нібы заспакоены гэтым абглядам, ён зноў устроміў некуды ў столь свае згаслыя вочы і, хвіліну перабыўшы ў ранейшай нярухомасьці, з патугай загаварыў:

— Добра ўсё... Жыць... трэба жыць... працаваць... Вы ўсе... разам... Вы... добрыя... Зена... Зена...

Раптам нешта падобнае на ўсьмешку прамільгнула на яго тонкіх усохлых вуснах.

— Я... пісаў там... так... нешта... не друкаваць... не... чытайце... прачытайце... пра бацькаўшчыну...

Гэта было яго апошняе слова. Ён змоўк і ўжо, мабыць, нічога ня чуў з таго, што рабілася каля яго ложка. На твары ў яго закамянеў апошні выраз—бязуважна-халоднага спакою.

Зена не магла ўжо стрымліваць у нутры сваё гора, сваю бязьмежную роспач. Яна горка, па-дзіцячаму плакала, цалавала бацькавы рукі і ўсё паўтарала, як няпрытомная:

— Тата... татачка... Ты не памрэш... не памрэш... не, ня трэба... Я адна... Татачка, я-ж адна... адна...

Аржановіч глядзеў на яе гарачымі, поўнымі балючай мукі, вачмі. Ён, пэўна, ня менш, як яна, перажываў і яе гора, і сваё, але сабраў усе сілы і стараўся быць спакойным.

Сьляпень стаяў перад расчыненым вакном, залажыўшы рукі ў кішэні, і з упартай мэтодычнасьцю гоўтаўся на абсацах. Саўка Малахавіч перш недалужна, па-старчаму румзаў, уткнуўшыся тварам у сьценку, а потым падбег да Зены і, не перастаючы хліпаць, пачаў сунімаць яе, угавараць. Яму ледзьве ўдалося адарваць яе ад хворага і пасадзіць на крэсла. Пасьля гэтага яна заціхла і зноў удалася ў сваю тупую трагічную нярухомасьць.

Канец прышоў ужо надвячоркам. Разам з тым, як паміраў Андрэй Беразоўскі, памірала і мяккае жнівеньскае сонца. Ціхія марудлівыя праменьні доўга поўзалі па пакою, разглядалі з спакойнай цікавасьцю хатнія рэчы і раз-по-раз зазіралі ў закамянелае аблічча хворага, нібы правяраючы, ці зрабіла ўжо сьмерць сваю справу.

А сёмай гадзіне прышоў доктар і ў мімавольным замяшаньні аб'явіў, што Андрэя Беразоўскага ўжо няма. Пакуль ён з нэрвовай пасьпешнасьцю завінаўся каля Зены, стараючыся ачуліць яе, мужчыны стаялі зводдаль, прыбітыя гэтым прадбачаным, але ўсёроўна жудасным фактам, і ня ведалі, што цяпер трэба рабіць, што трэба гаварыць і ці трэба гаварыць наогул. Аржановіч чамусьці ў гэты момант успомніў Пражэню і гэта дало яму выхад з цяжкога адзервяненьня.

— Трэба тэлеграфаваць Пражэню.

Саўка Малахавіч—добры сівенькі дзядок—адразу заклапаціўся.

— Пражэня на вёсцы... Ён нічога ня ведае... Ён можа і ня думае, што такое няшчасьце... Трэба тэлеграму... хутчэй...

І ў гэты першы прахон палілася адразу ўся іхная, зацятая на момант, сьвядомасьць. З хвіліну здавалася, быццам уся справа якраз толькі ў тым, каб хутчэй паведаміць Пражэню.

Потым пашло ўсё звычайным парадкам...

...На трэці дзень было пахаваньне. Нямала народу праводзіла нябожчыка ў гэтым апошнім яго падарожжы і нямала хто плакаў па ім цёплымі шчырымі сьлязьмі.

Так памёр Андрэй Іванавіч Беразоўскі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сьмерць Андрэя Беразоўскага ёсьць дата, ад якой пачынаецца ўся гісторыя, апісаная ў гэтым романе. Беразоўскі не рэальны герой роману, ня жывы пэрсонаж—ён пройдзе праз усе раскрытыя тут сытуацыі толькі сваімі думкамі, сваёй філёзофіяй і, найгалаўней, сваім пачуцьцём—палкім, як жар, і неабсяжным, як мора.

## Частка першая

### I

Пасажырны поезд Маладэчна—Вільня з вясёлым грукатам скаціўся ў залітую сівым туманам лагчыну, спрытна перасігнуў праз маленькі, але надта гырклівы масток і пачаў старанна глабацца па крутому ўздыму, залазячы ў чорныя нетры густога лесу. Перад канцом уздыму ён так замарыўся, так засопся, што ледзьве цягнуў свой жалезны хвост і, здавалася, во-во гатоў быў спыніцца зусім.

У гэты момант з дзьвярэй аднаго вагона, у якім вязьлі арыштантаў, выкінуўся чалавек і кумільгам пакаціўся па схону высокай чыгуначнай насты. Прагрымелі адзін за адным некалькі стрэлаў, поезд, скарыстаўшы

зручны выпадак, ураз спыніўся і пачаў цяжка аддыхвацца; па лесе замітусіліся кволыя аганькі ліхтароў.

Поезд ня мог затрымацца больш, як на дзесяць хвілін, і таму аганькі скора павыбеглі з лесу і, засароміўшыся, схаваліся ў вагонах. Паравік, троху спачыўшы, з сьвежым задорам крыкнуў і пабег наганяць страчаныя хвіліны.

У глухой непралазнай гушчыні хваёвага парасьніку, забіўшыся ў нейкую яміну і сударгава ўткнуўшы твар у сухія калючкі, ляжаў чалавек. Ён нічога ня чуў і ня бачыў—ён быў працяты страшным сьмяротным здраньцьвеньнем, з якога не маглі вывесьці яго ні стрэлы, ні блізкія галасы варожых людзей, ні разьвітальны крык паравіка. Ён ляжаў так можа гадзіну ці больш—час ішоў цяпер міма яго, як ішло міма яго ўсё жыцьцё—і толькі напружны шум новага поезда вярнуў яго да прытомнасьці. Ён яшчэ глыбей убіўся ў сваё калючае логава і ўсе сілы свае істоты злучыў у адно пачуцьцё востра-напятага слуху.

Адгрымеў і заціх у далечы поезд, і з усіх бакоў насунулася прагавіта-ўедлівая цішыня. Гэта раптоўная цішыня здалася чалавеку поўнай ліхога падступства, і ён яшчэ доўга яе правяраў, з упартай настойнасьцю захоўваючы сваю нярухомасьць. Адылі час браў сваё—памалу слух яго траціў першапачатковую вострасьць, даючы месца іншым пачуцьцям, і тады з раптоўнай рэзкасьцю ён адчуў агнёвую боль ва ўсім целе. У яго зьявілася думка аб тым, што ён сябе пакалечыў, і безнадзейная роспач тупым цяжарам узьлягла на яго слабую сьвядомасьць. Ён зноў апынуўся на мяжы таго цяжкога здраньцьвеньня, з якога толькі-што вышаў.

Але так было адзін момант. Ён сабраў усе сілы і, перамагаючы боль, пачаў правяраць свае члены: сьціху паварушыў аднэй рукой, потым другой, перасунуў у бок адну за аднэй свае ногі, папрабаваў узьняць угару ацежалелае тулава. Ня было, здавалася, такога месца на целе, дзе-б не гарэў гэты нязносна-пякучы боль. Але ўсе члены рухаліся спраўна і ў нутры ня чулася асаблівай завады. Значыць, ён не пакалечыў сябе, толькі моцна пабіўся, коцячыся па крутому шурпатаму схону.

І вось толькі цяпер, пераканаўшыся ў сваёй зусім выпадковай цэласьці, чалавек у поўнай меры адчуў усю нявымоўна-глыбокую слодыч збавеньня. Навокал нікога няма, ніхто ня сочыць за ім, ён адзін, зусім адзін, ён можа рабіць цяпер, што захоча. Калі захоча, будзе ляжаць тут, у цёплым прытульным зацішку—тут надзвычайна добра адпачываць!—калі не захоча, устане і пойдзе, будзе цягацца па лесе і ніхто яму гэта не забароніць. А пакуль-што ён, як дзіця, стуляецца клубочкам, точыцца глыбей у сваю выпадковую схову і ціхенька шчасьліва сьмяецца.

Якую моцную радасьць дае чалавеку воля!

Раптам усю істоту яго страсае пачуцьцё вострай трывогі: тут-жа самае небясьпечнае месца—тут могуць шукаць яго, могуць падумаць,

што ён разьбіўся і ня мог адсюль уцячы. Трэба як мага далей. Трэба бегчы...

Ён парываецца ўскочыць на ногі, але з немым стогнам валіцца назад, на зямлю. Ён цяпер толькі ўспомніў, што рукі яго закуты ў кайданы. Ён так да іх прызвычаіўся, што лічыў іх за неадменную частку свайго цела, і толькі цяпер, калі жалеза жорстка спыніла яго парываньне, ён пачуў сябе зьвязаным і бясьсільным.

Ён нявольны. Ён зусім нявольны. Ён нідзе ня знойдзе сабе прытулку, яго ўсюды пазнаюць і забяруць. І як ён ня ўздумаў пра гэта перад тым, як кідацца з поезда? Нашто было толькі рызыкаваць сваім жыцьцём? Але гэта вышла неяк раптам, неспадзявана. Ён ні аб чым ня думаў тады. Ён убачыў блізка каля сябе расчыненыя дзьверы і заўважыў, што поезд ідзе зусім ціха. Нейкая сіла штурхнула яго, і ён кінуўся. А цяпер...

Няўжо няма ніякай надзеі? Няўжо перад ім адзін нямінучы канец—глухая турма, якая была ўжо, здавалася яму, такой далёкай і зусім нястрашнай. Няўжо гэта была толькі падманная радасьць, толькі ілюзія?

Пачуцьцё роспачы змагаецца ў нутры чалавека з упартай інстынктыўнай упэўненасьцю ў магчымасьці нейкага невядомага выйсьця. Ён напружвае сваю сьвядомасьць, дае поўную волю фантазіі, і адзін за адным перад ім паўстаюць розныя пляны ратунку—усе надзвычайна сьмелыя, усе недарэчныя і ўсе немагчымыя. Разам з гэтым да яго варочаецца ранейшая трывога, і ён, ні да чаго не даўміўшыся, усё-ткі выпаўзае з свайго гнязда, асьцярожна ўзьнімаецца з долу і паціху сунецца ў чорную глыбіню лесу.

Па нядоўгім часе ён выходзіць на край невялічкай паляны. Ён спыняецца тут і доўга сьвідруе напружным зрокам шэрую муць адкрытага перад ім прахону. Толькі канчаткова ўпэўніўшыся ў тым, што паляна пустая, ён выходзіць на сярэдзіну яе і ўзьнімае погляд у іскрысты купал зорнага неба.

Перад ім вялічна распасьцерлася добра знаёмае сузор'е Вялікай Мядзьведзіцы. Ён праводзіць вачмі ад яго простую лінію і знаходзіць полярную зорку.

Гэта поўнач... Там, значыць, поўдзень... Тут—усход...

Сюды... На ўсход... Толькі сюды... Хай будзе, што будзе...

І ён зноў удаецца ў цёмныя нетры лесу, напружваючы ўсю сваю ўвагу, каб трымацца ўзятага напрамку. У яго няма яшчэ пэўнае думкі, пэўнага пляну, яго штурхнула ў той бок нейкая інстынктыўная сіла—мабыць дзікі непазбыўны страх перад усім тым бязьлітасна-жорсткім, балючым, што яму давялося зазнаць, што чорнай навалаю ішло адтуль, з варожага захаду.

Глухая ноч замазала ўсё навакол непраглядной чарнільнай цемрай. На кожным кроку прыходзіцца натыкацца на нявідныя дрэвы, на пні, на калючае кусьце. Скутыя рукі не даюць мажлівасьці цьвёрда кіравацца

ў гэтым жудасным беспрасьвецьці—ён хістаецца, як п'яны, падае, стукаецца аб дрэвы, зашываецца ў непралазныя зарасьлі. Ён часта губляе напрамак ды ідзе куды-пападзя ці проста круціцца на адным месцы, пакуль ня знойдзе якога-небудзь прагалку, адкуль можна разглядзець пуцяводны нябесны ўзор.

Нарэшце апошнія сілы кідаюць яго. Яму здаецца, што на целе ў яго павіс нейкі непамерна цяжкі гнёт, якога ён ніяк не падужае несьці, які з непераможнай сілай цягне яго да зямлі. Ногі ўжо канчаткова страцілі сваю адчувальнасьць—ён перасувае іх, як драўляныя абрубкі, як зусім чужыя, выпадкова прышчэпленыя да яго прадметы. І ўсё баліць, усё ные, усё просіць хоць якога-небудзь, хоць зусім кароценькага адпачынку.

Ён забіваецца ў зарасьлі сухога маліньніку, бясьсільна падае на зямлю і засынае тупым беспрасыпным сном.

...У тое ядранае жнівеньскае раньне сонца ўстала было такое сьвежае і румянае, як толькі-што вымыты ў сьцюдзёнай вадзе твар маладой красуні-дзяўчыны. І не пасьпела яшчэ падняцца добра над небасхілам, не пасьпела прамыць празрыстай расою сваіх аспалых вачэй, як пачало ўжо гарэзваць, пачало кідаць туды ды сюды свае кокетліва-прыжмураныя млявыя погляды. Кінула погляд яно і ў стромкі высокі бор—цікава яму паглядзець, што нарабілася за-нач у тых патаемных схованках!—але нічога ня ўбачыла, апрача маладых падшпаркаў-хвоек, якія загарадзілі сабой усё-чыста ўзьлесьсе. Тады сонца паднялося троху вышэй, зазірнула праз галовы гэтых блазьнят, прасьлізнула ў самы гушчар маўклівага бору, пачало аглядаць кожны кусьцік, кожную травінку.

У густой зарасьлі маліньніку, сярод сухога цыбатага быльля сонца натрапіла на чалавека. Яго зацікавіў нязвычайны выгляд гэтага чалавека, і яно доўга блукала па ім сваймі дрыготнымі плямамі, уважна разглядаючы ўсю яго постаць.

Чалавек быў ня дужа высокага росту, але і не малы, пропорцыянальна і шчытна складзены, з буйной галавой, з сьветлымі курчавымі валасамі. Ён быў, напэўна, зусім малады, бо тая цьмяная поўсьць, якая роілам кудлычылася на яго барадзе, мела абсолютна нясталы выгляд, здавалася нечым дачасным і недаразьвітым.

Твар чалавека цяжка было разглядзець, бо ён быў увесь падрапаны і запэцканы ў кроў. Адылі можна было заўважыць, што рысы гэтага твару занадта мяккія і акруглыя, што ў яго троху целепаваты нос і зусім дзіцячы рот—вялікі, з буйнымі капрызна-выпятымі вуснамі.

Чалавек ляжаў на сьпіне, выпрастаўшыся ва ўсю даўжыню свайго цела. Яго рукі, скутыя ланцугом, былі закінуты за галаву—жалеза разьела на іх страшныя раны, і яны жудасна чарнелі засохлай крывёй. На сонным твары ў яго ляжаў хмуры сярдзіты выраз, быццам чакаў ён, што нехта прыдзе яго будзіць і загадзя ладзіўся злосна агрызнуцца:

— Ня рушце мяне... Я хачу спаць.

Але сонца гэтага не збаялася. Яно гарэзьліва ўскочыла чалавеку на твар і пачало яго казытаць. Чалавек сьперш нездаволена моршчыўся, але-ткі ня вытрымаў: шырока-шырока ўсьміхнуўся і млява расплюшчыў свае шэрыя вочы. З хвіліну ён так і ляжаў, усьміхаючыся цягучай санлівай усьмешкай. Потым чамусьці нэрвова ўздрыгнуў, усхапіўся, вытыркнуў з зарасьляў галаву, пачаў напружна азірацца.

Ён, відаць, зусім не чакаў, што апыніцца на краю лесу. Заўважыўшы нездалёк ад сябе падазроныя прасьветы паміж дрэў, ён раптам ускочыў на ногі і пабег, апанаваны сьмяротным страхам, у лясную гушчэчу.

Глухая ціша, якой поўніўся лес, памалу вярнула яму спакой. Ён спыніўся, абапёрся плячмі аб дрэва і пачаў шумна аддыхвацца. Разам з тым, як мінаўся гэты мімавольны спалох, у нутры ў яго вырастала цьвёрдая, зусім сьвядомая пастанова.

Ён стаяў так яшчэ колькі хвілін, пакуль канчаткова не сунялося ўзрушанае шалёнай бягнёй сэрца, потым агледзеў сам сябе руплівым вокам, паправіў расхрыстанае адзеньне, зірнуў скрозь густое вецьце на сонца і пасігаў буйнымі рашучымі крокамі.

На ўсход... Толькі на ўсход. Або дайсьці, або памерці...

...Гэта было бязьмерна цяжкое і небясьпечнае падарожжа. Дзікім загнаным зьверам туляўся ён па глухіх кутках, дзе можна было ўнікнуць сустрэчы з людзьмі. Ён адчуваў да людзей нейкі тупы органічны страх, які няможна было разьвеяць ніякімі развагамі, які не падлягаў звычайным законам лёгікі. Яму было ўсёроўна, ці гэта пан, ці селянін, ці работнік—яму здавалася, што ўсе-чыста, увесь сьвет узброіўся супроць яго, кожны рад яго затрымаць і аддаць у рукі жорсткага ката. Толькі там, толькі на чароўным усходзе будзе чалавек яму таварыш і брат.

Колькі раз вострым нясьцерпны голад прыводзіў яго да якой-небудзь вёскі—ён падпаўзаў да самых будынкаў, знаходзіў спадзейны патаемны куток і сядзеў там, з ваўчынай прагавітасьцю ўглядаючыся ў спакойны рух сялянскага жыцьця. Часам зусім блізка ад яго праходзіў хто-небудзь з сялян, і ён гатоў быў кінуцца да яго, паказаць страшныя раскрываненыя рукі свае, расказаць ўсё-чыста і папрасіць у яго хоць маленькі кавалачак хлеба. Але думка пра гэта адразу ўзбуджала ў ім магутны віхор таго зьвярынага страху—ён нецярпліва чакаў, пакуль пройдзе чалавек, і бег адтуль, як няпрытомны, забіваўся ў дзікую глуш, далей ад людзей, далей ад ворагаў, далей ад усяго сьвету.

Або дайсьці, або памерці... Іншага выйсьця няма.

Ён ішоў больш уначы. Толькі вялікія густыя лясы, калі яны траплялісяпа дарозе, давалі магчымасьць і ўдзень з напружнай сьцеражлівасьцю пасувацца наперад. Звычайна ён з ранку выбіраў сабе бясьпечнае логава і адлежваўся ў ім цэлы дзень, з балючай чуласьцю прыслухваючыся да жорсткіх прыступаў голаду.

Так мінула тры дні і тры ночы. На чацьверты дзень ён пачуў, што далей ня можа ісьці, што голад і змора канчаткова яго зламілі. Ён ледзьве-

стаяў на нагах, праз кожныя дзесяць-пятнаццаць крокаў яму прыходзілася спыняцца і спачываць. У яго хворай сьвядомасьці з упартай назольлівасьцю білася думка аб сьмерці, і чым далей, тым мацней ахапляла істоту п'янае жаданьне кінуцца долу і больш не ўставаць, акунуцца навек у бяздоннае забыцьцё.

Ён млява цягнуўся па рэдкаму ўзьлесьсю, ад якога адыходзілі пажоўклыя шнуры ярыны. Сям-там жанчыны яшчэ дажыналі авёс—відаць было, як з павольнай аднамернасьцю ўзьнімаюцца і апускаюцца іхныя сьпіны. Ён ня ішоў да іх, але і не сьпяшаўся ўцякаць—хай сабе ўбачаць, яму ўсёроўна цяпер, які будзе канец.

Каля самага лесу нейкі стары селянін накладае на воз снапы. Яго шаўлюжка з бясьпечным спакоем поркаецца ў рудым аўсянішчы, выбірае нейкую травіну і гучна хрускае зубамі. І ў самога селяніна—у зморшчаным твары яго, у мяккай сівой барадзе—роўны спакой, дабрадушная млявасьць.

Няўжо і гэта вораг?

На сухіх счарнелых вуснах бадзякі зьяўляецца пустая бязуважная ўсьмешка. Бяз усякага разважаньня, неяк мімаволі, аўтаматычна ён зварочвае ў бок, выходзіць з лесу і падаецца проста да селяніна. Той заўважыў яго і стаіць, утароплены, ня ведае, ці яму ўцякаць, ці зваць на ратунак, ці моўчкі чакаць, пакуль не падыйдзе гэты дзіўны незнаёмы чалавек.

Што яму трэба? Ці ён п'яны, што так хістаецца ідучы? Чаму ён выставіў перад сабой свае рукі?

Незнаёмы падышоў і з крывой усьмешкай патрос сваім страшным акрываўленым ланцугом. Потым цяжка, як мяшок, асеў на зямлю і прашаптаў:

— Я чатыры дні нічога ня еў.

Селянін чамусьці вінавата ўсьміхнуўся і з штучнай вясёласьцю запытаў:

— Ці здалёку ідзеш?

— Я ўцёк... Выскачыў з поезда. Мяне везьлі ў турму. Бачыш?

Ён зноў страсянуў сваім ланцугом. Селянін адвярнуўся, каб ня бачыць гэтага страшнога жалеза, і маўчаў, ня ведаючы, аб чым далей гаварыць. Незнаёмы ўлічыў гэта за варожую халоднасьць і раптам пыхнуў астатнім рэзкім агнём, які яшчэ захаваўся ў яго істоце.

— За вас я, за ўсіх... Не за сябе... За мужыкоў, за хлопаў. Разумееш ты, га?

Селянін зьдзіўлена паглязеў на яго.

— За нас... за мужыкоў... А куды-ж ты ўцякаеш цяпер?

Незнаёмы слаба матнуў рукамі на ўсход.

— Туды... Папрабую перайсьці цераз кардон.

Селянін зусім асалапеў. Але зараз-жа ў яго вачох бліснула здагадка, і ён ні з таго, ні з сяго заліўся нястрымана-вясёлым сіпучым сьмехам.

— Ха-ха-ха!.. Цераз кардон... ха-ха!.. Ты-ж дзесяць вёрст, як мінуў гэты кардон... Ах ты малец, ты малец... Ну і пацеха з табой...

І стары ніяк ня мог суняць свайго прыязна-вясёлага сьмеху-сіпеньня.

А з незнаёмым дзеялася нешта дзівоснае. Ён кінуўся ніц на зямлю, убіў свой твар у сухое аўсянішча і плакаў, сапраўды плакаў, румзаў, як дзіцянё. Потым ускочыў, бліснуў вачмі і закрычаў, як няпрытомны:

— Праклятыя! Каты! Зьвяры!.. Чакайце!.. Чакайце!..

І ён доўга ў дзікім шалёным гневе гразіў туды, на далёкі захад, сваймі скутымі акрываўленымі рукамі.

II

Зена прытулілася да вакна і глядзела ў халодны, растрывожаны нягодаю сад. Там азьвярэла кідаўся жорсткі, зусім восенскі вецер і бязьлітасна шкуматаў панурыя расьліны. Рэдкія буйныя кроплі дажджу з разгону стукаліся аб вакно і распаўзаліся па шклу касымі сьлізкімі плямамі.

Здавалася, што ніколі ня будзе канца гэтаму шэраму зьмярканьню— з халоднай паклычанай муцьцю за вакном, з злосным скогатам ветру, з беспараднай сумятнёй зьбянтэжаных дрэў. І да-веку астанецца ў душы гэта трывожная разгубленасьць, гэта непакойнае пачуцьцё бяспрытульнасьці.

Чаму не цямнее, не надыходзіць вечар? Чаму так доўга няма Аржановіча?

Зена нярухома глядзіць у затуманены змрокам сад і ў яе памалу пераліваецца ўсё тое беспрасьветна-дзікае мятушэньне. Сэрца ў яе даўка сьціскаецца, хочацца плакаць, хочацца шкадаваць аб нечым добрым-добрым, прыгожым. З балючай яснасьцю ўспамінаюцца нядаўныя дні, поўныя ласкі і радасьці, і трагічная неўзваротнасьць іх давіць сьвядомасьць тупым цяжарам.

Яна глядзіць у вакно, але ўжо нічога ня бачыць, нічога не прымячае. З вачэй яе сыпяцца сьлёзы, а вусны дрыжаць, імкнуцца скласьціся ў безнадзейна-горкую міну.

Чаму ня ідзе гэты нядобры марудлівы Аржановіч?

Але ўжо чуваць на ганку нечыя крокі. Гэта ён—яна заўсёды пазнае яго па тым, як ён адчыняе і зачыняе дзьверы.

Аржановіч увайшоў у пакой і запаліў электрычнасьць. За вакном ураз пахавалася ўсё ў драпежна-старожкую цемру. Зена адварочваецца ад вакна і з адкрытай радасьцю глядзіць на Аржановіча.

Які ён прыгожы! Высокі, зграбны, з мяккім пяшчотным тварам, з пышнымі, папялястага колеру, валасамі. Які ён добры і чулы! Яна глядзіць на яго, як на роднага, як на брата. Яна надзвычайна здаволена, што ён прыходзіць да яе кожны дзень і шчыра перажывае разам з ёй яе гора.

Аржановіч вітаецца і цалуе ёй у руку. Гэта ёй троху не падабаецца. Гэта зусім лішняе, непатрэбнае. Але ён так ласкава і аддана глядзіць ёй у вочы, што можна яму даравацьь гэту маленькую няпрыемнасьць.

— Ты зноў плакала, Зена? Ты абяцала мне ўчора, што больш ня будзеш.

Яна замест адказу жаліцца аднатонна-цягучым, як у пакрыўджанага дзіцяці, голасам:

— Чаму цябе доўга так ня было? Я сядзела-сядзела, чакала. На дварэ так няпрытульна, сьцюдзёна—вецер вые, як зьвер... Мне дужа сумна было, здавалася, што ўсе мяне кінулі, што я адна, адна...

Ён нічога ёй не гаворыць, толькі пяшчотна глядзіць на яе і ўсьміхаецца, лашчыць яе сваймі цёмнымі аксамітнымі вачмі. Пад гэтым поглядам яна адчувае сябе зусім спакойнай і бясьпечнай, быццам ён затуліў яе ад усіх жыцьцёвых нягод, ад усякага няшчасьця. І, у падзяку за гэта, яна робіць яго ўдзельнікам таго інтымнага і таемнага, да чаго яна ўвесь час рыхтавалася і чаму надавала асабліва вялікае значэньне. Яна раптам прымае строгі, амаль-што набожны выраз і шэпча яму:

— Мы пойдзем сёньня да таты. Я яшчэ ні разу ня была там. Я не хацела адна. Мы з табой, Мікола, толькі з табой... больш нікога...

Яна выняла з кішэні ключ і паціху падышла да дзьвярэй бацькавага габінэту. Аржановіч быў каля яе. Яго таксама глыбока працяў урачысты строгі настрой, быццам ён меўся пераступіць цераз парог нейкага таемна-сьвятога месца.

Зена спынілася каля дзьвярэй і як раней, шэптам сказала яму:

— Мне часта здаецца, што тата сядзіць тут... як звычайна... як тады... Я выразна чую, як ён кашляе... Мне зусім нястрашна... я люблю гэта... Я наўмысьля падманьваю сябе і некалькі хвілін думаю, што ўсё так, як і тады, што нічога зусім ня было... Ты разумееш, Мікола?

І яна ўпарта глядзела на яго шырокімі вачмі, у якіх разам з шчырай, яшчэ зусім дзіцячай наіўнасьцю, цямнела нейкая жорсткая фанатычная сіла.

Аржановіч маўчаў. Яму здавалася, што цяпер кожнае слова, якое-б ён ні сказаў, няпрыемна парушыць яе напружна-сконцэнтраваны настрой.

Зена адамкнула дзьверы, і яны ўвайшлі ў габінэт Беразоўскага. Бледна-сіняе сьвятло настольнае лямпы рэдкай патокай разьлілося па гэтаму ціхаму халоднаму пакою. Па кутках прытоіўся дрыготны напуджаны змрок.

Тут усё было так, быццам толькі-што вышаў адсюль чалавек, пакінуўшы на стале нясконачаную работу, пакінуўшы на ўсім адзнаку сьвежага, прасякнутага жыцьцёвым рухам, бязладзьдзя. На стале ляжалі груды кніг і паперы—большасьць кніг былі разгорнутыя, а на аркушох паперы відаць былі зробленыя пасьпешнай рукой запісы і нататкі. Крэсла было наўскось адсунута ад стала (так адсунуў яго сам Беразоўскі, як апошні

раз уставаў ад свае працы), і гэта асабліва жыва напамінала аб нядаўнай прысутнасьці тут чалавека.

Зена ціха падышла да стала, схілілася прад ім на калены і паклала сваю галаву на ручку бацькавага крэсла. Так стаяла яна хвілін пяць, і ў пакоі ўсё глыбей і глыбей раскрывалася пустая бяздонная цішыня. Аржановічу здавалася, што гэта цішыня паглынае ў сябе цячэньне часу, што ўсё жыцьцё спыняецца, застывае ў аднэй напружна-сьціслай хвіліне.

Потым Зена ўзьняла галаву і абвяла ўвесь пакой цяжкім марудным паглядам. Яна закранула гэтым паглядам і Аржановіча, але ня спынілася на ім, быццам не заўважыла яго, не пазнала. Яе вочы былі сухія— яна ня плакала, яна была закамянеўшы ў нейкім халодным драўляным адчуваньні свайго гора.

Аржановіч ціха гукнуў яе—яна здрыганулася і зьдзіўлена паглядзела на яго. Потым успомніла, мусіць, чаго яны прышлі сюды, і ледзь чутна шапнула:

— Ты, Мікола... паглядзі... там...

А сама зноў прытулілася да крэсла і заціхла.

Аржановіч падышоў да стала і дрыжачымі рукамі стаў перабіраць паперы. Гэта былі ўсё паасобныя чарнавыя нататкі—выпраўленыя, перакрэсьленыя розным чарнілам—на іх няможна было разабраць ніводнага слова. На стале ня было таго, што ён шукаў. Ён з хвіліну пастаяў у развазе і потым асьцярожна выцягнуў верхнюю шуфляду. Там ляжаў вялізны сшытак, апраўлены ў сінюю паперу. На вокладцы ня было ніякага надпісу, але Аржановіч адразу дагадаўся, што гэта той рукапіс, аб якім гаварыў Беразоўскі.

„Пра бацькаўшчыну“...

Ён стаў, як скамянелы, і, забыўшыся на ўсё, моўчкі глядзеў на гэту цьмяную паперу, на гэты таемны тэстамэнт незабыўна-дарагога настаўніка. Прад ім, як жывы, паўстаў вобраз яго—добрага, чулага, бязьмежна адданага сваёй справе, на ахвяру якой паклаў ён жыцьцё.

Аржановіча ахапіла непераможнае жаданьне пачуць з гэтых маўклівых вуснаў мёртвай паперы хоць колькі слоў—жывых, вечных слоў настаўніка. Ён хацеў быў ужо разгарнуць рукапіс, але яго спыніла маленькая халодная рука Зены.

— Не цяпер... не... Пасьля... разам... усе...

Аржановіч згадзіўся. Так, трэба ўсім разам, пасьля. Ён будзе чакаць. Толькі цяжка, надзвычайна цяжка яму стрымаць цяпер сваё захапленьне— яно выбіваецца з грудзей, штурхае на нейкі гарачы, ад сэрца ўчынак.

Ён распаленымі вачмі глядзіць на Зену. У яе таксама на твары глыбокае захапленьне. Яны абодва цяпер як п'яныя, як няпрытомныя. І вось ён кладзе руку на рукапіс Беразоўскага, урачыста і горда ўзьнімае сваю прыгожую галаву і гаворыць дрыжачым ад узрушэньня голасам:

— Зена... Ты самы блізкі мне чалавек... Ты мне—сястра... Будзь сьведкай... адна ты... толькі ты...

Ён на момант сьціхае, і ў пакоі зноў бяздонна раскрываецца тая жудасна-пустая цішыня. І потым у гэтай цішыні таемным заклінаньнем гучыць напружна-цьвёрды голас Аржановіча:

— Я прысягаю, што ўсе свае сілы, усё жыцьцё ахвярую на тую справу, якую рабіў мой настаўнік, мой бацька Андрэй Беразоўскі...

Зена ў раптоўным парываньні кідаецца яму на грудзі і плача нэрвовым надрыўным плачам.

У гэты момант чуваць ад уваходу званок. Аржановіч яе супакойвае:

— Я дзьверы замкнуў. Зараз пайду пагляджу, хто там такі.

Гэта прышоў Сьляпень. Пакуль яны з Аржановічам увайшлі ў кватэру, Зена ўправілася ўжо замкнуць габінэт і сядзела ў кутку—дзе менш сьвету—на выгляд зусім спакойная, з ціхім смуткам на твары.

Сьляпень сваёй вялікай энэргічна-рухлівай фігурай унёс у пакой цэлы віхор рэзкай сумятні. Яго вусны крывіла едкая саркастычная ўсьмешка—ён меўся, як і звычайна, гаварыць нешта няпрыемнае. Аржановіч, каб паскорыць выбух, запытаў:

— Што новага?

Сьляпень спыніўся прад ім і глыбокадумна ўпяў у яго свае зіркатыя вочы.

— „Уся справа ў бабе“, як сказаў мой прыяцель—вядомы вам Галакцёнак. „От нее все качества“...

Зена бязуважна азвалася з свайго кутка.

— Вы, Сьляпень, зноў у паход супроць жанчын?..

Сьляпень крута да яе абярнуўся.

— Я? Супроць жанчын? Золатка! Родненькая! Я жанчын люблю больш за табаку... Асабліва, калі з „натурай“. „Натура“—перш за ўсё...

Ён некалькі раз прайшоўся па пакою, потым раптам спыніўся і, сабраўшы ўвесь запас свайго сарказму, працягнуў:

— А ці ведаеце вы, чаму ня прыехаў на пахаваньне Беразоўскага Пражэня?

Яны, зразумела, ня ведалі.

— Я меў вялікі гонар толькі-што бачыць яго вельмішаноўную дружыну. Пражэня быў хворы. Зусім сур'ёзна быў захварэў, цягаючыся з вёскі на вёску. І вельмішаноўная дружына, ведаючы гэта, ня толькі не паехала да яго, а нават не паведаміла нас... Чулі?.. А жанчын я, золатка, люблю, ня турбуйцеся. Асабліва, калі з „натурай“...

Зена памкнулася абараняць Пражэневу жонку.

— Можа ёй ня было часу, можа яна была чым-небудзь занята?

— Занята? Гэта абмежаваная сваім жаночым родам жанчына нічым ня можа больш займацца, апрача штодзеньненькіх камарыных раманчыкаў.

— Вы, Сьляпень, надзвычайны пляткар...

Сьляпень падышоў да Зены, стаў перад ёй, заклаўшы рукі ў кішэні, і заківаў галавой.

— Я—пляткар... Ну, вядома! Хіба вы гэтага раней ня ведалі? Я-ж толькі і раблю, што бегаю ды зьбіраю розныя плёткі. Я і сам сачыняю... дадушы сачыняю... Што-ж нам, маленькім нікчэмным людзёнкам, больш рабіць? Куды нам лезьці з сьвінячым рылам?

Ён гатоў быў бясконца цягнуць сваю злосна-іронічную тыраду, але Аржановіч перапыніў яго спакойнай заўвагай:

— Трэба сказаць, што Пражэня сапраўды ажаніўся неяк... няправільна...

Сьляпень жвава ўхапіўся за гэтыя словы.

— Ха-ха-ха!.. Гэта цудоўна сказана... Няправільна... Ха-ха!.. Гэта чысты хлеб для нашага брата... Я разьнясу гэтыя словы па ўсяму Менску... так і так таварыш Аржановіч сказаў пра таварыша Пражэню... ха-ха-ха!..

Адсьмяяўшыся, ён зноў некаторы час хадзіў па пакою, пакуль ня ўсплыла на яго новая неспакойная думка.

— Зіновія Андрэеўна! (Ён важна ўкланіўся Зене). Каб апраўдаць сваю пачэсную профэсію, дазволю сабе пацешыць вас яшчэ аднэй пікантненькай плёткай... Установа, у якой я маю гонар займаць адну з найвіднейшых пасад, з сёнешняга дня пераходзіць на беларускую мову. Кіраўнік канцылярыі замест звычайнага „драсьці“ даў мне сёньня з усьмешкай „дабрыдзень“, а машыністачка страшэнна пачырванела, калі я прапанаваў ёй крэсла. Бачыце, крэсла „па-беларуску“ абазначаецца няпрыстойным словам...

Ён зрабіў выразьлівую паузу і гаварыў далей, усё больш і больш распаляючыся:

— Анэкдоцікі! Жарцікі!.. Беларрусізацыя!.. Дзяржаўнасьць будуем... Узрываем пласты гісторыі, адраджаем мінулае... вольнасьць Полацку, бляск залатога веку Літвы... чарадзейную сілу Ўсяслава... гордую непакорнасьць Рагнеды... Ха-ха-ха!.. Ужо ўецца высока ў хмарах магутная постаць „Пагоні“... Крэкча бабулька Крывія, узьнімаецца, лезе на свой старадаўны пасад... ха-ха-ха!.. Замест „стула“ ўжо—няпрыстойнасьць... Мужычы лапаць на дываны на пэрсыцкія... Жарцікі... ха-ха-ха!.. Анэкдоцікі...

Сьляпень крычаў, як няпрытомны. З сваёй горка скрыўленай фізыономіяй, з сваймі хваравіта-бліскучымі вачмі—ён здаваўся цяпер жывым увасабленьнем нейкага дзікага дэмонічнага скептыцызму. Ён так разьлютаваўся, што не зьвяртаў ужо ніякае ўвагі на сваіх размоўцаў. Ён не заўважыў нават, з якім нявымоўна-радасным захапленьнем глядзела на яго ў гэты момант Зена.

Дачка Андрэя Беразоўскага ў яго парываньні бачыла неспакойны дух свайго нябожчыка-бацькі, і шчасьлівая гордасьць поўніла яе сэрца. У гэты момант яна шчыра любіла гэтага разьюшанага злосьцю чалавека, яна гатова была, як і там, з Аржановічам, кінуцца на грудзі яму і плакаць—ад гора і шчасьця.

Сьляпень ужо змоўк і загнаным зьверам кідаўся па пакою. Зена з пяшчотнай мяккасьцю гукнула яго:

— Сьляпень! Досыць ужо лютаваць. Хадзіце, сядзьце тут, каля мяне, я нешта вам раскажу.

Яна расказала пра знойдзены рукапіс, а потым, захапіўшыся, пачала апавядаць пра бацьку, успамінаць яго апошнія дні. Сьляпень ураз сьціхамірыўся і ўважна слухаў, панура схіліўшы сваю кудлатую галаву. Здавалася, што ён чамусьці адчувае сябе вінаватым.

## III

У сярэдзіне верасьня была першая па леце вечарына ў Саўкі Малахавіча. Гэтыя традыцыйныя вечарыны, прасякнутыя таварыскай цеплатой і бязрупатнай весялосьцю, заўсёды зьяўляліся прытулкам, дзе можна было знайсьці поўны спакой і адпачынак. Саўка Малахавіч—любы сівенькі дзядок—умеў быць бязьмежна ветлым, уважлівым гаспадаром, умеў сагрэць усіх сваёй шчырай ласкай, зьвязаць усіх пачуцьцём дружнай еднасьці і аднадумства.

Адылі гэтая вечарына ня зусім удалася. Два прыкрыя інцыдэнты парушылі яе зладную плынь: Сьляпень зноў рэзка палаяўся з Пражэневай жонкай, а гарэза Кухцік (можа і няўмысьля?) пакрыўдзіў Саўку Малахавіча.

Зена прышла на вечарыну разам з Аржановічам. Ужо было сабраўшыся троху народу. У габінэце гаспадара мужчыны гулялі ў прэфэранс (сярод іх быў і Сьляпень), рэшта ў суседнім пакоі, згрупаваўшыся невялічкімі купкамі, вялі стрымана-вясёлую гутарку.

У кутку, ля грубкі, у кампаніі двух хлапцоў (адзін з іх—Кухцік, малады поэта) стаяла Таццяна, Пражэнева жонка. Зена заўважыла яе і адразу да яе падышла.

Таццяну часта называлі прыгожай, але ў прыгостве яе было больш пікантнасьці, чымся дасканалай правільнасьці форм і ліній. Яна была троху вышэй сярэдняга росту, стройная, з тонкай, амаль-што хлапецкай фігурай. Твар яе быў абсолютна няправільны (шыракаваты нос, нізка навіслыя бровы), але разам з гэтым было ў ім нешта няўлоўна-прыгожае, што надавала яму вострую жывую прывабнасьць. Яшчэ вочы яе маглі падабацца—чорныя, аксамітныя, з неразгадна-таемнай глыбінёй. У яе была прывычка—насупіць бровы і сярдзіта павесьці вачмі. Тады, гледзячы на яе, цяжка ўстрымацца было, каб не засьмяяцца.

Зена запытала Таццяну пра мужа. Тая мэханічна, не задумаўшыся, адказала:

— Скора прыедзе.

І зноў занялася сваёй пустой балбатнёй з хлапцамі. Зена пытала далей:

— Ці праўда, што ён быў хворы?

— Хто? Пражэня?

У яе вачох зьявілася ледзь прыкметнае замяшаньне.

— Ён быў хворы. Але ён напісаў мне толькі тады, як палепшаў. У яго заўсёды так...

Зена больш не распытвала. Яна ўбачыла свайго (як і кожнай жанчыны) прысяжнага абажальніка Галакцёнка—прыземістага, камлюкаватага кавалера гадоў пад сорак—і ахвотна пашла слухаць яго грубавата-адкрытыя, але часам спрытныя комплімэнты.

Саўка Малахавіч сёньня наладзіў поўнае баляваньне. На вячэру былі селядцы, гарачая сопкая бульба, цудоўная верашчака з блінамі і шмат чаго іншага. Было троху і віна—якраз столькі, колькі патрэбна было для таго, каб канчаткова сьцерці тую сьцеражлівую стрыманасьць, якая магла яшчэ быць паміж некаторых гасьцей.

Ужо за вячэрай пачуўся раптам званок, і Саўка Малахавіч пасьпешна пабег сустракаць познага госьця. Праз хвіліну ён увёў у пакой маладога хлопца і з вясёлай урачыстасьцю агаласіў:

— Дазвольце пазнаёміць усіх... Лявон Камяга, эмігрант з Заходняй Беларусі...

Усе зьвярнулі пільную ўвагу на новага чалавека. Ён стаяў у парозе і ўсьміхаўся—троху сарамліва, троху самаздаволена. Саўка Малахавіч падвёў яго да стала, і ён пачаў абхадзіць усіх—з кожным вітаўся за руку і кожнаму з комічнай выразнасьцю паўтараў:

— Камяга... Камяга... Камяга...

Таццяна ня вытрымала і проста ў твар яму засьмяялася. Ён зьдзіўлена зірнуў на яе, адылі ўбачыў яе вясёлы шальмавата-гарэзьлівы твар і засьмяяўся сам.

Госьця пасадзілі поплеч з Зенай, і ёй гэта ўпадабалася. На яе адразу добрае ўражаньне зрабіў надворны выгляд гэтага чалавека. У яго былі сьветлыя кучаравыя валасы, буйны адкрыты твар, з мяккімі прыемнымі рысамі, з троху цэлепаватым носам і вялікім дзіцячым ротам. У ім было бязьмеры многа прастаты і непасрэднасьці—гэта адразу выявілася ў іхнай гутарцы. Ён запытаў у яе, хто яна такая, і, калі даведаўся, што яна дачка нябожчыка Беразоўскага, бесцырамонна ўпяў у яе свой погляд, поўны вострай цікавасьці і захапленьня.

— Як добра... я і ня ведаў зусім... Я дужа рад, што вас убачыў... Якая вы прыгожая, да-душы... Я і думаў, што вы такая...

Потым ён мусіць успомніў, што трэба выказаць ёй спачуваньне і памкнуўся гэта зрабіць—сказаў з нейкім капрызным нездаволеньнем:

— Чаму гэта памёр ваш бацька? Я так хацеў быў пабачыць яго. Як бег сюды, я часта яго ўспамінаў... Нават тады, перад сьмерцю... (Ён засьмяяўся з свае няўмыснае памылкі). Кажу—перад сьмерцю... Як пагражала сьмерць... з голаду...

Пры гэтых словах ён машынальна зірнуў на свае рукі. Зена таксама паглядзела на іх і заўважыла, што яны абедзьве перавязаны.

— Што гэта?

Ён з шчасьлівай давольнасьцю выставіў свае рукі.

— Гэта—ад кайданаў. Здорава парэзалі, яшчэ дасюль раны не загаіліся. Я пакажу потым, калі хочаце. Мусіць, знакі астануцца назаўсёды...

У Зены зашчымела сэрца ад жалю. Яна пасьпешна зьмяніла гаворку:

— Вы хіба знаді тату?

— У нас усе яго знаді... Любілі яго. Ён-жа тады яшчэ, за царом, змагаўся за Беларусь... у турме колькі сядзеў... пакутваў... Цяжка было тады... як цяпер там, у нас...

Ён памаўчаў хвіліну і з хітраватай усьмешкай пахваліўся:

— Я і яшчэ шмат каго знаю. Я і тут некаторых магу адгадаць.

І ён, таемна нахіліўшыся да яе, пачаў называць прозьвішчы сваіх суседзяў. У большасьці ён памыляўся, і гэта абоіх іх дужа сьмяшыла.

За сталом узьнялося шумлівае ажыўленьне. Усе наперабой гаварылі, сьмяяліся, агалашалі гучныя тосты, хоць даўно ўжо ўсё было выпіта. На адным канцы стала сядзела Таццяна і жвава лапатала аб нечым з сваймі хлопцамі. Там-жа прыцёрся і Галакцёнак. Таццяна, як і звычайна ў такіх выпадках, перайшла на расійскую мову. Сьляпень заўважыў гэта і зьвярнуўся да свае суседкі, але так, што чуваць было на ўвесь стол:

— Ёсьць такія тонкія рэчы, якія ніяк ня выкажаш грубой беларускай мовай.

Таццяна пачула і зразумела, але наўмысьля не зьвярнула ўвагі і лапатала далей. Сьляпень троху счакаў, потым устаў і папрасіў слова для тосту.

— За велікій прэкрасный русскій язык, ісключыцельно прэдназначэнный для выражэнія благородных чувств чэловека!

Таццяна ня вытрымала і ў тон яму адказала:

— За велікадушных самаахвярных людзей, якія не шкадуюць часу, каб бясконца блытацца ў чужыя справы!

— Асабліва, калі справы цёмныя...

Таццяна ўся загарэлася і крыкнула рэзкім задорным голасам:

— Што вы хочаце гэтым сказаць?

Сьляпень скрывіўся ў цынічнай усьмешцы.

— Тое, аб чым ня шкодзіць пагаварыць з вамі вашаму мужу...

Гэта было занадта груба—Сьляпень бязумоўна адчуваў гэта і сам; ён можа наўмысьля і выбраў такі няпрыгожы агідны спосаб, каб бальней дадзець, каб самай формай—ня толькі, што зьместам—нанесьці абразу. Але і Таццяна зрабіла зусім па-дзівацку: яна схапіла са стала скарынку і злосна шпульнула яе ў твар непрыяцелю. Потым густа пачырванела і з сьлязьмі на вачох уцякла ў суседні пакой.

На колькі хвілін настала агульнае замяшаньне. Саўка Малахавіч пасьпешна выскачыў з застольля і пабег за Таццянай. Сьляпень, утупіўшы галаву, злосна бліскаў сваймі распаленымі вачмі. Усе маўчалі, ня ведаючы, як рэагаваць на гэта здарэньне.

Хмару разьвеялі хлопцы, што сядзелі разам з Тацянай. Адзін з іх ціхенька пырснуў, другі адкрыта засьмяяўся, да іх далучыўся Галакцёнак. І тады ўжо пашло: хто выдумляў які жарт, хто сьмяяўся—адылі так, каб ня чуваць было ў суседнім пакоі.

Тацяна вышла тады, як скончылася вячэра. Яна зноў была вясёлая, гаваркая, быццам нічога і ня было,—толькі ўпарта ня ўзьнімала вачэй на Сьляпня ды сьцеражліва абыходзіла тое месца, дзе ён знаходзіўся.

Пасьля вячэры частка мужчын заселі зноў за прэфэранс, іншыя завялі політычную гутарку, а Саўка Малахавіч сабраў вакол сябе купку моладзі і закамандаваў сьпяваць беларускія песьні. Ён сьпяваў і сам—ціхенька, каб ніхто не пачуў,—а калі няўпрыцям заводзіў троху мацней, дык рабіў страшэнна спалоханыя вочы і пасьпешна затыкаў рот рукамі.

Галасоў добрых ня было амаль-што ні ў кога. Але ў кожнага было пачуцьцё, замілаваньне да роднае песьні, кожны ўкладаў у сьпевы ўсё сваё сэрца. І выходзіла зусім прыгожа. Памалу каля сьпевакоў сышліся бадай-што ўсе, хто быў у хаце. А Саўка Малахавіч так расхадзіўся, што адважыўся прадэклямаваць аблюбёны свой верш—„Маладая Беларусь“. Усе ня раз ужо чулі з яго вуснаў гэты прыгожы купалаўскі верш, але аднагодна выказалі жаданьне слухаць яго і цяпер.

Стары дэклямаваў з захапленьнем. Яго тонкі сіпаваты голас набываў вострую патэтычную напружанасьць і дрыжэў ад напльіву пачуцьця. У найбольш моцных мясцох ён зусім перарываўся, і тады старому прыходзілася з рэзкай патугай выкрыкваць паасобныя словы. А заключныя радкі ён прачытаў амаль-што са сьлязьмі на вачох:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь, маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі!

І вось тут якраз трэба было вытыркнуцца гэтаму пракудніку Кухціку. Ён прапанаваў таксама прачытаць адзін свой верш і, атрымаўшы шумлівае запрашэньне, стаў у адпаведную постаць.

— Загаловак майго новага вершу—„Дырдом“.

Нехта нясьмела спытаўся:

— Што гэта „дырдом“?

Кухцік крыва зірнуў на яго.

— Дагары нагамі.

І пачаў чытаць. Верш быў напісан гладка і звонка—нават з залішнім рытмічным бляскам,—але сапраўды ўсё ў ім было дырдом. Ашалелыя вобразы лезьлі адзін на аднаго, куляліся, перакідаліся, рабілі самыя дзівосныя сарто-мортале. Палкія эпітэты спляталіся з гарэзьлівымі параўнаньнямі ў нейкім дзікім экзотычным танцы. І над усім гэтым—гром жудасных алітэрацый, маланкі нечакана-сьмелых рыфм і асонансаў, сіпеньне, сьвісьценьне, гудзеньне і г. д.

У іншых абставінах гэты верш бясспрэчна мог зрабіць уражаньне сваім сьвежым задорам, сьмеласьцю форм, сваёй рэзкай дынамічнасьцю. Але тут, пасьля глыбока-прачулага інтымнага дэклямаваньня Саўкі Малахавіча, ён здаўся пародыяй. Таму, калі аўтар кончыў чытаць і, зірнуўшы на публіку гордым поглядам пераможца, змыўся некуды ў дальні куток, — зноў, як і там, за сталом, апанавала ўсіх прыкрае замяшаньне. Небарака Саўка Малахавіч няўцямна лыпаў вачмі і гатоў быў заплакаць. Ён улічыў гэта выступленьне за абразу лепшым сваім пачуцьцям і канчаткова ня ведаў, што яму цяпер рабіць. Але, не ўважаючы ні на што, ён астаўся далікатным, ветлым гаспадаром: ён сабраў колькі было ў яго сілы і скрозь сьлёзы пахваліў Кухцікаў верш:

— Прыемны верш... Складны такі, мілагучны...

Казалі потым, што гэта Кухцік наўмысьля пакрыўдзіў Саўку Малахавіча. Але Галакцёнку давялося падгледзець, як ён, змыўшыся з пярэдняга пляну, зусім сьвядома і выразна засьмяяўся ў кулак.

Але хто іх там разьбярэ...

Так скончылася гэта ня зусім удалая вечарына ў Саўкі Малахавіча. Адзіны, каго абсолютна не кранулі гэтыя няпрыемнасьці, хто дастаў сабе поўнае здаволеньне і асалоду, гэта быў Лявон Камяга. Ён вяртаўся да хаты з ружовым хмелем у галаве, з радасным узрушэньнем ва ўсёй сваёй істоце. У вушшу зьвінелі адгалоскі вясёлае гутаркі, сьмеху, шчымліва-салодкіх беларускіх мэлёдый, а ў ваччу плаваў прыгожы вобраз Зены Беразоўскай.

Ідучы, ён кожную хвіліну з здаволеньнем сам сабе напамінаў, што Зена запрашала яго абавязкова прыйсьці да яе на кватэру.

## IV

Першыя дні свае ў Менску Лявон Камяга перабыў у тлумным чадзе бясконца-яскравых уражаньняў, якія падсьцерагалі яго ўсюды, куды-б ён ні паткнуўся. Гэта быў для яго новы сьвет, зусім не падобны на тое чорнае беспрасьветнае царства, з якога яму нейкім дзівам пашчасьціла выбрацца.

Спачатку яго ашаламіў быў такі рэзкі пералом, такая парадоксальная зьмена надворных абставін і моральных норм: тое, што там лічылася ўзорам пахвальнае дабрачыннасьці, што станавіла адзнаку шляхетнага гонару, тое тут сустракала ганьбу і пагарду; і, наадварот, тое, што разглядалася там, як злачыннасьць, тут абуджала ва ўсіх павагу і спачуваньне. Ён і сам—злосны небясьпечны злачынец, якога, закутага ў кайданы, перавазілі з турмы ў турму, выбіраючы яму найбольш глухую і надзейную схову,—ён тут знайшоў так многа ласкі, так многа шчырай прыязнасьці, ён стаў тут пачэсным грамадзянінам, амаль-што героем. Гэта было настолькі дзіўна і нязвычайна, што былі хвіліны, калі ён траціў звычайнае адчуваньне жыцьця і пачынаў глядзець на ўсё—у тым ліку і на сябе—нібы збоку, як на цікавую кінематографічную карціну.

З ранку да вечара Лявон, ня чуючы зморы, бязупынку хадзіў па гораду. Ён з дзіцячай цікавасьцю разглядаў незнаёмыя будынкі, спыняўся перад таблiцамі і па некалькі раз іх перачытваў. Як сьвежа, як неабыкла выглядалі на гэтых важных рознакалёрных надпісах простыя мужыцкія словы!

Ён пільна прыслухваўся да гутаркі сустрэчных людзей, стараўся ўлавіць кожнае слова і ўсё пачутае зьвязваў у адзін пярэста-шумлівы сказ вуліцы. І колькі новага, незнаёмага яму было ў гэтым сказе! Калі-ж даводзілася яму пачуць беларускую гутарку, ён спыняўся сярод дарогі, быццам убачыўшы раптам свайго добрага знаёмага, і ўпарта глядзеў на размоўцаў, пакуль яны ня зьнікалі з вачэй.

Часам у яго ў самога зьяўлялася прагнае жаданьне пагаварыць. Тады ён уваходзіў у першую па дарозе ўстанову, выдумляў сабе справу і заводзіў станавітую гутарку з якім-небудзь дзелаводам. Адно слова „таварыш“ давала яму цэлае здаволеньне, і ён устаўляў яго ўсюды, дзе толькі была магчымасьць. Канчалася гэта звычайна на тым, што дзелавод далікатна яму намякаў, каб ён не перашкаджаў працаваць. Але ён ня крыўдзіўся, ані-ні! Ён дабрадушна ўсьміхаўся і ішоў далей рабіць свае бясконцыя назіраньні. Ён не заўважаў нават таго, што дзелавод праводзіў яго зьдзіўленым падазроным поглядам.

На другі дзень пасьля вечарыны ў Саўкі Малахавіча Лявон, як і звычайна, вышаў пацягацца па гораду. Толькі ўзышоў ён на адну з цэнтральных вуліц, як раптам, адкуль быўшы, на яго наляцела цэлая зграя моладзі. Сярод іх быў Кухцік і той другі, што разам з ім завіхаўся каля Тацяны. Хлопцы абкружылі яго шчытным шумлівым колам.

— Во ён... Той самы, што скінуўся з поезда...

— Лявон Камяга!

— Здароў, братка! Здароў...

Яны—зусім яму незнаёмыя—адзін перад адным сьпяшаліся з ім прывітацца і моцна, па-маладому, цiснулі яго рукі. Ён ледзьве спраўляўся сказаць кожнаму сваё прозьвішча.

Гэта былі ўсё падлеткі гадоў па семнаццаць па восемнаццаць, а можа яшчэ і маладзей. У першы момант яны здаліся Лявону дужа падобнымі адзін на аднаго, і ён нават блытаўся ў гутарцы, забываўся, хто зрабіў яму тое ці іншае запытаньне, каму ён павінен адказваць. Але ўсе яны былі шчырыя, простыя і надзвычайна вясёлыя хлопцы,—ён адразу пачуў сябе сярод іх сваім чалавекам, быццам з усімі знаўся ўжо не адзін год.

Яны зараз-жа пацягнулі яго з сабой. Ён абсолютна ня ведаў, куды яны ідуць, і ня быў упэўнены, што яны самі ведаюць гэта—у іх усё рабілася на-хаду: на-хаду ўзьнікалі пропозыцыі, на-хаду прымаліся і на-хаду касаваліся. Адно было ясна, што з палону іхнага вырвацца будзе нялёгка.

Так яно і вышла. Увесь той дзень Лявон не разлучаўся з хлопцамі, і гэта дало магчымасьць яму больш-менш дакладна пазнаёміцца з імі.

Большая частка з іх былі поэты. Але, па-праўдзе кажучы, ня дужа лёгка было ў іх азначыць, дзе канчаецца поэта і пачынаецца звычайны чалавек. Былі сярод іх такія, што напісалі адзін ці два вершы, былі і такія, што ня пісалі зусім,—гэта, аднак, не перашкаджала ўсім ім мець агульныя інтарэсы і клапаціцца аб агульных справах. Адны з іх працавалі ў рэдакцыях беларускіх газэт і часопісаў, другія служылі ў іншых мясцох, трэція вучыліся, але ўся іхная праца, дзе-б яна ні праводзілася, нейкім дзіўным парадкам злучалася ў адно суцэльнае. Кожнага ў роўнай меры цікавіла як тое, што робіць ён сам, так і тое, што робяць яго таварышы.

Яны жылі і працавалі ў розных канцох гораду, але, не ўважаючы на гэта, рэдка каму траплялася ўбачыць каго-небудзь з іх аднаго: яны заўсёды хадзілі шумлівай вяткай. Заўсёды ў іх былі нейкія свае клопаты—нешта яны меркавалі, абгаварвалі нейкія пляны, бегалі па ўстановах, здабывалі сродкі. Ні на хвіліну не пакідаў іх бурлівы запал і ня было меры іх маладой задорнай энэргіі.

Гэта быў малады атрад беларускага „Sturm und Drang‘a“, гэта былі гарэзныя дзеці нядаўнае рэволюцыйнае завірухі.

На вялікае дзіва, сярод гэтае моладзі Лявон сустрэў аднаго зусім сталага чалавека—гадоў у трыццаць ці больш—з цьмяным, нібы паліналым тварам, з маленькімі рухавымі вочкамі, з заграмічным пэнснэ на носе. Гэты чалавек назваў сябе доктарам Хамялевічам і пахваліўся, што ён зусім нядаўна прыехаў з Бразыліі, дзе жыў бяз малага дзесяць гадоў. Ён ня мог там больш аставацца, калі даведаўся пра ўтварэньне Беларускай рэспублікі, і з вялікімі цяжкасьцямі перабраўся сюды.

Хамялевіч браў актыўны ўдзел ва ўсіх клопатах моладзі, хаця асаблівага аўторытэту—як старэйшы сярод малодшых—ня меў. Калі да яго хто зьвяртаўся, ён з комічнай пасьпешнасьцю выцягваў шыю, стараючыся як мага бліжэй падставіць левае вуха (на правае ён, пэўна, ня чуў), а, выслухаўшы, з інтымным падміргваньнемківаў галавой (—мы адзін аднаго разумеем!—) і сьмяяўся нейкім ні то дужа шчырым, ні то ўгодлівым сьмехам.

Гэты чалавек адразу зацікавіў Лявона, і ён рашыў бліжэй да яго прыгледзецца. Магчымасьць гэтага знайшлася ў той самы вечар.

Яшчэ ў часе полудня (палуднавалі ўсе разам у нейкай бруднай сталоўцы) была праведзена падрыхтоўка да літаратурнага выступленьня, якое мелася быць сёньня ўвечары ў адным з гарадзкіх клюбаў. Быў вылучаны дакладчык, прызначана, каму што чытаць. Аб тым, што Лявон павінен ісьці разам з усімі, не магло быць нават і гутаркі. І Лявон ня каяўся, што пашоў: гэты вечар зрабіў на яго надзвычайна моцнае ўражаньне.

У клюбе было поўна народу—пераважна моладзі. Поэтаў сустрэлі вясёлым прыязным шумам, у якім блыталіся звонкія аплёдысмэнты з сяброўскім сьмехам, з жартамі. Поэты гужам прайшлі цераз залю, нясучы на сваіх тварах урачыста-напятую важнасьць. Бліжэйшыя бесцырамонна

паказвалі на іх пальцамі і называлі адзін аднаму іхныя прозьвішчы. Адылі гэта поэтаў амаль-што не турбавала.

Вечар пачаў Вітушка—невялічкі белабрысы хлапец, у рудой, фарсіста зьбітай на патыліцу, кепцы. Не пасьпеў ён сказаць некалькі слоў, як аднекуль з кутка пачуўся грубы нахабны голас:

— Гаварыце па-руску!

Нехта памкнуўся яго падтрымаць, але на іх дружна ўсе сыкнулі і яны змоўклі. Вітушка пачуў спрыяючае паветра і з езуіцкай пакорлівасьцю зьвярнуўся да публікі:

— Калі ўсе хочаце, каб па-расійску... Толькі мне дужа цяжка будзе гаварыць...

Яму адказалі дружнымі крыкамі:

— Па-беларуску! Па-беларуску!.. Хто гэта там? Ня хочаш—ня слухай. Можаш вымятацца адсюль!

Вітушка абярнуўся ў той бок, дзе сядзеў аматар расійскай мовы, і з той-жа беспараднай пакорлівасьцю разьвёў рукамі, быццам хацеў сказаць яму:

— Што-ж, нічога, брат, не парадзіш, раз усе так жадаюць...

Ох, і хітры-ж хлапец гэты Вітушка!

Ён пачаў свой даклад пра беларускую літаратуру. І што гэта толькі быў за даклад! Ён гаварыў аб усім-чыста, апрача літаратуры: гаварыў аб даўнейшай незалежнасьці Беларускай дзяржавы, аб стагодзьдзях нацыянальнага ўціску пад Польшчай і царскай Расіяй, аб палітычным, экономічным бяспраўі сялян і рабочых за панаваньнем буржуазіі, аб жудасным прыгнечаньні, аб зьдзеках; гаварыў аб тым, як вызваліла працоўных Кастрычнікаўская рэволюцыя, як разьвязала яна нацыянальнае пытаньне, як дала магчымасьць і беларусам разьвіваць родную сваю культуру.

Ён гаварыў зусім ня так, як гавораць зазвычай прамоўцы. Ён ня ўмеў гаварыць, і ў гэтым была галоўная прычына яго ўдачы. Ён сьпяшаўся, блытаўся, паўтараў па некалькі раз адну думку, махаў бязладна рукамі, зьвяртаўся да публікі з запытаньням або прасіў у яе дапамогі, калі ніяк не знаходзілася патрэбнае слова. Гэта надавала яго прамове характар гутаркі і завязвала інтымную блізкасьць паміж ім і слухачамі.

Цэлая бура аплёдысмэнтаў пакрыла канец яго дакладу. Частым дажджом пасыпаліся запіскі—ён сам зьбіраў іх па сцэне, прачытваў і даваў спрытныя жартліва-вясёлыя адказы. Запытаньні былі прыблізна такія:

„Калі была Беларусь незалежнай дзяржавай?“

„Які самы лепшы беларускі поэта?“

„Колькі насельнасьці ў БССР?“

„Ці добра быць поэтам?“

„Ці жанаты т. Вітушка?“

„Хто выдумаў беларускую мову?“

„Вы мне дужа ўпадабаліся“...

І г. д.

Адказы на запытаньні канчаткова ўстанавілі паміж поэтамі і слухачамі самыя шчырыя прыяцельскія адносіны. Чытаньне вершаў сустракала такое бурнае захапленьне, што гэта ў значнай меры зьдзіўляла самых поэтаў. Але найцікавейшы быў канчатак. Ён быў нечаканы для ўсіх і асабліва для Лявона. Калі ўсе поэты перачыталі сваю творчасьць, Вітушка выступіў і ўрачыста агаласіў:

— Тут, сярод нас, знаходзіцца эмігрант з Заходняе Беларусі Лявон Камяга. Ён быў засуджаны польскімі катамі на... сьмяротную кару, але ратаваўся, выскачыўшы на ўсім ходу з кур'ерскага поезда... Два тыдні ён галодны блукаў па лясох, потым пад стрэламі польскіх жандараў перайшоў праз мяжу і з кайданамі на руках прышоў сюды, да нас... Слова мае т. Камяга...

Што было рабіць? У залі грымелі воплескі, скрозь іх прабіваліся нэрвова-ўзьнятыя галасы—просім, просім!—а Лявон сядзеў, нібы прыстыўшы да крэсла, і ня мог зварухнуцца, ня мог прыдумаць, што-б такое зрабіць, каб выбрацца з гэтае нечаканае пасткі. Яго падхапіў падпашкі нехта з хлапцоў і выпіхнуў на сцэну. Шум у залі падвоіўся, некаторыя паўскакалі з крэслаў, і ў асалапелага Лявона ўпілося некалькі соцень вачэй. Тады здарылася з ім нешта нязвычайнае. Гэтыя сотні гарачых напружных поглядаў улілі ў яго нейкі цудоўны агонь, ад якога ў нутры ў яго ўсё закіпела, забурліла віхурай палкага пачуцьця. І ён закрычаў, перамагаючы шум,—няскладна, абрыўчата, як няпрытомны:

— Таварышы! Браты!.. Там мучаць нас... забіваюць... жыць не даюць... Каты! Зьвяры!

Ён сударгава выцягнуў перад сабой свае рукі.

— Таварышы! Вось, глядзеце... яшчэ цяпер раны на іх... ад кайданаў... Але гэтыя рукі яшчэ возьмуць стрэльбу... Я кажу... я прысягаю... За нашых братоў!.. За волю!.. За вольную Беларусь!..

Усё, што потым было, прайшло для Лявона, як нейкі няясны блытаны сон. Ён не заўважыў зусім, як апынуўся раптам у залі, як моладзь гоўтала яго на руках, як усе нешта пелі, нешта крычалі, некуды парываліся. Трохі ачуліўся ён толькі тады, як вышаў з клюбу, як разьвітаўся з усімі хлопцамі і, яшчэ поўны нэрвовага ўзрушэньня, шпарка пасігаў па змрочнай вуліцы ў той бок, дзе быў яго часовы прытулак.

Адышоўшыся на добрыя гоні ад клюбу, Лявон раптам пачуў за сабой фамільярна-грубаваты голас:

— Во разагнаўся... Ніяк не дагнаць...

Ён здрыгануўся ад нечаканасьці і азірнуўся. За ім сьледам ішоў доктар Хамялевіч і, ласкава ўсьміхаючыся, ківаў яму галавой.

*Працяг будзе.*

# ПАД ЗНАКАМ ВАЙНЫ [1])

## Цішка Гартны

### I

Расія жыла пад знакам вайны. З усіх канцоў краіны накіроўваліся да яе заходняе граніцы сотні эшалёнаў салдат, аружжа, адзеньня, ежы. Мільёны здаровых, працаздольных сялян і рабочых адрываліся ад плённае, карыснае працы. Нязьлічоны лік гадзінных адзінак часу кідалася ў бяздонную процьму, на марнатраўства, на загубу жывых людзей. Па асірацелых сёлах затупала апусьценьне, заняпад. На сьвежых пожнях глыбей у зямлю палезьлі карэньні быльля, дзікатраўя. Загойсала здань недастач, разладзьдзя ў хатах. Настаражыліся сірочыя сэрцы ў чаканьні вестак з франтоў чынных армій. Зацяжна, кружнымі шляхамі паўзьлі яны, акрываўленыя, авеяныя сьмерцю, у белах кабэртах, з няроўна выведзенымі літарамі да закінутых вёсак, у сумныя хаты. Цёплыя прывітаньні бацькам, жонкам і дзецям з далёкіх мясьцін стылі ў непрагляднай жудзе, енках і жалю. Нявыразныя сэнсам рэчы, як назвы вайсковых часьцей, умацаваньняў, камандных чыноў павісалі ў затуманеных сьлязьмі вачох. Гэтыя вочы выразна бачылі сьляды, па якіх выходзілі з двароў апалчэнцы ды ратнікі, а за імі коні, гавяда, збожжа. Попыт на гэту сялянскую вытворчасьць падобіўся некай ліхаманцы, ліхому паветру. Казачная, зданьнёвая вужака-вайна высмоктвала сокі вёскі, абязмоцваючы яе і спустошваючы. Засмучаны небасхіл хаваў сабою і блізкае наступнае, і далёкае будучае.

Іначай выглядаў горад. Яшчэ іначай было ў сталіцы. Калі, з аднаго боку, і тут лунала здань небясьпекі, дыхала атрутаю сьмерці, то побач з гэтым вайна надавала гораду больш руху, вялікшае ажыўленьне, дынаміку. Горад, а асабліва сталіца, зрабіўся бурлівым катлом, у якім кіпелі прагавітыя пачуцьці рознастайнага характару. Шалёна нясьліся ўгару акцыі чыгунак, фабрык і заводаў, на якіх пачалася вытворчасьць для патрэбаў вайны. Шпарчэй завярцеліся опэрацыі банкаў, выбіліся напаверх новыя дзяльцы з нябывала драпежнымі апэтытамі, з цікавою надзеннаю сьмікалкаю і пракуратасьцю. Вышэй падняла галаву шматлікая разбэшчаная помпадурская ваеншчына. Гандляры мясам, абуткам, збожжам і многім, што стае патрэбаю дня, пашырылі і без таго ўёмныя кішэні для лёгкага заработку. Нават дробнае чынавенства і тое пачула

[1]) Урывак з роману „Крыжавыя дарогі"—„Сокі цаліны", частка пятая.

сябе лягчэй: недастача ў мужчынскай сіле падняла попыт на апошнюю, а сьледам—вырас заработак. Водлуг часовага разбуханьня матэрыяльнае забясьпекі, аформлялася і расло спэкулянцка-патрыотычнае, карыснафальшывае пачуцьцё любові да зьняважанай радзімы. Тупаючы па шырокіх тротуарах проспэктаў, падлічаючы даходы мінуўшага дня, нагароду і выйгрышы на акцыях—генэралы, купцы, фабрыканты, банкіры і іх паслугачы самаўсхвалялі пераможнае „воінства“, трасьлі кулакамі па адрасу немцаў і праглі нясупыннага пашырэньня вайны. „Вось-вось пашле сваё войска Англія. Зараз-зараз прыдзе на падмогу француэам Італя“. У тэатрах і кабарэ загулялі чучалы Вільгельма і Франца-Ёзапа. Адурманеная ваяцкай атрутаю, прадажная прэса пакрылася карыкатурамі, шаржамі, пародыямі і сатырамі на ўсё нямецкае. Вобраз немца падаваўся страшнейшым за ўсё на сьвеце. Але за надворнаю мыльнаю помпезнасьцю ваяцкасьці чулася, таілася коўзкая няўпэўненасьць і нават баязьлівасьць. Рухалі, як на пружынах, усялякія надзеі на гасьціннасьць у Бэрліне, на захоп Дарданэл і вызваленьне Балкан. Разам з гэтым ня чулася апоры пад нагамі. Адсталасьць і бязмоцнасьць, якія пакрываліся барабанным боем прафільтраваных газэт, хавала ў сабе пагрозу жаданай магутнасьці, звону цяжкіх жандарскіх шпор. „Доблесная гвардыя“, накіраваная на Кёнігсбэрг, „слаўныя“ сібірскія стралкі, пушчаныя прасьцейшым шляхам, праз кут Польшчы, на Бэрлін, фортэцыі і дзьмутая адважнасьць камандуючых арміямі, пастаўленыя на вайсковую ногу заводы—усё-ўсё гэта абміналася чаканьнем выступленьня Амэрыкі. „Толькі ўмяшаецца Амэрыка—і немцам да каляд капут“. „Але ці ўмяшаецца гэта залатая паня, далёкая ад фронту і ня столькі ўблытаная ў інтарэсы ваюючых краін? Будзе-ж умяшаецца, то на чыім баку?“ Амэрака здрочыла радзімных ваяк-храбрацоў, інтрыгавала кожнага, хто зьвязваў з вайною тую ці іншую выгаду сабе. Новы сьвежы нумар газэты, вячэрнія навіны, чуткі ад аўторытэтных колаў і проста бязгрунтоўныя сплёткі—перагаворваліся, крытыкаваліся, надавалі новых надзей і глыбейшай веры. Драпежныя пачуцьці і крывасмагныя пагляды нязьменна накіроўваліся ў бок захаду. Назад, на пусьцеючыя раўніны сялянскае краіны, на цёмныя і брудныя ваколіцы гораду—ніхто з моцных сьвету не азіраўся. Там, па-іхнаму, панаваў спакой, паслухмянасьць і пакора. Ды чаму-б таго ня быць, калі падкаваны абсац наступіў на горла мільёнаў і трымае іх пад сабою? Памкніся паварушыцца—раздавіць, зацісьне. „Наперад перамога—а далей рэформы“. Гэта мусяць узяць сабе на розум усе, хто дабрачынны і верны сын радзімы. „Жывыя сілы краіны павінны зьліцца ў адно цэлае і непераможнае“. „Толькі тады настане сьветлы дзень, калі Расія выйдзе з цяжкага іспыту неаслабленай і не загубіўшай мінулае славы“. Масьляныя сказы і калысныя ўгойданьні засмуродзілі паветра, апойным дымам згусьціўшыся над горадам...

Але першыя сутычкі на франтох расхалоджвалі заваленую сапраўднасьць. Фронт казаў пра іншае. Калі ня кожная куля, то адна з дзе-

сяці, з двацацi, а нясла з сабою сьмерць. Гэтых-жа двацацатых было так многа, што людзі гінулі адзін за адным, сотнямі і тысячамі, ня толькі не пераступіўшы дзяржаўнае мяжы, але і не зразумеўшы патрэбы гэтага. Падалі мёртвыя і падалі раненыя: ні „сьвятасьці“ расійскага варужжа, ні „доблесьці“ расійскае арміі, ні „блаславенства“ цара і бога—не абаранялі ад нямецкіх куль. І паступова, дзень за днём, тыдзень за тыднем, усё галасьнейшым рабіўся енк параненых, зьвязаны з енкам разлучаных. Лазарэты і шпіталі выросталі, як грыбы, перш поўныя клопатаў ды дбайнасьці, а што далей—чарсьцьвеўшыя, пусьцеўшыя, закіданыя. З герояў і абаронцаў—раненыя рабіліся надазолаю, лішніцай. Той, хто на старонках газэт апяваў іхныя адважныя ўчынкі, у трамваі злаваўся і мармытаў лаянкі, што яму недзе сесьці з-за абрубкаў людзкога мяса. Сталіца не павінна стыкацца з праявамі вайны! Сталіца—бач, яе палацы і вілы, Неўскі і Сергіеўская, мусяць быць злучанымі з вайною толькі прыказнымі кіўкамі пальцаў у белых рукавіцах. Але вайна рабіла сваё.

II

Завод, на якім працаваў Рыгор, падпаў пад рубрыку працуючых на абарону. На працягу першага месяца вайны ён значна пашырыўся, лік рабочых на ім падвоіўся—былі ўведзены дзьве поўных зьмены. Тыя з майстэрняў, якія прабаўляліся на вырабе вытворчасьці для мірнага часу, перайшлі на згатаваньне ваенных прыладаў. Гэткім чынам, вялікая армія людзей, колькасьцю ў сем тысяч чалавек, была занята падрыхтоўкаю сьмерці. Вагромністы чатырохпавярховы трохкутны гмах абярнуўся ў дасканала організаваную кузьню людзкое згубы. У стройным сугучным наігрываньні сотняў станкоў, у празрыстым бляску электрыкі гатовіліся дзень-ада-дня тысячамі штук адмысловыя бліскучыя трохцалёвыя і шасьціцалёвыя знарады. Каб праца болей спорылася, рабочых увялі ў цесныя рамкі вайсковае дысцыпліны і падвышанага заработку. Спакойна, бяз слова перакору, пад напружаным наглядам адміністрацыі—трэ' было пакорліва стаяць над разцом і рэзаць, рэзаць цьвёрдую сталь.

Узмоцненыя наглядачы, упоўнаважаныя сілаю і правам з боку вайсковае ўлады, зрабіліся грознымі, падганяламі рабочых. Капіталістычны прыгон, зьвязаны з варужнай ваеншчынай, панаваў над рабочымі кварталамі сталіцы. Нядаўнія здарэньні ацягнуліся дымкаю шэрасьці і стуліліся ў ціхіх кутках прыгнечанае памяці. Раніцой-а восьмай, вечарам—а шостай цягнуліся чорныя ланцугі рабочых з заводу і на завод. Густа набраныя балонкі газэт, ад чорнасотніцкага „Гражданіна“ да левага „Дня“—ні слова пра рабочае жыцьцё. Абцугі цэнзуры ўважна сачылі за крамолай пісак.

Рыгор нейкі час знаходзіўся пад уражаньнем нутранога прыгнёту. Яго ашаломвала халодная ціша паказнога грамадзянскага замірэньня. Аднастайнасьць штодзеннага тупаньня з заводу на кватэру і з кватэры

на завод—надакучалі. Яшчэ цяжэй рабілася, калі ён варочаўся ў думках да Камара, Артура і ўспамінаў пра Пятруся. Большасьць рабочых, з якімі ён стыкаўся дзень-у-дзень, таксама ня дбала пра пытаньні вышэйшых інтарэсаў, здавальняючыся нязначна павялічаным заработкам. Рыгор чуў, як многія з рабочых, асабліва з большых майстраў, толькі і гутарылі, што пра справы свайго самотнага будзённага жыцьця. Адзін хваліўся новым гарнітурам ці палітом, другі—набыткам „абстаноўкі“ ў кватэры, трэці—удала праведзеным часам з дзяўчынаю. У паветры насілася атрута дробных клопатаў мяшчанскага дабрабыту. І, як на бяду, лёгка і шчыльна прыставала да многіх рабочых пачуцьцё фальшывай надзеннай патрыотычнасьці. Думкі Камара ўсвойтваліся шэрагам нядаўна адважных, храбрых барыкадных ваяк-рэволюцыянэраў. Гутарачы на бягучыя тэмы, рэдка льга было знайсьці сабе спачуваньне. Горай усяго, што не асталося жаднага месца, ніякай установы, дзе-б рабочы мог сустрэцца з таварышамі і ўсебакова азнаёміцца з бягучаю сапраўднасьцю. Культурна-асьветныя таварыствы, бібліотэкі і клюбы паліцыя старанна прычыніла.

Рыгору напрошваліся невясёлыя думкі, падкрадалася злосьць. Ён часта-густа кідаў кватэру і ехаў да Ганны. Там з ёю, адзін-на-адзін, ён дзяліўся думкамі, плянамі і надзеямі. Але гэтага Рыгору не хапала. З Ганнаю ён ня мог належным чынам абгаварыць пытаньні прыкрай сучаснасьці. Многае ёй было незразумелым, іншае прымалася не з належным спачуваньнем і цеплатою. Ганна болей спачувала Рыгору з прычыны яго незадаволенасьці і нэрвовасьці, чымсь асуджала прычыны, якія гэта радзілі. Рыгор абураўся і лаяў Камара: „Вось гэткія, як Камар, усяму віною. Атрымаўшы капеечную падачку, яны гатовы аддаць за яе рабочыя інтарэсы. Замест таго, каб будзіць у рабочых пачуцьцё рэволюцыйнага настрою, яны разводзяць мяшчанскія антымоніі. Чаго-ж пасьля гэтага чакаць?“ Ганна супакойвала Рыгора, адыгрываючыся на запэўненьні: „Пачакай—усё пераменіцца. Гэты самы Камар запяе зусім паіншаму“.

Рыгор не сумняваўся ні званьня, што „ўсё пераменіцца“. Але яго брала нездаволеньне за марудны процэс самое пераменчывасьці. Вайна парушала стройнасьць і наладжанасьць развою людзкога поступу. Перадваенная забастоўка ў Пецярбурзе, крута зьмененая халодным заспакаеньнем, з часу абвяшчэньня вайны балюча раніла Рыгорава сэрца. Вакольныя абставіны ціснулі яго жалезнымі абручамі, студзячы пазывы, энэргію, захапленьне. Як ні мала было слухаць расхалоджваныя сказы Ганны—сапраўднасьць аставалася ёю. Рыгор вяртаўся да сябе і пачынаў шукаць падпоры ў тых праблісках не патухшых зьяў, якія іскрамі гарэлі ў рабочым асяродзьдзі. Ён разважаў: „Няхай сабе вялікая колькасьць рабочых паддалася камароўшчыне, усё-ж гэта хвароба ня здолела апанаваць рабочым станам поўнасьцю“. Рыгор быў пэвен, што таварышоў з яго настроямі можна знайсьці ў Пецярбурзе не адзін дзе-

сятак. Многія з іх спадцішка, асьцярожліва, тайком абмацваюць грунт, пашыраючы яго пад іншых. У адзін час яны зьявяцца перад ім магутнаю грамадою ваяк.

Рыгор на ўсе лады комбінаваў розныя пляны, якія-б выклікалі набліжэньне жаданага моманту. Хвілінамі яго апаноўваў задзёр, з выгляду эфэктоўны, па зьместу—рызыкоўны. Узважыўшы чыннасьць і яе скуткі, прыходзілася адмаўляцца ад зданьнёвых намераў. Часта жыцьцё не ўкладалася ў яго прагноз. Раптоўнасьць здарэньняў абганяла сьмеласьць намераў, праўда, знаходзячы ў Рыгоры сваячасовасьць трапнага аўладаньня імі. З шэрагу іншых ён ня мог ня вылучыць як дадатнага такога выпадку: наглядаючы за працаю цэху, майстар зьнячэўку папаў пад кавалак зломанага разца, які параніў яго ў голаў.

— Я прашу выбачэньня!—перапрасіў яго зьбянтэжаны рабочы.

— Я партачом не выбачаю! Ім у нас ня месца! Прашу зьявіцца за разьлікам!—абурыўся майстар і крута павярнуў ад рабочага.

Але не пасьпеў ён ступіць і трох крокаў, як мусіў спыніцца. Роўная струна станкоў раптам спынілася і замерла. Сумная цішыня маланкай пранеслася па майстэрні і абяліла майстра бялізною сполаху. Ён скрозь туман убачыў перад сабою вострыя лёзы хмурых поглядаў рабочых, якія нярухома глядзелі ў яго застыўшы твар. Рыгор пачынаў шэраг ад сьцяны і рашуча яго выгінаў, падаўшыся крыху наперад.

— Гэта яго сыгнал!—паказваючы на Рыгора шабляю, басам прагучэў палкоўнік інтэнданцтва, быўшы з майстрам.

Але майстар ці ця ўчуў, ці збаяўся падтрымаць палкоўніка і ціхім умольным голасам праказаў у бок рабочых:

— Я прашу вас пусьціць станкі. За свае словы прашу ўбачэньня.

І, палажыўшы масьляную руку на раненае месца, ён блытанымі крокамі павярнуў у бок канторкі. Нездаволеным пашоў за ім і палкоўнік. Рабочыя пусьцілі станкі. Рыгор з незьмярымаю асалодаю прасачыў доўгі ланцуг пахіленых да станка таварышоў і сам апошнім глыбока з запоем усадзіў разец у пажоўклую сталь. „Нумар выдаўся на славу“,—пацешыўся ён. „Рабочыя паказалі ўзор яднаньня, прыклад рашучасьці, дэмонстрацыю протэсту. Гэта значыць, што пад расьсьцеленым павучыньнем надворнага спакою дзейнічае, калышыцца няўміручая сіла ўздыму. Успыхнуўшы, іскра запаліць полымя. Толькі ўмела яе разьдзьмухаць!“

Вечарам таго дня, вышаўшы з заводу, Рыгор паехаў да Ганны, каб падзяліцца з ёю сьвежымі навінамі з жыцьця заводу.

### III

Рыгор прыняў ад канторшчыка разьліковую кніжку і паглядзеў на выведзены заработак: першы тыдзень верасьня даваў яго новае падвышэньне. Рыгор зарабіў на дзесяць рублёў болей папярэдніх двух тыдняў. Гэта яго зьдзівіла і суцешыла. Час недахопаў, пабіраньня і ўпартых дапамінаў пра грошы—мінаў. Заработак абяцаў некаторую забясьпеку

Яшчэ тыдзень-другі і Рыгор сумее пакрыць першыя патрэбы. Выходзячы з заводу, Рыгор разьмяркоўваў, куды і на што прыдзецца аддаць частку атрыманых грошай. Выяўляліся тры месцы першае чаргі: выслаць мацеры, дапамагчы Ганьне і пераслаць Пятрусю. Толькі як усё гэта зрабіць? Мацеры выслаць—вельмі проста; знойдзецца падыход і да Ганны. Угаворамі, націскам на сяброўскае пачуцьцё ён сумее яе ўгаварыць. Але з Пятрусём—цяжэй. Прайшло больш месяца, як ён арыштаваны, а Рыгор нават ня ведае, дзе Пятрусь знаходзіцца. Пятрусёва маўчанка наводзіла Рыгора на падазронасьць і неспакой. Руплівасьць выведаць месца вязьненьня Пятруся цалкам захапіла Рыгора. Ён зацішанай хадою ішоў на кватэру і нясьціхана плянаваў. З яго плянаў, аднак, нічога ня выходзіла, калі ён падыходзіў да іх больш сур'ёзна. Бо што значыў Рыгораў намер распытаць у вастрожнай управе міністэрства? Хто-б з ім пашоў на адкрытую і даў-бы весткі пра політычнага вязьня? Аставалася адно—чакаць, пакуль так ці інш Пятрусь абзавецца. Не павінна-ж быць, каб яго так запраторылі, што адабралі ўсякую сувязь з вольным сьветам! У кожным выпадку, не мяшала пайсьці на выпыты. Вось ён заўтра раніцою паспрабуе наведаць Рыму і, калі тая нічога не атрымала, ён пачне разьведы... Пэўней за ўсё, што Пятрусь у доме папярэдняга зьняволеньня.

Рыгор да таго ўвайшоў у раздумы, што не заўважыў, як абмінуў двор свае кватэры. Раптоўны вокліч прымусіў яго спыніцца. Ён азірнуўся і ўгледзеў Рыму, якая накіравалася да яго.

— Рыгор, я вам нясу паклон. Думаеце, ад каго?

— Магчыма, ад...

— Так, ад Пятруся,—пераняла яго Рыма:—сёньня раніцою прынесьлі ліст. І, ведаеце, ліст абазначаны пятнаццатым днём жніўня. Тры тыдні ішоў ад „Прадварылкі“ да Ляснога.

— Ён ішоў праз пошту?

— Хто яго ведае, як і што; паштовая пячатка ёсьць.

— Дык зойдам да мяне і прачытаеце. Нам трэба будзе абгаварыць справу дапамогі Пятрусю.

— Спатканьне даецца тры разы ў тыдзень. Давайце, ахвяруем дзень.

Яны зайшлі да Рыгора. Пятрусь шчыльна аб'яднаў пачуцьцё абодвух, і яны прагавіта накінуліся на паданы Рымаю ліст. Рыма завучана прачытала яго Рыгору. Той выслухаў і пацяў плячыма.

— Ды што можна іншае пісаць?—запытаў ён ні то ў сябе, ні то ў Рымы.

— Але я рада і гэтаму. Нарэшце, хоць сэрца адлягло...

Выказаўшы гэта, Рыма змаўчала, мэрам-бы чаго спалохаўшыся.

— Вы мне скажэце, Рыгор, ці гэта бясьпечна для мяне, што паліцыя знацьме мой адрас і мае дачыненьні да Пятруся?

— Чаму вы пытаеце?

Упэўненасьць і цьвёрдасьць у Рыгоравых словах зьмянілі настрой дзяўчыны. Яна засьмяялася і скорамоўна праказала:

— Ну, і цудная-ж я! Плявузгаю ліха ведае што! А каб і трапілася, што мяне заарыштавалі, ці-ж бы я адна была?.. Фу!

— Кіньце-э, Рыма, з чаго вам прышло гэта ў голаў?—разуважыў яе Рыгор.

Дзяўчына зноў засьмяялася і, каб захаваць вочавідкую нэрвовасьць, ці то зьвязаную з Пятрусёваю цыдулькаю, ці незалежную ад яе, перайшла на іншую гутарку.

— А я ўсё чакаю выпадку, калі вы зьвядзеце мяне з вашаю знаёмаю. Помніце, колькі разоў вы абяцалі мне гэта?

Рыгор паглядзеў на Рыму.

— Я добра гэта помню, але, да шкоды, рэдка вас бачу.

— Можа мяне вінаваціць станеце ў гэтым? Я так і думала...

У Рымы па твары прабегла лёгкая чырвань. Яна падняла зрэнкі ўгару і з хвіліну глядзела ў столь. Пасьля падышла да вакна і столькі-ж часу стаяла, адвярнуўшыся ад Рыгора.

— Вы мне даруйце, я мушу зараз ісьці,—няўпэўненым голасам праказала яна, зрабіўшы пару крокаў ад вакна.

— Я бачу, што вы ўсхваляваны нечым, Рыма?—хапіў яе за руку Рыгор:—Вы пакрыўдзіліся, што я...

— Не, не-э... Я... Пятрусь, вы... Пусьціце мяне, прашу вас...

Рыма тузанула і вырвалася з Рыгоравых рук. Не праказаўшы слова і не азірнуўшыся на яго, кінулася ў дзьверы і схавалася. Задзіўлены яе паводзінамі, Рыгор пагнаўся ёй усьлед, але калі дабег да дзьвярэй, Рыма ўжо сходзіла апошнія ступені сходаў. Ён пастаяў, пакуль яна схавалася за сьцяною, і вярнуўся ў пакой. „Што з ёю такое?"—падумаў Рыгор: „Спаткалася, як трэба, а нарэшце—вунь што! Няўжо тут замешана нешта такое, да чаго маю і я дачыненьне? Ганна? Знаёмства з Пятрусём?"

Рыгор мо' з поўгадзіны часу раздумваў пра гэта, занядбаўшы і гарбатаю, і газэтамі, і намерам праехацца ў горад... Толькі к гадзіне дзесятай вечара навеянае Рымаю пачуцьцё расплылося, і ён вярнуўся ў думках да Пятруся.

Вестка ад яго, прынесеная Рымаю, ня гледзячы на ўсё іншае, супакойвала Рыгора. Ёю вырашалася задача, якая так моцна захапіла яго некалькі часу назад. Цяпер аставалася адно: вылучыць дзень і пайсьці да Пятруся на спатканьне. „Гэта трэба зрабіць як найхутчэй, а то Пятрусь, напэўна, думае, што я пра яго і забыўся. Рыгор спыніўся на бліжэйшым чацьвяргу і перайшоў у думках да Ганны з мацерай.

Цікава, у якую-ж форму выльецца гутарка з Ганнаю? Ён возьме і запрапануе ёй грошы, спасылаючыся на яе дапамогу мацеры, на яе недастатковы заработак... А Ганна? Добра-ж, калі яна абмяжуецца голым адказам, а калі...

Рыгор дапусьціў, нарэшце, крануць сваіх інтымных адносін да Ганны. Яскрава прадстала яму гэта дзяўчына ў настроі замілаваньня і нутра-

ное асалоды, дбайна хаваючы яго ад апаскі ў сваім цесным пакоі. Як міла і цёпла глядзелі на яго Ганьніны мяккія вочы! Колькі ў іх спагады і братняе любасьці! Якая яна ласкавая і гасьцінная! Напэўна, Ганна лашчыць многа надзей... якія, аднак, далёка ад ажыцьцяўленьня. Цікава ўсё-ж выклікаць яе на адкрытую гутарку... Няўжо дзяўчына пра гэта ня думала?

Думка за думкаю блытаным сплётам віліся ў Рыгоравай галаве. Водгукам на іх сэрца адбівала спагадлівы настрой. І то выблісквала, то патухала неправераная рашучасьць чыннасьці, пра якую сур'ёзна яму дагэтуль ня прыходзіла ў голаў. Сапраўды, нечакана і нахрапна аблamзаюць яго выпадковасьці,—а пасьля разьвязвай іх... Пачнецца з грошай, далей пойдуць...

Рыгор хутка абарваў і думкі, і настрой. Ён раптам сеў к сталу і ўзяўся за пісаньне ліста да мацеры. Ён папераджаў яе, што разам з лістом высылае пятнаццаць рублёў грошай; гэта мала, але няхай маці прабачыць: спусьціўшы нейкі час, ён сумее выслаць больш. Покуль яму трэба расплаціцца з даўгамі, купіць сёе-тое, а стане вальней—тады...

Пятнаццаць рублёў дапамогі мацеры выклікала ў ім пачуцьцё задаваленьня. Спадаў нейкі цяжар з плеч, калі ён канчаў з лістом, адначасна адлажыўшы ў другое месца вызначаную суму.

„Маці атрымае і...“

Стук у дзьверы пакою падняў Рыгора на ногі. Ён правёў няроўную рысу па паперы і адсунуў яе ў бок.

— Прашу!

— Вам ліст,—прачыніўшы дзьверы, падала гаспадыня кватэры.

— Дзякую.

Рыгор узяў ліст з рук гаспадыні і паглядзеў на конвэрт, дзе была пячатка. „З Сілцоў!“—праказаў ён сам сабе і падышоў да вакна з намерам прачытаць яго. Але тут-жа яго ўвагу адцягнуў аэроплян: агромнаю пташкаю вылецеў ён з-за высокага будынку справа і плаўна закруціўся перад вакном яго пакою. Рыгор бачыў, як шэрая істужка дымку пляла ўзоры пад яго хвастом, мэрам-бы жартуючы з тройкаю чудлівых варон, што лёталі ўсьлед аэропляну. Да яго вушэй даходзіла цягучае гудзеньне пропэлера. Відовішча хавала ў сабе прыгожасьць людзкое перамогі над стыхіяй, акрыляла Рыгоравы думкі і надзеі. Яго захапіла хаценьне, каб гэта ды самому паспрабаваць абляцець адно кола ў чыстаце спакойнага паветра. У адчуваньні прадстаўленых перажываньняў пры палёце—ёкнула сэрца, а халадок ні то ўцехі, ні то пудлівасьці прайшоў па ўсім целе...

Хвілін праз дзесяць Рыгор нягледаў у палёце аэропляна пагрозную адзнаку завіхрыўшай вайны. Легенда пра Ікара ў яго раздумах атулілася жалобаю. Дзякуючы гэтай дзёрзкай людзкой вынаходцы, вайна скарачае шлях, якім вядзе сваё разбурэньне. Ці-ж можна ручаць, што з яго скрыдлаў не спадуць сьмертаносныя стрэлы?

Рыгор адхіліўся ад вакна; разам з гэтым змоўкла гудзеньне аэропляна.

## IV

Доўгая вузкая палоска паперы была скрэмзана да адказу. Няроўныя радкі п'яных літар абкручвалі берагі палоскі, сплятаючыся ў арыадніну нітку. Рыгор круціў паперу ва ўсе бакі, меркаваў, адкуль і куды накіраваны канчаткі слоў. Ухмыляўся.

„Ну, і напісаў-жа Сёмка!“—пераказваў раз-по-разу.

Дачытаўшы да канца, Рыгор падняўся з крэсла і затупаў па пакоі. Зьмест Сёмкавага ліста завалодваў яго думкамі і настроем. Хутка Рыгор бачыў перад сабою жывыя малюнкі водгукаў вайны ў яго родным мястэчку. Вось па яго вузкіх пыльных вуліцах прашнуравалі стражніцкія разьезды; яны абвяшчалі пра мобілізацыю людзей і коняй. Адначасна сьцены рагавых хат увабраліся абвесткамі пра ваеннае становішча. Сілцы замерлі, мэрам-бы на іх дыхнула ліхое паветра. Нейкі час жыхары сядзелі, як замарожаныя, аглудзелыя. Назаўтра іх разбудзіла раскалыханая трывожнасьць. Паўсталі шэпты, гутарка; сьледам зьявіўся рух, гвалтоўны настрой, роспачныя аханьні, узрыды... Чарговым днём мястэчка апынулася каля Масткоў: тарахцелі вазы, курыўся пыл, вылі сабакі. На шырокай прагаліне, абкружанай сьцяною людзей і жывёлы, ішла мерка коняй. Трое чалавек, з якіх адзін быў вэтэрынар з Ліцку, другі—спраўнік адтуль-жа, трэці—валасны пісар,—машынальна аглядалі аднаго за другім несканчоны шэраг рознамасных, рознаросных коняй. Пісалі, прыстаўлялі і адстаўлялі стракатую палку, выгуквалі аднастайныя словы: „прыняты“, „у коньніцу“, „у артылерыю“, „у кухню“. Рэдка можна было пачуць—„брак“. Пакорныя лёсу сілкаўцы маўкліва выслухоўвалі вывады камісіі і гінулі ў разгаламучаным натоўпе, у пыле, за нячэмнымі драбінамі і вазкамі...

А ў гэты час у мястэчку гудзеў гвалтоўны звон. Над шэрымі страхамі панурых хатак гусьціўся чорны дым, запярэшчаны вогненымі языкамі праменю. Нейкі час каля Масткоў не заўважалі гэтага, але надало камусьці паглядзець на ўсход, як дзікі выгук „Сілцы гарапь!“ узьняў тысячную грамаду з месца і наўскоч папёр яе ў мястэчка. Людзі гналі коняй, не патураючы ні на вошта, гукалі, лаяліся, наязджалі адзін на другога, варочалі вазы, разьбіваліся. Ва ўзьнятым пыле яны здаваліся ценямі, зданьню. Ці то знарок, ці зьнянацку, каля самага мястэчка, пры завароце адзін з сілкоўцаў наехаў на пісарскую брычку і павярнуў яе. Пісар апынуўся пад конскімі нагамі. У момант на гэтым месцы згрудзілася грамада вазьніц. Панесьліся нялюдзкія крыкі і лямант. Адказам былі бязладныя стрэлы адкульсьці прыскакаўшых стражнікаў...

А пажар, як вадою, змываў хату за хатаю. Галавешкі, мэрам вогненыя птушкі, насіліся ў атручаным дымам паветры. Гудзеў не змаўкаючы звон...

Незаўважным крокам падасьпела ноч і паглынула разьюшаны дзень, яшчэ страшней зрабіўшы разгорнуты малюнак пажару...

Кончылася раніцою—тады, калі ў шалёным пудзе нячуваных падзей людзі выбіліся з моцы. З апушчанымі галовамі шукалі пагарэльцы сваё дабро; тыя-ж, у каго яно ўцалела, голасна дзякавалі невядомага ім абаронцу ў асобе бога. Мірна тупалі змораныя коні стражнікаў... Толькі наступным днём чарада мобілізаваных сілкоўцаў парушыла жалобны спакой разьвітальнаю песьняю—„последний нонешний дене-очек-ек...“— Яны ішлі на вайну...

„Я табе кажу, братка мой, гэткага пекла я ніколі яшчэ ня бачыў. Вось як мы сустрэлі вайну. У вас, пэўна, яно ўсё спакайней абышлося... Бывай здароў! Адпісвай хутчэй. Твой Сёмка“.

Рыгор незаўважна выпусьціў з рук ліст і толькі рушыў з месца, калі сударга ацягнула яго стомленую руку. У пакоі пацямнела. На вуліцы, з боку казармаў, заблішчэў ліхтар. У яго малочным сьвятле расплыліся рэшткі вобразаў, узьнятых Сёмкавым лістом.

— Ну, а з мацераю там якава?—уголас запытаў Рыгар сябе і барджэй хапіўся за напісаны ёй ліст. „А калі ды згарэла і наша хата, а маці асталася без таго, што мела? Што тады? Пятнаццаць рублёў—ці-ж яны выручаць яе?“

Рыгор уталоплена глядзеў на ліст, палажыўшы на лоб руку. Плойма нявыразных думак ахутвала голаў. Становішча, якое нядаўна выясьняла перад ім бліжэйшую пэрспэктыву, раптам заблыталася. „Якім-бы чынам тут уведаць“...

Ён не дакончыў думкі, калі з-за дзьвярэй данёсься настарожлівы вокліч:

— Можна, Рыгор?

— Прашу вас!

Ужо інстынктыўна ён пачуў, што прышла Ганна. Было зусім дарэчы, і сэрца ўзмоцненым стукам аддало ёй вітаньне.

— Ты дома?—запытала Ганна, працягваючы яму руку.

— Чаму? А то мяне ты не заставала? Садзіся... Дома... Дагэтуль вось... гісторыя...

— Гісторыя?!

У Ганьніным ваччу бліснула настарожанасьць. З чырвоных яблычак, што іх наклеіла на Ганьніны шчокі сьвежае ядранае паветра, заўважна спадала ружовасьць.

— Сядай... Гісторыя...

Ганна села, але не адводзіла ад Рыгора вачэй. Напружна чакала— што-ж у яго за гісторыя, які яе зьмест.

Рыгор зацяжна ўздыхнуў і пагладзіў косы.

— Гісторыя ня з прыемных,—раздразьніў ён Ганьніну цікавасьць.

Тая прыўстала, паглядам вымагаючы апавяданьня.

Калі-ж Рыгор у кароткіх рысах перадаў ёй зьмест Сёмкавага ліста, Ганна спагадліва войкнула.

— Давай тэлеграму,—парадзіла яна.

— Я думаў... Ды ці-ж бы Сёмка не дапісаў, каб крый чаго...

Гэта была самаўцёха, але Ганна на ёй спынілася—магчыма ўсё абышлося добра. Прынамсі... Што-б яна зрабіла, каб ды наадварот?..

— А я цябе чакаў...

Рыгорава рука лягла на Ганьніным плячы...

— Няўжо праўда?... Сядзь каля мяне хоць на адзін квадранец... Мне так хочацца з табою ад душы пагутарыць...

Чамусьці Ганнаю завалодала нясьмеласьць. Нешта перашкаджала плаўнай вымове слоў... Тая-ж сіла схіляла да долу яе затуманены пагляд. Рыгор настаражыўся, і, калі Ганна змоўкла, ён пахіліў яе стан да сябе.

— Я слухаю, Ганна... Кажы мне ўсё, што маеш сказаць... Я слухаю...

Павернуты да Рыгора яе твар выглядаў жывым, настойным пытаньнем; вочы пранізвалі яго нутро—ня было абароны.

— Выслухаеш?

— Выслухаю.

— Дарагі мой, я ўжо здаўна і часта пытаю сябе... Няўжо мне суджана будзе зноў загубіць твой сьлед... Я баюся, што мне будзе ня справіцца з напорам жыцьця, калі ў адну хвіліну... Ты чуеш?.. Я табе не казала ніколі, ні разу, а тымчасам твая істота, ты—неад'емная часьціна майго жыцьця... Цалюткі сёньнешні дзень я мучылася думкамі—рашыцца ці яшчэ чакаць. І вось прымай, як хочаш...

Гэтыя напружныя, трапяткія сказы абдавалі Рыгора праменнай цеплатою. Але яму рабілася ад гэтай цеплаты не па сабе, млосна—зусім нечакана ён сустрэўся з гэтым манэўрам Ганны. Калі толькі-што яго думка кранула магчымасьць з ім спаткнуцца, то ўсё абышлося нясур'ёзна і павярхоўна; нават не зацікавіла яго, што-б і як адказаць, каб падасьпеў выпадак. Вострая рэакцыя ў нутры спаліла праявы ўсякага пачуцьця. А гэта, вось...

Бязмоўным пацалункам, зьмешчаным на Ганьнінай шчацэ, было не абмежавацца. Вачавідкі і зразумела—Рыгор сам адзнаваў, жадаючы пачуць Ганьніна слова. Але яна маўчала—ні то задаволеная, ні то пакрыўджаная. Яе пагляд пранізваў палавы выгляд блуднага променю, занесенага з вуліцы ў вакно. Сэрца-ж замірала пад шчыльна пакладзенаю на грудзі Рыгоравай рукою. Таемнасьць цішы разгортала таінства глыбокага прасякненьня любоўю двух блізкіх, палкіх, маладых сэрцаў.

— Запалі сьвятло!

Ганьніны словы сустрэў зацяжны гул сырэны, што нахабна ўварваўся ў пакой. Рыгор пакорліва выканаў Ганьніна ці то вяленьне, ці просьбу.

— Ну, я табе забыўся пахваліцца, Ганна,—раптам ён успомніў пра вестку ад Пятруся.

— А што?—бясьцікаўна запытала дзяўчына.

— Пятрусь прыслаў паведамленьне... Я, бок, табе казаў пра Пятруся?

— Казаў... Адазваўся?

— Так, як і трэ' было чакаць,—ён у доме папярэдняга зьняволеньня... Рыма...

— Рыма?

— Ты-б прышла калі, Ганна, я-б цябе зьвёў з гэтай дзяўчынаю... Яна вельмі хоча з табою пазнацца. Што за чалавек!.. Пятрусь...

Ганна стаяла ля вакна, і Рыгор не заўважаў, што яна глядзела на гадзіньнік.

— Я прыду ды буду лішняю...

— Ганна!

Рыгор сам не чакаў гэтай неасьцярогі—гук дзвэнгнуў шклом у вакне, і, напэўна, дайшоў да гаспадыні. Скокам маладога тыгра ён апынуўся каля Ганны і спрытным обдымам прытуліў да сябе.

— Ты ня злуешся? Дыктуй і я зраблю... паслухаю, згаджуся, бо ты...

— Вы гарбату будзеце піць, Рыгор?

Гаспадыня злаўмысна прачыніла дзьверы, і ў вузкай шчыліне блішчэў вагеньчык яе шпегаўскіх вачэй.

— Папрашу, калі ласка... Вып'еш гарбаты, Ганна?

— Позна. Я мушу ісьці.

— Цябе чакаюць?

— Чаму-ж, думаеш, мяне некаму чакаць?

— Думаю... Ты злуешся на мяне?

— Я ні на кога ня злуюся, я на сябе злуюся...

— Сядай... Правер той час, у які мы знаёмы з табою. Ці я калікольвечы даў намёк на няўвагу да цябе? Ці хоць раз ты ад мяне чула няўладнае слова? Ганна...

У яго сьлёсарскай руцэ захрусьцела тонкая далікатная ручка нядаўняй настаўніцы.

— Я так быў рады, калі стрэў цябе ў гушчы разьюшанай грамады. Я кінуўся да цябе, як матрос на маяк...

Ї міна на мужным, суворым твары Рыгора, і сталёвасьць у яго словах, і бляск у ваччу, і нахіл яго постаці—усё казала Ганьне—павер, пракайся, заспакойся...

— Можна? Гарбата.

Рыгор адчыніў дзьверы і ўзяў з гаспадыніных рук тацу.

Праз хвілю яны сядзелі за хісткім столікам, адзін супроць другога, і пілі гарбату. Пакой сьведчыў пра наступіўшае замірэньне, якое радзіла звычайную лёгкую гутарку. Цёплая ўхмылка роўна апінала іх жыцьцярадыя твары.

Раз-ад-разу бранчэла пасуда.

## V

Вострая, празрыстая нітка праменю кінула на Рыгораў твар вёрткага зайчыка. Заказытала ў ваччу і чулыя вейкі падняліся ўгору.

— Пятрусь. Дзе-ж ён? Ї не даказаў, як згінуў.

Мігам шустрая думка Рыгора апынулася ў вузкай глыбокай камэры дому папярэдняга зьняволеньня.

— Дзе Пятрусь?

— Камэра № 87.

Вось толькі пяць хвілін, як ён удвойчы хапіўся за праверку перажытага ім у вастрозе часу. Якая цягучая аднастайнасьць! А між тым як хутка прамігнуў час. Мэрам-бы сёньня яго прывялі сюды. Тыя-ж сумныя і халодныя сьцены. Той-жа кавалачак хмурнага неба ў закрацёным вакне. Прымацаваны да сьцяны жалезны столік, абрыдлы цьвёрды ложак. Замураваны ўмывальнік і брудная параша. Усё асвойтанае, звыклае і надаеўшае.

— Стукаюць?

Схудалая постаць туліцца вухам да сьцяны і напружна слухае. Спусьціўшы хвілін пяць, адбівае. „Ніякіх зьвестак з волі“.—Ці чакаю іх?— „Чакаю. Пісаў некалькі лістоў, а жаднага адказу“. Стук змаўкае, і Пятрусь памерным, разьлічаным ступам мерае камэру з кутка ў куток. „Няўжо і на гэты раз ніхто не адзавецца?“

Пятрусю карціць і прагна хочацца атрымаць вестку з волі. Ён дзень-у-дзень успамінае Рыгора, Рыму, часамі далучае да іх Гэлю; часта пераносіцца думкамі ў Сілцы, выяўляе перад сабою настрої і думкі бацькоў; спагадае іх няведаньню пра яго. І ўсе гэтыя раздумы, успаміны, жаданьні і хаценьні пэрыодычна, устаноўленым чынам, праносяцца перад ім у бяспрытульнасьці вастрогу. Наколькі часу ўперадзе? А хто яго адгадае—воля царскіх сатрапаў, капрыс любога апрычніка. Каму ёсьць справа да сотні-другое заключаных у гэты сіберны будынак? Вунь цэцыя мільёны пастаўлены пад нажы, пад кулі, пад атрутныя газы—ці-ж можа хто думаць пра іх, у цяпле і безапасцы?

Жорсткаю рукою вайна сьцірала людзкое дбаньне аднаго пра другога. Сухая адчужанасьць церлася па гладкіх каменьнях камэры, пускаючы мёрзлую шэрань Пятрусю ў вочы... Час, час, які няпэўны час! Ці можна даць нездаволеньню ўтульнае месца ў сваім нутры? На Рыгора? На Рыму? На ўсіх тых, хто яго ведае, хто яго помніць? Няровен час! А мо‘ Рыгор далей за яго—натура Рыгора вядома... А Рыма?—прамігнуўшы агеньчык... Так, сьвядомасьць дыктуе развагу, але ёй не паддаецца настрой.

— Зноў стукаюць?

Вуха лажыцца на шэрую фарбу сьцяны.

— Што-о?

Здаровыя пальцы звыклі з цьвёрдасьцю сьцен—б‘юць запытаньне... Але... з боку шорах! Косіцца вока да вузкай круглінкі ў дзьверах—ня ўтоіш, наглядач, у мяккім войлаку сваіх прадажных крокаў.

— Ліст з волі? Інцыдэнт на заводзе? Нязвычны?

Нязвычны! Вось ён, чалавек жалезнае волі і стальнога бясстрашша! Рыгор! Дык чаму-ж ён маўчыць? Цэлых два месяцы ні слова... Перай-маюць лісты? Ці тут віною Рыма?

Пятрусь затросься, як асіна,—калючая прага пачуць цёплае слова з волі, праведаць аб Рыгору, угледзець Рыму... А можа яны... Не павінна быць! Маланкаю праясьняецца мінулае ў іх адносінах—чыстае, як маланка, без заусінкі. Ня ў гэтым прычына. Яны помняць яго, магчыма, думаюць, а мо' і дбаюць—чаму-ж яму заўчасьне наракаць...

— На гу-у-лян-ку-у!

Пятрусь гатоў. Вось бразгае жалеза за дзьвярыма камэры. Чуецца ажыўленьне на глухім, мёртвым калідоры... Яшчэ хвіліна—і ён у роўным, мэханічным шэрагу вязьняў. Паперадзе Ігнат Струміла. Кіўкі галавы—абменьваюцца прывітаньнем. Украдчывая ўхмылка на збляднелых тварах. Рассыпаецца шэпт па жалезных усходах. Тры павароты—і насустрач водбліскі празрыстага сонца. Яны скрадаюць беднасьць і агіднасьць белых гарнітураў арыштантаў... Двор і шоргат шкарбакоў па ўкованай каменьнямі зямлі. Ланцугамі ўюцца круглыя цені галоў—мэрам-бы круціцца знарочыстае кола, на многалікіх сьпіцах якога насаджаны чорныя галкі. Мёртвым шулам тарчыць фігура салдата з вінтоўкаю ў руках. Непарушны, як укопаны, ён ловіць уталопленым поглядам выразы твараў. Сочыць за кожным крокам мігаючых постацяй. А ззаду? Ззаду жалезная брама. У драпястых будках—настарожаная варта. І толькі? Не. Вуньдзека, з-за шуляваньняў вокан наглядаюць запасныя нагледачы. Не, тут не рызыкнеш нічым, апроч свайго жыцьця... Папярэдне, але моцна і пільна...

Сьвісток. Глухі і калючы: назад! У камэры!..

Ужо галоўка шэрагу накіравалася ў чорную дзірку дзьвярэй. Як у яму, гіне адзін за другім у змроку калідораў...

Пятрусь—на парозе. Ён закідае ногу, каб ступіць у дзьверы, і чуе—за брамаю гукі! Прышлі на спатканьне? Няўжо і да яго таксама?

Хто-б з яго прыяцеляў надауміў яго ашчасьлівіць? Рыгор? Другога—няма. А вось яго голас...

— Пятрусь, не затрымлівай...

Шаргатня крокаў аддзяліла яго ад зыкаў за брамаю... Змрок калідораў ахутаў прапахлым паветрам... Забранчэлі замкі ў дзьвярах—доўгі ланцуг з людзей парваўся на часткі. Некалькі хвілін, і Пятрусь у абоймах суворай камэры. Цішыня. Але сэрца нешта адчувае. Пятрусь настарожваецца, мярцьвее... Раптам зычны стук замка разразае спакой.

— Вочка, да вас прышлі.

— Да мяне?

Пятрусь хапіўся за вушы і вытарашчыў вочы.

— Сьледам, незаўважна для самога сябе, ён пашоў за нагледачом. Калідоры, сходы—дарога да выйсьця. І вось яшчэ не закругліўся паварот, як шустрыя ўзрокі абнялі стройную постаць Рыгора.

— Бра-ат...—хацеў выгукнуць Пятрусь, але ўстрымаўся. Пачуцьцё ўцехі ён выліў у гарачым зацяжным пацалунку Рыгора.

— А я думаў, ведаеш, што і ты...

— Пакуль, вось...

— Ты атрымаў мой ліст?

— Мне Рыма яго прачытала.

— Рыма?

— Ну, а з табою як?

— У божых руках...

Рабы абвіслы твар нагледача пакрыўся ўхмылкаю.

— Паверыш, Рыгор, мэрам-бы адчуваў, што ты прыдзеш сёньня. Толькі-што вярнуўся з гулянкі і не пасьпеў аглянуцца, як чую вызаў... „Прышлі“... А якаво ў цябе з працаю?.. Усё на старой кватэры? А Ганна?.. Ну, ты паправіўся, я бачу...

— Меў ліст ад Сёмкі...

— Ёсьць навіны?

— Дзе іх зараз няма! Пажар быў у мястэчку.

— Пажар? І многа згарэла?

— Ня піша... Рыма цябе не наведвала, часамі?

— Не. Чаму?

— Я думаў, што можа... Цудная, аднак, яна... Адзін раз, тады-ж во, як прынясла твой ліст, раптам ускіпела нечага і неўтрапёнай вылецела з майго пакою. І болей тыдня ня чуваць нічога...

— Што ты кажаш?

— Дзіўлюся сам. І ня прышла спаткацца?

— Ох, як я чакаў каторага з вас!.. Ведаеш, хоць-бы вестку хто даў— было-б спакайней, а то ні гуку, ні слова.

— А здароў‘е тваё як?

— Пакуль, як бачыш...

— Правішся...

Бязмоўны лівок рукі нагледача прымусіў Пятруся ўздрыгануцца. Ён пасьпешна зашавяліў губамі, але замест слоў абмежаваўся паўторным пацалункам з Рыгорам і разьвітальным поціскам яго рукі. Сьледам наглядач разгарадзіў іх сваімі шырокімі плячыма. Толькі ледзьве ачулы шорхат Пятрусёвых крокаў данёсься да Рыгоравых вушэй. А праз хвілінку перад Рыгорам мільганула сопушная цем калідору, і ён павярнуў да выйсьця.

Пятрусь бачыў яго ва ўстойнай нярухомай позе і нізашта ня мог уявіць ягонае хады... Напэўна, старая, цьвёрдая ды ўпэўненая. Сам—нязьменны... Здаецца, застыглы ў акрэсьленых формах. Але для Пятруся— які ён дарагі, які мілы, які блізкі! Цікава мець гэткага сябра!

Рыгораў прыход адвёў новую мяжу ў яго сядзеньні. Пятрусь пераняў ад яго бадзёрасьць, надзеі, веру. Пятрусь адчуў у ім жалезную стойкасьць і бясстрашны пагляд у вочы сапраўднасьці. Рыгор не панікае галавою, не азіраецца ў бакі. Кожнае яго слова—пераконаньне таварышу...

— Стукаюць?

Пятрусь падышоў да сьцяны і насторажыўся. Сусед пытаў, хто яго, Пятруся, наведваў. „Адкуль ён даведаўся?“—„Пачуў па вызаве Пятруся

нагледачом"... Так, да Пятруся наведаўся яго таварыш і сябар—Рыгор Нязвычны. Пра яго Пятрусь пасьпеў расказаць суседу. „Той самы?" Той... Наглядач?

Пятрусь аглянуўся на дзьверы. Прывычнае вока ўлавіла лёгкае калыханьне рэдкага ценю.

Ён адступіў ад сьцяны і цьвёрдым крокам накіраваўся насупраць вакна. Насустрач яму сыпалася золата цёплага сонечнага праменю.

## VI

Спатканьне з Пятрусём заспакоіла Рыгора; ён не дапускаў сабе думкі, каб яго судзілі. Бліжэй усяго—Пятрусю пагражае адміністрацыйная высылка. Каб суд, было-б сур'ёзьней, тады-б яму не дазволілі з ім спатканьня. Напэўна, і Пятрусь чакае гэтага. Увогуле, паколькі Рыгор заўважыў, Пятрусь настроены ня дрэнна. Крыху пахудзеў, але гэта адбітак вастрогу. Каму-каму, а Рыгору гэта вядома. Адна прыкрасьць—якто вышла так, што ён забыўся перадаць таварышу пра здадзеныя ў кантору вастрогу на Пятрусёва імя дваццаць рублёў. Прымха нейкая, ды годзе... Ах!.. Рыгор пастараецца выправіць гэты недагляд: ён напіша Пятрусю ці перадасьць праз Рыму, калі... З Рымаю цікава. І што тады вышла—чаму яна вылецела так раптоўна з пакою і зараз не паказваецца? Няўжо ён неасьцярожліва выказаўся перад ёю ці... Рыгор кожны раз уплятаў інцыдэнт з Рымаю ва ўспаміны пра спатканьне з Пятрусём. Пацепаў плячыма і дзівіўся.

Але дзіва зьнікала бясьсьледна, калі Рыгор вяртаўся да выпадку з Ганнаю. Мэрам-бы згавор які супроціў яго? Адна зрабіла зусім незразумелы яму выбрык, а другая гэты выбрык разьвінула ў цэлую тэорыю! Ганна! З ёю ўжо справа складаней. Яна кранула таго пытаньня, пра каторае...

Рыгор ня мог згладзіць вастраты Ганьнінай гутаркі вось ужо некалькі дзён. Ці думаў пра падзеі ў Сілцох, ці вяртаўся да Пятруся, ці перачытваў весткі са „стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага"—у вушшу гудзелі яе словы, а ў ваччу мігаўся яе ўмольны, настарожаны выгляд. Рабілася ясна, што Ганна перажывае якісьці крызіс, нейкую жыцьцёвую надарванасьць—іначай-бы яна так раптоўна не паставіла яго перад казытным пытаньнем. „Але што я магу зрабіць, каб ей пасобіць?" Рыгор не знаходзіў ніякага выйсьця, калі разьбіраўся ў акольваючых умовах. Наперадзе таксама было беспрасьветна. Між тым ён адчуваў, што яму Ганны шкада. Шкада і балюча... Трэба тым ці іншым заспакоіць дзяўчыну, разагнаць яе настрой, даць ёй зразумець... Што? Вось ад гэтага і разьбіваліся мільгаўшыя ў Рыгоравай галаве пляны. Абнадзеіць Ганны ён ня можа і ня хоча. Ды нават ня ўпэўнены, што яго надзея магчыме яе суцешыць...

Усё-ж ён рашыў наведаць да Ганны. Ён пойдзе да яе і скажа...

Рыгоравы першыя крокі па выйсьці з заводу былі накіраваны да спынкі трамваю. Без заезду на кватэру ён пасьпяшыць застаць Ганну ў сябе і паспрабуе ёй растлумачыць... Так—гэта вярней усяго.

— Рыгор?!

Думка раптам разьляцелася: Рыгор паглядзеў перад сабою.

— Артур? Ты якім чынам сюды?

— Цікава?—запытаў Артур Цьвібель.

— Каля гэтага... Ну, пойдам, хіба, да мяне?

— А ты зьбіраўся дахаты?

— Я?.. Я нікуды, можна сказаць, ня зьбіраўся... Усё-ж ідзем разам... А мо' ты каго-кольвечы чакацьмеш?

— Я знарок да цябе... Ведаеш, я маю цэлы шэраг пытаньняў і...

Рыгор узяў таварыша пад руку, і яны завярнулі ўправа ад варот заводу.

— Я ўжо, браток, знайшоў тут хады і маю як-небудзь уціснуцца да вас на завод...

Яго перабіў грук падбегшага паравіка. Рыгор міжвольна падаўся ў яго бок.

— Табе трэба куды ехаць?—пераняў Артур Цьвібель.

— Я перш думаў... ды нічога... Пойдам... Кажы...

— Але-ж я цябе затрымліваю...

Артур спыніўся і пытальна зазірнуў Рыгору ў вочы.

— Дробязь... Кажы...

— Бачыш, вось, мне парадзілі, чамусьці, зьвярнуцца і да твае падмогі. Чуў?

Ужо Рыгор пытаў яго сваім паглядам.

— Дарэмна?.. Ха-ха-ха! Я і казаў ім, што дарэмна, а яны...

Артур засьмяяўся.

— Хто яны?—пацікавіўся Рыгор.

— Трубін, бачыш...

— Шалаплут.

Рыгор агледзеўся навокал сябе і дадаў.

— Ніякім чынам. Надовечы ў нас адыграўся выпадак, які мог кончыцца сур'ёзнаю справаю. Ты ня чуў?

— Не-э.

— Мы сваім цэхам правялі дзесяціхвілінную забастоўку. І, чамусьці, майстар з палкоўнікам-наглядчыкам Здрэйфілі... здрэйфілі... А ў тым, яшчэ невядома—магчыма яны абмяркоўваюць вынікі. І калі чаго-добрага захочуць дапомніць—тады мне першаму... Вось і разьлічы сам, якаво мне...

— Зразумела... Я ня ведаю, чаму Трубін...

Яны завярнулі ў вуліцу, на якой жыў Рыгор.

— Ужо блізка да цябе?

— На гэтай-жа вуліцы, другі квартал... Ну, стой!

Рыгор раптам адлучыўся ад Артура і накіраваў праз вуліцу да ідучага другім бокам чалавека. Артур спыніўся. Рыгоравы словы яго азадачылі—абарвалася. Ён тут-жа ўглубіўся ў адшуканьне новых шляхаў да ажыцьцяўленьня справы з паступленьнем на завод. Але не пасьпеў хапіцца ні за водную раду, як, вярнуўшыся да яго, Рыгор перабіў:

— Магчыма, што ўсё добра будзе. Гэта старшы рабочы сьлясарнага цэху. Я прасіў яго аб табе...

— А ён?

— Дае згоду памагчы. Ты запішы яго імя і прозьвішча... Фрыдрык Курс—фін, парадачны і сталы чалавек. Прасіў зайсьці наступным чацьвяргом. Зойдзеш і пасьля скажаш мне...

— Было-б вельмі добра. А то...

— Можа ты грошай ня маеш, то я магу табе пазычыць дзесятку?

Артур падзякаваў Рыгора і адмовіўся ад пазыкі.

— Я надовечы захваціў у Камара...

— Ты ў яго бываеш?

— Часамі...

Рыгор паглядзеў на жоўтую браму і спыніўся.

— Прышлі.

— Тут?

Артур кінуў бясьцікаўным поглядам на дробныя вокны будынку.

— Добрая кватэра?—усумніўся.

— Ня дрэнная. Зацішна і недалёка ад заводу. Зойдам, Артур.

Ужо Рыгор прапусьціў таварыша ў двор, як Артур раптам перамяніў рашэньне.

— Выбачай, браток, не магу зайсьці. Няхай другім разам... Суйздром забыў, што мяне а шостай гадзіне чакацьмуць...

— Кінь!

— Ні ў якім разе; чалавек прыдзе ў трэці раз—абяцаў-жа яму...

Артур паглядзеў на гадзіньнік.

— Даруй... Абавязкова гэтымі днямі наведаю.

Яны разьвіталіся. Рыгор вывеў таварыша з двара і зьняў шапку.

— Чакаю!—гукнуў усьлед Артуру і павярнуўся назад у браму. Ён толькі-што занёс правую нагу, каб пераступіць парожац дзьверцаў, як яго хтосьці тузнуў за жакетку. Рыгор азірнуўся—гэта быў Артур.

— Зусім забыўся... Табе Наталя перадае паклон... Помніш гэту дзяўчыну?

— Наталю?

На Рыгоравым твары заблішчэла ўхмылка.

— Крыху памятаю... Ну, дзе яна, цікава?

— Ліст атрымаў з Харкаву. Як і што яна туды трапіла — баюся сказаць.

— А ты маеш яе адрас?

Артур палез па кішэнях шукаць Наталінага адрасу. У міг ён перагледзеў некалькі замурзаных блёкнотаў, памятых брудных паперак і— дарэмна.

— Напэўна, у хаце забыў... Перашлю. Пісацьмеш?

— Мне вельмі цікава...

— Напішы... Бывай!..

Яны другі раз разьвіталіся і пакінулі адзін другога. Рыгор, азадачаны пачутаю навінаю, ускораным крокам пашоў да сябе. „Што за дзіва! Адкуль яно гэта?“—праказаў ён уголас і нерашуча пазваніў. „Знача, Наталя на волі! Цікава!“

Адчыніліся дзьверы.

— Вас чакаюць, Рыгор Міхасевіч,—паведаміла гаспадыня.

— Хто?

— Якісьці малады чалавек.

— Даўно?

— А ўжо хвілін з дваццаць.

Адчыніўшы дзьверы ў свой пакой, Рыгор угледзеў Рудольфа Шульца. Той падняўся з крэсла і з газэтаю ў руках гасьцінна кіўнуў галавою.

— Даруй, Рыгор, што я так нахрапна залез у твой пакой.

— Будзь ласкаў, я вельмі рад цябе ўгледзець. Я думаў, што ўжо ты... Чытаў прыказ кранштадзкага комэнданта...

— Чытаў... Вось, бачыш, даводзіцца пакінуць Пецярбург... Ворагам стаў...

Рыгор, як зьняў паліто, так і стаяў з ім, забыўшыся павесіць. Вестка пра Наталю разбурала яго пачуцьцёвы сьвет, блытаючы ўвагу да гутаркі.

— Можа-б гарбаты шклянку, Рудольф?—запытаў Рыгор.

— Дзякую. Я зусім на кароткі час. Мне сёньня а дванаццатай гадзіне ўначы тэрмін пакінуць сталіцу.

Рудольф прысеў.

— Я прывёз да цябе,—сказаў ён далей, паказваючы пальцам у бок ложка,—каб ты, браток, захаваў у сябе вось гэту пару маіх куфэрачкаў... Вярнуся—забяру. Можна, Рыгор?

— Куды-ж ты мусіш ехаць?

— Прадпісана ў Орэнбург... Прасіўся да бацькоў—у Пензу. Адмовілі...

— І бацькі высланы?

— Го, яны ўжо месяц таму...

Рудольф хвілінку памаўчаў. Пасьля раптоўна ўстаў і зрабіў два крокі па пакоі.

— Ведаеш, Рыгор, бацька мой перажывае вялікую трагедыю. Надовечы атрымаў ліст і, я табе кажу,—жах... Пякельны жах...

Рудольфавы рукі ляглі на яго махнатай, няпрычэсанай галаве. Рыгор пачуў злосны скрыгат зубоў.

— Што, што за дзіва?—прыступаў і Рыгор.

— Ты добра ведаеш майго бацьку... Я не скажу, каб ён быў ідэальнай чыстаты, але... ён чалавек не благі... Гэта жывая машына... У сваю майстэрню ён укладваў душу. Жыў ёю... І жыў Смагіным... Яго людзьмі, цэлым краем... Беларусь была яго новаю, улюбёнаю радзімай... Але паскаўзнуўся чалавек. Не пасьпеў, ці ня мог, ці не хацеў атрымаць падданства—і на табе... Адарвалі ад месца, ад краю, ад кавалка хлеба і— у ссылку. Месяц, як бадзяецца бяз працы, праклінае сябе, жыцьцё, долю... Моліць аб дапамозе... А што я зраблю, калі і я ў тым-жа стане... Вайна, вораг, бязьвінны вораг прыяцелям і блізкім... Ды болей таго... Гэтага мала, што...

Рудольф разнэрваваўся да адказу.

— А ў дадатак усяго казакі запалілі бацькаву хату і майстэрню, назьдзекваліся з яго старога і... з Маргарыты... Маргарыту згвалцілі, перадлюдна згвалцілі... Чуў?

У Рудольфавых вачох паказаліся сьлёзы.

— Ты павінен адпомсьціць, Рудольф!—стукнуў Рыгор кулаком па стале, ажно ўсё ссыпалася на падлогу.

— Як і каму?—Бязмоцны... І таму, вось, што бяз моцы гэта зрабіць, я гатоў зьесьці самога сябе... Што я варты тады, калі бязмоцны адамшчаць... Згадзіся, што я вазьму рэвольвэр ці бомбу і выйду з імі на Неўскі... сустрэну генэрала, міністра... Ккі-н-ну-у!.. Не забывай, Рыгор, што я немец, што мяне разарвуць на шматкі, і ніводзін гук мне ня будзе спагадным... Цяпер ня час, а чакаць цяжка... Дык я папрашу цябе— вазьмі вось гэта на нейкі час... захавай...

— Я дам табе на дарогу рублёў дзесяць грошай.

Рыгор мігам выцягнуў з кішэні паралез і ваткнуўся ў яго поглядам.

— Ня трэба,—Рудольф хапіў Рыгора за руку.

— Бяры — аддасі... Ды кланяйся бацьку... Нічога... Адамсьцім, Рудольф... Сарафіна Хлёраўна!—гукнуў Рыгор.

— Бывай-жа!.. Дзякую, дзякую...

Рудольф працягнуў руку. Яны пацалаваліся.

— Гарбаты вып'еш, Рудольф?

— Дзякую, некалі. Бывай!

— Ня сумуй, таварыш. Да блізкага спатканьня.

Гаспадыня насторожана паглядзела ўсьлед Рудольфу.

— Вам адзін прыбор?—запытала яна ў Рыгора.

## VII

Рыгор нэрвова коўзаўся па крэсьле. Налітая ў шклянку гарбата некалькі разоў пакідала тацу і варочалася назад. На запыленай сурвэце красавалася каля дзесятка мокрых плямак... Чайная лыжачка саскочыла на падлогу і трапіла пад абсац Рыгоравага бота... У горле смагла, але піць не хацелася. Сіні абажур лямпачкі абвіваўся шэрым туманам... Рыгора цягнула ў некалькі канцоў—так і разьбягаліся веерам шляхі. Ён

адчуваў, што яго чакаюць, думаюць пра яго—аісьці ня мог. Штосьці трымала ў пакоі, бяспрытульным і не сваім на гэты раз. Якім чынам усё так зьбеглася нечакана, тлумна і хаотычна, ён ня мог сказаць... Скрыжавалася, зьмітусілася... Рудольф! Яго пацягнула к вакну. Шэрань. Цьмяныя ліхтары. Бяспрытульна. Дзесьці гудзе паравік і звоняць рамізьніцкія шамкі. А ў акопах? „Адзеньце салдата! Холадна ў акопах!“ Так, у акопах холадна, а ў палацах—балі... Орэнбург, Пенза... Маргарыта, Рудольф.

— Я-ж мушу да Ганны.

Рыгор сярдзіта захадзіў рукамі ў гамузе газэт і кніжак. Закалыхаўся столік, і недапітая шклянка плюхнула на падлогу. Дзвэнгнула...

— Убачай, што я... Ды я-ж не абяцаў ёй прыяжджаць... Заўтра паеду... Не ўцячэ.

Роўны лісток паперы абвіўся вакола асадкі, адале пырхнуў і адляцеў на ложак. „Ганна дарма закруціла“...

„Пятрусю трэба пачакаць“... „Што-ж там з мацераю? Ці атрымала яна грошы?.. Сёмка—ані словам“... „Наталя кланяецца... Ах, Наталя“...

Рыгор абярнуўся да дзьвярэй. Стукаюць?

— Прашу вас.

— Я на адну хвілінку, Рыгор Міхасевіч... Я ўжо даўно зьбіраюся, ды ўсё вам обмаль часу... Парываюся запытаць, а пасьля неяк... Дазвольце прысесьці?

— Калі ласка!

— А я вам ня буду перабіваць? Вы, напэўна, ужо ня пойдзеце сёньня нікуды?.. Дзесятая гадзіна...

— Калі ласка...

Прыбраная і напудраная, з шырока вылупленымі вачыма, гаспадыня лісьліва глядзела на Рыгора. Таму рабілася цяжка вытрымаць яе ўпарты, нашароханы пагляд, і ён раз-ад-разу азіраўся на вакно. Гаспадыня перашкодзіла яму, але Рыгор ня ведаў, як ад яе пазбавіцца. Намякнуць—не зразумее, сказаць адкрыта—няёмка...

— Я вас слухаю, Сарафіна Хлёраўна,—натужыўся ён.

— Сядайце побач, Рыгор... Нешта перашкодзіць мне сказаць вам...

— Калі ласка...

— Мне тольні дваццаць рублёў на адзін месяц,—поўшэптам сказала яна.—Прышлося, ведаеце, да-зарэзу цяжка. Я вам з процантамі вярну. Не адмоўце, галубчык...

— Сарафіна Хлёраўна, дык я-ж ня маю... Апошнія сёньня...

Гаспадыня крута павярнулася і выбегла з пакою.

— А немцам, Рыгор Міхасевіч, ёсьцека?—прагукала яна за дзьвярыма.

— Што-а-а?

Рыгор злосна стукнуў абсацам па падлозе і прыслухаўся.

У кватэры ўсё прыціхла.

— Слухала, подлая!

Ён не пасьпеў працягнуць думкі, як ззаду яго шаснулі дзьверы і крокі гаспадыні павярнулі Рыгора да дзьвярэй.

— Кіньце злавацца, Рыгор Міхасевіч,—перапрасіла яна.

— Што вы ад мяне хочаце?—злосна запытаў Рыгор.

— Я прашу вас... Я бачу, што вы не ў настроі сёньня, Рыгор Міхасевіч... Ня выводзьце з маіх слоў нічога дрэннага... Я не хацела вас абразіць—мяне вымусіла... Рыгор Міхасевіч...

Было загадкавым, што рабілася вакол яго. Няпрытомнасьць гаспадыні перастала злаваць, а дзівіла. У чым сэнс яе просьбы, прыходу ў пакой, лаянкі, перапрашэньня?

— Я вас не разумею, Сарафіна Хлёраўна.

— Я сама сябе не разумею...

Яна раптам пасумнела і накіравалася ў дзьверы.

— Даруйце-э мне,—яшчэ раз перапрасіла яна.

Рыгор ня даў ёй дайсьці да свайго пакою, як мігам апрануўся і вышаў з кватэры. На вуліцы туманіла. Халодная золкая пагода ня спрыяла настрою. Пацягнула назад у памяшканьне. Але Рыгор не хацеў варочацца да сябе. Ён перамог няўтульнасьць надвор'я і пашоў да Выбарскае шашы. На гэтай вуліцы адчувалася заўсёднае ажыўленьне. У абодва канцы насіліся рамізьнікі, праяжджалі паравікі. Направа, у бок заводу „Светлана“, чулася музыка гармоніка. Некалькі п'яных галасоў падпявалі частушковыя мэлёдыі. У другім баку доўгі час сьвісьцеў гарадавы. Хтосьці гвалтоўна лаяўся.

Рыгор крыху пастаяў пры рагавым доме, пасьля пашоў у бок ясна асьветленай харчэўні.

Ён ужо быў каля самых дзьвярэй, як яго аклікнулі. Ён абярнуўся. Перад ім стаяў сусед па рабоце, Анікей Кузін.

— Чаго ты сюды?—запытаў ён.

— Да проста так, надаела аднаму ў доме. А ты куды?

— Я ад таварыша—дамоў.

Яны збочылі ад дзьвярэй.

— Ёсьць навіны якія?

Анікей нахіліўся да Рыгора і шэптам паведаміў.

— Ды ўжо-ж. Надовечы адбылася раённая сходка за Нараўскай заставай. Абгаварвалі характар сьвяткаваньня дзевятага студзеня. Ёсьць настрой у карысьць забастоўкі...

Яны адышлі далей.

— Варта было-б і ў нас памацаць грунт. А то мы заўсёды ззаду цягнемся... Га?..

— Вось то-то і ёсьць... Я назнарок і наведваў таварыша, каб абмеркаваць гэта...

Вырынуўшы з харчэўні натоўп хлапцоў перапыніў іх гутарку.

— Трэба падрабязна абмеркаваць гэта,—парадзіў Кузін уголас:— Гэта рызыкоўная справа...

— Я думаю...

Моўчкі абое пашлі ў харчэўню. Шырокае і досі чыстае на выгляд памяшканьне было перапоўнена людзьмі. У сініх палосах курава расплывалася электрыка і тануў густы разьвяселены гоман. Між шчыльна ўседжаных сталоў насіліся падавальшчыкі: іх гукалі і тузалі за рукавы. Нясьціхана хлопалі піўныя бутэлькі. Машына выігрывала „Тройку“. Дзесяткі рознастайных пахаў зьліваліся ў кісла-оцэтны імпад. На іх прыход ніхто не абярнуўся; усяго і было знаку, што за імі ўварваўся знадворку шустры струмень халоднага паветра. Але гэта рабілася нязьменна праз увесь вечар—вэнтылятар над дзьвярыма бязупынна вярцеўся і насьвістваў аднастайную мэлёдыю.

Яны акінулі паглядамі шырокую залю сталовай—парожнага месца не наглядалася. Тады абое пашлі між сталоў, шукаючы яго. Рыгор падсьцярог дваіх мужчын, якія вялі разрахунак з падавачом, зьбіраючыся пакідаць харчэўню. Ён гукнуў таварыша. Але Кузін у гэты час пасьпеў захапіць столік у кутку, якраз насупраць ігральнае машыны. Вакно збоку зьлёгка астуджала сьпёртае паветра. Кузін махнуў шапкаю, і Рыгор упусьціў чаргу другім.

— Вып‘еш піва?—запытаў Кузін.

— Я-б не ад таго, каб і падзакусіць чаго.

— Заказвай...

Кузін паклікаў падавача і даў заказ на піва і салянку.

Але не пасьпеў падавач адыйсьці да буфэту, як збоку іх пачуўся рэзкі надрыўны голас газэтчыка. „Біржавыя Ведамасьці“. „Наша войска пакінула Лодзь“. „Немцы ўвайшлі ў Лодзь дваццаць трэцяга“. „Вячэрняя Біржоўка“. „Каму „Вячэрнія Біржавыя?“ „Аўстрыйцы занялі Белград“. „Зьдзек над сэрбскімі цэрквамі“. „Зьверствы немцаў“. „Кніжка Рэньнікава“.

Выгук за выгукам ляцеў з вуснаў здаравеннага чырвонашчокага дзядзькі. Гоман прыціх, і дзесяткі рук пацягнуліся за газэтаю. Газэтчык заўважна памяншаў іх пад пахай, зьбіраючы медзякі. Сьвежыя навіны адразу перамянілі настрой прысутных. Над сталамі распасьцёрліся аркушы газэт, адцягаючы людзей ад ежы і пітва.

Але хутка першае ўражаньне ад ваенных навін пасьпела адляцець. Важкасьць здарэньняў прасочвалася ў нутро, асядаючы ў глухіх кутках істоты.

Карчомнае жыцьцё аднаўлялася. За суседнім сталом раптам узьнялася вострая спрэчка. Малады, чарнявы мужчына заўзята крытыкаваў дзяржаўныя парадкі, лаючы расійскае камандаваньне. Махаючы абедзьвюма рукамі, ён бясстрашна крычаў: „Прадацелі-ы! Зьмена-а! Усю-ды-і зьмена! Дзе-ж ты пераможаж? Вакола немцы... Гэ-э! Меншыкаў! Кінь, брат, пераконваць нас у перамозе... Ду-удкі-ы! Табе тут лёгка дыктаваць машыністкам, а там... Прадаце-лі-ы! Згубы-ы захацелі... Расію прадаеце-э, нішчыце народ... А нам пушку заліваеце-э...“

Вайшоўшы ў азарт, ён падняўся над сталом і яшчэ мацней загукаў: „Перамо-о-га-а! Знаем мы вашу перамогу! Ужо раз наведалі Прусію... Тое будзе і з Галіччынаю... Губарнатара вызначылі? Перамышлю захацелі?.. Тут, у сябе лад навядзеце... Марадзёры-і... Нажывацца-а на нашай крыві...“

Вакол прамоўцы згрудзіўся натаўп. З усіх бакоў нясласся ўхвала. Настрой абвострываўся, пераходзячы ў імпозантную дэманстрацыю супраць вайны. Загрымеў пляск аплёдысмэнтаў, а хтосьці пасьпеў зацягнуць марсэльезу. Гаспадар харчэўні з падавачамі бязвольна мыкаў то з-за буфэту, то за буфэт, клапатліва пазіраючы на дзьверы.

— Гаспа-ада-а, пацішай! Пра-ашу-у вас!..—напінаўся ён, крычучы ў бок натаўпу. Але яго доўгія рыжыя вусы і лахматы кузаб галавы зводзілі ўсю сур'ёзнасьць да бязвольнай комэдыі—яго ніхто не шманаў.

Героем быў рухавы і злоязычны сьмяльчак—ужо падняты на рукі наэкзольтаванаю грамадою.

Паддаўшыся агульнаму настрою, паўскаквалі з сваіх месц і Рыгор з Кузіным.

„Бра-а-ва-а!“—далучыўся да агульнага гоману Кузін.

Але не пасьпеў ён стуліць вусны, як яго Рыгор тузануў за рукаў. У дзьверах харчэўні стаяла трое здаравенных гарадавых, якія сувора глядзелі на разьюшаных наведвачоў харчэўні. Хутка адзін з іх паднёс да губ сьвісьцёлку, і рэзкі зацяжны сьвіст разьляцеўся па харчэўні. Грамада змоўкла, а прамоўца спрытна апусьціўся ўніз і зьмяшаўся з людзьмі. Гарадавыя напорам кінуліся ў парадзеўшую грамаду.

Праз хвілін пяць адзін з іх накіраваўся ў дзьверы, вядучы пры сабе прамоўцу. Рыгор зразу скмеціў, што справа апошняга бярэ дрэнны накірунак. Ён у момант аддзяліўся ад стала і ёмкім скокам апынуўся пры гарадавіку. Наглядаўшыя гэта заўважылі спрытны манэўр Рыгора, які разам з арыштаваным мігам зьнікл за дзьвярыма харчэўні. Раззлаваны гарадавік падаў гвалтоўны сьвіст, кінуўшыся ў дагонку за ўцекачамі. Усьлед яму пабегла цэлая грамада з другімі гарадавікамі.

І ў харчэўні, і на вуліцы разьнеслася нечаканая трывога.

Кузін спакойна вышаў чорным ходам.

## VIII

Апынуўшыся ў сябе на кватэры, Рыгор нейкі час прыслухоўваўся да кожнага шоргату за дзьвярыма. Ён быў няўпэўненым, што яго хто-небудзь з прысутных у харчэўні не заўважыў. Не магло таго стацца, каб сярод наведвачоў ня шныпарыў адзін або і некалькі шпегаў. Толькі рэдкі выпадак мог перашкодзіць улавіць яго прысутнасьць у харчэўні. А раз яго заўважылі—наўрад ці абмінуць з візытам на кватэру. Магчыма, што гэта была памылка з Рыгоравага боку. Як-ні-як, а поўжартоўны ўчынак можа скончыцца дрэннымі вынікамі.

Яшчэ і ў ложку Рыгора не пакідала сумненьне. І толькі а гадзіне першай уначы ён зьнябыўся і заснуў.

Назаўтра раніцою яго разбудзіў нечаканы стук у пакоі гаспадыні. Сарафіна Хлёраўна незнарок таўханула падстаўку пад вазонам, і цяжкі гаршчок з зямлёю зырнуўся аб сьцяну.

Рыгор мігам праплюшчыў вочы і вылаяўся. Па ўсяму целу адчувалася ўтома—ён не даспаў. Але спроба ўлегчыся і яшчэ крыху прыдрамнуць асталася бяз вынікаў. Сонечная марозная раніца іграла зайчыкамі на сьценах пакою. На вуліцы чулася ваенная музыка. Бадзёрыя гукі труб і зычны стук барабана біліся ў шыбы вокан, вабячы Рыгора.

Ён устаў і праз гадзіну часу ўжо быў на вуліцы. Пакрытыя шэраньню дрэвы цярусілі драбнюткімі крышталямі сьнегу. Кудысьці сьпяшыла грамадка вучняў на чале з настаўнікам. З Выбарскае шашы даносіўся грукат паравіка. На чырвонай сьцяне муру, у які ўпіралася вуліца, адбівалася чорная постаць гарадавога. Калі ён павяртаўся перадам да Рыгора, медная бляха на шапцы адбівала сонцам.

„Ці ня той самы, з якім я ўчора меў справу?—пажартаваў Рыгор і, калі параўняўся з ім, гарадавік пільна паглядзеў на яго і тут-жа адвярнуўся. Рыгор кінуў пра гэта думаць і накіраваўся ў горад. Ня гледзячы на моцны мароз, трамвай быў перапоўнены людзьмі. Ішла жвавая гутарка пра апошнія здарэньні на вайне. Хтосьці сьпераду яго скардзіўся на памылковасьць разьлікаў рускага камандаваньня к калядам апынуцца ў Бэрліне. Жаночы голас узвальваў віну за гэта на Баўгарыю і Італію. Яшчэ хтосьці з запалам агітаваў за збор цёплых рэчаў. Побач хвалілі невычарпаную энэргію солісткі „яго вялікасьці“ Марылі Долінай, даваўшай у цырку Чынізельлі дваццаты „патрыотычны концэрт“. Далёка ня сугучна з гэтым зьвінелі скаргі дваіх бабулек на падаражаньне мяса.

Кондуктар таксама лічыў патрэбным устаўляць ад сябе словы ў кожную гутарку. Гэта, відаць, яго цешыла і здавальняла, бо ён нясьціхана ўхмыляўся. Ён узяўся за артыстку Доліну, калі паравік абмінаў Самсонаўскую царкву. На спынцы ў напоўнены вагон шугнула новая грамада пасажыраў.

— Усе на „патрыотычны концэрт“... Які патрыотызм у людзей! Дайце вальней уздыхнуць ад яго!—прагукнуў кондуктар у насядаўшы натаўп.

Яго рука, павісшы на раменчыку ад сыгнальнага званка, падалася ў бок і вагон рушыў. Усьлед яму пагналіся лаянкі не папаўшых у паравік. Раптам сярод рознастайных галасоў вылучыўся сьвіст гарадавіка; ён быў нагэтулькі зычным, што пасажыры абярнуліся ў бок задніх дзьвярэй. Кондуктар тузаў рамень, даючы сыгнал спыніцца. Зьнянацку штуршок таўхануў напакованы людзьмі вагон. Кагосьці прыціснулі; чыясьці рука праламіла шыбу, і шкло зазьвінела срэбраным гукам.

Але ня ўсе чарапкі разьбітага вакна апынуліся на ўгладжаным сьнягу, як гучная лаянка напорным струменем уварвалася перш на пляцоўку

вагона, а сьледам, праз рашуча прачыненыя дзьверы—у сярэдзіну яго. Нельга было не пацікавіцца на грозны голас крыкуна, на яго ваяўнічы настрой. І калі дзесяткі людзей накіравалі ў яго бок свае ўзрокі,—стройная, асаністая фігура чорнамазага вялікана-генэрала спыніла іх на сабе. Рудымі буйнымі вачыма генэрал аглядаў вагон, людзей, афішы і забойна лаяў кондуктара.

— Хам'ё,—адрыўна ляцелі словы з генэралавых густа аброслых губ:—яшчэ не пасьпелі вас выхаваць належным чынам. К-кашы-і бярозавае мала спыталі, мужыччо... У акопы, пад нямецкія кулі, погань.

Рыгор затросься ад абурэньня. У яго нутры забушавала прагнае хаценьне кінуцца на царскага пампадура і расквасіць яго наглую морду. Ужо ён намерыўся да павароту, як яго пераняў выгук кондуктара: „Тут сьмелыя, а на фронце-э...“ Гэта падліло масла ў агонь: генэрал мігам спыніў паравік, выперся на пляцоўку і ва ўсю моц загукаў гарадавіка. Пасажыры змоўклі і нашарохана пераглядаліся. Некаторыя сталі пакідаць вагон.

— Ну, гэта-ж недапушчальная рэч!—гукнуў Рыгор і сьледам пазваніў важатаму. Паравік крута рвануў з месца. Генэрал ня ўтрымаўся і бухнуў з пляцоўкі на мёрзлую зямлю. Скрозь гаму скрыпаў і стукаў калёс можна было ўлавіць нямыя крыкі генэрала. Але яны не маглі зрабіць уплыў на бег паравіка. Ня спынілі яго раней прыпынку і палахлівыя з озіркам сказы некаторых пасажыраў.

Перад клінікай Вільле Рыгор першым выскачыў з паравіка і перасеў на трамвай.

Ён не заўважыў, калі апынуўся на рагу вуліцы Жукоўскага. Замаруджаная хада трамваю настроіла яго сыйсьці і прайсьціся да Неўскага пехам. Мо' ўпяршыню за час бываньня ў Пецярбурзе Рыгор нічога ня думаў, нічым не задаваўся, а бяспытальна, бязмэтна, гардліва і вольна глядзеў наперад. На яго твары грала чырвоная фарба здароўя, у нагах пружыніла сталёвасьць, вочы праразалі разрэджанае, абмытае сонцам паветра.

Раптам струмень пешаходаў зацішыў хаду, затоўкся на месцы, нарэшце, зьбіўся ў натаўп. „У чым рэч?“—далучыў Рыгор свой голас да іншых. Ніхто не адказваў. Тады ён прарэзаў сьцяну людзей і тварам да твару стрэўся з гарадавіком. Апошні з разьнятымі рукамі затрымліваў натаўп, каб не перашкодзіць насіць раненых. Пасярэдзіне вуліцы, якраз супроць будынку шпіталю, доўгім цугам выстраіліся санітарныя вагоны. Да дваццаці пар насільшчыкаў у белых халатах бесьперапынна бегалі з шпіталю да вагонаў і вярталіся назад з раненымі. Чуўся адрыўны ойк і пацяжны енк. Бязрукія і бязногія, з чалмамі перавязак на галаве, пад скупымі коўдрамі—варочаліся „героі“ франтоў у „гасьцінную сталіцу“. Далёкая Польшча, Усходняя Прусія—чужыя і невядомыя, мігалі ў іх балючым выбражэньні жахлівымі вобразамі. За каго і дзеля якое мэты пакінулі яны там свае сілы, сваё здароўе, часткі свайго цела? Ці мала

ім было разанскіх ці яраслаўскіх пастораў, украінскіх стэпаў, беларускіх лясоў?.. Родных, знаёмых, спакойлівых...

Вунь малады, з круглым белым тварам мужчына. Сінія жвавыя вочы, стройны лоб, роўны вытачаны нос... Вось тонкатвары, з пракідкім калісьці паглядам, жывы і, напэўна, весяльчак сібірац. Манчжурская шапка паглынае ў сябе страхі нячуваных боляў... Сьледам—чарнявы, задуменны яўрэй—бяз рукі і нагі; пашарпаная летняя шапка на букеце чорных кудраў. Прыплюшчаны вочы, пэўна, ловяць жахлівыя ўчынкі казакоў... Магчыма, што толькі за дзень да калецтва ён атрымаў ліст з балючаю весткаю пра забойства бацькі... Пабудаваная хата на Рымарскай вуліцы гродненскага мястэчка. Замілаваная жыцьцярадая Пэся... Біржа майскімі начамі... Ах, і казак... Сярэдніх гадоў—бацька і муж. Аброслы, замурзаны раскапанаю на акопы зямлёю; скрыўлены сударгамі твар; жмак марлі на галаве, пад новаю папахаю... На кані ад Маныча да Віслы... З жвавым, ваяўнічым выглядам—на страх ворагам. Бязвольныя рукі—яшчэ так нядаўна па загаду сьцябаўшыя нагайкаю сьпіны беларускіх мужыкоў, яўрэйскіх жанок... Што там, дома? Ці сабрала жонка з поля? Кавуны, кукуруза? Ці беліцца хата к калядам? Ці вучыцца Юзік?.. Саракавы—лезгін... У даўгім носе—арліная воля. У раскрытых, ашклянелых вачох—водбліск вечных сьнягоў Казьбеку... Шырокая чорная бурка—прасторныя выганы на стромах гор... Бурлівыя рэчкі, срэбныя вадаспады... Ці не абвалілася тая скаля, на якой ён так любіў скакаць віхравую лязгінку?.. Сорак першы—льняны магілевец... Без абедзьвюх ног... бяз тых намардаваных ног, што так вёртка спраўляліся з носкаю дроў на параходы... Сыгнал а першай гадзіне ўночы... Вёска на нагах—зрэбныя порткі да болю шаруюць цела—тры рублі на сто чалавек... Сырап да іржаных бліноў... Ці ўрадзіла палоска? Колькі коп сабрала Юзя жыта?.. Ці парос лён—хоць наткаць на сурвэту... Пэўна, вецер зьнёс страху і хата сьвіціцца голымі кроквамі... Напішы яму, Юзя... Чаму-ж?.. І на вайне, і раней у палку—разам з ім—палтавец... Шаўчэнкаўскія вусы... Хмурыя і навесістыя бровы. Прадаўгаваты васковы твар... Думкі, палітыя крывёю, носяцца ў трапяткім лісьці тапалёў... Думкі гудуць пчоламі на вішнёвым цьвеце... Жоўтыя кругі сланэчніку—ціхаяВорксла... Або дачакае тачанка, на якой столькі вёрст ён выехаў... „Сымон, калі-ж ты наведаеш сінюю Палтаўшчыну?..“

Рыгор непарушна стаяў на адным месцы, сьціснуты жалем і помстаю, як стальнымі абручамі. „Ці скора надыдзе час расплаты за гэтыя пякельныя жахі вайны?“

Адказ зацёрла хлынуўшая на яго і пацягнуўшая за сабою грамада пешаходаў. Ён не агледзеўся, як апынуўся перад роўнаю гладзьдзю хваляваўшага жыцьцём Неўскага. Безабдумна пахіліў направа, у бок Анічкавага мосту. Не даходзячы, успомніў пра абед—добра, што побач харчэўня. Праз хвіліну ён ужо праходзіў другі паверх, калі яго паклікалі зьнізу. Ён азірнуўся—за ім сьпяшыла Гэля.

## IX

— Цябе не нагнаць, Рыгор...

— Гэля?!

— Прыгледзься, ха-ха-ха...

— Няўжо такі Гэля?

— Не пазнаеш?

— Дзень добры!

— Добры дзень!

— Каго я бачу!

— Раптам?

— Якім-жа чынам?

Яны ўзяліся за рукі і доўга не маглі іх разьняць. Прымха?

Рыгоравы вочы ўталоплена глядзелі Гэлі ў твар. Верылася—ня верылася. Гэля—ня Гэля? Каб ня бачыў, каб ня ведаў, каб ня жыў з ёю ад малых гадоў—не пазнаў-бы.

Але то была ня Гэля, а яе далёкае падабенства. Бляды, асунуты твар. Глыбока запалыя вочы. Сінякі, як сталёвыя дугі, вакол пабляклых зрэнак. Тоўсты пласт таннае пудры. Надломы ў паваротах. Пужлівасьць у поглядзе. Беднае, дэмісэзоннае, памятае палітцо... на рыб'ім пуху... Без галёш—пашарпаныя чаравікі.

Прымха?

Гэля не магла расчыніць вуснаў. Мэрам-бы баялася глядзець Рыгору ў вочы. Нэрвова пераступала нагамі. Апускала галаў. Але руку непарушна трымала ў Рыгоравай руцэ.

— Хадзем паабедаем.

Пакуль Рыгор разглядаў меню, заказваў ежу, Гэля маўчала. Усё яшчэ не знаходзіла ў сабе сьмеласьці пачаць размову, каб выказаць сваю скаргу на жыцьцё. Мэрам-бы ня ўпэўнена была, што жыцьцё вінавата...

Рыгор выручыў запытаньнем:

— Паведамі-ж хоць, як ты трапіла ў Пецярбург?

— Доўгая гісторыя.

— Тым лепей, я сёньня вольны—нядзеля. Паабедаем і паедзем да мяне... Згодна?

Гэля кіўнула галавою.

— Ты над нечым моцна задумалася?

— Братка Рыгор, каб ты ведаў...

— Што?

— Думак—бясконца, бяз меры... Думаю, толькі бяз толку і без карысьці...

— Чаму?

— Тая-ж гісторыя, якую я так імкнулася табе расказаць...

— Імкнулася, а зараз?

— А зараз, мне здаецца, што яна нікому не патрэбна... Што каму да мае гісторыі, дробнае і няпрыметнае?..

— Гэля... З нашых дробных гісторый складаецца вялізная кніга быцьця... Мы дробныя, ды нас многа... Вялікае складаецца з дробязі...

Рыгор справодзіў сваю гутарку лёгкаю ўхмылкаю—ён думаў разьвеяць Гэлін сум. Але праз увесь абед яму гэта не ўдалося зрабіць. Гэля болей маўчала. Рэдкімі сказамі адказвала на цэлыя комплексы Рыгоравых запытаньняў.

Толькі праз нейкі час, у які яны праехалі з Неўскага да Ляснога, Гэлін настрой адстоіўся, выраўняўся, і яна разьвязала язык.

— Я ўжо тыдзень у Пецярбурзе,—казала яна па дарозе да Рыгоравай кватэры:—дзьве ночы начавала... Ой, цяжка сказаць, дзе і што начавала... Пасьля... Выпадкова натрапіла на Беларускі бежанскі камітэт... на Знаменскай... Ужо пятую ноч, як жыву на яго дапамогу... Бежанка... Бежанка я, ды ўсё не магу зьбегчы ад жыцьця... Сьвет шырокі, а дарога вузкая... Звузілася, Рыгорка... Памятаеш, мне ня было прыпынку, а зараз...

— Вось у гэты двор.

Рыгор уважліва слухаў Гэлю. І надрывы ў яе голасе, і бедны яе выгляд спарадзілі ў ім глыбокую спагаду да зямлячкі, знакомай і таварышкі. Ён ішоў побач, з пахіленаю да Гэлі галавою і час-ад-часу зазіраў ёй у вочы.

— Наша жыцьцёвае заданьне—пашыраць гэту вузкасьць дарог... Чалавек створаны на тое, каб жыць у супярэчках...

— Ты ўсё той-жа, Рыгор. Сілцы, Смагін, Рыга, Пецярбург. Васемнаццаць гадоў і дваццаць чатыры... Балаголам і сьлесарам...

Яны спыніліся пры дзьвярах Рыгоравай кватэры. Рыгор тузануў за драцяную пятлю.

— Хто там?—запытала гаспадыня.

— Я, Рыгор. Адчынеце...

— Вас чакала адна дзяўчына... Толькі што вышла... Я не магла сказаць, калі вы прыдзеце.

Сарафіна Хлёраўна далікатна ўхілілася ў бок, прапусьціўшы Рыгора з Гэляй.

— Абяцала прысьці,—паслала яна ўздагон.

Рыгор не пачуў; ён бразнуў дзьвярыма і заглушыў гаспадынін голас.

— Прашу, Гэля. Вось мой прытулак.

Гэля ўвайшла і бясьцікаўна паглядзела вакол сябе. Пасьля села пры стале, апусьціла пагляд і апавядала далей...

— За гэтых поўгода ўсё пашло шыварат-на-выварат. Помніш, мы паехалі з трупай? Аб‘ехалі шэраг гарадкоў і мястэчак... Было весела... Усюды віталі, падносілі кветкі, выклікалі... Нашы спэктаклі—гэта-ж навіна, цікавая і кусьлівая разам... Але тэатр—гэта вярцеп... Ён вытузаў сілу, расстроіў нэрвы, скаламуціў жыцьцё... Мой Павал... Ты помніш яго, Рыгор?

— Крыху...

— Вось гэты Павал... сьпіўся, распусьціўся, налайдачыўся... Западозрыў мяне ў зайздрасьці... да каго, думаеш?.. да цябе... Пачаў біць і гнаць... Перш я не паддавалася, адстойвала сваю людзкую вартасьць, змагалася, а пасьля... Ён кінуў мяне ў Крынках адну і зьбег... Дзе ён — цяжка сказаць, мэрам-бы ў войска ўзяты... Заўсяголаў, толькі я асталася бяз нічога і бяз нікога... Я мусіла, Рыгор... Я мусіла ісьці...

Рыгор заўважыў у Гэліных вачох буйныя крышталі сьлёз і знарок затупаў па пакоі.

— Ня ехала ў Пецярбург, а паўзла... Этапамі, з перапынкамі, з ня выказным мардаваньнем... Я думаю, табе відаць... Не пазнаў-жа?..

— Усё-ж, Гэля, ты занадта зажурбіла... Табе трэба...

— Што мне трэба?—перапыніла Гэля:—мне ўжо мала што трэба, а можа... Скажы, аднак, мне, дзе Пятрусь? Я дзень-у-дзень наведваю адрасны стол, хаджу па вуліцах гораду і разглядаю тысячы людзей. Некалькі раз трапляла да варот заводаў і чакала, пакуль пройдуць рабочыя... Няма... Ты, пэўна, ведаеш, Рыгор...

Рыгор памаўчаў.

— Пятрусь сядзіць... Некалькі часу таму я яго наведваў...

— Сядзіць?! Які жах! Сядзіць?!

— Сядзіць... Ужо чацьверты месяц...

— Тады мне няма чаго чакаць...

Яна паднялася, каб ісьці. Рыгор спыніў, упрасіўшы пасядзець.

— Я пашукаю для цябе службы?

— Для мяне службы? А хіба ты ня ведаеш, што я за масьцярыца?

— Кінь свой настрой... Я ня люблю, Гэля, зьняверaных людзей... Ты-ж ведаеш...

Гэля рванулася да дзьвярэй.

— Ты ня пойдзеш—ты мне не сказала ўсяго... Пасядзі...

Яна спынілася.

— Памажы, калі хочаш і можаш...

Яе мяккі, упрошны голас разрэдзіў напружаны настрой.

— Я буду шукаць табе месца... Цяпер лёгка знайсьці... Толькі кінь сумаваць... Ды, нарэшце, ты маеш бацькоў, якія...

Гэля зноў зьмяніла настрой.

— У мяне няма бацькоў—я адна. У мяне і блізкіх няма. Толькі ўсяго...

— Палічы мяне хоць-бы знаёмым, Гэля... Няўжо ты думаеш, што я не магчыму адгукнуцца ўсякі раз, як ты...

— Даруй, Рыгорка... Ты дай мне хоць пару рублёў... Я хоць чаравікі папраўлю, а то ногі вылазяць...

Рыгор падышоў да Гэлі і моцна пацісьнуў ёй руку.

— Калі ласка, я магу табе пазычыць пяць рублёў... Вось апошнія — толькі глянь празрыстымі вачыма наперад. Гэля?

Ён перадаў ёй скамечаную паперку.

— Дзякую... Вельмі дзякую табе, Рыгор... Я хутка-ж пастараюся вярнуць... Няпраўда, я зараблю і вярну... Няўжо-такі для мяне ня знойдзецца працы?

Гэлін твар перамяніўся. На бледных шчоках адзначылася лёгкая чырвань. З вачэй зьбегла цягучая асавеласьць. Знайшлася рухавасьць. Яна зьдзела палітцо і гіронічна адазвалася пра зношаную картуновую блюзку.

— Не пасуе да пецярбурскіх умоў, га? А трэба мірыцца... Часы пераменчывы... Але ты, Рыгор, будзеш ласкаў пастарацца месца?.. І яшчэ прашу цябе, браток, кланяйся Пятрусю... Можа яму гэта нішто, а для мяне... Кланяйся яму і скажы...

Яна папраўілася...

— Лепей не кажы нічога... Я перад табою магу душу адкрыць, а Пятрусь... Пятрусь недаверак... Помніш, Рыгор, Сілцы? Я табе казала ня раз... Паверыш, вось да цябе ў мяне столькі павагі, што ты... У Смагіне ты ашчасьлівіў мяне нашай стрэчаю, а тут... Я ня чула ног пад сабою, угледзеўшы цябе на Неўскім...

Рыгор папрасіў у гаспадыні гарбаты.

— Я табе, Гэля, веру... І прашу, разам з тым, забудзь прыкрыя хвіліны... Ад Захараўскай у Лясное ты дарогу ведаеш... Кожны раз ты можаш ка мне прыехаць і няскрытна паведаць пра ўсё...

Гаспадыня прынесла гарбату. Рыгор увішна наліў шклянку і падаў Гэлі.

— Дзякую, Рыгор. Мне час ісьці, а то камітэт...

— Я цябе правяду... Пі...

Гэля ўзяла шклянку і тут-жа паставіла назад.

— Зусім запамятавала! — весела праказала яна да Рыгора: — Хоць жыцьцё прымушае плакаць, а я знарок буду весяліцца...

— Брава, Гэля! Нарэшце, ты зразумела, у чым сутнасьць нашага існаваньня... Весяліся, сьпявай і змагайся...

— У мяне гутарка ўсяго пра адзін вечар...

— Вунь яно што! Пра адзін вечар, усяго?

— Беларускі бежанскі камітэт наладжвае вечарынку... У студзені якраз... І я, як артыстка—маўчы Рыгор!—іграю. Ты мне хоць пару воплескаў падаруеш, га?

— Я табе, Гэля-а!.. Буду чакаць цябе з білетамі... Дачакаюся?

Гэля задаволена ўсьміхнулася.

І гэта Гэліна ўсьмешка ўжо ня сходзіла з яе твару, пакуль яна не рассталася з Рыгорам.

## X

Цёмная ўскраінная ноч ахутала вузкі дворык чорным цалуном. Золкае паветра сьцісьнула холадам распараныя постаці вышаўшых з дому двух чалавек. Пасьля зыркага сьвятла бегалі калёсы ў вачох. Дзьмухаў фінскі ветрык, сыплючы ў твар калючымі сьняжынкамі. Зьвінелі драты. Пахі-

леныя варотцы на ланцужку монотонна скрыпелі. Уверсе-ж, над зямлёю і будынкамі, над голымі дрэўцамі і парканам калыхалася малако водсьвіту. Цішыня, коўзкая і паўзучая.

— Засядзеліся,—першым вымавіў Рыгор.

— Яшчэ-б не заседзецца! Пытаньне нялёгкае і няпростае,—адказаў Анікей.

— Ха-ха-ха! Ну, мне з Якавым Гісам не разабрацца... Ой, дзівак які... Ты паслухай толькі-ы...

Анікей тузануў Рыгора за полу паліта.

За імі чуліся чыесьці крокі і ціхае перашэптваньне.

Яны вёрткім паваротам апынуліся за брамаю і павярнулі направа. На адгоне некалькіх сажняў сьвірэла першая пара зеленаватых агеньчыкаў. За імі, як зьвены ланцугоў, ішлі другія пары; яны глядзелі з цемры ночы блішчастымі гузікамі на чорным сурдуце.

Ні жывое душы. Толькі цёмныя абрысы будынкаў.

— Няма нікога!—шапнуў Рыгор:—Давай пройдам наўскасяк і тады налева,—дадаў ён.

— Ды мне-ж не па дарозе будзе,—адказаў Анікей.

— Чаму?

— Мне на Сердабольскую...

— А ты пойдзеш гэтай, як яна...

Анікей не спрачаўся. Яны перайшлі вуліцу наўскасяк і ўперліся ў другую, яшчэ цямнейшую. Прайшоўшы ня болей дзесяці хвілін, Рыгор знайшоў спраўнейшым абагнуць два кварталы першага завулку, каб на яго скрыжаваньні расстацца з Анікеем.

— Я ўжо цалкам здаюся на цябе,—пасьмяяўся ён.

— Здавайся, каяцца ня будзеш.

Але Рыгор спыніўся пры мглівым сьвятле ліхтарыка і прачытаў лічбу дому. Ліхтар далёка ня вытлумачыў таго, чаго ад яго чакалі. Тады Рыгор ўзяў на рызыку і пераказаў да таварыша:

— Здавайся, каяцца ня будзеш.

— Здаюся... А пакуль выведзеш з гэтае глушы, зусім здамся...

Абодва засьмяяліся і зусім не з асьцярогаю. Але ніякага адказу—ні ступам, ні тупам, ні кашлем.

— Якаў мяне распацешыў, ды годзі-ы... Ну, да чаго, скажы, апошняя яго пропозыцыя?..

— І я так думаў... Інтэлігеншчына...

— Я табе кажу, Анікей...

Ім паказалася, мэрам-бы хто іх наганяе... Азірнуліся... Смуглыя ліхтарыкі хаваліся пад стрэшкамі брам. Ціха.

— Зрабіць спробу ня шкодзіць... Сотня, дзьве сотні чалавек, а эфэкту, во-а-а... Ня праўда, мо'?

— Як табе сказаць... І я гэтай думкі трымаюся... Хоць рызыкі...

— Рызыкі... Зразумела, што не без таго... Спроба, бачыш... Поўгода вісіць крывавы дурман... Алавяны цяжар душыць усякія пазывы... Але, памятаеш, сталовую? Во-а! У адзін момант і — Вязуві... Вязуві, кажу табе...

— Усё-ж і Якаў меў рацыю... Перш раздаць адозвы—мэрам-бы сыгналам прапусьціць па заводзе... А тады... Тэма—суд над дэпутатамі думы, дарагоўля мяса, нястача вугалю, цукру...

— Спроба... Але надзея ёсьць... Важна, кажу табе, выкрэсіць хоць адну іскрачку... Зрабіць намёк, што вайсковае становішча, мілітарызацыя, узмоцненыя рады папярэджаньняў, усё-ўсё іх—нівошта...

— Я ўсё выясьню гэтымі днямі... Нельга-ж без коордынацыі... Сам разумееш...

— Ну, Якаў, Якаў! Дзівак які, няпраўда, мо'?..

Яскравы бляск ліхтара іх перапыніў.

— Куды мы вышлі?—запытаў Анікей.

Рыгор сьмяяўся—то была яго вуліца.

— Паверыш, ты мяне правёў дамоў...

— Няўжо? Вось і здайся на цябе...

Яны разглядалі мясцовасьць.

— Ты варочай налева—прасьцей дарогі ня знойдзеш.

— Да ўжо-ж.

Анікей разьвітаўся і сьпешна пашоў у бок Выбарскае шашы. Як яно вышла, што Рыгор вывеў на гэта месца, для яго таксама было няясна. Але ён шчыра сьмяяўся з таварыша. Той мінаў другі квартал, калі Рыгор кінуў праводзіць яго ўзрокам і павярнуў направа, да сябе.

Ён зрабіў некалькі крокаў, зноў вяртаючы думкі да Якава, і не заўважыў, як хтосьць мігнуў ля яго. Рыгор спыніўся і агледзеўся. Мо' на сажань ад яго стаяла якаясьці жанчына, азіраючыся на яго. Рыгора зацікавіла.

— Не пазналі?—запытаў ён.

— І вы не пазналі?

Знаёмы акцэнт рушыў Рыгора з месца.

— Няўжо гэта...

Ён падумаў на Гэлю, але раптам зьмяніў дагадку.

— Вось бачыце-э...

— То-та і ёсьць, што ня бачу...

— Вы Рыму суйздром запамяталі... А я вось іду ад вас...

— Рыма?!.

Каб хто чуў Рыгораў выказ, падумаў-бы, што Рыгор напаў на сьлед чалавека, якога шукаў гадамі. Мяккасьць і мілагучнасьць яго голасу дыхала весялухаю радаснага пачуцьця.

Рыма пачула ў ім нечаканую асалоду.

— Ха-ха-хэ-э!—зарагатала, падыходзячы насустрач.

Поціск іх рук быў шчырым і сардэчным. Рыгор зразумеў яго, як выбачэньне з боку Рымы.

— А я зьняверыўся быў... Памятаеце-э...

— Кіньце-э... Хто ўспомніць мінулае, таму... Хэ-хэ-э-хэ... Ну, я буду шчасьлівая!..

— Чаму?

— Вы не пазналі...

— Я вам жадаю...

Ласкавая, крохкая ўхмылка на Рыгоравым твары была заканчэньнем яго сказу... Рыма разумела ўсё, што таілася у ёй. Дзяўчыне было прыемна слухаць Рыгора ці проста, моўчкі, глядзець у яго раскрытыя вочы... Яна не аднімала свае рукі з яго рук і мінаю Джыаконды выклікала новыя сказы з Рыгоравых вуснаў...

— Я заўсёды ўспамінаю вас...

— Маўчэце... Хто ўспомніць мінулае...

Рыма падняла ўгору левую руку і выставіла паказальны палец.

— Разумею... Але вас я ня мог дачакацца...

— А ў мінулую нядзелю хто вас наведваў? Бяспамятнасьць?

Рыгор успомніў, што яго гаспадыня паведамляла пра нейкую дзяўчыну... Так, гэта тады, калі ён прышоў з Гэляю...

— Вам холадна, Рыма?

Ён сьмела крануў яе пушыстага, коцікавага каўняра. Драбнюткія пылінкі сьнегу ссыпаліся на ровень надгруднага прастору.

— Марозіць?

— Марозіць!.. Золка...

— Пойдам?

— Мне пара дамоў.

Другім бокам вуліцы прайшла запозьненая пара.

— Людзі не сьпяшаюць, во?

Рыма азірнулася.

— Яны ідуць таксама дамоў?

— Іх дом у тым баку?

— Хэ-хэ-э-х!—засьмяялася Рыма на-хаду.

Але перад брамаю, дзе спыніліся, яна рашыла вярнуцца дамоў.

Гэта рашэньне дапомніла Рыгору памятны выпадак з Рымаю ў яго пакоі. Ён усхваляўся, але паказаў, што не заўважыў нічога.

— Я вас правяду...

— Калі ласка... Я мушу вам перадаць тое, з чым наведвала вас...

— Менавіта?

— Я была ў Пятруся...

— Былі ў Пятруся?!

— Дзівіцеся? Была... Ён казаў мне, што бачыўся з вамі... Я так і думала, што вы таксама былі ў яго...

— Як-жа Пятрусь сябе адчувае?

— Па-мойму, дрэнна... Ён вельмі зьмізарнеў і пабляднеў... Мне шкада яго... Ён гэткі добры і мілы чалавек...

— Ну, калі-ж, нарэшце, яго вызваляць? І чым...

— Чакае, нібыта днямі яго лёс будзе вырашаны...

— Казаў?

— Так, казаў... Жудасьць бярэ, Рыгор, уяўляючы сабе яго стан...

— Я з ім знаёмы...

— Што вы кажаце?

— Сядзеў... А ласьне вам Пятрусь не казаў?

— Магчыма... Ён вельмі дзякуе вас за грошы. Прасіў перадаць, што калі можна, пастарайцеся яшчэ хоць раз наведаць яго... Ён добры таварыш... Каб я была...

Рыма адвярнулася на вуліцу.

— Я ненавіджу гэтыя людзкія ўмоўнасьці... Як павуцінаю, пераблытана імі наша жыцьцё... І чуеш у сабе сілу, а, між тым, ня можаш з агідаю іх парваць... Скажэце, Рыгор, колькі пойдзе часу на тое, каб усе гэтыя талмуды, евангельлі, псалтыры і торы сабраць у адно месца і— шшу-ух! агнём... Мне шкада Пятруся, як бывае шкада...

Рыгор апяразваў Рыму праваю рукою. І чуў, постаць яе аддавала нэрвовым трапятаньнем; ён насторожваўся і выбіраў гладкія, плаўкія сказы, каб імі не раздражніць дзяўчыну. Яна штосьці такое перажывала—відаць было з яе адрыўнай, затуманенай гутаркі, з частага дапамінаньня пра Пятруся.

— Вы ідзеце дамоў,—праказала яна Рыгору, калі яны спыніліся перад брамкаю аднае дачкі:—А я выберу час і зайду, каб доўга-доўга і пра ўсё-ўсялякае пагутарыць з вамі...

— Даеце слова.

— Ня верыце?

— Буду вельмі рад з вамі спаткацца...

— Не забывайце Пятруся—ён вам лепшы таварыш...

Яна бразнула цяжкаю клямкаю дзьверац і схавалася ад Рыгора.

У гэты момант пачуўся трывожны званок пажарных, якія ўгрунь несьліся з-пад Выбарскае шашы ўсьцяж вуліцы. Чырвоныя лахматыя факелы агню разьвяваліся на белым фоне сьнегу, прамянеючы рэволюцыйнымі сьцягамі.

## ВЕЧНЫ ВАНДРОЎНІК

**Кароль Дзэльзыт**

Стары Марцыс—так яго звалі. Шмат хто ня ведаў яго прозьвішча, хаця-ж Марцыс усё свае жыцьцё пражыў у сваёй гміне. Што казаць—старога Марцыса шанавалі, як ганаровага чалавека, які ня курыў, ня піў і які меў сямёра дзяцей. З іх трое, як сам ён зазвычай казаў, сталі перад богам—яшчэ маленькімі ад розных хвароб. Але рэшту ён выгадаваў людзьмі: яны ўсе былі добрымі пастухамі ў саймнэкаў [1]) гэтае гміны. Са старэйшай дачкой Крысьцяй потым пабраўся чыгуначнік буднік-вартаўнік Коцын, што жыве па-суседзтву, і цяпер яна сама ўжо мае трое дзяцей. Малодшая дачка—Мільда працуе каля быдла ў вялікай узорнай гаспадарцы, што прысуджана ўрадам агроному Кевіту. Сыном не пашанцавала. Старэйшага—Яна забралі ў маскалі і пасьля бойкі пад Варшавай адрэзалі нагу. Зрабіўшыся калекай, ён прыткнуўся тут-жа ў мястэчку і, напрактыкаваўшыся трошкі ў кравецтве, жыве неяк з дня на дзень. Малодшы сын—Кароль у мінулым годзе пашоў у Рыгу і ўсё яшчэ ня мае сталае работы: біўся на падзёншчыне, а іншы раз месяцамі быў зусім бяз працы. Ён, стары Марцыс, разы са два прасіў хлапца-падпаска напісаць Каролю ў Рыгу, каб вяртаўся да гаспадароў, была-б работа і хлеб, але сын адказаў, што не жадае больш жыць нявольніцкім жыцьцём, лепш тужэй зацягне пояс, але-ж астанецца ў Рызе, дзе ёсьць чаго павучыцца.

„Хто яго ведае, мо‘ ён хоча выўчыцца на даручнага, а мо‘ на якога пісара“—падумаў стары Марцыс і супакоіўся.

Дык стары Марцыс жыў з жонкай Ганнай ў тых-жа Клетніках і займаў пасаду гадавога батрака—гэткі быў ён яшчэ моцны.

Сёньня нядзеля, але зусім не такая, як іншыя. Ужо ледзь золак, толькі-толькі накарміўшы коняй, Марцыс зьбіраўся як на баль: змазаў дзёгцем свае высокія боты, якія ён купіў у часе вайны ад расійскага салдата, і, навастрыўшы старыя жончыны нажніцы, старанна падрэзаў ускалмачаную бараду.

Куды зьбіраецца Марцыс? Ці ня ў кірху, куды ён даволі часта хадзіў? Не, сёньня быў надзвычайны дзень—падзел зямлі ў гміне.

Калісь, у часы работы Ўстаноўчага збору Латвіі, у гмінным будынку быў прызначаны народны сход, на якім, як было абвешчана, член Устаноў-

---

[1]) Саймнэкс—гаспадар вялікага хутара, у якім працуе некалькі батракоў (заўвага перакл.).

чага збору, прозьвішча якога Марцыс ужо запамятаў, будзе гаварыць пра зямельную рэформу. Марцыс пайшоў таксама.

Малады пан ужо гаварыў на сцэне, як пастар, а мо' яшчэ лепш, і рукамі размахваў. Пакуль ён гаварыў пра баронаў, пра політыку сялянскага саюзу і соцыял-дэмократаў, пра работу Ўстаноўчага збору ды пра іншыя падобныя цяжка-зразумелыя справы, стары Марцыс мала чаго зразумеў і вочы самі заплюшчваліся з усяе сілы, але калі прамоўца пачаў казаць аб зямельным пытаньні, дык Марцыс, а таксама і ўсе прысутныя заварушыліся і ажывіліся. Так, гэта было зусім ясна і рашуча зазначана— зямля належыць працоўнаму народу. Зямля, адабраная ад баронаў, будзе падзелена паміж безьзямельнымі сялянамі. „Зямлю тым, хто на ёй працуе!"—сказаў прамоўца.

„Зямлю тым, хто на ёй працуе!"—шмат разоў паўтараў стары Марцыс, ідучы да хаты. Малады пан з Рыгі быў добры прамоўца: як гэта ён выразна выказаў тое, што дзясяткі год няясна і нявыразна круцілася і аформлялася ў галаве Марцыса.

І Марцыс пастанавіў: і ён будзе дамагацца зямлі. Зямлі, на якой ён працаваў усё сваё жыцьцё. Ён ужо загадзя падаў заяву. Прасіў выдзеліць яму адну новагаспадарку на полі таго маёнтку, дзе калісь ён працаваў—адну новагаспадарку, як будзе ласка камітэту зямляўпарадкаваньня. На лепшыя кавалкі зямлі падаюць заявы тыя, хто мае пяршынства; такія, як ён, хто мае толькі трэцюю катэгорыю, павінны задавольвацца тым, што застанецца—так растлумачылі яму тыя, хто ведаў.

І Марцыс быў згодны. За ўсё сваё жыцьцё ён ніколі не выбіраў і ніколі не сядаў за гатовы стол. Хай дадуць яму хоць самы горшы кавалак, хоць-бы „лыдуму [1])—вы ўбачыце—праз некалькі год там усё закрасуе. Ужо што-што, а зямлю ўрабляць ён умее—гэта скажуць у адзін голас усе саймнэкі гміны, а таксама і ранейшы цівун з маёнтку.

Ён распрацуе атрыманы надзел, патроху пабудуе ўсе патрэбныя будынкі і насадзіць сад—на тое ён яшчэ досыць дужы. І калі рукі ўжо ня здужаюць, яго работу прыдзе рабіць Кароль, абавязкова прыдзе...

Сёньня—даўно чаканы дзень надзелу зямлёй.

Так, вось ён гатоў! Палаяўшы жонку, якая сёньня так марудзіла з адаграваньнем капусты, Марцыс, сьпяшаючыся, пасьнедаў і рушыў у воласьць. Хады было даволі, вёрст восем.

Воласьць гула, як вулей, калі Марцыс увайшоў. Увесь сьвет сюды сагналі! Зьявіліся ня толькі ўсе спольшчыкі, арандатары, батракі і саймнэкаўскія сыны з усяе гміны, але і зусім чужыя невядомыя зграбныя паны, больш у вайсковым убраньні, упрыгожаныя ганаровымі адзнакамі, кавалеры ордэну Лячплесысу—як растлумачылі другія Марцысу. Сяляне туліліся да сьцен, а чужыя паны ўпэўнена прахаджваліся па сярэдзіне залі.

1) „Лыдум"—невыкарчаваная дзялянка лесу пасьля парубкі (заўвага перакладчыка).

Нарэшце, сабраўся і камітэт зямляўпарадкаваньня. Ён заняў месца на сцэне, і сход пачаўся.

Гмінны пісар быў тут найгалоўнейшай асобай. Ён спрытна перахінаў і перабіраў заявы ды пляны, і кожнаму тлумачыў яго правы і катэгорыі. І калі хто-колечы прабаваў спрачацца, дык ён ведаў, як зараз-жа знайсьці і прачытаць адпаведны пункт закону, які ўжо не дапушчаў ніякіх спрэчак.

Першымі пайшлі паны з рознымі ганаровымі адзнакамі і прывілеямі, інваліды, лячплесыстыя ды іншыя. Калі яны былі задаволены, камітэт трошкі парадзіўся.

Потым устаў гмінны пісар і голасна сказаў:

„Цяпер—трэцяя катэгорыя: тутэйшыя гмінныя безьзямельныя і ўсе грамадзяне другой катэгорыі з нятутэйшых. Высьветлілася, што ўсіх просьбаў задаволіць немагчыма. Дзеля гэтага адбудзецца лёсаваньне. Гмінны камітэт зямляўпарадкаваньня перш за ўсё будзе спраўджаць заявы гэтых катэгорый, каб высьветліць, хто з падаўшых заявы мае права прыняць удзел у лёсаваньні“.

Міма камітэту пачаў праходзіць доўгі шэраг людзей.

„Марцыс Лаблакс!“—выклікнуў пісар.

„Але! Але!“—адгукнуўся Марцыс так, аж загучэла ва ўсёй залі, і пачаў праціскацца да сцэны.

„Вы ў сваёй заяве не адзначылі ніякага інвэнтару. Ці ёсьць у вас які-колечы інвэнтар, г. зн. коні, каровы, плугі, калёсы і гэтак далей?“—пытаўся пісар, пасунуўшы залатыя акуляры вышэй на носе.

„Так, інвэнтар!“—гукнулі разам два другія сябры камітэту: „Як у цябе, Марцыс, стаіць справа з інвэнтаром?“

„Інвэнтар, інвэнтар...“—мармытаў Марцыс, зусім зьбянтэжыўшыся. Пра тое, што інвэнтар зараз-жа патрэбна мець, ніхто яму не казаў.

„Ды як-жа ж!“—раптам гукнуў ён вясёла. „Ёсьць у мяне інвэнтар—адна карова!“

„І больш нічога?“

„Больш нічога...“

„Адна карова!“—голасна паўтарыў пісар, вышчараючы белыя зубы.—„Гэтага будзе трошкі замала!“

„Гэй, стары Марцыс, ці ня зьбіраешся ты зямлю каровай араць!“—падхапіў нехта з бліжэйшых у натоўпе, і ўся заля заграхатала ад гучнага рогату.

„Падумай, мо‘ ты зможаш дзе-колечы пазычыць інвэнтару, а мо‘ хто-небудзь табе паможа яго набыць, ды распачаць гаспадарку?“—загаварыў адзін з сяброў камітэту, які ўвесь час маўчаў. Гэта быў батрак з маёнтку Упітс.

Марцыс напружыў усю сваю памяць. Хто-ж бы яму мог памагчы? Старэйшы сын—яму самому патрэбна дапамога. Малодшы—у Рызе без

работы. Старэйшая дачка—сама мае трох дзяцей. І малодшая дачка-якая там пэнсыя, трэба-ж і самой лепшую спадніцу набыць.

„Ну!“—прысьпяшаў пісар,—„нас яшчэ шмат хто чакае“.

„Не, нічога ў мяне ня выходзіць, паночкі!“—пачаў Марцыс нерашуча: -„Я думаю, ці ня можна ад дзяржавы...“

„Ад дзяржавы! Ды скуль-жа дзяржава на ўсіх набярэцца? Яна павінна ўтрымліваць армію, міністраў, паслоў... І дзяржава дае пазыкі толькі тым, хто што-колечы мае, ад каго магчыма будзе напэўна атрымаць назад“.

Гэтак пісар, пахваляючыся сваімі шырокімі ведамі, тлумачыў больш усёй залі, чым старому Марцысу.

„Закон ясны“,—казаў ён далей, трымаючы ў руках ведамасьці зямляўпарадкаваньня,—„інструкцыя № 5, артыкул 6-ты кажа, што зямля з дзяржаўнага фонду даецца тым грамадзянам, якія маюць належны інвэнтар для пачатку работы на гаспадарцы, ці маюць магчымасьць набыць яго“.

Стары Марцыс быў пераможаны. Што ён мог зрабіць супраць закону? Схіліўшы галаву, ён адышоўся ў бок.

Пастанова камітэту была кароткая: заяву Марцыса адхіліць.

* * *

Стары Марцыс вышаў на дарогу. Як лёгка зранку сёньня несьлі яго ногі ў воласьць і як цяжка ступалі яны цяпер, грузнучы ў сьнег. Нібыта ў яго боты нехта наліў волава, а на плечы ўсклаў цяжкае бярэма.

Закурыла мяцеліца наўкола Марцыса, цярэбячы за полы старога кажуха і кідаючы востры сьнегавы пыл у вочы. Здавалася, яна дамагалася, каб стары хадок зваліўся ў гурбы, што накідала яна па дарозе. Нічога ня бачыў Марцыс, толькі ішоў ўперад.

„Адхіліць!“—гэта слова, як цяжкі камень, бухнула ў глыбокія воды сьвядомасьці, маўчаўшай шмат гадоў, і ўзьняло шырокія і нязмоўчныя хвалі пачуцьця і думак. Мінулыя дні і даўно змоўкшыя сэрцагрызыдумкі і няпрыемнасьці раптоўна зноў ажывіліся, узьняліся і сталі перад вачыма душы Марцыса.

Усё жыцьцё ён быў на зямлі і ўрос у яе. Ён любіў зелянеючае жыта, траву і дрэвы. Ва ўсіх фальварках, дзе працаваў Марцыс, зелянелі пасаджаныя ім дубы, ліпы, язьмін, лясныя яблынькі. Але ўсё-ж такі больш за ўсё яму падабалася ўрабляць зямлю і глядзець як на той год яна ўзрашчывала сакавітае жыта. Убачыўшы ішоўшага ўздоўж жыта Марцыса, каласкі, здавалася, гутарылі з ім і схілялі ўдзячныя за падоранае раскошнае жыцьцё галоўкі. І ў такіх выпадках ён адказваў ім, праводзячы зьлёгка рукой па апушчаных галоўках. Ідучы далей, ён трымаў над імі руку, а яны беглі паміж пальцаў і ледзь чутна нешта ціха сьпявалі. Гэта было асабліва цудоўна.

І таму, з-за гэтага таемнага свайго каханьня, ён ненавідзеў Юраў дзень. Тады мусіў быў кідаць распачатую справу, не пабачыўшы, што з яе будзе, а на новым месцы распачынаць усё спачатку.

Але жорсткі лёс дзейнічаў зусім процілежна яго жаданьням. Яму, Марцысу, прыходзілася ўвесь час вандраваць з аднаго двара ў другі. Не таму, каб ён быў кепскі работнік, не, зусім наадварот, яго ўсюль праводзіла слава працавітага і здольнага работніка. Гэта з-за сям'і: яны з Ганнай пабраліся яшчэ зусім маладымі, дзеці зьявіліся зараз-жа, адзін за адным, а хто захоча ўзяць у хату парніка [1]) з гэткай вялікай кучай дзяцей? Тут ужо ня было спакойна ніводнае яблыка на дрэве, ды такому батраку патрэбны быў амаль асобны пакой, бо іншыя батракі, жыўшыя ў адным агульным пакоі для рабочых, увесь час скардзіліся, што ня маюць спакою ад дзяцей ні ўначы, ні ў часе адпачынку пасьля полудню... Але, калі дзеці павырасталі і пайшлі ўпрочкі, дык жонка, маці сямёх дзяцей, зрабілася ўжо няздольнай да цяжкай працы. Такім чынам ў парнікі ісьці ўжо было немагчыма, а які сэнс было наймаць старэйшага батрака, з якім разам у хату прыходзіць яго непрацаздольная жонка. Таму Марцысу прыходзілася заўсёды наймацца ў горшых, апошніх саймнэкаў, якія ня мелі магчымасьці трымаць лепшых, больш выгодных батракоў, аднак і гэтыя таксама праз год стараліся ад яго пазбавіцца.

Такім чынам Марцысу прыходзілася немаль штогод у кожны Юраў дзень зьбіраць сваю маемасьць і перавозіць на новае месца. На новае, але заўсёды старое. І людзі, спаткаўшы яго, ідучага побач з возам, на якім сядзела Ганна з дабром, адказваючы на яго прывітаньне, казалі: „Марцыс зноў ідзе на новае месца! Вечны вандроўнік!..“

„Вечны вандроўнік!“—гэты сказ, калісь кінуты кавалёвым падмайстрам Лаўскам, запаў у душу Марцыса, як насеньне ў глебу, і з яго праз годы вырасла такое дзіўнае, сумна-задумнае дрэва.

І цяпер, калі пад канец жыцьця перад ім, вечным вандроўнікам, адкрылася нарэшце магчымасьць атрымаць свой кут, з якога ня прышлося-б вандраваць далей, нейкія зусім непрадугледжаныя абставіны скінулі яго назад у безнадзейную прорву.

„З-за адсутнасьці інвэнтару!..“

І розум старога Марцыса раптоўна з усёй сваёй сілай спыніўся на гэтых абставінах. Моцны подуў ветру штурхнуў яго ў гурбу, але Марцыс упарта выбраўся на дарогу і, нібыта пагражаючы нейкаму нябачнаму ворагу, бурчаў:

„Нічога ня будзе, я павінен гэта высьветліць!“

„Так, чаму-ж гэта ў яго не хапае інвэнтару? Як магло здарыцца, што ён ня здолеў абзавесьціся сваім інвэнтаром? Ці-ж ён усё сваё жыцьцё не працаваў з дня на дзень, і як яшчэ працаваў! Во, пальцы яго рук

[1]) Парнікамі (ад слова пара) завуцца муж і жонка, якія працуюць разам у аднаго гаспадара (заўвага перакладчыка).

зрабіліся калянымі і скурчыліся, як зубы грабляў, так што нельга ўжо і выпрастаць! Ніводнага дня не хварэў, хаця-ж і мучаюць колікі ў косьцях, часам усю ноч вачэй не зьвядзе. Заўсёды абмінаў карчму, шэлега свайго там не пакінуў, а ўсё-ж здолеў зарабіць сабе, жонцы і дзецям толькі на кавалак хлеба. Ці-ж яны, яго гадунцы, зьелі ўсё яго дабро? Не, і яны не сядзелі сашчапіўшы рукі, не бадзяліся наўкола без работы. Жонка, пакуль магла, працавала з ім разам, а ўначы і ў час пасьля полудню даглядала за малымі дзецьмі. І маленькія, як толькі пачыналі станавіцца на ногі, аддаваліся да гаспадароў у пастухі і падпаскі. І ўсім, так зьнемагаючыся, удавалася толькі-толькі забясьпечыць сябе ад голаду. Не заставалася нават на належную вопратку. Ці-ж гэтыя старыя вайсковыя высокія боты, яго гонар, ня былі першымі ботамі пасьля пражытага ў пасталах жыцьця?

І Марцыс дзівіўся і ня мог зразумець: як гэта ўдалося яму з жонкай, адмаўляючы сабе ў самым патрэбным, назьбіраць грошы на тое, каб набыць кароўку?

„Гэй, ці дасі дарогу!“—вокліч за сьпіною перапыніў думкі Марцыса. Ён агледзеўся і ўбачыў галаву каня за плячыма. Скочыўшы ў бок, ён трапіў па пояс у сьнег. Хаця ўжо шарэла, але Марцыс пазнаў каня—гэта быў варанец Яўнвавэрскага арандатара Рупіня. У санях сядзеў Рупінь з жонкай і іхны цесьць, саймнэкс з Каркляў. Ездакі голасна гутарылі і сьмяяліся. Рупінь трымаў у руках бутэльку гарэлкі. Убачыўшы Марцыса, ён замахаў бутэлькай і закрычаў: „Стары Марцыс, ці ня вып‘еш за здароўе маёй новагаспадаркі?“

Але гаспадар Каркляў сьцебануў каня і сані лёгка каўзанулі па дарозе.

„Там гуляю, там кахаю...“—пачуў Марцыс п‘яны сьпеў.

„Так, другія маюць коняй. Але чаму гэта ён ня здолеў абзавесьціся гэткім?“ Гэта, нібыта зусім нескладанае пытаньне паўстала перад Марцысам з такой сілай, што здавалася ад вырашэньня яго залежаў увесь сэнс яго жыцьця. Былі-ж батракі, якія набылі сабе каня, назат і іншы інвэнтар! Яны наймаліся ў палавіншчыкі, а пазьней рабіліся нават арандатарамі. Гэтым ня мог цяпер адмовіць разумны гмінны пісар адным толькі пытаньнем: ці ёсьць у вас патрэбны інвэнтар? Як гэта дабраліся яны да свайго інвэнтару?

І Марцыс пачаў перабіраць у памяці ўсіх больш заможных безьзямельных сваёй гміны.

Ну, гэты Сымон Рупінь? Гэты быў спрытны. Ён некалькі год працаваў на ганках, наймаючы сабе ў дапамогу лятгальскіх барадатых мужычкоў, якім плаціў мала, а рэшту браў сабе, так і сабраў даволі грошай. На іх ён купіў інвэнтар і падвоіў яго, пабраўшыся з дачкой саймнэка Каркляў. Цяпер ён узяў у арэнду фальварак Яўнвавэры, бо гаспадар яе зьбяднеў.

А палавіншчык Безбардс? Так, ён свайго каня і інвэнтар атрымаў у спадчыну ад бацькі-арандатара.

Міхал Залпэтэрс? Гэты пабраўся з адзінай дачкой каваля, а стары каваль і яго два падмайстры былі тымі, хто выкаваў Міхалу яго двух коняй і ладныя калёсы.

Дык як-жа гэта выходзіць—куды ні глянь, самыя старанныя ўсе падняліся ўгору, стаўшы на чужыя плечы. Ён, Марцыс, наадварот, усе надзеі ўскладаў толькі на сваю сілу. Ён зрабіў вялікія справы. Абедзьвюма рукамі, учарэпіўшыся глыбока ў зямлю, ён выцягваў з яе кучы каштоўнасьцяй, але сам заставаўся ні з чым.

Усьведамленьне гэтага так зьдзівіла Марцыса, што ён на момант спыніўся і ўтаропіўся перад сабой вачыма, потым паківаў галавой і зноў павольна пашоў уперад.

Так, але-ж куды падзелася, куды сплыло ўсё яго дабро? Ці ня быў ён адным з тых, што несьлі другіх на сваіх плячах і што павінны вечна быць унізе? Так, зразумела—усё сваё жыцьцё ён урабляў чужыя гоні, будаваў чужыя хаты, наладжваў чужое жыцьцё. А яго ўласнае жыцьцё? Ці жыў ён наогул? Мо‘ ўвесь свой век ён толькі шукаў сваё жыцьцё, спадзяючыся яго знайсьці, пабудаваць і самому кіраваць ім, а ім кіравалі і загадвалі другія...

Ці ня было яго жыцьцё, як гэты шлях, па якому ходзяць і езьдзяць чужыя людзі, кожны да сваёй мэты, пакідаючы на шляху толькі глыбокія калдобіны?

Так, ён вечны вандроўнік, які бязупынку ішоў усё далей, без затрымкі, без супачынку.

Куды? Дя якой мэты? Так, цяпер было ясна, што ўсё сваё жыцьцё ён блытаўся без якой-колечы мэты. А якая-ж была сапраўдная дарога, па якой яму накіраваць сваё жыцьцё? Аб гэтым трэба даведацца, высьвятліць яшчэ сёньня...

* * *

Насунулася поч. Мяцеліца дужэла. Яна ўжо немаль зусім зацягнула дарогу, па якой цягнуўся позьні хадок. Апошнія званочкі ездакоў даўно ўжо сьціхлі, апошнія агенчыкі, мігацеўшыя скрозь ноч, згасьлі, уперадзе ляжала толькі хвалістае сьнегавое поле. Але Марцыс ідзе. Кожны, хто ўбачыў-бы яго, сказаў, што гэты хадок поўны прыткіх думак і пытаньняў. Ён размахваў рукамі і часам нешта казаў сам сабе.

Раптам ён спыняецца, працягвае ўперад кулак, у якім выразна чытаецца нейкая пагроза, і ў мяцеліцы ночы чуваць крык:

„Вы аддасьце мне маё жыцьцё, маё і другіх!“

І чалавек, які быў спыніўся, нібы зрываецца і шпаркімі крокамі накіроўваецца далей. Шалёна дзьмула мяцеліца, але яна ня мела моцы спыніць поступ старога Марцыса. Крокі яго зрабіліся цьвёрдымі і беспамылковымі. Ён ідзе з паднятай галавой, увесь выпрастаўшыся. Награмаджаныя на шляху гурбы шарахаюцца ва ўсе бакі. Здаецца, стары Марцыс вярнуў сваю моладасьць.

Ого! Цяпер ён знайшоў сапраўдную дарогу! Цяпер будзе зусім іншая хада!

Што там ноч, мяцеліца і старэчая стомленасьць супраць тых сіл, што насьпяваюць цяпер ў яго грудзях! Цяпер перад ім адкрываецца просты і далёкі шлях, які сам клічма-кліча ўперад. І яму здаецца, што па гэтаму новаму шляху ідуць разам з ім тысячы другіх, нябачных хадакоў, што многія ўжо прайшлі ўперад і безьліч ідзе яшчэ за ім. Дзесьці там, далёка ззаду, у цемры мінулага, як ня маючыя значэньня кропкі, гінуць яго дасюлешнія клопаты, мары аб новагаспадарцы і ўсё, што станавіла зьмест яго старога жыцьця. Ён ідзе ў будучыню.

Ого! Гэта зусім іншая хада!

З латыскае мовы пераклаў

**Кастусь Езавітаў.**

# НАРАДЖЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА [1])

*Роман*

**А. Александровіч**

Частка чацьвертая

## Дзьверы насьцеж...

XXVII

Была вайна. Ацэнім яе
цаною крыві чалавека.
Была вайна—і зноў паўстае
страшнейшай вайны небясьпека.
Гэй
зьзяй
бой
зьніч
сей
край
свой
кліч
дай
знак
хай
мкне
вай-
на
вай-
не.
Вайну—
— ў труну.
Была вайна. Хай больш яе ня стане!
Вайна была,
і на яе скрываўленых руінах
радзіла рэволюцыю паўстаньне,
а рэволюцыя—і нашую краіну.
Праз голад, нязьлічоны лік ахвяраў,
што нам прыносіла агнём вайна-пагібель.

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 2.

Купілі волю мы патоптаным абшарам!
На слаўным
бацькаўшчына наша
перагібе.

Наш выбух, росквіт наш, у радасьць афарбован,
як здань, сусьветам бродзіць ленінская слава.
Расьці, мой край! Сваім ты беларускім словам
вітай жыцьцё! Мячом здабыта права!
Хоць цяжка нам,—яшчэ вядуцца банды,
рабункі, іх налёт—крывавы баль няспынны.
А за мяжой, як вар, кіпіць бурлівы гандаль—
распрадаюць савецкую краіну.

Мы сёньня стомлены. Наступны дзень ірдзее,
як золак, вабіць нас вясёлкавым настроем.
Краіна, чуеш гул?
Завеяй нас заве ён,
— нага ў нагу!
На бой адкажам боем.

Нязнаны росквіт, рост магутны наш
стрыножыць—затрымаць імкнуўся шпіёнаж.
Але стрыножылі, як трэба і чакаць,
ня нас яны,
а іх ЧК.

XXVIII

Праз форткі ў пакоі, як-бы праз рукаў,
пралазіў аветраны вечар.
Пралез і ў пакой, дзе заданьне ЧК
выконваў настойліва сьледчы.
Вечар клубіўся, як дым папярос,
над зьмятай чупрынай шпіёна...

Сьледчы праводзіў чарговы дапрос
настаўніка Кейтана Джона:
— Вашай рукою напісаны ліст?
— Як вам сказаць, дыктавалі...
— З чыёй дапамогаю, дзе і калі
гэтыя весткі зьбіралі?
Тут інформацыя трох галін:
прамысловасьць, насельніцтва, войска.
Сабраць матар'ял не маглі вы адзін,
якім ня былі-бы вы стойкім.
Хто вам пра войска даваў дыяграмы?
— ?

— Ганецкі? Прыпомнілі?
— Та-ак...
— Мо' і Пятроўскі? а?
— Таксама...
— А яшчэ?
— Жмырак.
— Вы пасылалі з лістом у пакеце
на доляры—банкаўскі чэк?
— Але-ж у мяне, бачце, жонка і дзеці,
зьмілуйцеся, я-ж чалавек...
...І востры страх, мітульгі вастрэй,
забінтоўвае роспачы раны.
Шчацініцца шчотка чарнявых брывей,
сьсінелыя вусны скусаны...
Вядуць у падвал...
— Няўжо? Няўжо?
Згнію тут? На нарах сканаю?
А дзеці?.. Як страшна!..
І Кейтан Джон
сьлязьмі прашаптаў: расстраляюць...

А з краю
вуліцы
шугае
гул узьняты:
газэтчыкі заўзята:
— Экстраны выпуск! Навіна!
Антанта!
Ультыматум!
Вайна!
Яна
зноў снуе
небясьпеку...
...Была вайна...
Ацэнім яе
цаною крыві чалавека.

## XXIX

Горад.
Пры горадзе—прыгарад.
Вуліца і
з канца
будынак, як быццам прыгарак—
кватэра шаўца.

Дзьверы (як сіта) расчыніш,—
у цэнтры (як пень) варстат.
Над ім (як дрот) павуціньне
паралізуе Хрыста.
Двухпавярховы ложак.
Чатыры душы сям'і.
Дратваю стол стрыножан,
чуць стаіць.
Крэслаў няма—скрыня,
а ў скрыні—бежанскі скарб.

На рынку з паўдня гаспадыня,
з ёй і гаспадар.

Клопатаў нізваньня
ня знае іх дачка.
Жыве на утрыманьні
стралковага палка.

...Толькі каб ахвота,
каша і капуста!
Хоць на нарах, што там!
Хоць пад плотам, глупства!

— Інцільгенткай ёрыцца?
Фыркаць далікатнай?
Ў сьмятку як прышпорыцца,
пойдзеш і бясплатна!..

Туз бубновы?—Сьмела
разані—
па банку!..
— Эх-эх!.. Шарабан мой
амэрыкан'ыка"..

Брат яе—на славу!
Паважаюць як!
— Выйдзе ў людзі Павал,
ходзіць на рабфак.
Малады заўзяты...
Выйдзе ў людзі, бравы.

Ў хаце (эт' і хата)
задуменны Павал—
бровы ўгору,
востры зрок.
Дзяўчына поруч.
Змрок...

І праз хвіліну:—Важная справа.
Наблытана. Як тут быць?
— Дапамажы мне, Павал!
— Ты—дачка барацьбы.
Буры цябе нарадзілі
ў схватках сваіх агнявых.
Помні, будзь сьмелай, Марыля,
не апушчай галавы!
— І целам, і думкай змарнела,
важыла йсьці на бульвар,
але хто, трэба быць ашалелым,
на гэткі пакваніцца твар?

— Зладзім,—устрымліваў Павал,—
выйдзе, ня гэтак, дык так.
Дай вось напішам заяву
з просьбай прыняць на рабфак.
Толькі ня трэба больш мокнуць,
сьлёз непатрэбна цяпер...
Змоўклі.
Кот з падаконьніка скокнуў
на ложак (другі паверх).

Марыля пад сэрцам схавала
пярсьцёнкі распаленых слоў:
пра крыўду апошняй навалы,
пра крыўду й сьляпую любоў.

Рыгор?—Нібы вецер маёвы,
жартуючы, ветла абвіў
стан дзявочы
шасьценьнем шаўковым
радасьці, мараў і дзіў.
І зьнік як бяда спавівала,
як толькі пазнала падвал.
Рыгор?—Ім жыла... Адшукала...
Ня стала...
А ў сэрцы шквал
гатоў сваёй буйнаю сілай
дзявочыя грудзі ўзарваць!
...Зямля ўзбагаціцца магілай,
расою заплача трава!..

Прышла гаспадыня:—Дзе ён?
Бацька ня быў?.. П'е.

Да часу жанчына сівее,
праклінаючы дні свае.
Ведаць ёй толькі клапоты:
з рынку прышла і зноў
змушана стаць за работу
ля варстату і ля гаршкоў.

Гора матчына Паўла змарыла,—
але як памагчы? Але чым?
Вышаў на двор.
Марыля
выбегла ўсьлед за ім.

А вечар цёплы,
песень повен.
Ветры—вёслы,
хмаркі—човен.
Дзіўны вечар,
вечар жніўны.

Приселі на лаву
пад клёнавым вязам
Марыля і Павал
разам.
Сядзелі.
Маўчалі.
Пялялі—шумелі,
як струны, бяз слоў,
вішнёвыя карусэлі
садоў.

. . . . . . . . .

— Вось так і кажу: прымай ці бывай!
Ці нашым, ці вашым!
Раз і адказ!

— Ты добры, прыветны і дзіўны бязьмеры.
„Прымай ці бывай“... Нецярплівы.
Няўжо гэтак проста: адчыніш дзьверы
і кінешся ў горад крыклівы.
Адразу за працу да поту, аддана,
што сіл толькі ў жылах дзявочых,
і гэтым залечыш балючыя раны
у справе сялян і рабочых?
Ты агітатар ня дрэнны, ніколі,
аднак-жа і дзіўны бяз меры...

— Ты ведаеш добра, што я ў комсамоле,
таму вось і можаш мне верыць!
— Я верую ў шчырасьць тваіх пажаданьняў,
твая мне так дорага чуласьць.
Вядома, мы пойдзем аднымі шляхамі,
адно разьвязацца з мінулым...

І ў сэрцы абуджаны корчыцца крык,
вылазіць з грудзей, як з-за хмар маладзік...

— ...І сёньня і ўчора і гэтак штодзенна,
уздымецца сонца і зойдзе.
Здавалася, так аднастайна, нязьменна
жыцьцё па калдобінах бродзіць.
Здавалася гэтак, да сьлёз аднастайна,
як быццам гадзіньніка стрэлка.
Ня ведала, колькі за дзень скарыстана
энэргіі, сіл чалавека...
Дзень загарыцца, праходзе марудна,
стамляюцца вочы і рукі.
А пройдзе—ня верыш, дагнаць яго трудна!
Шкадуючы скажаш: як хутка!..
— Сама ты марудзіш, з такім вось настроем
назад толькі рушыцца, праўда!
Назад, а ня ўперад! І будзеш слугою—
ня поступу,—
а заняпаду.
— Адразу ня вырвеш з грудзей сухазельля,
які-ж ты юнак яшчэ, Павал...

А ў небе так весела зоры гарэлі,
надзіва гарэлі яскрава.

— Помніш, пакінулі родныя гоні,
разам ад немца ўцякалі.
І сёньня, здаецца, мяне нехта гоніць,
як вецер бясьсільную хвалю.
Радасьць жартліва, як-бы бліскавіца,
хвілінай агніста зазьзяе...
Ці знала, што ў вас тут змагу прытуліцца?
Што вас тут, як праўду, спаткаю?
Знаёмых нікога... А вецер гоніць
бязьлітасна з гораду ў горад.
А помніш мястэчка?
— Як на далоні.
— А можа і помніш Рыгора?

— Якога?
— Клумок, местачковы сьлесар.
— Нешта ня помню, забыўся...
І зноў успаміны сарвалі завесу,—
ў цярновы вянок завіліся.
Марылі хацелася ўсю таямніцу
вось тут расказаць, пачынала
і замоўкла:
— Ня трэба, бо зможа адбіцца
на нашых паводзінах з Паўлам.

А сэрца ў палоне
ў абоймах тугі.
Балючыя сёньня
ўспаміны-кругі.

Яны навучылі:
— і слову ня вер!
Інакшай Марыляй
я стала цяпер.
Вось толькі турбуе
пытаньне адно,—
куды пакіруе
жыцьця старно?

У сьвет—
дзьверы насьцеж.
Дарогі-ж вядуць—
ці ў радасьць і шчасьце,
ці ў гора й нуду...

. . . . . . . . . . . . .

Умей выбіраць! Хвалім мы
з веку ў век,—
Калі перад сонца-хвалямі
стаў чалавек!

XXX

Выроўніваюцца дні.
Грудзі лягчэй уздыхаюць.
Сілай здабытых крыніц
здабытая слава крыляе.

І рушыцца час весялей,
з песьняю творчай работы.
Цяпер і Марылі лягчэй—
працуючы ў пераплётнай.

Сшываючы аркушы кніг,
іголкаю пальцы калола,
як толькі наступныя дні
ў думках засьвецяць, як золак.

— Папасьці хаця-б на рабфак,—
той дзень я лічыла-бы сьвятам,
ды ўсё незабыцца ніяк
мінулых гісторый праклятых.

Што-тыдзень наведвай ЧК
і ў сэрцы з трывогаю мутнай
заявіш:—прышла. І рука
адзначыць у сьпіску прысутнасьць.

Калі-ж гэта пропадам згіне,
ня будзе дакорам труціць
у новым, інакшым жыцьці
падзеяў былых павуціньне?

Такіх вось пытаньняў ня мала
ўзьнімала Марыля ня раз.
І часта шукала адказ,—
у кнігах, што пераплятала.

Так рада была, як дзіця,
калі, і зусім выпадкова,
ўчыталася ў простыя словы
Купалава „Шляхам жыцьця“.

З гэтай часіны і толькі—
і дзіўна і ёй навіна—
яна не расійка ці полька,
а—беларуска яна!

XXXI

Яны ўдваіх...
Пакой, як скрыня.
Дым вісіць дугою.
Тут гандлюе гаспадыня
чыстаю ханжою.
А калі яшчэ прыкінеш
лішака на „пушку“,
маладая гаспадыня
дасьць і саматужкі...

Яны ўдваіх...
— Як я сумленны,
пашукай, ня знойдзеш!
— А па-твойму—я ўжо дрэнны,
валацуга, злодзей?
Што галоту абдзіраю?
П'ю не за свае я?
— Братка, Клемусь (налівае),
мазаны алеем...
Рукі—спрыт і не фальшыва
справяць тое-сёе.
— Эт, разводзіш...
— Будзем жывы!
— За тваё здароўе!

Клемусь—хлюст. Пільнуй кішэні.
Вокам як прыкіне,
сплюне раз, штурхне, адсьценіць—
і... бывай гадзіньнік.
А другі...
Вось так жывецца,
ад ханжы, махоркі,
абадраны, хоць шавец сам,—
на нагах апоркі...
І ня раз чураўся Павал
гэтакага бацькі...
Што-ж чурацца?—
То расправа
над жыцьцём жабрацкім.
Гаспадыня паглядае
то ў вакно, то ў дзьверы—
страшна неяк, прадчувае
міліцыянэра.

— Братка, Клемусь, дык кажу я,
будзе лепей разам.
Дай цябе я пацалую,
рыжая зараза.
На сябе зірні—бяздомак,
загрызе дасада...
Небагатая, то праўда,
з бежанцаў, вядома.
— Будзе хата, будзе ў хаце,—
з добрай галавою,
дык падружыць і багацьце...

— От і я пра тое:
Будзе жонка—будзе лава.
Што да тога скарба?
А што баба,—то, яй-права,
залатая баба.
Возьмеш пару саматужкі,
агурка якога,
вып'ем. Дам табе падушку
і кладзіся з богам.
— Як-жа, згодзен, Клемусь, братка?
— Едзем заўтра ў сваты!
— О-то добра!.. Не дзяўчына—
проста мёд пчаліны.
Ну, і ты хлапец руплівы,
з спрытнай галавою.
Дык-жа вып'ем...
— Будзем жывы!
— За тваё здароўе!

А ханжа атрутнай сілай
ў дрызг шаўца скруціла—
і гатова,
больш ні слова,
здаўся канчаткова.

— Сын твой, от дзе ўжо зануда,
лезе ў камісары.
Каб падмазацца,—усюды
барахоліць, шарыць.
У міліцыю данёс там,
што Ігнат Залтушкін,—
што-ж такое? Дужа проста—
гоніць саматужку.
Так Залтушкіна і спляжыў
без такой прычыны.
От дзе зубы ўжо пагладжу
сукінаму сыну...
Што, заснуў?..
А гаспадыня:
— Клемусь, так і кінеш?
Ці-ж ня сорам перад сватам?
Завядзі дахаты.
А то зможа і „засыпаць",
п'яны-ж нагарэзіць...
. . . . . . . . . . . . . . .

— Што ты скажаш, от задрыпа,—
ў камісары лезе.

## XXXII

Яшчэ і ня позна, а цёмна зусім.
І холадна, вецер галосіць.
На небасхіле па ўсходах, як дым,
нявесела рушыцца восень.

Сады захавалі цярплівасьць сваю,
ў сваіх каранёх захаваных.
І вуліцы гулкія больш не пяюць,—
губляючы сілы ў туманах.

У хаце нікога.. Марыля адна.
Дагарае астатняя газа.
— Няхай-бы прышоў!..
Так хацела яна
ў гэты вечар быць з Паўлам разам.

Яшчэ і ня позна, а цёмна... Імгла.
Пад сіплыя ўсхліпы газьніцы,
за кнігай Купалы Мары я расла—
і сьвядомасьць расла зараніцай.

Заенчылі дзьверы, і Паўла ўвайшоў.
Газьніца... Змрок... Марыля.
Адразу патухла сузор'е слоў,
схаваліся ў сэрцы бясьсільлем.

— Марыля?..—Паўлік?..—Чытаеш?..—Але!
І зноў маўклівасьць хвіліну.
Газьніца міргае, сіпіць на стале;
на сьценах цені стынуць...

— Марыля, ты чула, што бацька казаў?
— З сватамі павінен прыехаць.
— Відаць, валацугу табе падабраў...
— Ну і што-ж (адказала для сьмеху).

Ці-ж мне не пара? О, які-ж ты дзівак!
— Разумная ты ўжо занадта.
А ўсё-ж не зашкодзіць пайсьці на рабфак
і голаў свой трохі залатаць...

— Ну... ну, ты ня злуйся. А бацьку скажы,
што і бяз помачы ўладзім...

Які ты гарачы... Ня трэба тужыць...
 І Паўлавы бровы гладзіць...

— Марылька!.. (маўкліва стуліў да грудзей...)
— Як добра... Вось так... Шаптала.
Адзін пацалунак, другі агнявей!
Узьнятая кроў—штурмавала.

Распаліся косы... Садраў ён каўнер...
А сэрца, бы зложана з воску...
Што далей, то болей. Абодвых цяпер
захопліваў перысты лоскат.

— Ідуць... Пача-кай! Су-пакой-ся! Ча-акай!
Ня трэба!.. Пав-вал! Няможна!
. . . . . . . . . . . . . . .
Прынесла старая, амаль на руках,
бацьку п'янога і, як мерцьвяка,
кінула пластам на ложак.

XXXIII

Марыля ня сьпіць... Павольна сьвітае.
Ноч неспакойна прайшла.
Вецер вось быццам страху раскідае,
стукае ў вокны імгла.

Ня сьпіцца Марылі. Яно, каб ня восень,
пад клёнам ратунак знайшла-б.
Зьмяніліся думкі і чуць ня прышлося-б,
як з цемраю сварыцца храп.

Стаіць у ваччу, як заўсёды, ласкавы
і радасьць ухмылкамі тчэ.
— Ой не! Адыйдзі! Шкада цябе, Павал,
ня зьвязвай, так рана яшчэ!

Ня сьпіцца сягоньня... А добра з табою,
ўспаміны ў душы не шасьцяць.
Ты гэтак запальна, бадзёрым прыбоем
вяслуеш на бераг жыцьця.

Падаў мне руку і дарогай праўдзівай
вядзеш мяне ў працы згараць...
Была-б простытуткай і, гэта ня дзіва!
Была-б, як твая сястра.

А ўсё-ж адыйдзі... Пакахала цябе я,
вачэй тваіх ветлівы дым.
Цябе не зьвяжу! Ты—патрэбен завеям!
Але... не адходзь на зусім.

Ужо разьвіднела. Марылі ня сьпіцца.
Рвануліся думкі назад.
Шуршыць цішыня... Вісіць над паліцай
авіяцыйны плякат.

— А дзе ён? Мо' блізка шугае на крылах
ў нябачана-хмарнай глыбі?
Няўжо так і будзе? Дзе-ж дзеліся сілы,—
як думаеш, так і рабіць!

Скончана ўсё. Спаткаліся. Разам...
Так блізка ён быў ля мяне...
Адно вось чаму пра вайну ён расказваў?
Пра сьмеласьць сваю на вайне?

Чаму не сказаў (мо' ён любіць другую?),
ці любіць мяне, як раней?
Шукала, знайшла... А ці болей знайду я?
Ці варта шукаць далей?

Навошта ўспаміны ўчыняюць расправу,
так востра шчыпяць, як імгла?..
І зноў у вачох жыцьцярадасны Павал...
Ня сьпіцца. А ноч прайшла...

Цягучая ноч і лягла яна ў схватках
складкамі зморы на твар.
А ўжо гаспадыня рыхтуе аладкі,
вугольле кладзе ў самавар...

— Чаго-ж ты ўстаеш сіратою гаротнай?
Пасьпі яшчэ, будзе ямчэй!
— Ня хочацца спаць, да таго ў пераплётнай
зьбіраемся сёньня раней...

## XXXIV

„Рэжам, клеім і сшываем
і пад прасам выпрамляем.
Так з старой падранай—мігам
зробім новенькую кнігу"...

— Прападае ўся журботнасьць,
і ня чуеш болі.
Добра тут у пераплётнай,
добра, як ніколі.

Жарты. Песьня. Так працую...
Ў гутарках пароюмнога новага пачуеш
пра жыцьцё людзкое.

Колькі кніг—каб толькі ўпартасьць
прачытаць змушала,—
О, тады-б і я на варту
бацькаўшчыны стала.

Заўтра будзе ў нас нарада
пра сваю вытворчасьць.
...Як крыніца, б'еццa радасьць
у вачох дзявочых...

Сёньня,—ўспомніла,—павінна
у ЧК зайсьці я.
...Мне ня больш, як поўгадзіны,
справы ўсё былыя.

Поўгадзіны аж занадта,
там цяпер, бяз слова—
толькі ўбачыць рэгістратар,
і дамоў, гатова...

І пайшла яна і хутка
вуліцаю вузкай:
прамільгнула як палудка,
ўхутаўшыся ў хустку.

Каля клюбу на вітрыне
навіна такая:
хто праходзе, вокам кіне,
стане, прачытае.

І яна з зьдзіўленьнем стала
разьвязаць загадку.
Два разы перачытала
да канца з пачатку:

*Паведамленьне*

*Сёньня*
*літаратурнае*
*выступленьне.*

*Будуць чытаць поэмы*
*на розныя тэмы*
*поэты:*
*Купала, Чарот, Гартны.*
*Уваход бясплатны.*

*Не пазьніцца просім,*
*збор у 7, пачатак ў 8.*

— О, пайду, абавязкова!
Быць я там—павінна,
каб пачуць жывое слова
пра сваю краіну.

О, пайду! Пайду!..—
І шчасьцем
вочы засьвяцілі.
— Сьцежак многа, дзьверы насьцеж,
выбірай, Марыля...

Прышла ў ЧК і рэгістратар
выпрастаўся ў плечах:
— Вас у № 25
выклікае сьледчы.

Абарвалася... Схіліла
думкі ліхалецьцю.
І журчыць ня кроў у жылах,
а халодны вецер...

Ды падумаць,—гэтак крыўдна,—
зноў пазнацца з горам...
І цяпер і так агідна
ўспомніла Аўзора.

. . . . . . . . . .

— Выклікаў таварыш сьледчы.
— Пачакайце. Ён заняты...
І зьнячэўкай бровы зьмяты,
вочы, быццам сьвечы—

і сьлязьмі гатовы таяць...
— Сьлёзы-ж не памогуць.
Што са мною? Я-ж ня тая!
А ў грудзёх трывога...

## XXXV

— Хай яны пропадам згінуць, ня дбай.
Мала чаго нагавораць!
Але сьцеражыся, бывае бяда
зьнянацку акруціць аборай.

Рабі так, як трэба, але прамаўчы.
Хай сабе, хоць і Залтушкін.
Спаткаешся з імі,—як тыя сычы...
І ўсё праз яе—саматужку...

Матчына сэрца разьюшаны гнеў
першае з больлю адчула.
— Прашу ня кратай іх, хоць дзеля мяне,
да жыць-бы бяз гоману, гулу.

— Ня бойся! Нічога! Падумай сама:
людзі бяз хлеба, як здані.
А сальнік Залтушкін—яму дарма!
Жыве сабе плодзячы п'яніц.

А глянеш на бацьку—ня вып'е і жыць
ня можа, яму няцікава.
— То праўда, сынок, але-ж точаць нажы—
з багатым ня выйграеш справы.

— Нічога, закон ёсьць. Савецкі урад
за гэтыя справы бароніць!
Бацька вярнуўся. Прысеў за варстат.
Калоцяцца векі і скроні.

Спачатку маўчаў, як прасьнелая столь...
— Чытаеш?..—Залікі рыхтую.
— Рыхтуеш, рыхтуй і ня шкодзіць ніхто,
сам-жа—лезеш у хату чужую.

Гоніць? Хай гоніць! Ня ўмеў-бы, ня гнаў.
Табе што? Утрата? Патрава?..
— Чаго прыстаеш, авадзень, сатана,
стлеў-бы ў зямлі, каб ня Павал...

Ці-ж Паўлу прыемна выслухваць грызьню?
За шапку і вышаў за дзьверы.
Пакорна схіліў верасьнёваму дню
чало сваіх думак і веры...

Балюча і крыўдна... І шкода бацькоў,—
цяпер памагчы ён бясьсільны...
І ў пераплётную ціха ішоў
з жаданьнем спаткацца з Марыляй...

*Працяг будзе.*

# МАЯ ПОЭМА[1])

## Валеры Маракоў

Ах, Клара зноў.
Зноў падышла нячутнаю хадой
Ї доўга ў вочы мне глядзела,
Як быццам вобраз сэрца
З песьняй маладой
Хацела вырваць з маладога цела.

Зноў падышла, і я яе пазнаў.
Ўваскросьлі зноў пачуцьці прада мной.
Была вясна.
Адцьвітвала вясна
Ї радасьць песьні за вясной.

Вакол нас быў,
Як кажуць,
Земны рай...
Пад ласкай зор нямелі каласы.
Далёка дзесьці там, за небакрай,
Свой сум раскідвалі лясы.

Глядзела возера сваім халодным вокам,
Ішоў туман пагрэцца ля зары.
Ї ўсё было так хораша навокал,
Над чаркай возера,
Празрыстай і глыбокай,
Яна палала ў месячным кастры.

Я на яе глядзеў сумотнымі вачыма,
Я жыў агнём, нязнаным для другіх,
Ї ўвесь дрыжэў,
Як над труной любімай,
Як над пажарам суму і тугі.

---

[1]) Гл. „Полымя" № 1.

Мы прывіталіся надрыўна і трывожна,
Палотны ніў уздрыгвалі парой...
І белы сад,
Як рыцар-спадарожнік,
Ўпіваўся ціхай дзеўчынай-зарой.

Я слухаў песьні
Ціхіх парываньняў,
Я іх любіў пад музыкі лістоў,—
Апошні сын
Душэўнага зьмярканьня,
Апошні сын пашаны маладой.

Начныя фарбы дрэмлючых палёў...
Ах, гэта я сваёй рукой
Разьліў між хмар
І над зямлёй
Агонь радзімых васількоў.

І я пытаю з нейкаю пашанай
І з нейкай ціхай крыўдай і журбой:
— Дык ты прышла
Пад наскія туманы
Піць нашых даляў песьні і любоў?

Ах, глянь, як хораша! Няўжо не палюбіла
Вось гэту даль
Прастораў залатых?
Няўжо цяпер
У Беларусі мілай
Другіх краін не разьлюбіла ты?

Тут нарадзіўся я ў вячэрнім дагараньні.
Таму й поэтам стаў
Туманных абразоў,
Тут першы раз
Зарніцы палыханьне
Ў маіх грудзёх пранеслася гразой.

Тут першы раз прачытаная кніга
Глыбокі сьлед
Пакінула ў душы,
І гэты-ж месяц,
Сумны, як растрыга,
Галодны сон фантазіі тушыў.

Тут першы раз падслухаў, як сьпявалі
Парой вячэрняй
Жнеі й пастухі,
Як засыпалі жнівеньскія далі
Ї гэты край туманны й дарагі.

Тут Каліноўскі—царшчыны ахвяра—
Краіны славу й гордасьць старажыў,
Ї раньнем тут
Праз туманы,
Праз хмары
Ей песьню дзіўную Чарот злажыў...

Глядзі сюды—зара ўжо адпалала...
Туман сагрэўся,
Ў возера нырнуў.
Няўжо бяз сноў трывожных, без запалу
Спаткала ты
Ї шчырасьць і вясну.

Хадзем у ніз...
Там ў прагным захапленьні
Мільёны кветак мараць пра любоў.
Ты мне расказвай,
Сэрца лятуценьняў,
Я сёньня ўпоены прыродай і табой...

Ї мы пайшлі, абрызганыя пенай
Начных прыбояў месячнай страфы.
Там дзесьці ў нізе фіміам маленьня
Курыўся ў храме
Кветак
Ї травы.

З яго прагналі сёньня фарысеяў.
Ах, як ўздыхнулі грудзі курганоў.
Тут ад былой,
Скрываўленай Расіі
Мы чуем плач разьбітых кайданоў.

Яшчэ ярчэй,
Прывабней сталі зоры,
Бальзам паветра лёсткі рассыпаў,
Ї над туманнай дальлю касагораў
Як наляцеў цягнік, так і прапаў...

Комэдыянт, з душой комэдыянта,
Бязродны сын упартасьці людзкой,
Ён стаў для нас, як дзіўны вобраз Дантэ
І як прывабнасьць дальніх берагоў.

* * *

КЛАРА:

Ты ўсё такі-ж і сумны і бурлівы,
Я знаю, ў песьнях ты не жабраваў,—
Каханьня скарб
І сьветач дзён шчасьлівых,
Як дыямэнт, ў грудзёх сваіх хаваў.

Я чула шмат аб вашай Беларусі...
І аб журбе туманных вечароў,
І вось цяпер я перад ёй малюся
Пад скрыпкі зор,
Шыпшыны
І дуброў.

Я ўчора чула вашу Калыханку,
Ах, што за песьня,—
Дзіўная, як сон!
Язьмін душы забытай Крывічанкі
І сотні тысяч дзіўных галасоў!

Я знала край ваш ў песьнях і у казках,
І я казала:
Сумны Левітан
Любоў зямлі
І воблакі,
І краскі
З краіны вашай ў фарбы перадаў.

Я шмат была дзе,
Многа я пазнала:
Блакітнасьць неба,
Сьвет і гарады
І песьні бур,
І рокаты навалы,
І ўзьлёты хваль на скалы і сады...

А ўсё-ж скажу—
Прад аўтаром прыроды
(Прад ім душа ня здолее маніць),

Што гэту стому майскай асалоды
На жуць зімы
Сягоньня не зьмяніць.

Што дзіўны край ваш,
Дзіўныя прасторы
Падчас краёў славутых прыгажэй...
Што гэта неба, дзе начуюць зоры,
Сапфіру мора й скалаў даражэй!

А вы, поэты,
Сьмешныя поэты,
Сябе ў краіне роднай не знайшлі,—
Вы ўсё гаворыце
Аб нейкіх дальніх мэтах,
Калі так многа цемры на зямлі.

Што гаварыць.
Ў надворныя палацы
Яшчэ ніхто ня здолеў даляцець,—
Тут, на зямлі,
Патрэбны сьвет і праца,
А ня уздыхі змучаных людзей.

Як сонца ёсьць—
Ёсьць сьмех і навальніцы,
І дзіўны гені вечна будзе жыць...
За чыстату душы,
За вобраз чараўніцы
Багом мастацтва ў храме іх служыць.

І ты такі-ж і сьмешны і наіўны,
Няўжо ня знаў
Ні сьвету,
Ні людзей,
Бо сьпевам горкім роспачы надрыўнай
Да сьветлых сноў
Ты іх не павядзеш!

Хто у жыцьці ня жыў, не захапляўся...
Хто, як сьвяча, бяз часу дагарэў,
На поўпуці, хто падаў і хістаўся,
Той ні сябе,
Ні іншых не сагрэў.

Эх, кінь пустое!
Людзі не каменьні,
Ì камень часам цягнецца к сьвятлу,
А ты шукаеш ў змрочнасьці збаненьня,
Ì студзіш ў сэрцы роспачы залу.

Ах, вось мой дом,
Душы маёй капліца.
Прыходзь.
Тут заўтра ўбачыш маладых...
Ужо на сон ноч разьляглася чараўніцай
Ì бачу ёй
Ўжо захапіўся ты.

Бывай, браток!
Ì сны... Ì захапленьні...
Бывай здароў!..
Імкніся і жыві...
Ì я ў экстазе дум і захапленьня
Ня мог падняць туманнай галавы...

* * *

Я адчуваў ізноў
Прыліў надзей і сілы...
Ì так хацеў,
Хацеў імкнуцца і гарэць.
Зноў страшны быў спакой і ціш магілы,
Няма адтуль ні выйсьця,
Ні дзьвярэй.

Так добра тут—
Куды ні пойдзеш,
Усюды знойдзеш сонца над сабой
Ì чаркай песьні,
Чаркамі пародый
Тут расьпіваюць шчасьце і любоў.

Што-ж мне сьпяваць расстрэленыя песьні,
Ім не разьвеяць роспачы туман.
Тут, на зямлі,
Другое сонца песьціць,
Тут нек умеюць жыць
Ì паміраць...

* * *

Радасны гармонік горда заліваўся,
Ў хаце шум гаворкі
Й тутуновы дым
І дзядок старэнькі не скакаў, хістаўся
З некім сьвежым,
З некім маладым.

І лілася песьня,
Неба уздыхала...
На шырокай волі зорных берагоў
Гукі песьні ночка успрыймала,
Гэтай стомы дальняй,
Дарагой:

„Ой, каціўся з поля залаты вяночак,
Залаты вяночак
З поля на даліну...
Начаваў на ўсходзе,
Начаваў ў нядолі.
Непагоднай ночкай пакахаў ён волю.
Маладую долю,
Песьні
І разводзьдзе,—
Залаты вяночак—сонейка вясны...

Выйдзем на даліну—
Выйдзем, прывітаем
Родную краіну з надыходам маю...
Абарвем,
Паложым залаты вяночак
Маладой на косы, чорныя, як ночка...
Каб ў душы дзяўчыны
Паразьвеяць ночку

Горкі сум
І роспач,
І чужыя сны,
Каб ў вясновых чарах запалалі вочкі
Залатым вяночкам,
Сонейкам вясны“...

Эх, лілася песьня,
Абрывала зоры,
На эстрадзе неба месяц выступаў...

І людзкую радасьць,
Боль
І сьмех,
І гора
Падразаў халодным золатам сярпа.

Я стаяў у экстазе, поўны захапленьня,
І крычаць хацелась да далёкіх зор,
Дзе ў адвечнай сіні
Дзіўных сьветаценяў
Дзіка абарваўся горды мэтэор.

І ўлілася ў сэрца горкая трывога,—
Тут я ўсім далёкі
І усім чужы,
Тут у прыгожых словах
Хтось жадаў так многа,
А на справе нізка, здрадніцкі душыў.

І мне стала ясна,
Што ў туманных нівах,
Ні жаданьня шчырага, ні агню няма.
Гэта не каханьне
І ня сьпеў шчасьлівы,—
Гэта-ж на хвіліну, гэта дум туман.

Праляцяць ілюзіі буйнага вясельля,
Дагарыць лучына гордых пачуцьцёў,
І ізноў ад здрады,
Крыўды
І пахмельля
Будуць горам ўпоены песьні і жыцьцё.

Хай ад роднай песьні неба уздыхала.
На шырокай волі
Зорных берагоў
Гэту песьню ночка успрыймала,
Як каханьне дальняй
Дарагой.

* * *

Прышла яна вясёлай,
Захмялеўшай,
Яшчэ хтось з ёй нязнаны мне прышоў.
І усьміхнуліся,
Мяне чужым сустрэўшы
З такой разбуранай
І зморанай душой...

З яе пляча скацілася сукенка.
І мармур цела думкі захмяліў...
Яна была далёкаю паненкай,
І мы парознаму ўстрывожаны былі.

Ўсё-ж падышла й халоднаю рукою
Ўзяла маю дрыжачую руку:
— Вось будзь знаём,
Прыехаў ён за мною,
Таварыш мой,
Маіх жаданьняў друг.

І адышла...
Скакала з захапленьнем
І піла потым нейчую любоў,
А я, забыты ў доўгім задуменьні,
Тушыў трывогу горкую
І боль...

І вось тады балюча я падумаў,
Што ёй ўсё роўна, хто не пакахаў,
Што пахавальнай роспаччу
І сумам
Ёй лёс рукой дацэнта не махаў.

Дык, дзе-ж мая вячэрняя сьвятыня,—
Яна, з другім абняўшыся, пайшла
Туды, дзе ноч,
Дзе ноч пасьцельлю сіняй
За туманамі тайнымі лягла.

Я не хацеў зрываць
Вячэрнюю заслону...
Хай так...
Так на душы сьвятлей!..
І зноў пайшоў к сваім палям
З паклонам
Ад іх хвілінная радасьці далей.

І як ў далёкім,
Згубленым дзяцінстве,
Я доўга думаў, гледзячы ў туман,
Што ўсё-ж пры ўсіх
І здрадніцтве,
І сьвінстве
Пачуцьці-мары гінуць не дарма.

І я глядзеў, як ночка дагарала,
Як раньні сьвет азёрных дамавін
Чыясьці лапа ветла расьсявала
Над дыванамі кветак і травы...

І дзесьці там,
Дзе плакалі зарніцы,—
Ў забытым сэрцы выбухнула боль
За ноч вясны,
За вобраз чараўніцы.
За гэту здраду,
Шчасьце і любоў...

* * *

Дзіўная,
Прыгожая стома і спакой...
За вакном пачуцьцямі захлынуўся сад.
Чутна—
Плачуць сумна вербы над ракой
І каліна белая адцьвіла ў сьлязах.

Эх, каліна дзіўная—
Дзеўчына вясны
Дальняга пазвала ўсьмешкай прамяністай
Й хтосьці уваходзіць
Крокам ледзяным
Й бязудзельна кажа:
— Вось, таварыш, ліст вам.

## ДРУЖА!

Дзе дальнія зоры
Грэюць уночы асфальт,—
Там нарадзіліся з гора
Здрада,
Каханьне і фальш.

Там за заслонай сталецьцяў,
Дзе карнован прыгнёт,
Золата думкі са сьмецьця
Ўзьняў чалавечы узьлёт.

Людзі сьвядома кахалі,
Людзі ішлі на кастры...
Сэрца выкоўвалі з сталі,
Кроў здабывалі з зары.

Там ў залатым дагараньні
Я палюбіла твой сьвет.
Ты-ж...
Ты ня ведаў каханьня,
Быў ты, як жоўты шкілет...

Што-ж ты
Пакрыўдзіўся ў песьнях?—
Лепш нам былое забыць.
Так нек і душна
І цесна
Мёртвым між мёртвымі
— Быць...

Клара.

Сумна і трывожна разрываю ліст я.
Востры пах ляўкояў думкі расхмяліў.
Ах няўжо я мёртвы,
Як апаўшым лістам
Быў падкінут к небу, а датлеў ў зямлі.

*Канец будзе.*

# НАЧНЫЯ ДУМЫ

*(З-за крат вастрогу ў Вільні)*

**Ал. Салагуб**

Заснуў у мгле вастрог пануры,
Застыў на кратах ціхі сон,
І маладзік—сярпом з-за муру—
Глядзіцца ў цёмнае вакно.
Гадзіньнік мерна, аднатонна,
Рытмічна б'е: цік-так-цік-так.
А за вакном панура, сонна
Дыван паклала ночы мгла.

Трах-тах!..
трах-тах!..
Па плітах крочыць
Са стрэльбай вартаўнік стары.
Як здань магіл,
Як ястраб ночы,
Вартуе могільнік жывых.

* * *

Адзін між сьцен...
Блукае вока.
Мне сьніцца волі далячынь.
Шумлівы гай вясеньнім сокам
Душу маю запаланіў.
Эх, думкі, думкі-лятуценьні,
Сябры самотнасьці маей!
Сярод магільных пліт-каменьняў
Я чую поступ новых дней.
За кратай чую песьню Волі.
Зьвініць мэлёдыя жняі;
Касцова песьня аб раздольлі
Мне шэпча казкі, казкі-сны.
Бруіць ў грудзёх паток каханьня
І дзікай радасьці прыліў.
З краінай чую сэрца зьліў,
У сэрцы—радасьць існаваньня.

Лаўлю разьмерны тон кляпаньня
Касы і працы творчай рытм.
О, вёска, вёска, з заміраньнем
Люблю цябе ў сьвятле зары.
О, вёска родная, ты люба
Вачам за ціш, за шыр палёў.
Але ў цішы—твая загуба—
Сьмерць парываньняў, сьветлых сноў.
Твая пакора плодзіць мукі,
Твой плач адвечны, плач стары
Скаваў размах твой, твае рукі.
Я не злажу за сьлёзы гімн.
Люблю цябе, калі ты ў гневе
Замест сярпоў—мячы куеш,
Замест зразаць калосься нівы—
Начамі будзіш Белавеж.
Мне надакучыў стогн распачы,
Твая пакорлівасьць, спакой.
Мне што з таго, што горка плачаш?
Ці-ж мушу плакаць я з табой?
Тваёй крывёй прапахла глеба,
А ты упорыста маўчыш.
Пракляцьце шлю спакою, небу,
Каму ты молішся, дрыжыш.
Ты плачаш, вёска? Нараканьне?
О, родная, пакінь, пакінь.
Мяне заве сырэнаў граньне,
Хоць я калісьці быў твой сын.
Бывай, бывай! Я не вярнуся,
Бо палюбіў напеў дынам.
Згару ў агні, ды не баюся,
За ціш я шуму не прадам.

* * *

Эх, думкі, думкі-лятуценьні,
Сябры самотнасьці маей!
Сярод магільных пліт-каменьняў
Я чую поступ новых дней.
А за вакном
На плітах крочыць
Са стрэльбай вартаўнік стары:
Як здань магіл,
Як ястраб ночы,
Вартуе „Могільнік жывых“.

Лукішкі, 26-IX—1927 г.

# РЭВОЛЮЦЫЙНЫ РУХ У МЭКСЫЦЫ[1])

**Л. Каган**

III

Трыццаць тры гады праіснавала, дзякуючы дапамозе замежнага капіталу, ваенна-паліцэйская дыктатура генэрала Дыяца, улада саюзу мэксыканскіх паноў і замежных капіталістых.

Вынікам гэтае дыктатуры была амаль поўная пролетарызацыя сялянства і дробнай буржуазіі краіны. З другога боку, адносная вага замежнага капіталу ў Мэксыцы ўзрасла надзвычайна. У яго рукі перайшлі 90% капіталу ў горнай справе, усе чыгункі, усе банкі, увесь здабытак нафты.

Вось чаму рэволюцыянізавалася пры дыктатуры Дыяца і дробная буржуазія Мэксыкі. Яна організавалася ў новую лібэральную партыю з Францыскам Мадэро на чале. Програма гэтай партыі была спачатку програмай дэмократычных рэформ. Але, калі мадэрыстыя ўпэўніліся ў тым, што ваеннае дыктатуры замежнага капіталу голымі рукамі ня скінуць, яны пачалі дамагацца аб'яднаньня з сялянскім партызанскім рухам, які ўвесь гэты час наогул ня спыняўся ў Мэксыцы.

Самымі выдатнымі фігурамі сялянскага руху былі тады: на поўначы—Францыско Вілья, а ў цэнтральнай Мэксыцы—Эміліяно Сапата[2]).

Чым прыцягнулі мадэрыстыя на свой бок рэволюцыйнае сялянства?

У першыя часы свайго існаваньня дэмократычная партыя ня мела аграрнае програмы. Умовы барацьбы з дыктатурай Дыяца прымусілі мадэрыстых даць сялянству туманныя абяцанкі ў выглядзе так званага „Пляну Сан-Люіс дэ Патосі“.

Вось што мы чытаем ў § 13-м памянёнага „Пляну“:

„З прычыны злоўжываньняў законамі аб вольных землях, шмат хто з дробных зямельных уласьнікаў, пераважна тубыльцы, былі пазбаўлены сваіх зямель паводле загаду міністэрства земляробства і згодна пастаноў трыбуналаў рэспублікі. Справядлівасьць патрабуе звароту ранейшым уласьнікам або іхнім спадкаемцам зямель такім чынам адабраных; аднагасна патрэбна компэнсаваць іх і грашыма за страты, якія яны пацярпелі. Толькі ў тым выпадку, калі да выданьня гэтага пляну землі ўжо

[1]) Гл. „Полымя“ № 8 за 1928 г.

[2]) Трэба адзначыць, што Вілья быў напалову анархістым, напалову бандытам; Сапата, наадварот, соцыялісты сялянскага тыпу, які ўтварыў нават сваю ўласную аграрную програму.

перайшлі ва ўласнасьць трэціх асоб, ранейшыя зямляўласьнікі атрымаюць, замест зямель, грашовую компэнсацыю ад тых, у рукі якіх перайшлі іхнія землі“ [1]).

Як відаць з гэтай выняткі, сяляне маглі, у выпадку ажыцьцяўленьня рэформы, разьлічаць толькі на частку адабранай ад іх зямлі.

Аднак, яны вельмі падтрымлівалі рэволюцыйны рух мадэрыстых: амаль усе сялянскія партызанскія аддзелы паўсталі на барацьбу за „Плян Сан-Люіс дэ Патосі“. Тысячы сялян станавіліся пад штандары Сапаты, Вільля і трэцяга правадыра сялян-паўстанцаў Паскуаля Ороско.

Трыццацітысячная армія Дыяца ня здолела перамагчы гэты магутны партызанскі рух. Дыяц уцёк з Мэксыкі, а прадстаўнікі кіруючай партыі „вучоных“ заключылі з мадэрыстымі згоду ў маі 1911 г. ў горадзе Сідуад Хуарэц.

Героічная барацьба з Дыяцам вялася выключна сялянствам, а згода ў Сідуад Хуарэц была адкрытай зрадаю мадэрыстых рэволюцыі. У згодзе яны (мадэрыстыя) абвяшчалі, што ваенныя сілы партызанскага сялянства павінны ў месячны тэрмін быць распушчаны; што ня будзе радыкальнай зьмены чыноўніцтва, як гэта дэкляравалася ў свой час мадэрыстымі ў „Пляне Сан-Люіс“; што аграрная рэформа на пэўны час адкладаецца.

Адбылося тое, што адбываецца заўсёды, калі сялянскім рухам кіруе ў мэтах барацьбы са сваім ворагам—буйнейшай буржуазіяй—буржуазія дробная: страх перад сялянскай рэволюцыяй прымусіў дробную буржуазію зрадзіць, пайсьці на гнілы компроміс з ранейшай уладай (па сутнасьці справы Мэксыка апынулася пад мадэрыцка-дыяцаўскай уладай без самога Дыяца).

Сялянства не паддалося ашуканству. Партызанская армія сялян не паслухалася загаду аб разброеньні. Яна зноў узялася за зброю з Сапатай на чале. Мэксыканская рэволюцыя ўступіла ў фазу г. зв. „сапатыцкага“ руху.



Пляцдармам сапатыстых быў штат Морэлёс, які знаходзіцца ў цэнтры Мэксыкі. Абкружаны з усіх бакоў гарамі, гэты штат амаль недаступны для варожых армій і адначасна блізка знаходзіцца ад сталіцы Мэксыко.

Калі зрада Мадэро зрабілася фактам, Сапата абвяшчае (у лістападзе 1911 г.) мадэрыстых ворагамі рэволюцыі і выдае свой славуты „Плян дэ Айяля“.

Асноўныя патрабаваньні гэтага маніфэсту: 1) сяляне і сумленныя рэволюцыянэры наогул павінны цяпер, пасьля зрады Мадэро, аб'яднацца для барацьбы як з консэрватарамі, так і з лібэраламі; 2) улада павінна перайсьці ў рукі сапраўдных рэволюцыянэраў.

[1]) „Rogue Estrada: „La Revolucion by F. İ. Madero“. Guadalajara. 1912. p. 313. Цытавана па кнізе Ортэга.

Падамо характарныя выняткі з „Пляну дэ Айяля“.

„Арт. 7. Рэволюцыйны савет штату Морэлёс не дазволіць ніякіх палітычных компромісаў раней, як пераможа ўсе дыктатарскія элемэнты Порфірыо Дыяца і Францыско Мадэро, бо нацыі ўжо абрыдалі ашуканцы ды зраднікі, якія пачынаюць з ролі вызваленцаў, даюць абяцанкі, забываюцца на іх і робяцца тыранамі“.

„Арт. 6. Усе землі, горы і воды, якімі незаконна заўладалі паны, „вучоныя“ або кацыкі ў часы тыраніі ды прадажнай юстыцыі, адразу пераходзяць у рукі селішчаў і грамадзян, маючых правы на гэтую маемасьць, якой яны былі пазбаўлены, дзякуючы ранейшай уладзе; яны павінны са зброяй у руках абараняць сваю маемасьць, экспропрыятары-ж будуць судзіцца трыбуналам перамогшай рэволюцыі“.

Ёсьць у гэтым маніфэсьце артыкул, згодна якога буйныя зямляўласьнікі атрымаюць трэцюю частку кошту маёнткаў, калі здадуць зброю; маемасьць актыўных контррэволюцыянэраў падлягае поўнай нацыяналізацыі.

Такім чынам, „Плян дэ Айяля“—бязумоўна рэволюцыйны дакумант і нават абяцанка даць 1/3 кошту зямель буйным зямляўласьнікам—толькі манэўр,—сапатыстыя спадзяваліся лягчэй перамагчы контррэволюцыю.

У сваім штаце Морэлёс Сапата ўзяўся за рэалізацыю гэтага пляну: падзяліў паміж сялян панскую зямлю, перабіў паноў і кіраўнікоў маёнткамі. Гэта дало надзвычайную популярнасьць Сапаце, і рух перакінуўся ў штаты Пуэбля, Веракруц, Халіско, Мічоанан, Геррэро, Мэксіко, Сан Люіс дэ Потосі. Лібэральны мэксыканскі гісторык Ponce de Lion піша, што „Сапата быў самым популярным і самым улюбёным чалавекам у гэтую эпоху“.

Супроць Сапаты аб'ядналіся ўсе багатыры ды іхнія агенты: замежныя капіталістыя, паны, духавенства, лібэральная інтэлігенцыя. Для сапатыстых існавала афіцыяльная назва „бандытаў“, і некаторыя буржуазныя мэксыканскія генэралы, каб зьняславіць рух Сапаты, рабілі наступнае: апраналі сваіх салдат у форму сапатыстых (звычайную сялянскую вопратку, якую носяць у цэнтральнай Мэксыцы) і потым рабавалі мірнае насельніцтва.

І ўсё-ж ткі рух сапатыстых ня спыняўся і трымаў пад пагрозай усякую буржуазную ўладу ў Мэксыцы аж да 1919 г.

Але ня будзьма забягаць уперад—прасочым падзеі ў Мэксыцы ў іхнім хронолёгічным парадку. Адзначым толькі—сапатызм быў рухам выключна сялянскім і пэўнай рабочай програмы ня меў. Толькі ў 1916 г. Сапата выдае надзвычайна „куцую“ „рабочую програму“, якую падаем цалком.

„Трэба абараніць рабочых законадаўчай аховай працы ды пэнсыёну. Трэба прызнаць правы юрыдычнай асобы за рабочымі саюзамі, каб даць рабочым магчымасьць лепш з'арганізавацца; даць рабочым законы, якія гарантуюць права забастоўкі і бойкоту; зьнішчыць раённыя крамы і аплату працы бонамі“.

Наогул, сапатыстыя, няпрымірымыя да паноў, не зьяўляліся ворагамі капіталістых прамысловых. „Рэволюцыя не змагаецца,—піша Сапата ў адным з сваіх артыкулаў,—з прамыслоўцамі, гандлярамі, уласьнікамі капаленъ, наогул, з актыўнымі элемэнтамі, што адкрываюць новыя шляхі для прамысловасьці і даюць працу вялікім групам рабочых, якія потым, у сваю чаргу, пабудуюць новае грамадзтва“. Тут вось, у гэтых дзьвёх хібах сапатызму—адсутнасьці ў яго сувязі з рабочым рухам ды разуменьня значэньня рабочага руху для рэволюцыі, папершае, і адсутнасьці барацьбы з замежнымі капіталістымі, падругое,—слабасьць гэтага наогул бязумоўна прогрэсыўнага руху.

* * *

Як мы адзначылі вышэй, у 1911 г. дыктатура Дыяца замянілася ў Мэксыцы блёкам лібэралаў (партыя Мадэро) са старым дыяцаўскім ваенна-бюрократычным апаратам (партыя „вучоных“). Ведаем мы ўжо і аб адыходзе сялянства ад мадэрыстых. Праз некаторы час адыйшлі ад Мадэро і рабочыя. Пасьля заняпаду дыктатуры Дыяца, рабочы рух у Мэксыцы вельмі разьвіўся: зьявіліся профэсыянальныя саюзы сындыкаліцкага характару, пракацілася па краіне хваля экономічных забастовак. Мадэрыстыя, пад уплывам партыі „вучоных“, павялі барацьбу з рабочым рухам пад лёзунгам „чыстага лібэралізму“. Сутнасьць гэтага „лібэралізму“: рабочыя маюць права баставаць, а капіталістыя—права атрымліваць прыбыткі. Урад ахоўвае інтарэсы і тых і гэтых і баставаць дазваляецца рабочым толькі тады, калі гэту забастоўку ўхваліць урад. Комэнтары непатрэбны.

Мадэрызм ізоляваўся, такім чынам, і ад рабочых і ад сялян. З другога боку, супроць яго былі і контррэволюцыйныя элемэнты Мэксыкі, якія лічылі яго занадта мяккім. Калі шукаць для мадэрызму паралеляй у нашай рэволюцыі, дык яго лёгка можна параўнаць з кераншчынай. І замежныя капіталістыя, якім куды прыемней за мадэрызм была дыяцаўская дыктатура, аказаліся Карнілавым для Мадэро, толькі Карнілавым больш удалым. У саюзе з панамі і духавенствам замежныя капіталістыя організавалі рух супроць Мадэро з правага боку. На чале гэтай контррэволюцыі супроць мадэрыстых паставілі пасла Зл. Шт. П. А. ў Мэксыцы—Генры Лейна Вільсона.

Апошні павёў „справу“ досыць энэргічна. На паседжаньні дыплёматычнага корпусу ён абвесьціў прэзыдэнта Мадэро „шалёным“ і пакляўся, што „наладзіць парадак“ у Мэксыцы. Папершае, Лейн знаходзіць новага кандыдата ў дыктатары—старога дыяцаўскага генэрала, душыцеля сялянскага руху, Вікторыяна Хуэрта. На амэрыканскія доляры інсьпіруецца „паўстаньне“ супроць Мадэро. Прэзыдэнт трапляе ў палон да Хуэрты і там яго (Мадэро) забіваюць бяз суда разам з віцэ-прэзыдэнтам Суарэцам. Забойства Мадэро, *характарная рыска*, адбылося пасьля таго, як пасол

Лейн адмовіў радні Мадэро ў іхняй просьбе хадайнічаць перад Хуэрто аб памілаваньні прэзыдэнта.

Грубае ўмяшацельства замежных імпэрыялістых ва ўнутраныя справы Мэксыкі прывяло да новага шырокага руху супроць ваеннай дыктатуры, на гэты раз дыктатуры генэрал-бандыта Хуэрта. На чале гэтага руху стаў стары хітры пан Вэнустыяно Карранца, які вельмі лоўка абыходзіўся з дробнай буржуазіяй, сялянамі ды рабочымі. Ён заняў непрымірымую позыцыю ў стасунку да ўраду Злучаных Штатаў П. А. і гэтым заваяваў сабе сымпатыі рабочых і дробнай буржуазіі. Сярод сялян ён быў менш популярны. Месцам барацьбы Карранцы была паўночная Мэксыка.

Рэволюцыйнае сялянства Цэнтральнай Мэксыкі, сапатыстыя, ня толькі не падтрымала новага нацыянальна-лібэральнага руху карранцыстых, але, наадварот, абвесьціла ім вайну.

Варожыя адносіны сапатыстых да карранцыстых маюць пад сабой дзьве падставы: сапатыстыя яшчэ памяталі зраду рэволюцыі ранейшых лібэралаў-мадэрыстых; Карранца быў панам, для сапатыстых-жа кожны пан быў лютым ворагам. У сваім маніфэсьце ад 19 ліпня 1914 г. сапатыстыя так і пішуць: „Мы змагаемся супроць узурпатара Хуэрта, з аднаго боку, і супроць вульгарнага палітычнага эгоізму (намёк на Карранцу)— з другога боку“. У гэтым-жа маніфэсьце Эміліян Сапата абвяшчаецца „начальнікам рэволюцыі“.

Трэба адзначыць, што гэта вялікая хіба мэксыканскай рэволюцыі— адсутнасьць адзінага фронту паміж яе дзейнымі сіламі—была віной як сапатыстых, таксама і Карранцы: у апошняга ня было ніякай аграрнай праграмы. Праўда, карранцыстыя падтрымліваліся другім сялянскім праваднром, ужо вядомым нам з ранейшага, *Вільля,* але партызаны апошняга былі менш організаваныя ды сьвядомыя за сапатыстых. Апрача таго, вільлястыя ваявалі разам са сваімі сем‘ямі, што таксама кепска адбівалася на іхняй бояздольнасьці.

І ўсё-ж ткі рэволюцыя перамагла. Хуэрту з поўначы біў Карранца, які паступова заняў усе порты Атлянтыцкага акіяну; Сапата ізоляваў сталіцу краіны, адрэзаў яе ад падвозу харчоў; Вільля пасоўваўся з паўночна-заходняга боку і заняў большасьць чыгуначных пунктаў Мэксыкі.

Хуэрту амаль абсолютна адрэзалі ад яго асноўнай базы—Зл. Штатаў Паўночнай Амэрыкі. Урад Злучаных Штатаў трапіў, такім чынам, у вельмі няпрыемнае становішча. Ён быў ініцыятарам мэксыканскай контррэволюцыі, а цяпер гэтая контррэволюцыя няслаўна правалілася.

Якраз у гэты час у Амэрыцы прэзыдэнта Тафта замяніў „славуты“ Вудро Вільсон.

Каб паправіць кепскае ўражаньне, якое зрабіла на мэксыканцаў авантура яго папярэдніка, Вільсон адклікаў назад з Мэксыкі Гэнры Вільсона (пасла) і ня прызнаў ураду Хуэрты.

Адначасна здарыліся некаторыя „нелады“ ў Амэрыкі і з рэволюцыйнымі сіламі Мэксыкі. Ад грамадзянскай вайны цярпелі іншы раз і

амэрыканцы ў Мэксыцы і, каб падначаліць хоць часткова сабе карранцыстых, камандзір амэрыканскай эскадры на Атлянтыцы абвесьціў, што, у выпадку далейшага парушэньня інтарэсаў амэрыканскіх грамадзян у Мэксыцы, ён окупуе галоўны мэксыканскі порт Тампіко.

Карранцыцкі генэрал Кандыдо Агвіляр адказаў амэрыканцам, што ў момант забраньня Тампіко ён падпаліць нафтавыя промыслы. У гэтых нафтавых промыслах укладзена было 500 міл. доляраў замежнага капіталу. Аргумант для амэрыканцаў досыць паважны, каб Тампіко не забіраць. Пасьля гэтага інцыдэнту тон Карранцы адносна Зл. Шт. Ам. робіцца яшчэ больш рашучым.

Праз кароткі час Хуэрта прымушаны быў уцячы, і Мэксыка апынулася разьбітай на тры „сфэры ўплыву“, варожыя паміж сабой (саюз паміж Вільля ды Карранцай зьмяніўся на варожыя адносіны паміж імі): у цэнтры—сапатыстыя, на паўночна-заходняй частцы—вільляістыя, на паўночна-ўсходняй—карранцыстыя.

З гэтага стану анархіі зрабіла спробу „вызваліць“ Мэксыку ўлада Зл. Штатаў, і 15 жніўня 1915 г. яна накіравала ноту Карранцы, Сапаце і Вільля з пропозыцыяй дапамагчы ім наладзіць мірную конфэрэнцыю і выбары. Прастадушныя сяляне Вільля і Сапата адказалі згодай на езуіцкую пропозыцыю Амэрыкі, якая мела на мэце свае імпэрыялістычныя імкненьні, і толькі Карранца адказаў Вільсону, што яго пропозыцыя—парушэньне суверэнітэту Мэксыкі і ён адхіляе яе.



Характарнай рыскай мэксыканскай рэволюцыі зьяўляецца пасыўнасьць рабочай клясы краіны ў самыя рашучыя моманты барацьбы. Прычына—анарха-сындыкаліцкі характар рабочага руху. Актыўныя ў барацьбе экономічнай, рабочыя Мэксыкі, паводле сындыкаліцкіх традыцый, „устрымліваюцца ад політыкі“. Галоўная рабочая організацыя Мэксыкі—„Дом рабочых сьвету“ („La Casa del Obrero Mundiat“)—свайго роду цэнтральны рабочы клюб, дзе політычную адукацыю атрымлівалі з кніг Крапоткіна, Макса Нордау і зусім ня выўчалі марксызму. Цікава, што калі ў маі 1918 г. адзін з правадыроў „La Casa“, Антоніо-Сото-і-Гама“ заклікаў рабочых да ўзброенага выступленьня супроць крывавай дыктатуры Хуэрты, дык Праўленьне „La Casa“ заганіла гэтае выступленьне. Праўда, шмат хто з рабочых змагаўся з контррэволюцыяй пад штандарамі Карранцы, Сапаты, Вільля, але рабочыя організацыі маўчалі.

Крытычным момантам для мэксыканскай рэволюцыі быў пачатак 1915 г., калі сталіца Мэксыкі апынулася ў руках сялянскіх правадыроў Сапаты і Вільля. Калі-б у гэты час Сапата і Вільля прыцягнулі на свой бок рабочых і дробную буржуазію, працоўныя забясьпечылі-б за сабой перамогу ў рэволюцыйнай барацьбе. Само сялянства было няздольна ажыцьцявіць гэтую задачу. А, як вядома, ізоляванае сялянства ніколі не атрымлівае поўнай перамогі, не замацоўвае позыцый, якіх дасягае ў сваёй

барацьбе: сялянскі рух характарызуе провінцыялізм. Сялянства няздольна організаваць моцную дзяржаўную ўладу, з асяродкамі ў буйных гарадох. Калі масы гарадзкога насельніцтва не ахоплены рухам, дык сялянства траціць гарады, а разам з імі і ўладу.

Так здарылася і з Вільля, і з Сапатай. Яны не пакінулі ніякага апарату ўлады ў Мэксыко (стал'ца краіны) і вярнуліся ў свае вясковыя „штабы“: Сапата—у штат Морэлёс, Вільля—у Торрэон. Арміі абодвух трацілі бояздольнасьць дзякуючы адсутнасьці рэгулярнага забесьпячэньня зброяй, бо Амэрыка спыніла падтрымліваць Вільля, а Сапату бойкотавала ўвесь час. У дадатак, правадыр нацыянал-лібэралаў Карранца, у руках якога былі парты, адрэзаў падвоз продуктаў і сыравіны ў цэнтральную (сапатыцкую) і паўночную (вільляіцкую) Мэксыку. Спыніліся фабрыкі, пачаўся неспакой сярод рабочых. Гэта скарыстаў хітры „стары барадач“ Карранца. Яго агенты распачалі сярод рабочых агітацыю за тое, каб яны дапамаглі яму вызваліць краіну ад „бандытаў“ Сапаты і Вільля. Карранца абяцаў рабочым пасьля перамогі барацьбу з замежным імпэрыялізмам, барацьбу з капіталам. Мы ўжо ведаем, што для сапатыстых ды вільляістых гэтыя пытаньні не існавалі наогул—за адзінага ворага яны лічылі толькі паноў,—вось чаму яны мелі такі слабы ўплыў на рабочых.

Агітацыя агентаў Карранцы сярод рабочых за ўдзел у яго барацьбе з сапатыстымі ды вільляістымі на гэты раз мела посьпех: 10 тысяч рабочых увайшлі, як „чырвоныя батальёны“, у склад карранцыцкай арміі. Так здарылася тое, што лепшая частка рабочай клясы Мэксыкі прыняла ўдзел у барацьбе супроць рэволюцыйнага сялянскага руху, формальна ў блёку з дробнай буржуазіяй, фактычна за інтарэсы мэксыканскіх паноў. Гэтая зрада лібэралаў ды анарха-сындыкалістых сялянству Мэксыкі прывяла да часовага спаду рэволюцыйнага руху наогул. У 1919 г. Сапату забілі агенты Карранцы, сапатызм быў пераможаны і з таго часу ўлада ў Мэксыцы перайшла ў рукі сярэдніх дробна-буржуазных элемэнтаў.

Нацыянальнай буржуазіі ў Мэксыцы няма, банкі ды чыгункі належаць там замежным капіталістым; кіруючыя дробна-буржуазныя элемэнты Мэксыкі з часоў перамогі Карранцы яшчэ занадта слабыя, каб адбіць націск з боку паноў, духавенства ды замежных капіталістых. Вось чаму ўлада ўвесь час шукае падтрыманьня ў сялян і рабочых. Але як улада дробна-буржуазная, а не рабоча-сялянская, яна (улада) ня хоча і ня здольна бараніць інтарэсы як рабочых, таксама і сялян Мэксыкі. Яе тактыка—падзел рабочых і сялян, скарыстаньне рабочых супроць сялян—і наадварот.

* * *

Дробна-буржуазна-сялянская рэволюцыя 1911—1916 гадоў скончылася констытуцыяй 1917 г. Аўтары яе варожа ставіліся да сялянства, але пад націскам рэволюцыйнага сялянства яны зьмесьцілі ў констытуцыі значную частку аграрнае програмы Сапаты. З другога боку, у арт. 27 новая ўлада б'е і па захопніцкіх імкненьнях замежнага імпэрыялізму—

уступка дробнай буржуазіі Мэксыкі. Мы знаходзім у адзначаным артыкуле ў прынцыпе нацыяналізацыю зямель, нетраў і вод, зварот вобшчынных зямель сялянам, драбленьне панскіх маёнткаў. Падамо выняткі з яго (арт. 27 конституцыі):

„Уласнасьць на землі і воды ў межах нацыянальнай тэрыторыі належыць нацыі, якая мела і мае права перадаваць іх ва ўладаньне прыватным асобам. *Экспропрыяцыі можна практыкаваць толькі на карысьць грамадзтва і за компэнсацыю...*

Сялібы, хутары і вобшчыны, якія адчуваюць недахват у зямлі ды вадзе, маюць права на надзел іх з фонду сумежных маёнткаў, *калі гэтым не парушаюцца інтарэсы дробных уласьнікаў...*

Анулююцца ўсе концэсіі, дадзеныя ранейшымі ўрадамі, пачынаючы з 1876 г., і нетры нацыяналізуюцца...

Толькі мэксыканцы па паходжаньні і мэксыканскія кампаніі маюць права купляць землі, воды і доступы да іх ці атрымліваць концэсіі на эксплёатацыю нетраў, вод ці мінэральнага апалу ў мэксыканскай рэспубліцы. Рэспубліка можа даваць права ўладаньня і замежным асобам, але толькі ў тых выпадках, калі яны дадуць абавязак падначальвацца мэксыканскім законам і ня шукаць абароны ў сваіх урадаў“.

У гэтым-жа артыкуле гаворыцца яшчэ аб нацыяналізацыі маемасьці (зямельнай і нярухомай) кляштараў; аб тым, што ў бліжэйшыя часы адбудзецца на карысьць сялян сэкулярызацыя панскіх лятыфундый (за плату, зразумела, з выплатай у тэрмін ня больш як 20 год).

Што-ж самае характарнае ў разгляданай аграрнай рэформе?

А тое, што яна адрозьніваецца ад аграрнага проекту Сапаты прынцыпам выкупу, які датычыць, нават, захопленых яшчэ пры Дыяцу вобшчынных зямель; што ў справе сэкулярызацыі лятыфундый ініцыятыва драбленьня даецца паном; што, такім чынам, ад рэформы павінны былі больш іншых атрымаць ня бедныя сяляне, якія ня маюць грошай для выкупных опэрацый, але кулакі-фальваркоўцы ды розныя афіцэры і чыноўнікі, якія „нажыліся на рэволюцыі“.

Самае галоўнае ў законе—тая яго частка, якая б‘е па замежнаму капіталу. Вось чаму ўсе дыплёматычныя сутычкі паміж Мэксыкай і Зл. Штатамі адбываюцца навокал арт. 27 конституцыі, чаму Амэрыка ўпарта дамагаецца скасаваньня гэтага артыкулу. Пэрманэнтным умяшацельствам Амэрыкі тлумачыцца і тое, што цяпер, праз 11 год пасьля ўхвалы конституцыі, закон гэты яшчэ ў большай сваёй часьці не рэалізаваны. Рэформа ідзе „чарапашным крокам“, нават, у галоўнай сваёй часьці, якая датычыць звароту сялянам захопленай у іх вобшчыннай зямлі; толькі трэцяя частка гэтай зямлі ўжо вярнулася ў рукі вобшчын,—рэшта-ж зямель яшчэ „ў стадыі звароту“.

Рэформа, такім чынам, „шыракавяшчальная“, а вынікі яе адчуваюцца пакуль што слаба: конституцыя выйшла ў 1917 г., а, паводле даных за 1927 г., $^3/_4$ усёй зямельнай плошчы Мэксыкі належыць яшчэ паном;

сялянства краіны безьзямельнае або малазямельнае; буйных сялянскіх гаспадарак з колькасьцю зямлі ад 50 да 200 гектараў усяго толькі 10.000, пры агульным ліку сялянства Мэксыкі ў 11 міл. чалавек.

* * *

Як намі ўжо ўспаміналася вышэй, горш за ўсё б'е па інтарэсах замежнага капіталізму ў Мэксыцы арт. 27 канстытуцыі, пераважна тая яго частка, што забараняе чужаземцам уладаньне зямлёй на адлегласьці ў 100 кілёмэтраў ад сухаземнай мяжы і ў 50 кілём. ад морскай мяжы. Якраз у гэтай паласе знаходзяцца найбагацейшыя нафтавыя крыніцы, з якіх толькі 1 проц. належыць мэксыканцам, амэрыканцам-жа—60 проц.; рэшта ў руках іншых замежных дзяржаў.

Але замежны імпэрыялізм змагаецца і з аграрнай рэформай наогул, бо большасьць паноў—чужаземцы, і кожная сэкулярызацыя панскай лятыфундыі такога чужаземца выклікае дыплёматычны конфлікт. Фінансавая залежнасьць ад заграніцы (чужаземцам належыць увесь дзяржаўны доўг Мэксыкі—каля 700 міл. амэр. доляраў) прымушае дробна-буржуазны ўрад Мэксыкі быць пакладзістым,—вось чаму так тармозіцца ажыцьцяўленьне разгледжанай намі вышэй аграрнай часьці і канстытуцыі 1917 г.

Замежны імпэрыялізм наогул скарыстоўвае ўсялякія магчымасьці, каб шкодзіць ураду Мэксыкі. Адным з яго „казыроў" зьяўляецца, паміж іншым, контррэволюцыйная чыннасьць каталіцкага духавенства. Яшчэ рэволюцыя 1857 году пазбавіла духавенства яго экономічнай базы: зямлі гарадзкой нярухомасьці, іпотэчных капіталаў. Канстытуцыя 1917 году яшчэ больш абмежавала духавенства ў яго правох: пазбавіла яго выбарчых праў, права ўладаць маемасьцю, права распараджэньня царкоўнымі будынкамі. І вось „дэмократычная" „свабодная" Амэрыка ўсяляк падтрымлівае „чорнае войска" Мэксыкі. Галоўныя ворагі сучаснай Мэксыкі—блёк замежных імпэрыялістых, паноў і каталіцкага духавенства.

Якава фізыономія сучаснага мэксыканскага ўраду наогул?

З часоў Карранцы гэта ваенная дыктатура сярэдніх дробна-буржуазных элемэнтаў, якія шукаюць апірышча ў рабочых і сялян. База гэтай дыктатуры—паны Поўначы, якія больш займаюцца гандлем, чымся ўрабляньнем зямлі; сярод іх заўсёды панавалі лібэральныя настроі; такімі панамі-лібэраламі былі Мадэро і Карранца, а пазьней—прэзыдэнты Кайэс і Обрэгон. Далей, за памянёнымі панамі ідзе дробна-буржуазная інтэлігенцыя—армія ў некалькі сот тысяч чалавек, з якой пераважна вярбуецца чыноўніцтва. Іх у Мэксыцы—аж занадта, экономічны стан гэтай інтэлігенцыі дрэнны і адгэтуль радыкальныя настроі мэксыканскай інтэлігенцыі. Трэцяя групоўка—гарадзкая дробная буржуазія, якая жыве таксама вельмі кепска з прычыны яе няздольнасьці конкураваць з чужаземцамі—буйнымі гандлярамі. Чацьвертая сіла, на якую абапіраецца ўрад ранчэрос—дробныя фальваркоўцы, якія заўсёды варожа ставіліся да буйных паноў.

Політыка ўраду—нявыразная. Яго афіцыяльная програма—памянёная ўжо намі радыкальная канстытуцыя 1917 г. Але яна ажыцьцяўляецца слаба. Урад круціцца паміж буржуазіяй, рабочымі ды сялянствам: супроць паноў ён абапіраецца на сялян, супроць сялян—на паноў, часта нацкоўвае сялян на рабочых—і наадварот.

На паперы ўсялякія вольнасьці—канстытуцыя, парлямантарызм, свабода слова, саюзаў і г. д., сапраўды-ж—дыктатура. Друк, напрыклад, афіцыяльна свабодны, але ён маўчыць пад пагрозай сьмерці для рэдактароў.

* * *

Некалькі яшчэ фактаў для характарыстыкі сучаснай Мэксыкі. У 1923 годзе, за прэзыдэнтам Обрэгонам, выбухнула контррэволюцыйнае паўстаньне паноў, духавенства, замежных імпэрыялістых. На чале паўстаньня стаў Адольфо-дэ-ля Хуэрта. Армія Обрэгона, пераважна з добраахвотнікаў, перайшла на бок паўстаўшых. Момант быў крытычны—пагражала перамога контррэволюцыі. Хітры Обрэгон знайшоў выхад: ён у тэрміновым парадку ўзброіў сялян, разьбіў іхнімі рукамі Хуэрту (сялянства Обрэгон прыцягнуў абяцанкай безадкладнай аграрнай рэформы) і потым зброю ад сялян адабраў, а абяцанак сваіх сялянам ня выканаў.

Обрэгона ў 1924 г. замяніў Кайэс, чалавек больш лагодны да замежных капіталістых, паколькі ён яшчэ больш марудна за Обрэгона ажыцьцяўляў аграрную рэформу. Наогул арт. 24 быў і для Обрэгона і для Кайэса толькі сродкам браць як найбольш у казну з замежных концэсыянэраў; адабраць нафту ад замежных капіталістых не адважыцца сучасны дробнабуржуазны ўрад Мэксыкі.

У ліпні 1928 г. Обрэгона забіў агент Зл. Шт. Амэрыкі—концэсыянэрам патрэбен больш пакладзісты прэзыдэнт у Мэксыцы!

Заварушыліся зноў у Мэксыцы цёмныя рэакцыйныя сілы. Калі ў лютым гэтага году забойцу Обрэгона—Гораля пакаралі сьмерцю, рэакцыянэры ўзарвалі цягнік, у якім ехаў сучасны часова абраны прэзыдэнт Мэксыкі Портэс Хіль. Прэзыдэнт толькі выпадкова не загінуў ад гэтага замаху. („Правда“ за 12-II—1929 г.).

Пачатак-жа сакавіка прынёс Мэксыцы чарговае контррэволюцыйнае паўстаньне. Паўсталі вайсковыя сілы двух штатаў (яны ў Мэксыцы наймовыя)—Сонора і Вэра-Круц пад кіраўніцтвам генэралаў Францыска Манцо і Ісуса Агіра. Мэта паўстанцаў—скінуць уладу Портэса Хіля і пасадзіць прэзыдэнтам рэакцыянэра Гільбэрта Валенцуэла.

Цікавая рыска апошняга паўстаньня правых—яго, як гэта звычайна бывала заўсёды раней, не падтрымліваюць Злуч. Штаты Паўн. Амэрыкі: у амэрыканскага імпэрыялізму, відаць, ёсьць надзея дабіцца значных уступак ад сучаснага прэзыдэнта Мэксыкі (часовага) Портэса Хіля.

Гэты факт вырашае лёс паўстаньня—без дапамогі свайго звычайнага саюзьніка—амэрыканскага імпэрыялізму—паўстанцы перамогі не

даб'юцца. Апошнія тэлеграмы сьведчаць аб тым, што паўстаньне ўжо замірае, улада часовага ўраду замацоўваецца па ўсёй Мэксыцы.

Якія адносіны левых рабочых і сялянскіх груповак да адбываючайся ў Мэксыцы барацьбы?

Вось што піша па гэтым пытаньні газэта „Известия" ад 4-III--1929 г.: „Нядаўна мела месца ў Мэксыцы конфэрэнцыя рабоча-сялянскага блёку. Яна пастанавіла высунуць свайго кандыдата ў прэзыдэнты (сялянскага лідэра Пэдро Грыяна) на падставе рэволюцыйнай рабоча-сялянскай пляцформы. Рабоча-сялянскі блёк—гэта солідная сіла, бо ён вядзе за сабой узброеныя сялянскія дружыны колькасьцю 20—30 тысяч чалавек. З гэтае прычыны сучасны мэксыканскі ўрад будзе імкнуцца скарыстаць блёк для барацьбы супроць сваіх ворагаў справа. Такое „супрацоўніцтва" паміж урадам і левымі ўжо мела месца ў часе контррэволюцыйнага паўстаньня 1923 г. І ўрад тады (намі гэта ўжо паказана было вышэй. *Л. К.*) ня выканаў абяцанак, даных ім рабочым і сялянскім організацыям".

Гісторыя, значыцца, паўтараецца,—зноў, як і ў 1923 г., дробна-буржуазны ўрад Мэксыкі напярэдадні перамогі над правым паўстаньнем, дзякуючы падтрыманьню зноў ашуканых ім левых рабоча-сялянскіх сіл, Портэс Хіль пераможа правых у 1929 г. таксама, як Обрэгон перамог іх у 1923 годзе.

Але твар рабочых і сялян Мэксыкі паступова мяняецца. Расьце ўплыў на сялянства Мэксыкі Крэст'інтэрну, расьце комуністычная партыя Мэксыкі, якая вядзе досыць удалую пропаганду сярод рабочых краіны, дэзавуалюе сындыкалізм і „нэўтралізм" рабочых у політычнай барацьбе, пераконвае рабочых ды сялян Мэксыкі ў тым, што сапраўды рэволюцыйны, гэта ня дробна-буржуазны ўрад тыпу кайэсаўскага ці обрэгонаўскага, але ўрад пролетарскай дыктатуры ў саюзе з сялянствам. Такі ўрад ня будзе дзесяцілецьцямі „нацыяналізаваць" зямлю, ня будзе палохацца амэрыканскіх імпэрыялістых. Такі ўрад будзе ў Мэксыцы—Мэксыка будзе Савецкай. Гэта зробяць комуністыя Мэксыкі, гэта зробіць дробна-буржуазны ўрад Мэксыкі, які сваёй тактыкай пэрманэнтнага ашукваньня рабочых ды сялян больш за самых комуністых Мэксыкі агітуе за савецкі лад у Мэксыцы.

# РЭВОЛЮЦЫЙНЫЯ ГУРТКІ 70 г. г. НА БЕЛАРУСІ

*(Па архіўных матэрыялах)*

**Я. Віткоўскі**

70 гады мінулага сталецьця ў гісторыі расійскай рэволюцыйнай барацьбы носяць назву народніцтва. Мы, аднак, называем гурткі рэволюцыйнымі, бо залічыць тыя гурткі, пра якія мы ніжэй будзем гаварыць, да расійскага народніцтва немагчыма. Спэцыяльныя гістарычныя ўмовы Беларусі зрабілі такі ўплыў на расійскае народніцтва, што далі яму другія гістарычныя рамкі і другую афарбоўку, чым, як мы ведаем, яно мела на тэрыторыі былой Расіі. Аб спэцыяльнай афаўбоўцы народніцтва на Беларусі, нават у часы самага росквіту яго—у 70-ыя гады—мы і папрабуем паставіць пытаньне ў гэтым досьледзе.

60-ыя гады аўтарам гэтага артыкулу распрацаваны ў пытаньнях „Рэволюцыйны і контр-рэволюцыйны беларускі друк у часы паўстаньня 63 году“ і „Земля и Воля“ 60-х гадоў і сувязь яе з паўстаньнем 63 г. і з паўстанцкімі організацыямі 60 гадоў на Віцебшчыне“. (Даклады зачытаны ў інстытуце беларускай культуры).

Пытаньне аб рэволюцыйным руху 70-х гадоў па архіўных матэрыялах пачаў распрацоўваць Н. А. Бухбіндэр [1]).

Адзначаючы нацыянал-шовіністычны ўхіл усёй яго кнігі, з якое нас цікавяць 70-ыя гады, Н. А. Бухбіндэр робіць цалком недапушчальны гістарычны фальш, бо ён гурткі, дзе побач з яўрэйскімі дзеячамі ёсьць не яўрэйскія прозьвішчы, лічыць за гурткі яўрэйскага рэволюцыйнага руху на Беларусі, напрыклад, горадзенскія ды менскія гурткі 1876 году. Н. А. Бухбіндэр падае наступныя гурткі, існаваўшыя ў 70-х г. г.

У 1872 годзе ў Віленскім рабінскім вучылішчы Янкель-Абель Фінкельштэйн організаваў бібліотэку нелегальнай рэволюцыйнай літаратуры. Кнігі прысылаў вядомы тады яшчэ студэнт Маскоўскага унівэрсытэту Клячко. За гэту чыннасьць Фінкельштэйн быў высланы на бацькаўшчыну ў Сувалскую губэрню [2]).

У тым самым годзе праваліўся гурток Арона Зундэлевіча, які згрупаваў каля сябе асоб 15, галоўным чынам, таксама вучняў рабінскай

[1]) Бухбиндер. „История еврейского рабочего движения в России“. Ленинград. Академическое издательство, 1925.

[2]) Ibid., стар. 16—18.

школы. Літаратуру гурток атрымліваў з Пецярбургу праз Анну Міхайлаву Эпштэйн [1]).

У 1876 годзе зьяўляецца шэраг гурткоў па розных гарадох Беларусі.

У Вільні працаваў Л. Давідовіч, які організоўваў гурткі, галоўным чынам, з тэй моладзі, што вучылася ў яўрэйскім настаўніцкім інстытуце.

У Дзьвінску рэволюцыйную агітацыю вялі Эльля Сноп і Зьмітрок Паўлаў Беляеў.

У Менску пропаганду вялі Эвенчык і Міхайла Рабіновіч-Чорны, б. студэнт Тэхнолёгічнага інстытуту. Абодва працавалі ў сьлясарнай майстэрні і па вечарох давалі лекцыі ў прыватных багатых дамох. Да іх далучыліся кавалі Чаплеўскі ды Матусэвіч.

У Горадні ў гурток уваходзілі Айзік Слуцкі, Канстантын Бельскі, Давід ды Ісак Рубінштэйны, Саламон Андрэес, Марцэлі Янкоўскі, Нагорскі, Шантыр ды інш. (Цікава, што гэты гурток Н. А. Бухбіндэр чамусьці лічыць за яўрэйскі гурток).

Мелі організаваць гурток у Беластоку, куды езьдзіў Клячко, але не ўдалося.

Галоўным, быццам, кіраўніком усіх гурткоў быў Л. Давідовіч. Гурткі падтрымлівалі сувязь з Пецярбурскімі рэволюцыйнымі гурткамі праз выдатнага пропагандыстага, студэнта Ваенна-хірургічнай акадэміі, Станіслава Бельскага, перасылаўшага літаратуру. Кнігі, якімі карысталіся ў гуртках, наступныя: 1) Часопісь „Вперед", 2) „Сказка о копейке", 3) „Сказка о 4 братьях", 4) „Хитрая механика", 5) „Пугачевщина", 6) „Голод в Самаре", 7) „Парижская Коммуна" ды інш.

Гурткі праваліліся. Давідовіч уцёк. Сьледчая ўлада прыцягнула да адказнасьці 55 чалавек. Справа выращана была ў адміністрацыйным парадку. Удзельнікі атрымалі кару ад 6 месяцаў турмы да 1 месяца. Толькі чацьвёра былі сасланы: Міхайла Рабіновіч-Чорны і Вольфсон (працаваў у Ельцы) у Вяцкую губ., а Станіслаў Бельскі і Г. Ванэль—у Архангельскую губ. [2]).

Для характарыстыкі гурткоў Н. А. Бухбіндэр амаль не дае матэрыялу. Па літаратуры, якая пашыралася ў гуртках, і па сувязі з расійскімі гарадамі відаць, што яны мелі агульна-народніцкі кірунак. Аднак, яўрэйскія гурткі мелі свае самастойныя мэты. „Статут аб організацыі соцыяльна-рэволюцыйнага саюзу між яўрэямі ў Расіі" дае магчымасьць зрабіць дэталёвы аналіз ідэолёгіі соцыялістых-яўрэяў 70-х гадоў. Галоўным зьяўлялася думка аб канечнай патрэбе весьці пропаганду на яўрэйскай мове і організаваць яўрэйскія партыі. У статуце мы чытаем: „мы маем на мэце організаваць між яўрэямі заходняга Краю (Беларусь. *Я. В.*) шэраг соцыяльна-рэволюцыйных сэкцый, фэдэраваных як між сабой, так і з падоб-

1) Бухбиндер в. с., стар. 18—20.
2) Ibid. стар. 21—25.

нымі сэкцыямі яўрэяў заграніцай, або з сэкцыямі другіх нацыянальнасьцяй у Расіі ды заграніцай“ [1]).

Гэтыя думкі, як бачым, пазьней скарыстаны былі сіоніцкімі партыямі, а „фэдэрацыя“ доўга блыталася і ў „Бундзе“.

Аб 70-х гадох больш у Н. А. Бухбіндэра няма нічога. Нашы, аднак, дасьледзіны ў архіўных фондах выявілі яшчэ і гурткі ў Магілеве, Горы-Горках, Віцебску, Менску ды Вільні. Пяройдзем да дэталёвага разгляду вышэйадзначаных гурткоў.

## Магілеўскі гурток

Стрэл Веры Засуліч у пецярбурскага губарнатара Трэпава 24 студзеня 1878 г. шырокім рэхам прагучэў па ўсёй тэрыторыі б. Расійскай імпэрыі. І ў нас, на Беларусі, у Магілеве, знайшліся людзі, якія не баяліся ўголас заявіць свой протэст супроць тагочаснага самаўладзтва і горача баранілі В. Засуліч. У данясеньні Магілеўскага губарнатара міністру ўнутраных спраў за 10 чэрвеня 1878 г. мы маем: „Паводле атрыманых паліцыяй вестак, Кацярына Грыгор'ева, вольная слухачка жаночай гімназіі, неаднойчы выяўляла сваю нездаволенасьць урадам... які, на яе думку, вяжа свабоду народу і перашкаджае таму, каб ажыцьцявіць роўнасьць станаў. Яна таксама дужа горача бараніла Засуліч і нават мела брошуру аб гэтай справе, якую атрымала ад свайго стрэчнага брата, студэнта Ісаева [2]).

Вышэйпаданыя словы ўзяты з першага данясеньня аб Магілеўскім гуртку, якое, як мы ўжо адзначылі, зроблена было ўлетку 1878 году. 31 траўня гэтага году гімназісты Пнеўскі данёс жандарскаму унтэрафіцэру аб тым, што ў вучняў Сафронава і Гаркаві ёсьць літаратура супроцьурадавага зьместу. Зроблены быў вобыск, які ня даў ніякіх каго-небудзь компромэтуючых вынікаў. Аднак, за Грыгор'евай, яе братам Сафронавым, Гаркаві ды інш. пачалі сачыць, і ў гурток з даручэньня жандараў увайшоў нейкі чыноўнік Энько. Праз гэтага провокатара ўрад быў увесь час у курсе работы гуртка і ў патрэбны час выкрыў усю справу. Гэта здарылася, аднак, ня так хутка, толькі вясной ужо наступнага 1879 г.

У Піліпа Грыгор'ева быў зроблены вобыск і знойдзена была наступная народніцкая літаратура: 2 нумары часопісі „Земля и Воля“ ды кніжка бяз назвы, дзе былі артыкулы: 1) „О пропаганде в войсках Петербурского Военного Округа“, 2) „Дело таксатора Альбова“, 3) „Процесс о пятидесяти“; прамовы: 4) Петра Алексеевича Алексеева, 5) Софьи Ларионовны Бардиной, 6) Георгия Феликсовича Ждановича, 7) тры вершы, 8) „Министерския признания“, 9) „Тюремная пытка в России“,

[1]) Н. А. Бухбиндер. Ibid., стар. 29.

[2]) № 222. Дело 3-го Отделения собственной его им. в. канцелярии, 3 экспедиции. О распространении между воспитанниками Могилевской гимназии запрещенных книг. 1878 г., л. 3.

10) Корреспонденция из Подольской губ. 11) „Мураевницкий политический процесс“, 12) „Киевские червонные валеты“, 13) Несколько документов по внутренней политике русского правительства, 14) „Каторга и былое время“, 15) „Процесс южно-российского рабочего союза“, 16) „Еще к процессу пятидесяти“, 17) „Из истории арестов и преследований“, 18) Документ о социалистической пропаганде в войсках действующей армии, 19) Смесь [1]).

Пілін Грыгор'еў быў арыштаваны і пасаджаны ў Магілеўскую турму. Аднак, у часе вобыску не знайшлі ўсяе літаратуры, якую чыталі ў гуртку. Провокатар даносіў ураду аб значна большай колькасьці назваў, якія пашыраліся сярод удзельнікаў гуртка. Нумароў „Земли и Воли“ было больш, прычым нумары часопісі „дужа патрапаныя, што даводзіць, што яны прайшлі праз шмат рук“ [2]). Сярод тых кніг, што пашыраліся, знаходзім роман 60-х гадоў „Пролог“, издание журнала „Вперед“, „Емельян Иванович Пугачев или любовь казака“, „Хроника села Хмурина“ ды інш. [3])

Гурток імкнуўся „распаўсюдзіць сярод вучняў, сярод рабочых ды сялян рэволюцыйныя думкі і разуменьні“. Даючы характарыстыку гуртка, урад называе яго соцыяльна-рэволюцыйным: „Гэты рух мае характар соцыяльна-рэволюцыйны“ [4]).

Уплыў гуртка на вучняў Магілева быў дужа значны, прычым ня толькі на вучняў гімназіі, але і другіх навучальных установ, як, напрыклад, вучняў фэльчарскай школы. Адзін з іх, селянін Менскай губэрні Жогла, вышаў разам з другімі з царквы перад малебнам за аднаго з князёў царскага дому. Калі назірачы сказаў, каб яны вярнуліся, дык вучань Жогла яму адказаў: „Чаму нам ісьці, больш карысьці будзе заняцца чым-небудзь іншым“ [5]). Па загаду ён увайшоў у царкву, але калі ўсе сталі на калені, Жогла гэтага не зрабіў. У той самы дзень дырэктар школы — Мандэльштам данёс аб вучні губарнатару. Пастановай апошняга Жогла ў гэты самы дзень быў выключаны з школы і, як селянін Менскай губ., быў перададзены Менскаму губарнатару для далейшай кары. Чым скончылася справа Жоглы, невядома.

У гэтай-жа школе быў адзначаны, як ня зусім надзейны, доктар Тыцоцкі. Пэдагогічная рада пастанавіла звольніць яго з пасады, але на просьбы яго ды абяцаньні, што ён зусім зьменіць свае погляды, яго ў школе пакінулі.

Удзельнікаў гуртка было досыць многа; колькасьць дасягала 50 асоб. Гурток падзяляўся на тры групы, на чале якіх стаялі кіраўнікі. Кіраўніком першае групы быў Сьцяпан Езерскі, другой—Сафронаў Яўген і

---

1) Д. 222. л. 13 і 14.
2) Ibid., л. 16.
3) Ibid., л. 16.
4) Ibid., л. 16.
5) Ibid., л. 51.

трэцяй—Гаркаві Гірш. Падаем сьпіс удзельнікаў: а) Езерскі Сьцяпан (кіраўнік); 1) Езерскі, адстаўны афіцэр, 2) Езерскі—інжынэр (браты Сьцяпана), 3) Фэцісава Галена, сястра Езерскіх, жонка інспэктара мужчынскай гімназіі, 4) Мілюціна Жозэфіна, жонка рэвізора контрольнай палаты, 5) Квіцінская, хатняя настаўніца, 6) Война-Ясенецкая, настаўніца жаночае гімназіі, 7) Сініцына, настаўніца жаночай гімназіі, 8) Сініцыны—яе сёстры, 9) Малянтовіч, настаўніца пансыёна Баярынай, 10) Грыгор'еў Піліп, б. вучань гімназіі, 11) Грыгор'ева Кацярына, выхаванка жаночай гімназіі, 12) Сокалава, загадчыца Публічнай бібліотэкі, 13) Баранская, загадчыца бібліотэкі клюбу, 14) Бібікіна, жонка Смаленскага купца, сястра Кітаевых, 15) Дзіаніна, жонка вайсковага доктара, 16) Шварц, хатняя настаўніца, 17) Монтлевіч, 18 і 19) 2 сястры Чалоўскія, 20) Чалоўскі, скончыўшы курс Мэдыка-хірургічнай акадэміі, 21, 22) Кітаеў Хвёдар, Кітаеў Аляксей, браты, займаюцца гандлем.

б) Сафронаў Яўгень, вуч. 7-ае клясы гімназіі (кіраўнік); 1) Грыгор'ева Барбара, 2) Война-Ясенецкі Васіль, вучань 7 клясы гімназіі, 3) Зубоўскі Віктар—таксама, 4) Лешко-Попель Іван, вуч. 8 клясы, 5) Васільлеў, настаўнік Магілеўскай парафіяльнай школы, 6) Саульскі Сяргей, вуч. 7 клясы, 7) Русакоў Мікола, вуч. 8 клясы, 8) Аляхновіч Сымон, вуч. 8 клясы, 9) Цэханоўскі Аўгустын, вуч. 5 кл., 10) Міхайлаў Іван, вуч. 4 кл., 11) Фос Аляксандар, вуч. 8 кл., 12) Беларусаў Канстантын—таксама, 13) Мачульскі, выключаны вучань гімназіі.

в) Гаркаві Гірша, выключаны вучань гімназіі, сын заможнага купца (кіраўнік); 1) Гаркаві Ільля, выключ. студэнд Мэдыка-хірургічнай акадэміі, 2) Ротнэр Пава, выключ. з гімназіі, 3 і 4) 2 сястры Ідэльсон, 5) Місевіч Марыля, вуч. гімназіі, 6 і 7) 2 сястры Фос, вуч. гімназіі, 8) Бурбо, 9) Врончанка, 10) Шчапіла, вуч. гімназіі [1]).

Аднак, да ўсіх удзельнікаў гуртка ўрад патрабуе неаднолькавай кары. З агульнага ліку выдзелены 14 асоб, якіх трэ' выслаць у адміністрацыйным парадку на падставе закону 1 верасьня 1878 г. Галоўныя абвінавачаныя наступныя: 1) Адстаўны калескі сакратар—Сьцяпан Езерскі, 2) Галена Фэцісава, 3) Жозэфіна Мілюціна, 4) Война-Ясенецкая Тэрэзія, 5) Квіцінская Аляксандра, 6) Кацярына Грыгор'ева, вуч. апошн. клясы гімназіі, 7) яе сястра, „салдацкая дачка“, Барбара Грыгор'ева, 8) Іван Лешко-Попель, 9) Васіль Война-Ясенецкі, 10) Мікола Русакоў, 11) Яўгень Сафронаў, 12) Віктар Зубоўскі. Былыя вучні гімназіі: 13) Мачульскі і 14) Гірш Гаркаві [2]).

Ня ўсе пералічаныя ў гэтым сьпісу былі, аднак, высланы. Выслана было, як пабачым, некалькі асоб, якіх у гэтым сьпісу ня было, а былі толькі ў агульным сьпісу. Часткай выслалі і тых, каго ў гэтых абодвух сьпісах ня было, але віну іх выявіла далейшае сьледзтва.

[1]) Д. 222. л. 22.
[2]) Ibid., л. 20

Вось характарыстыкі ўдзельнікаў гуртка.

1. Піліп Грыгор'еў, былы вучань Магілеўскай гімназіі, арыштаваны ў сувязі з провокацыяй. Да арышту працаваў у якасьці парабка на фэрме Сьцяпана Езерскага. Пры арышце ў яго знойдзена, як адзначана вышэй, народніцкая літаратура. Формальна ўся справа сконцэнтравана на ім. Справа „О хранении и распространении книг и журналов преступного содержания Могилевским мещанином Филиппом Григорьевым" [1]) робіць яго цэнтральнай фігурай усяго гуртка. Праўда, урад больш увагі зьвяртае на Сьцяпана Езерскага, але ўсё-ж такі, як пабачым ніжэй, удзел яго ў працы гуртка сам урад так потым заблытаў, што дабіцца праўды зусім немагчыма.

Піліп Грыгор'еў цалком і бясспрэчна народнік, бо, як падае данясеньне: „Кнігі ён меў у сябе з мэтай распаўсюджаньня іх у народзе. Ён і рабіў гэта таму, што, жывучы ў Езерскага ў якасьці парабка на фэрме, то зьнікаў і бадзяўся ў розных мясцох, то зноў варочаўся назад" [2]). Урадавае данясеньне вандраваньня Грыгор'ева называе „бадзяньнем", але ўсё-ж такі вышэй адзначана, што ён хадзіў з мэтай распаўсюджаньня ў народзе літаратуры і, бязумоўна, займаўся пры гэтым і народніцкай агітацыяй сярод сялянства.

Наколькі глыбокімі былі яго народніцкія пераконаньні і якога яны былі кірунку, даведацца цяжка, бо працаваў ён яшчэ да расколу партыі „Земли и Воли", які, як вядома, адбыўся ўвосень 1879 г.

2 і 3. У справу замешаны былі, апрача Ф. Грыгор'ева, яго дзьве родныя сястры: Барбара, „салдацкая дачка", па профэсіі швачка, і Кацярына, ужо без дадатку „салдацкая дачка" (гл. сьпіс), а „выхаванка жаночай гімназіі". Адносіны яе да ўраду наогул і да В. Засуліч вядомы нам яшчэ з 1878 г., што мы ўжо і адзначылі ў пачатку агляду Магілеўскага гуртка. Уплыў брата Піліпа на сьветагляд ды чыннасьць бясспрэчны. Аднак, мусім адзначыць, што ўсе яны трое мелі сувязь са сваім стрэчным братам, „вядомым сваёю ненадзейнасьцю", студэнтам Пецярбурскага Унівэрсытэту Ісаевым [3]), прысылаўшым ім рэволюцыйную літаратуру.

4. Настаўніца жаночай гімназіі Тэрэзія Война-Ясенецкая была ўдзельніцай гуртка, прынамсі, чытала народніцкую літаратуру, прычым сама сазналася ў гэтым, бо ў гасьцёх у поліцмэйстара ў часе гарбаты, калі зайшла гутарка аб забойстве князя Крапоткіна, сказала, што яна пра гэта чытала раней. Гэтым яна пацьвердзіла, што чытала № 4 часопісі за люты 1879 г., дзе зьмешчаны ліст таго, хто павінен быў пакараць сьмерцю князя Крапоткіна. Як бачым, размова ў гасьцёх саслужыла Война-Ясенецкай „добрую службу". Гэта яе размова фігуруе як адзіны

[1]) Д. 222, л. 55.
[2]) Ibid., л. 19.
[3]) Ibid., л. 3.

і становчы момант у абвінавачаньні яе ў тым, што яна была „шкоднаю і проціўрадавага кірунку“ [1]).

5. Аляксандра Квіцінская, таксама настаўніца, характарызуецца як „асоба хітрая і спрытная“ [2]). Яна давала прыватныя лекцыі ў прыватных дамох і там мела дачыненьні „з рознымі ненадзейнымі ў політычным стасунку асобамі“ [3]). Прычым у сваіх занятках з моладзьдзю і падлеткамі яна няпрыкметна прышчапляе „проціўрадавыя пераконаньні“ ды кірунак [4]). Як бачым, абвінавачаньне Квіцінскай абапіраецца выключна на агентурных даных.

6, 7 і 8. Вучні гімназіі: Яўгень Сафронаў, Віктар Зубоўскі і Васіль Война-Ясенецкі водзяць знаёмства з людзьмі „ў політычных адносінах ненадзейнымі“ [5]). Галоўным абвінавальнікам іх зьяўляецца, аднак, не агентурная провокацыйная сводка, але дырэктар гімназіі, які кажа: „Яны самага шкоднага кірунку і заражаюць гэтым другіх выхаванцаў... іх трэба выключыць, каб ня было шкоды для другіх вучняў [6]).

9. Гаркаві Гірша, былы вучань гімназіі, сын даволі багатага купца, які гандляваў віном. Паводле агентурных вестак, Гаркаві быў вандроўнай поштай, якая перадае сябром партыі розныя патрэбныя весткі“ [7]). Прычым яго лічаць за галоўнага пропагандыстага сярод яўрэйскай моладзі.

10 і 11. Галена Фэцісава, нарадж. Езерская, жонка інспэктара гімназіі, і Мілюціна Жозэфіна, жонка рэвізора палаты, апошні сам быў „мало-благонадежный“. „Жонкі іх дужа крайніх поглядаў і рашучыя, актыўныя нігілісткі“ [8]).

12. Андрэеў Іван, сын падрадчыка, які знаходзіўся ў Магілеве на паруках бацькі, прыцягнуты быў да адказнасьці за студэнцкі рух. Меў зносіны з вуч. Яўгенем Сафронавым і Марыляй Паўлоўскай, якая, скончыўшы гімназію ў Магілеве, паехала вучыцца ў Пецярбург і была там арыштавана.

13. Ня гледзячы на тое, што пакарана была і нейкая Шэйна Шур, вестак аб яе працы ніякіх няма, нават і прозьвішча яе не знаходзім і ў сьпісе ўдзельнікаў гуртка, зьмешчаным намі вышэй.

14. Таксама маем толькі прозьвішча ў сьпісу членаў гуртка Браніслава Мачульскага, але больш нічога аб ім даведацца ня можам, пакараны, аднак, як пабачым, быў і ён.

---

[1]) Д. 222, л. 56.
[2]) Ibid., л. 57.
[3]) Ibid., л. 57.
[4]) Ibid., л. 57.
[5]) Ibid., л. 58.
[6]) Ibid., л. 58.
[7]) Ibid., л. 58.
[8]) Ibid., л. 221.

15. Цяпер нам трэ' больш падрабязна спыніцца на біографіі ды чыннасьці Сьцяпана Езерскага [1]). Знайсьці біографічныя даныя аб Езерскім і нават аб ролі яго ў гуртку даволі цяжка. У справе маем дзьве зусім амаль процілеглыя ўрадовыя думкі аб ім ды яго жыцьці. Якім даваць веры, трэба вырашыць, галоўным чынам, у тых мясцох, дзе яны выразна супярэчныя. Разгледзім справу аб Езерскім спачатку ў агульным нарысе. Калі выявілася справа Магілеўскага гуртка, паводле данясеньня губарнатара, галоўным кіраўніком зьяўляўся С. Езерскі, ня гледзячы на тое, што арыштаваны быў Грыгор'еў. Жандарскія весткі толькі нібы пад прымусам далучаюцца да данясеньня губарнатара, і таму ёсьць думка аб тым, што жандары пакрывалі чыннасьць Езерскага. Цікавай зьяўляецца тут рэзолюцыя шэфа жандараў на данясеньні жандарскага палкоўніка Папова, дзе ён пяе ўжо ў адзін тон з губарнатарам аб удзеле ў гутарку Езерскага: „Папоў вельмі перасьледуе памяць Езерскага, але гэтым ён даводзіць аб сваёй недапушчальнай бязуважнасьці ў мінулым часе“ [2]). Гэтак піша шэф жандараў 4 чэрвеня 1879 г. У пачатку 1881 г. думкі толькі што рэорганізаванага III аддзяленьня аб Езерскім зусім іншыя. Спраўка аб ім [3]) стараецца абвергнуць довады губарнатара і давесьці, што Езерскі ня толькі ня прымаў удзелу ў працы гуртка, але што ён, наадварот, быў заўсёды лойяльным у стасунку да ўраду, нават тады, калі яшчэ быў студэнтам. Вытлумачыць гэта аўтар артыкулу не бярэцца, бо гаварыць а подкупе ў Цэнтр. канцэлярыі—нельга.

Вось агульныя даныя. Паколькі з біографіяй Сьцяпана Езерскага зьвязана блізка чыннасьць вялікага рэволюцыянэра канца 60-х гадоў Сяргея Генадзіевіча Нячаева [4]), дык лічым за патрэбнае больш падрабязна разгледзець біографію Сьцяпана Езерскага.

Весткі, якія дае аб ім губарнатар, наступныя.

Нарадзіўся Езерскі ў 1849 г. Вучыўся спачатку ў вучылішчы „Правоведения“, адкуль быў выключаны „за недобропорядочный образ мыс-

---

[1]) Аб С. Езерскім і яго сям'і ў беларускай літаратуры ёсьць успаміны ў артыкулах 1) А. Бонч-Асмалоўскага „Лібэральна-опозыцыйны рух на Беларусі“, Зборнік „Беларусь“ Менск, 1924 г.; 2) А. Зіміонка „Соцыялістычны рух на Беларусі—II“, артыя Соціялыстых: рэволюцыянэраў. Тамсама.

[2]) Ibid., л. 52.

[3]) Падрыхтаваная дэпартамантам паліцыі, рэорганізаваным з III аддзяленьня ў сувязі з просьбай сваякоў Езерскага вярнуць яго са ссылкі.

[4]) Гл. аб Нячаеве С. Г. кніжку А. Гамбарава „В спорах о Нечаеве“. Выд. „Московский Рабочий“. 1926 г., дзе аўтар даводзіць, што Нячаеў першы зразумеў будучую ролю рабочае клясы ў рэволюцыі. Гамбараў дае такую характарыстыку гістарычнага значэньня Нячаева: „Толькі ў асобе Нячаева, які выступіў на арэну ў канцы 60-х гадоў, гісторыя ўпяршыню магла бачыць выразнага прадстаўніка рэволюцыйнай барацьбы, якая вызначылася ў выніку клясавага расслаеньня расійскага грамадзтва пад уплывам росту буржуазна-капіталістычных узаемаадносін. Сваім жыцьцём і чыннасьцю Нячаеў упяршыню правёў факт непрымірымай палітычнай барацьбы з царскім урадам і маладой расійскай буржуазіяй, якая ўжо аформлялася палітычна, ст. 72.

лей“ [1]). Пазьней быў выключаны з Пецярбурскага унівэрсытэту за студэнцкі рух у 1868 г. У красавіку 1869 г. высланы ў Магілеў пад нагляд паліцыі. Гэты нагляд скончыўся толькі ў 1873 г., згодна загаду шэфа жандараў. У 1875 г. за „неблагонадежность“ ён быў зволынены з канцэлярыі губарнатара. У жніўні 1878 г. ён быў звольнены з канцэлярыі губэрскага маршалка, дзе працаваў пасьля звальненьня з канцэлярыі губарнатара. Звольнены ён быў за тое, што на вечарыне, якую Езерскі арганізаваў з мэтай дапамогі вучням, ён „з самым агідным азартам ды мінай прасьпяваў вершы Бэранжэ „Да зброі“ [2]). Гэта здарылася хутка пасьля забойства жандарскага шэфа Мезенцава. Паведамленьне аб замаху Салаўёва на Аляксандра II 2 красавіка 1879 г. агалошана было ў тэатры. І. Езерскі, калі сьпявалі гімн, вышаў у буфэт і ўвесь вечар разам з Мілюцінным піў у гасьцініцы за здароўе „апошняга“, гэтак значыць цара.

Езерскі відаць быў росту вышэй сярэдняга, твар меў прадоўжны, валасы русыя, коратка абстрыжаныя, рэдкую бараду. Вочы шэрыя ды вялікія, рухі парыўчата хуткія. Да гэтага далучаецца характарыстыка яго чыннасьці ў Магілеве: разьвіты, хітры ды спрытны, дужа папулярны сярод вучняў... і моладзі, на якую мае вялізарны ўплыў... У сваіх развважаньнях дужа нявытрыманы, грубіян, а часам і нахабны, галоўным чынам, калі ідзе справа аб урадзе [3]).

У сваёй заяве на імя шэфа жандараў генарала Дрэнтэльна Езерскі таксама дае характарыстыку аб сабе, прычым зазначае, што хаця яму і невядома, чаму яго ссылаюць, але ён думае, што дзякуючы варожасьці з боку губарнатарскай улады, бо ён крытыкаваў яе чыннасьць і „кумаўство“, „віцэ-губарнатар К. Н. Гортынскі, гарадзкі галава Г. Н. Гортынскі, дырэктар банку Г. Н. Гортынскі“ [4]). Аб сваёй чыннасьці Езерскі, пералічыўшы ўсе свае гаспадарчыя дасягненьні ды грамадзкія абавязкі (гла́сны думы), ён робіць такі вывад: „Я лічу сябе ў складзе тых членаў расійскай зямлі, якіх ня толькі ня трэба адрываць ад народнай гаспадаркі, роднага месца, але трэба прыцягваць да дзяржаўнай і грамадзкай чыннасьці“ [5]). Заява была напісана з такой перакана́льнасьцю, што Дрэнтэльн налажыў рэзолюцыю: „Мне цяжка гэта чытаць. Калі няма пэўных фактаў, дык нельга не згадзіцца з магчымасьцю памылкі, трэба накіраваць для прачытаньняў МУС“ (Міністэрства Ўнутраных Спраў) [6]).

Трэба адзначыць, што Езерскі некалькі разоў у сваёй заяве кажа, што ён жыве ў Магілеве 8 год, г. зн., што ён з Пецярбургу зусім выехаў толькі ў 1871 г. Гэтая дата нам будзе патрэбна.

---

[1]) Ibid., л. 18.
[2]) Дело 222, л. 17.
[3]) Ibid., л. 56.
[4]) Ibid., л. 34.
[5]) Ibid., л. 45.
[6]) Ibid., л. 45.

Цяпер пераходзім да апошніх вестак аб Езерскім, якія маюцца ў жандарскай даведцы, зложанай паводле загаду шэфа на пачатку 1881 году ў сувязі з просьбамі сваякоў Езерскага вярнуць яго ў Магілеў.

Даведка напісана ў дужа прыхільным для Езерскага тоне. Разгледзім факты па парадку.

Звальненьне Езерскага з вучылішча „Правоведения" тлумачыцца тым, што Езерскі паслухаўся ласкавых слоў куратара прынца Ольдэнбурскага і выказаўся супроць парадкаў інспэктара, які пасадзіў у карцар вучня за нейкія невялікія непарадкі ў вучылішчы. Пазьней ужо хто што ні зробіць, лічылі, што гэта зрабіў Езерскі, і, урэшце, яго звольнілі. Тлумачэньне, як бачым, сшыта белымі ніткамі на карысьць С. Езерскага.

У сувязі з важнасьцю далейшых фактаў бярэм цэлы абзац: „Пазьней Сьцяпан Езерскі быў у С. Пецярбурскім імпэратарскім унівэрсытэце; у гэты час здарыліся нячаеўскія непарадкі. Студэнты падзяліліся на дзьве партыі, на чале адной—Нячаеў, кірунак гэтай партыі, занадта вядомы. На чале партыі процілежнага характару, г. зн супраць нячаеўскай партыі, апынуўся той-жа самы Сьцяпан Езерскі. Ён у той час стрымаў і выратаваў не адну сотню студэнтаў ад захапленьня, рызыкуючы быць забітым, як студэнт Іваноў, нячаеўскай партыяй. Ён, ратуючы студэнтаў, узяўся ад імя студэнтаў падаць заяву рэктару С.-Пецярбурскага імпэратарскага унівэрсытэту. Але начальства унівэрсытэту, ня ведаўшы аб існаваньні дзьвёх партый і двух процілежных кірункаў сярод студэнтаў, выключыла Езерскага з С.-Пецярбурскага унівэрсытэту, забараніўшы яму паступіць у які-небудзь другі унівэрсытэт. Толькі тады, калі пачалася нячаеўская справа, калі разам з другімі студэнтамі быў арыштаваны Сьцяпан Езерскі і пры больш пільным разглядзе справы былі выяўлены два кірункі студэнтаў, дзьве цалком процілежныя партыі, толькі тады Езерскі ня быў адданы суду, але звольнены, як чалавек, які ня меў дачыненьня і быў супроць нячаеўскай партыі; усе асобы, належаўшыя да яго партыі, звольненыя і нават адданыя суду, у сваё апраўданьне спасылаліся на знаёмства з Сьцяпанам Езерскім. Пра ўсё гэта маюцца самыя падрабязныя весткі і дакуманты ў справах б. III аддзяленьня ўласнай яго імпэратарскага вялічаства канцэлярыі.

Пасьля гэтага з 1866 г. на працягу 12 год Сьцяпан Езерскі зусім ціха жыў у горадзе Магілеве—аж да стрэлу 2 сакавіка 1879 г. [1]).

Каб уразумець дзьве ўрадовыя даведкі аб Езерскім (адна губарнатару і жандару, паданая вышэй, а другая гэта), з якіх першая нібы супярэчыць другой, мы зьвернемся да другіх даных, да ўспамінаў аб тых падзеях, успамінаў, напісаных удзельнікамі тагочаснага рэволюцыйнага руху.

Па-першае, трэба спросьціць хронолёгію, якую мы маем у толькі што паданай даведцы. С. Езерскі, паводле гэтай даведкі, зусім пера-

---

[1]) Д. 222, л. 196. 197, 198.

ехаў у Магілеў у 1866 г. Гэта дата зусім няправільная, бо нячаеўскі рух, як вядома, прыпадае на 1868-69 г. г. Таму за правільны трэба лічыць факт, паданы губарнатарам, што Езерскі быў высланы ў Магілеў пад нагляд паліцыі ў красавіку 1869 г. Гэта дата супадае з толькішто паданай даведкай аб тым, што С. Езерскі быў звольнены з унівэрсытэту да кары сьмерцю провокатара Іванова, г. зн. у пачатку 1869 г. Як толькі пачаліся арышты па нячаеўскай справе, дык быў арыштаваны і Езерскі. Звольнены ён быў толькі паводле пастановы суду ўлетку 1871 г. Гэта дата канчатковага пасяленьня Езерскага (1871 г.) супадае з тэй датай, якую ён сам падае ў заяве—8 год, што прайшлі да яго высылкі ў 1879 г., а не 12 год, як сьцьвярджае апошняя даведка. Прычым трэба адзначыць, што ў 1871 г. ён таксама быў сасланы пад нагляд паліцыі і пад гэтым наглядам знаходзіўся да 1873 г.

У стасунку да хронолёгіі ды характарыстыкі чыннасьці Езерскага больш праўдзівыя весткі, як бачым, падае даведка генэрал-губарнатара 1879 г., чым дэпартамант паліцыі ў 1881 г.

Каб канчаткова выявіць, чым зьяўляўся Езерскі, як ён ставіўся да вялікага рэволюцыянэра С. Нячаева, трэба прыняць пад увагу наступныя падзеі таго часу:

1. У 1867-68 г. г. быў недарод у 9-ці цэнтральных губэрнях, і таму экономічны стан студэнцтва пагоршыўся. У зьвязку з гэтым экономічныя пытаньні, як касы ўзаемадапамогі, сталоўкі, высуваюцца на першы плян. Урад варожа паглядзеў нават на гэту форму самаорганізацыі студэнцтва, палічыў організацыю сталовак за крамольную справу і пачаў прыбіраць студэнцтва да сваіх рук. У вышэйшых навучальных установах пачынаюць вучыць вайсковай справе; гэта пачалося з Мэдыка-хірургічнай акадэміі. Нездаволеньне сярод студэнцтва пашыралася і ахапіла ня толькі Мэдычную акадэмію, але Унівэрсытэт, Лясны Інстытут і Тэхнолёгічны Інстытут. Усё студэнцтва пастанавіла дружна протэставаць супроць вымаганьняў ураду і выставіла патрабаваньні „легалізацыі сходак студэнцкіх сталовак і касы ўзаемадапамогі“ [1]).

Сяргей Нячаеў у гэты час, як і Сьцяпан Езерскі, быў студэнтам Пецярбурскага унівэрсытэту. Для большасьці студэнцтва палітычныя пытаньні ня былі на першым пляне, яно хацела абмежавацца толькі пытаньнямі акадэмічнага характару, студэнцтва падзялілася на дзьве ўзаемна варожыя групы. Адна з іх, на чале якой стаяў студэнт Езерскі і якую не бяз рацыі называлі „консэрватыўнай партыяй“, заклікала студэнцтва ўстрымацца ад палітычных выступленьняў і абмежавацца толькі пытаньнямі акадэмічнага жыцьця. Група Езерскага больш за ўсё баялася, што ў выніку паўстаўшага руху большасьць студэнцтва будзе звольнена і выслана з Пецярбургу на бацькаўшчыну.

[1]) Гамбаров. „В спорах о Нечаеве“ 1926 г., стар. 82.

Наадварот, другая так званая „радыкальная партыя“, якая была значна меншая, дамагалася захаваньня ўсіх акадэмічных льгот: сталовых, кас, разьмеркаваньня падмогі не начальствам, але самімі студэнтамі; пашырэньня правіл прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы для жанчын ды сэмінарыстых, доступ якім туды быў урадам забаронены.

„Радыкальная“ група пытаньне аб высылцы студэнтаў ставіла ня так востра [1]).

Нячаева ніводная група не здаволіла. Ён, праўда, горача бараніў патрабаваньні „радыкалаў“, аднак высуваў зусім іншыя пытаньні, і калі бачыў студэнта, які выяўляў шмат палітычнай актыўнасьці, дык стараўся ўцягнуць яго ў існаваўшы ўжо палітычны гурток.

2. Частка так званай „радыкальнай“ моладзі канца 60-х гадоў, у сувязі з клясавай дыфэрэнцыяцыяй вучнёўскай моладзі, запазычыла ў Чэрнышэўскага адкінутую ім самім тэорыю аб расійскай абшчыне, а ад Пісарава, не зразумеўшы яго кірунку, высунула грамадзка-этычны кірунак.

Як і сапраўды рэволюцыйная моладзь таго часу, яны называлі сябе „нігілістымі“, але былі па сутнасьці даволі мірна настроенымі людзьмі. Сярод моладзі такога кірунку пераважала імкненьне, якое ставіла перад сабой не задачы рэволюцыйнай барацьбы, але сваё асабістае моральна-этычнае разьвіцьцё.

3. Тое самае мы знаходзім аб адносінах да рашучых мерапрыемстваў С. Нячаева сучаснай яму моладзі і ва ўспамінах О. В. Аптэкмана: „Маса моладзі ўцалку зусім тады ня была рэволюцыйна настроенай, а таму заклікі да рэволюцыі, змовы ды інш. палохалі яе і далёка адкінулі яе ад рэволюцыйнага шляху на шлях мірнай працы... Я глядзеў на „нячаеўскую справу“, як на шкодную рэволюцыйную спробу таго часу, як на забароненую рэволюцыйную спробу, і лічыў яго цяжкім эпізодам у нашай гісторыі рэволюцыйнага руху, і дагэтуль я трымаюся свайго погляду“ [2]).

4. Гісторыя падае нам весткі аб некалькіх ворагах С. Нячаева. На першым месцы стаіць студэнт Негрескул, „страшны вораг С. Нячаева“ [3]) М. А. Натансон, выдатны зямляволец, таксама рашуча змагаўся супроць С. Нячаева. Ва ўспамінах ён кажа: „Я выкрываў яго шкодную злосную агітацыю“ [4]). З вышэйпаданага відаць, што ворагам яго ў унівэрсытэцкім жыцьці быў і С. Езерскі.

З усяго, што мы выявілі, у сувязі з канечнай патрэбай зразумець даведку дэпартаманту паліцыі аб С. Езерскім, выразна выступае яго характар ды ідэолёгія.

Бясспрэчна, С. Езерскі быў рэволюцыйна-народніцка настроены і кіраваў студэнцкім рухам унівэрсытэту ў канцы 60-х г. г. Тое, што ён

[1]) Гамбаров. „В спорах о Нечаеве“, 1926 г., стар. 82.
[2]) О. В. Аптекман. — „Общество Земля и Воля“, стар. 60.
[3]) Гамбаров, ibid., стар. 19.
[4]) О. В. Аптекман в. с., стар. 68.

выступаў супроць С. Нячаева, не зьмяншае яго гістарычнага значэньня. Усе народнікі па дробна-буржуазнай сутнасьці не маглі лічыць Нячаева за свайго"[1]). Прыкладам гэтага зьяўляюцца адносіны да С. Нячаева Аптэкмана, Натансона ды інш.

Ня гледзячы на прыналежнасьць яго да „консэрватыўнай партыі", яго ўсё-ткі звольнілі з унівэрсытэту і выслалі на бацькаўшчыну пад нагляд паліцыі. Консэрватыўная партыя ўсё-ж такі зьяўлялася партыяй, якая выступала супроць ураду.

Тое, што Езерскага звольнілі па суду над Нячаевым, і тлумачыцца тым, што ўрад нікога з рэвалюцыянэраў 60-х г. г. так не баяўся і нікога так пільна ня шукаў па-за межамі Расіі, як С. Нячаева, і таму, бясспрэчна, усе, хто па той ці іншай прычыне ваража адносіўся да Нячаева, былі для ўраду ў часе процэсу personae gratae. Аднак і пасьля суду С. Езерскі быў пад паліцэйскім наглядам яшчэ 2 гады.

С. Езерскі—нігілісты канца 60-х гадоў. Да якога кірунку ён належыць, да рэволюцыйнага ці да „радыкальнага", г. зн. кірунку грамадзка-этычнага? (Гэтыя кірункі мы высьветлілі вышэй у пункце 2-ім). Адна думка з яго заявы нібы і дае нам магчымасьць залічыць яго да „радыкальнага" кірунку і да нігілізму ў двукосьсі,—аднак, трэба памятаць, што гэта заява чалавека засуджанага, дзе ён можа, з мэтай абараніць сябе, выказваць і такія думкі, якія не зьяўляюцца яго ўласнымі думкамі, але могуць, паводле яго пераканаеньня, дапамагчы яму. Думка гэта наступная: „Галоўная рыса маіх пераконаньняў і самая яркая рыса" ўсіх маіх адносін да людзей ёсьць хрысьціянскае чалавекалюбства, якое вынікае з глыбокае павагі ды адданасьці евангельлю „господа нашего Исуса христа"[2]).

Мо' гэтая думка зьяўляецца выяўленьнем асабістага моральна-этычнага разьвіцьця, перакладзенага на мову, зразумелую III аддзяленьню, сказаць цяжка. 8 год спакойнай працы ў канцылярыі губарнатара ды маршалка, гаспадарча-спэкулятыўныя імкненьні, грамадзкая праца ў гарадзкой думе, пэўна, зрабіла сваё. С. Езерскі, гарачы трыбун-організатар студэнцкай моладзі, трыбун не абы-які, бо мог уплывам памерыцца з вялікай сілай С. Нячаева, у 1869 г. ўжо пэўна ня тое, што Езерскі ў 1879 г. „гласный думы и колежский секретарь".

Усё-ж такі канчаткова пазбавіцца сваіх студэнцкіх думак ён ня мог. Езерскі блізка стаіць да гуртка ў Магілеве. На яго фэрме працуе Ф. Грыгор'еў, ён дапамагае гуртку атрымліваць літаратуру. Бясспрэчна, С. Езерскі быў у Магілеўскім гуртку самай падрыхтаванай асобай у справе разуменьня палітычнай сытуацыі. А працы С. Езерскага ў гуртку жандарскі палкоўнік Папоў кажа так: „На падставе агентурных сьвед-

[1]) А. Гамбаров. в. с. стар. 7.

[2]) Д. 222, л. 43.

чаньняў, я прышоў да вываду, што Езерскі зьяўляецца адным з галоўных дзеячоў пропагандыстых у Магілеве і кіруе ўсімі другімі“ [1]).

Агляд біографічных даных аб Езерскім крыху адхіліў нас ад Магілеўскага гуртка. З другога боку, гэта біографія выявіла, што ў гуртку былі сілы, якія разумелі падзеі ды маглі кіраваць грамадзкай проціўрадовай думкай у тыя часы ў Магілеве. Зразумела, што ўрад ня мог пагадзіцца з такім становішчам, і ўдзельнікі гурткоў былі высланы. На падставе пастановы Міністэрства ўнутраных спраў за 10 чэрвеня 1879 г. № 2604, Езерскага і Тэрэзію Война-Ясенецкую саслалі ў Архангельскую губэрню. Аляксандру Квіцінскую і Яўгеня Сафронава—у Валагодзкую губэрню, Браніслава Мачульскага і Гірша Гаркаві—у Вяцкую губэрню. Усе другія, зьмешчаныя ў сьпісах, паданых вышэй, адданы пад сакрэтны нагляд паліцыі.

Калі С. Езерскага паведамілі, што ён высылаецца ў Архангельскую губэрню, дык ён адказаў: „что-ж делать, Россия большой постоялый двор, ну, и поедем“. А ў другі раз сказаў: „теперь поеду на казенный счет, познакомлюсь с северной окраиной России“ [2]).

Міністэрства ўнутраных спраў дамагалася высылкі ўсяе сям‘і Езерскіх [3]), аднак, толькі брат яго Давід быў высланы з Магілеўскай губэрні і адданы на-парукі другога брата, жыўшага ў Пецярбургу.

Сястру С. Езерскага Галену Фэцісаву 7 ліпня выслалі ў Кастрамскую губэрню [4]).

15 ліпня г. г. Піліп Грыгор‘еў быў высланы пад нагляд паліцыі ў Архангельскую губэрню [5]).

Рэвізор Мілюцін быў „перемещан по службе“ ў Астраханскую губэрню, а жонка яго выслана ў тую-ж губэрню пад нагляд паліцыі [6]).

Куды высланы Іван Андрэеў і Шэйна Шур—у справе вестак няма.

Давід Ахіезер і былы гімназіст Аляксандар Радзевіч былі адданы пад яўны нагляд паліцыі. У паданых намі сьпісках усіх гэтых апошніх чатырох прозьвішчаў, г. зн. Андрэева, Шур, Ахіезера і Радзевіча—няма.

Чыннасьць іх была выяўлена толькі ў сьледзтве, пакараны-ж яны, аднак, як бачым, былі больш за тых, хто ёсьць у сьпісах.

Дзякуючы просьбам сваякоў, ды яшчэ тэй даведцы, якую мы вышэй цытавалі, С. Езерскаму дазволілі вярнуцца у Магілеў. Прыехаў ён туды 25 лютага 1881 г., аб яго прыезьдзе 27 лютага жандар даносіць. Шчасьце, што Езерскаму ўдалося вярнуцца на некалькі дзён раней, чым здарылася забойства Аляксандра II, 1 сакавіка 1881 г. Тады ўжо не ўдало-

1) Д. 222, л. 26.
2) Ibid., л. 90.
3) Ibid., л. 97.
4) Ibid., л. 91.
5) Ibid., л. 82.
6) Ibid., л. 103.

ся-б яму вярнуцца, прынамсі некалькі гадоў яшчэ дасьледваў-бы „северные окраины России“.

Падагульняючы даныя аб Магілеўскім гуртку, трэба адзначыць, што гурток, бясспрэчна, народніцкі—эпохі „Земли и Воли“. Апрача літаратуры, якая пашырана была ў гуртку, мы бачым там і „хождение в народ“, якое практыкаваў самы адданы народніцкім ідэям Піліп Грыгор'еў. Народніцтва гуртка цалком агульна расійскага кірунку, без якога-б то ні было мясцовага адценьня.

## Горацкі гурток

З агентурных даных [1]) выявілася, што ў Горацкім зямляробчым вучылішчы распаўсюджвацца рэвалюцыйная літаратура. Прычым рэвалюцыйны настрой так захапіў некаторых вучняў, што адзін з іх, Эдмунд Францаў Акушка, калі ў агульнай залі сабраліся былі вучні, пеўшыя гімн з акомпанімэнтам музыкі з поваду імянін насьледніка, убег у залю і „дзерзко выразился па поваду исполнения гимна“ [2]).

Распачатае сьледзтва выявіла наступнае: Эдмунд Акушка распаўсюджваў кнігі рэволюцыйнага зьместу, прычым пры обыску ў яго знойдзены кнігі: 1) „Из-за решетки“, зборнік вершаў расійскіх палітычных вязьняў з пэрыоду 1873—1877 г. г., 2) Работник—1877 г. [3]). Апошняя кніжка была зашыта і падрыхтована да адпраўкі ў Сувалкі, сакратару Сувалскага акруговага суду Сьнесарэўскаму. Пасылаў кнігі брат Сьнесарэўскага Міхайла, які скончыў Горацкія таксатарскія курсы. У чыннасьці гуртка прымалі ўдзел Мікола Лукіч Выржыкоўскі, б. вучань Горацкага рамесьніцкага вучылішча, і студэнт С.-Пецярбурскага унівэрсытэту, б. вучань Віцебскай гімназіі, Павал Іваноў і Мікола Русакоў, б. вучань Магілеўскай гімназіі. Пра апошняга мы гаварылі ўжо, калі казалі аб Магілеўскім гуртку.

У пачатку чэрвеня 1879 г. М. Выржыкоўскі атрымаў ад Эдмунда Акушка з Магілева скрынку з кнігамі. 18-VI ён гэтыя кнігі пераслаў у Віцебск на імя Іванова. Кнігі былі наступныя: 1) Творы Ласаля, 1 і 2 томы, 2) Палітычная экономія Міля з увагамі Чэрнышэўскага, I і II часткі, 3) 5 нумароў газэты „Земля и Воля“, 4) Газэта „Вперед“ каля 35 нумароў, 5) Жанчыны-рэволюцыянэры—Шлюсэра, 6) Азбука соцыяльных навук—Фляроўскага.

Кірунак і мэты працы гэтага гуртка жандар азначае як жаданьне разьвіць у народзе соцыяльна-рэволюцыйныя ідэі, а таксама распаўсюдзіць кнігі забароненага зьместу“ [4]).

---

[1]) Дело 3-го отделения собст. его императ. величества канцелярии, экспедиции 3, № 531. 1879 г. О распространении между учениками Горецкого земледельческого училища запрещенных книг, л. 1.

[2]) Ibid, л. 1.

[3]) Ibid, л. 19.

[4]) Ibid, л. 19.

К таму часу ў Горках Выржыкоўскага ўжо ня было, ён паехаў да свайго бацькі маёра ў Пскоў. У часе вобыску ў яго знайшлі шмат лістоў, якія выявілі яго рэволюцыйную чыннасьць у ранейшыя часы. Арыштаваны спачатку Выржыкоўскі таіўся, але пазьней „раскаяўся“. Якім было гэта „раскаяньне“, сказаць цяжка, бо ў справе ёсьць такія весткі аб здароўі Выржыкоўскага, што ставяць пад пытаньне яго „добраахвотныя“ паказаньні. Арыштаваны ён быў у канцы верасьня, а 10 кастрычніка мы маем: „Здароўе Выржыкоўскага настолькі паправілася, што яго ўжо можна зноў дапытваць“ [1]). На працягу менш чым двух тыдняў ён і не даваў паказаньняў; пазьней даў і адначасна так цяжка „хварэў“, што нельга было яго дапытваць. Адзначаныя паказаньні Выржыкоўскага якраз супадаюць з часам яго хваробы.

Згодна паказаньняў Выржыкоўскага, у Пскове ў 1873—76 г. г. быў гурток моладзі, якім кіравалі студэнты, прыяжджаўшыя з Пецярбургу. Загітаваны і распропагандаваны літаратурай, Выржыкоўскі дайшоў да пераконаньня, што яго рэволюцыйная чыннасьць павінна мець „на мэце— дабро народу ня толькі расійскага, але і ўсяго цывілізаванага сьвету. За сродак лічылася соцыяльная рэволюцыя, г. зн. поўны пераварот у палітычных, экономічных ды бытавых адносінах, кожны „пераконаны“ павінен быў імкнуцца ў *масы сялянства—зямляробскую або фабрычную* (падкрэсьлена намі. *Я. В.*) і пропагандаваць сялянству недасканаласьць дзяржаўнага ладу і грамадзтва, паказаць прычыны гэтага і пераконваць, што палепшаньня дабіцца інакш нельга, як толькі шляхам эўропэйскай рэволюцыі“ [2]). Выржыкоўскі лічыць, што гэтыя погляды ён набыў дзякуючы „някрытычнаму падыходу да чытанай літаратуры“.

З характарыстыкі погляду Выржыкоўскага бачым яскрава выяўленае народніцтва, якое і на рабочую клясу глядзіць, як на фабрычнае сялянства. У гуртку прымалі ўдзел і былі ў сувязі з Выржыкоўскім 12 асоб; прозьвішчы іх ці Выржыкоўскі сказаў, ці аб іх даведаліся з перапіскі з імі. Вось яны:

Васіль Ніжагародцаў, Вінцэнты Лаўчаноўскі, Леанід Пятроў Ардамацкі, Адэляіда Вікенцеўна Кавалеўская, Адэляіда Францаўна Кавалеўская, Аляксандра і Барбара Паўлаўны Раткоўскія, Міхайла Дзьмітраў Андрэяў, Аляксей Знаменскі, Конусаў, Анісім Жукоўскі, Мікола Іванаў Крылоў.

З-за сваіх поглядаў у 1874 г. Выржыкоўскі, Лаўчаноўскі і Ардамацкі пакінулі гімназію і пачалі вучыцца: Выржыкоўскі—на стальмаха, Лаўчаноўскі—за шаўца і Ардамацкі—за каваля.

У канцы кастрычніка 1875 г. яны пастанавілі пайсьці „ў народ“ у Кацярынаслаўскую губэрню. Выржыкоўскага бацька ня пусьціў, а таварышы яго пашлі. Там іх злавілі, і Ардамацкага саслалі ў Архангельск.

Выржыкоўскі-ж паступіў вучыцца ў Горацкае рамесьленае вучылішча.

---

[1]) Ibid., л. 11.
[2]) Ibid., л. 6.

Аб далейшай яго чыннасьці і аб зьмене яго поглядаў жандар у 1876 годзе дае свайму шэфу такое тлумачэньне: „З гэтага паказаньня, Ваша Прэвасхадзіцельства, вы можаце ўбачыць, што, ня гледзячы на зьмену поглядаў Выржыкоўскага, што сталася ў 1876 г., ён у палове чэрвеня 1879 г., зьвязаўшыся бліжэй з выхаванцамі горацкіх вучылішч: зямляробскага, каморніцка-таксатарскага, зноў пачаў прапагандаваць, атрымліваючы ды рассылаючы кнігі ня толькі ў Горках, але і вучням Віцебскай гімназіі“ [1]).

Іначай кажучы, жандары не паверылі паказаньню Выржыкоўскага.

23 лістапада справа Горацкага гуртка вырашана была „Высочайшим повелением“ у адміністрацыйным парадку. Эдмунд Акушка і М. Выржыкоўскі былі пакараны на тэрмін, які ўжо дагэтуль адседзелі ў турме. Апрача гэтага, яны былі адданы пад яўны паліцэйскі нагляд на 2 гады „з забаронай у часе гэтага тэрміну жыць у сталіцах і адлучацца без дазволу губэрскага начальства“ [2]).

Сувязь гуртка з Магілеўскім гуртком, пра чыннасьць якога мы ўжо казалі, як пра цалком народніцкую, кіраўніцтва гуртком М. Выржыкоўскім, выхаванцам 1873—75 гадоў, гадоў самага вялікага ўздыму „хаджэньня ў народ“—даводзяць, што сярод удзельнікаў гуртка і вучняў Горы-Горак быў пашыраны кірунак агульна-расійскага народніцтва часоў „Земли и Воли“. Гурток выразна ня быў афармлены, але народніцкія думкі ды рэволюцыйныя настроі пашыраліся групаю больш рэволюцыйных вучняў сярод вучнёўскай моладзі.

Прычым трэба адзначыць, што з Горы-Горак пасылалі рэволюцыйную літаратуру і ў Віцебск, дзе павінен быў таксама быць гурток, ці, прынамсі, рэволюцый на настроеныя асобы, якія мелі сувязь з народніцтвам.

### Віленскі гурток

Паведамленьне аб Віленскім гуртку ў Пецярбург у III аддзяленьне паслана было Віленскім генарал-губарнатарам 12 красавіка 1875 г. [3]), а таксама і начальнікам Віленскае губэрскае жандарскае ўправы, толькі ўжо на тры дні пазьней, а менавіта, 15 красавіка [4]). На падставе гэтых 2 паведамленьняў чыннасьць гуртка выяўляецца даволі падрабязна.

Пачаткам выкрыцьця гуртка трэба лічыць факт адабраньня дырэктарам Віленскага рэальнага вучылішча кнігі ад вучня Цэзара Вітарта, брата чыннага ўдзельніка гуртка, пра якога гутарка будзе ў свой час. Гэта было замежнае выданьне часопісу „Вперед“. Цэзар атрымаў яе ад свайго брата Івана для перадачы студэнту С.-Пецярбурскага тэхнолёгіч-

[1]) Ibid., л. 7.
[2]) Ibid, л. 32.
[3]) Дело № 151, 3 отделения, 3-й экспедиции 1875 года. Об образовавшемся в городе Вильне тайном кружке молодых людей, с целью противоправительственной пропаганды. лист 13.
[4]) Ibid. л. 36.

нага інстытуту Івану Савіцкаму. Апошні, у сваю чаргу, папрасіў кніжку перадаць Устыну Ўнароўскаму. Дзякуючы паказаньням вучня Ц. Вітарта, жандары даведаліся аб гуртку і выкрылі некалькі прозьвішчаў яго ўдзельнікаў.

Далейшае дазнаньне выявіла, што сярод моладзі Вільні заснаваўся гурток пад кіраўніцтвам студэнтаў Пецярбурскага тэхнолёгічнага інстытуту: Альфонса Жангаловіча, Івана Савіцкага, Івана Вітарта, б. студэнта Мікалаеўскага інжынэрнага вучылішча Устына Ўнароўскага ды шляхціча Язэпа Грабавецкага. Паводле данясеньня Віленскага генарал-губарнатара, у гуртку было 39 асоб (22 муж. і 17 жанчын) [1], паводле жандармскіх вестак, толькі 34, з іх жанчын 13 [2]). Сьпіс, які падаем, паказвае лічбу 33. Відаць спачатку арыштавана было больш, аднак у працэсе сьледзтва некаторых вызвалілі.

**Сьпіс удзельнікаў Віленскага гуртка.**

| №№ | Імя, імя па бацьку і прозьвішча | Узрост | Дзе знаходзіцца |
|---|---|---|---|
| | I<br>Абвінавачаныя: | | |
| 1 | Былы выхаванец Мікалаеўскага інжынэрнага вучылішча Устын Устынаў Унароўскі . . . . . | 24 | 21 сакавіка арыштаваны і знаходзіцца у Вільні ў 14 цытадэлі. |
| 2 | Дваранін Восіп Леанардаў Грабавецкі . . . . . . . | 25 | 20 сакавіка арышт., знаходз. тамсама. |
| 3 | Дваранін Альфонс Адольфаў Жангаловіч, б. студэнт Пецярбурскага тэхнолёгічнага інстытуту . . . | 21 | 10 красавіка арыштаваны, знаходзіцца тамсама |
| 4 | Студэнт С.-Пецярбурскага тэхнолёгічнага інстытуту Іван Іванаў Вітарт . | 21 | 22 сакавіка арыштаваны, знаходзіцца тамсама. |
| 5 | Студэнт С.-Пецярбурскага тэхнолёгічнага інстытуту Іван Леапольдаў Савіцкі . . . . . . . | 23 | 20 сакавіка арыштаваны, знаходзіцца тамсама |
| 6 | Студэнт С.-Пецярбурскага унівэрсытэту Іосіф Юрэвіч . . . . | | Знаходзіцца ў Пецярбургу. |
| 7 | Дваранін Ціт Людвікаў Скіндэр. . | 24 | „ „ Вільні. |
| 8 | Дваранка Леакадзія Пажарыйская, нараджэнка Смаляк . . . . . | | „ „ Варшаве. |
| 9 | Дваранка Марыля Іванаўна Станішэўская, нараджэнка Змачынская. . | 20 | „ „ Вільні. |
| 10 | Ванда Іванаўна Змачынская, дачка стацкага саветніка . . . . | 20 | „ „ „ |
| 11 | Галена Матвеева Пржыбыльская . . | 26 | „ „ „ пад наглядам паліцыі |
| 12 | Удава Ванда Войцэхаўна Каравай . | 32 | „ „ „ пад наглядам паліцыі. |
| 13 | Тэрэзія Канстантынаўна Закржэўская . . . . . . . | 22 | „ тамсама. |
| 14 | Адэліна Еўстафіеўна Дырмонт . . | 17 | „ „ |
| 15 | Натальля Кіпрыянаўна Дырмонт . . | 18 | „ „ |
| 16 | Ванда Кіпрыянаўна Дырмонт. . . | 14 | „ „ |

[1]) Дело № 151, л. 14.
[2]) Ibid, л. 37.

| № № | Імя, імя па бацьку і прозьвішча | Узрост | Дзе знаходзіцца |
|---|---|---|---|
| | II<br>Мелі сувязь з гуртком: | | |
| 17 | Дваранін Адам Карповіч . . . | | Невядома дзе. |
| 18 | Дваранін Канстантын Лаўрыновіч . | | Ашмянскі павет. |
| 19 | Ануфры Вікеньцьцеў Пяткевіч . . | | Пецярбург. |
| 20 | Канстантын Карэва . . . . | | Тамсама |
| 21 | Крушэўскі . . . . . . | | У Вільні. |
| 22 | Адстаўны настаўнік Смаляк . . | | " " |
| 23 | Сын Тульскага купца Уланаў . . | | Невядома дзе. |
| 24 | Студэнт С.-Пецярбурскага унівэрсытэту Бэрнард Антонаў Раюнец . | | У Пецярбурзе. |
| 25 | Мікола Жыглінскі . . . . . | | " " |
| 26 | Студэнт мэдычнай акадэміі Фэрдынанд Нарцысаў Букоўскі. . . | | " " |
| 27 | Б. студэнт С.-Пецярбурскага тэхнолёгічнага інстытуту Сьцяпан Гулевіч. | | " " |
| 28 | Дваранін Адам Устынаў Унароўскі . | | У Вільні |
| 29 | Студэнт Аўгустын Руковіч. . . | | " Пецярбурзе. |
| 30 | Ефрасінія Кіпрыянаўна Дырмонт . | | " Вільні. |
| 31 | Браніслава Мільхіёрава Карповіч . | | " " |
| 32 | Дваранка Ясевіч . . . . | | " " |
| 33 | Міхаліна Канстантынаўна Закржэўская | | " " [1]) |

Сьледзтва дазналася аб гуртку наступнае. Яшчэ наглядам паліцыі было выяўлена, што ў кватэрах Леанарда Грабавецкага і Дырмонт зьбіраліся ўдзельнікі гуртка ў ліку ад 5 да 15 асоб [2]).

Далей паказаньні арыштаваных ды вывады ўраду выяўляюць такую чыннасьць гуртка, яго програму і характарыстыку ўдзельнікаў.

Іван Вітарт, раскаяўшыся, дае паказаньняў больш ад усіх. Прычым, як убачым ніжэй, ён выкрывае ўраду ня толькі чыннасьць Віленскага гуртка, але дае падрабязныя весткі аб польскіх ды расійскіх гуртках пры навучальных установах Пецярбургу.

Іван Вітарт паказаў, што ў сьнежні 1873 г. ён даведаўся ад Грабавецкага аб існаваньні ў Вільні бібліотэкі. Організавана яна была, як яму здаецца, па ініцыятыве студэнта Юрэвіча і пры дапамозе Пажарыйскай. Члены плацілі па адным рублі ў месяц. Да бібліотэкі мелі дачыненьне адны толькі жанчыны, як: Пажарыйская, дзьве Грабавецкія, Станішэўская, Наталя і Адэліна Дырмонт, Загурская, Змачынская, Каравай, Закржэўская і Пржыбыльская. Бібліотэка спачатку была на кватэры ў Канстантына Вітарта, а пазьней—у Ванды Каравай, а ў канцы кнігі паразьбіралі члены бібліотэкі.

Гэтыя паказаньні цалкам пацьвердзілі Грабавецкі і Жангаловіч, а часткова—Савіцкі ды Ўнароўскі.

[1]) Ibid., л. 43—45.

[2]) Ibid., л. 36.

Пры бібліотэцы была кніга запісаў членскіх узносаў ды ўдзельнікаў. Мэтай бібліотэкі-гуртка было ўсьведамленьне жанчын у нацыянальным пытаньні, разьвіцьцё іх пэдагогічных ведаў ды крытычнага погляду на рэлігію і навука „светскому приличию“. Апрача ўсяго, мелася на мэце „противодействие“ абрусеньню краю. Для гэтага, а таксама для разумовага разьвіцьця народу маніліся продаць народу танныя выданьні, зьліжаць інтэлігенцыю з народам, арганізавалі касы ашчаднасьці ды пазыкі і розныя асоцыяцыі такога характару. Да зьліжэньня народу з інтэлігенцыяй асабліва імкнуліся Жангаловіч ды Ўнароўскі. Падтрыманьне нацыянальнага духу павінна дапамагаць у будучыні аўтономіі Польшчы [1]).

Абагульваючы паказаньне Вітарта, данясеньне губарнатара дае наступнае: Ён (Вітарт) ня тоіцца, што як ён сам, так і яго прыяцелі не маглі пагадзіцца з існуючым парадкам, станам грамадзтва і народных мас [2]). Восіп Грабавецкі пацьвердзіў, што ў памяшканьні яго бацькі генарал-губэрнатара, адбываліся сходы, дзе, паводле паказаньня яго ў данясеньні, нічога не рабілі, апрача таго, што танцавалі ды чыталі кніжкі прайшоўшыя цэнзуру [3]). Паводле жандарскіх даных, Грабавецкі паказвае больш. Ён называе гурток „працоўнай моладзьдзю“, у горадзе іх завуць „нігілістымі“, пэўна, затое, што ён сам выказваўся супраць бязгрэшнасьці папы, фанатызму ксяндзоў і бажонаў, прычым члены гуртка чыталі антыклерыкальную літаратуру.

Альфрэд Жангаловіч нічога амаль не гаворыць пра чыннасьць гуртка, таксама як Ів. Савіцкі ды Ўстын Унароўскі. Прычым апошні толькі прызнаўся, што кніга „Вперед“, якую знайшлі ў вучня, куплена ім у невядомага чалавека ў аднэй з гасьцініц Вільні.

Другія ўдзельнікі гуртка, як Ціт Скіндэр—шавец і шэраг жанчын—Марыля Станішэўская, Ванда Каравай, Тэрэзія Закржэўская ды інш., не далі ніякіх паказаньняў. Аднак, перапіска выявіла іх вінаватасьць. У Ц. Скіндэра знойдзена пры вобыску 18 брошур аб жыцьці Сташыца.

Для выяўленьня пытаньня, як ўрад характарызаваў чыннасьць гуртка, мы маем перад сабой 6 пунктаў характарыстыкі: тры генарал-губарнатара і тры жандарскія. Па сутнасьці, яны гавораць амаль пра адно і тое і даюць нават менш, чым выяўлена сьледзтвам.

Генарал-губарнатар так ацэньвае гурток: „шкадлівая чыннасьць некалькіх маладых людзей, якія вядуць пропаганду з мэтай нарушыць грамадзкі парадак, выклікаць нездаволеньне супраць ураду“ [4]).

У другім месцы маем: „Гурток меў на мэце распаўсюджаньне ў народзе, паводле іх (удзельнікаў гуртка. *Я. В.*) пераконваньня, здаровых,

[1]) Ibid., л. 37, 38, 39.
[2]) Ibid., л. 18.
[3]) Ibid., л. 17.
[4]) Ibid., л. 13.

а па сутнасьці радыкальных поглядаў на рэлігію, на разьвіцьцё самадзейнасьці жанчын, організацыю грамадзтва і г. д. Разам з тым прадугледжвалася праз падтрыманьне польскай мовы перашкаджаць абрусеньню краю і захаваць польскую нацыянальнасьць“ [1]).

Жандары пра гурток кажуць наступнае: „Патаемны гурток, які распаўсюджвае вучэньне аб няпрызнаньні рэлігіі ды сямейных путаў“ [2]). У другім месцы: „Патаемны гурток, які, прыкрываючыся мэтамі асьветы сваіх членаў, меў другую мэту, палітычную,—перашкаджаць ураду ў ажыцьцяўленьні ў Заходнім краі мерапрыемстваў у адносінах да польскага насельніцтва“ [3]). Канчатковыя вывады жандараў: „Організаваны ў Вільні гурток яшчэ ня меў належнай організацыі і не патрапіў ажыцьцёвіць усе свае жаданьні, бо быў выкрыты ў пачатку сваёй організацыі“ [4]). Агульны вывад генерал-губарнатарскага дакладу дае больш падрабязны аналіз факту: „З усяго відаць, што справа ў сучасным стане ня мае нічога асабліва важнага. Ясна, што некалькі маладых людзей, якія набраліся забароненых поглядаў, быўшы ў сталічных навучальных установах, адкуль вышлі не паводле свайго жаданьня, прыехаўшы ў Вільню, пачалі праводзіць гэтыя ідэі ў коле сваіх знаёмых і прыцягнулі да гэтага некалькі асоб, галоўным чынам, жанчын [5]). Далей зазначаецца, што да пытаньняў, якія цікавяць агульна-расійскую моладзь, далучалася мясцовае нацыянальнае пытаньне і змаганьне з клерыкалізмам.

Каб мець выстарчальныя весткі аб гуртку, нам трэба пазнаёміцца і з тэй характарыстыкай, якую дае ўрадавае сьледзтва галоўным дзеячом гуртка.

У. Унароўскі ня скончыў навукі ў Мікалаеўскім інжынэрным вучылішчы, „чалавек няшчыры, са шкоднымі нахіламі ды пераконаньнямі“ [6]). У гуртку ён чытаў лекцыі альгебры, геомэтрыі і расійскай мовы. Ён склаў проект організацыі літаратурных вечарын; яму-ж належалі і кнігі „Вперед“. У гуртку яго звалі Mistiz—настаўнік.

А. Жангаловіч. Пры вобыску ў Жангаловіча знойдзены шэраг кніжак на польскай мове. Сьпіс-жа складзены, аднак, на расійскай мове: 1) Разбор крестьянского вопроса. Париж. 1858 г., 2) Разбор крестьянского вопроса. Познань, 1856 г., 3) История царствования Августа II, 4) Польша средних веков, 4 т. (Лелевеля), 5) „История Польши“ Короновича (3 кнігі) і 6) Войноровский—Рылеева [7]).

Жангаловіч, б. студэнт тэхнолёг, „чалавек разьвіты і здольны, як трэба думаць, меў вялікі ўплыў на другіх“ [8]). Ён ня прызнаўся ў тым,

1) Ibid., л. 15.
2) Ibid., л. 36.
3) Ibid., л. 37.
4) Ibid., л. 41.
5) Ibid., л. 21.
6) Ibid., л. 40.
7) Ibid., л. 40.
8) Ibid., л. 39.

што шукаў зблiжэньня з сялянамi, аб чым сьведчыў І. Вiтарт, аднак, з перапiскi яго з Грабавецкiм i Закржэўскай выяўляюцца, яго радыкальныя погляды“ [1]). Паводле ня зусiм праверaных вестак, пазьней, адбыўшы ўжо кару, Жангаловiч прымаў удзел у рабоце партыi „Пролетарыят“ i быў дэлегатам ад Вiленскага гуртка на зьезд гэтай партыi.

Iв. Савiцкi скончыў Вiленскую рэальную гiмназiю, вучыўся ў Пецярбурскiм тэхнолёгiчным iнстытуце, адкуль быў выключаны, пэўна, за палiтычныя справы. Урадовая характарыстыка лiчыць яго звычайным органiзатарам гуртка. Аб чыннасьцi гуртка ён нiякiх вестак ня даў. Жыў у В. Грабавецкага.

Восiп Грабавецкi. У памяшканьнi яго бацькi адбывалiся сходы гуртка. Iв. Вiтарт сьведчыць, што Грабавецкi раздаваў танныя кнiгi народу, але апошнi ў гэтым ня прызнаўся. Свае адносiны да раздачы лiтаратуры ён тлумачыць тым, што выпiсваў дзiцячую лiтаратуру i раздаваў яе сваiм родным ды знаёмым.

Аб апошнiм органiзатары гуртка, аб Iв. Вiтарце маем шмат бiографiчнага матэрыялу як па гэтай справе, так i па спэцыяльнай справе аб iм [2]). Разгледзiм каротка гэтыя вестки. Калi мы казалi пра чыннасьць гуртка, дык адзначылi, што Iв. Вiтарт „раскаяўся“. „14 Вiленская цытадэль, дзе трымалi членаў гуртка, прымусiла яго ня толькi да самага падрабязнага высьвятленьня ды ацэнкi чыннасьцi Вiленскага гуртка, але, вiдаць, лiсьлiвыя словы вядомага дзеяча 1863 г., цяпер ужо генаралмаёра Лосева—прымусiлi яго выкрыць польскiя студэнцкiя i наогул студэнцкiя органiзацыi ў Пецярбургу. Весткi, якiя ўласнаручна дае Iв. Вiтарт аб студэнцкiм руху, даволi падрабязныя i займаюць 10 лiстоў справы [3]). Характарызуючы настроi тагачаснай моладзi, Вiтарт пiша: „Все они и оне тщательно изучают рабочий вопрос по сочинениям Лассаля, политическую экономию по Чернышевскому и Марксу“. Цiкавыя адносiны да Маркса, якi ў пералiчэньнi iдзе за Чарнышэўскiм. Весткi гэтыя зьвязаны з органiзацыяй гуртка чайкоўцаў, пасьля разгрому нячаеўскай органiзацыi i суду над С. Нячаевым улетку 1871 г. Ёсьць i ўспамiны „коммун“, пра якiх гаворыць i О. В. Аптэкман [4]).

Наколькi скарысталi жандары доказы Вiтарта, невядома, аднак, мяркуючы па тым, што конкрэтна выказаны гурткi пры тэхнолёгiчным iнстытуце, iнстытуце iнжынэраў чыгункi, ваенна-мэдычнай акадэмii i артылерыйскiм вучылiшчы i што паказаньнi Вiтарта належаць да 1875 г.—росквiту народнiцкiх iмкненьняў моладзi,—Вiтарт павiнен быў нарабiць вялiкай шкоды рэволюцыйнаму руху.

---

[1]) Ibid., л. 40.

[2]) Дело № 483, 3 отделения собственной е. и. в. канцелярии. Экспедиция 3. По обвинению дворянина Ивана Виторта в принадлежности к социальному обществу 1879 г.

[3]) Дело 151, л. 47—56.

[4]) О. В. Аптекман.—„Общество Земля и Воля“, ст. 68, 69, 202.

Раскаяньне Вітарту не памагло, ён быў сасланы ў Архангельскую губэрню пад нагляд паліцыі. Там ён пазнаёміўся з сям'ёй вядомага народніка Бэрві-Фляроўскага, які таксама быў у ссылцы. У жніўні 1878 г. Вітарт атрымаў, дзякуючы „безукоризненному поведению“—дазвол жыць ва ўсіх гарадох Расіі, апрача сталіц, Таўрыцкай губ. і Беларусі. З Архангельску ён трапіў у Варшаву, адтуль, як чалавек няпэўны, прымушаны быў выехаць у Рыгу. Адтуль трапіў у Кракаў, з Кракава—нелегальна вярнуўся ў Варшаву, дзе быў арыштаваны выпадкова (самлеў на вуліцы) і трапіў у 10 павільён Варшаўскай цытадэлі. Хаця ні ў чым віна яго ня была давядзена, але за падазрэньне, што ён меў зносіны з соцыялістымі, ён зноў у траўні 1880 г. быў высланы ў Валагодзкую губэрню пад нагляд паліцыі. Гэта чыннасьць І. Вітарта ў Варшаве супадае з часам чыннасьці партыі „Пролетарыят“.

Прымаючы пад увагу, што пасьля свайго раскаяньня Вітарт і далей не адыходзіў ад рэволюцыйнага змаганьня, а ў пазьнейшых арыштах і допытах трымаўся як належыць, мы павінны ня ганьбіць яго за тую слабасьць, якую ён выявіў пры першым арышце па справе віленскага гуртка 1875 г.

Цяпер застаецца яшчэ сказаць, якую кару атрымалі ўдзельнікі гуртка.

Ня гледзячы на тое, што ўрад лічыў гурток ня дужа небясьпечным, усё-ж ткі да ўдзельнікаў як генарал-губарнатар, так і жандары вымагаюць дапасаваньня суровай кары. Трэба іх выслаць у адміністрацыйным парадку, бяз суду, бо суд „гласного судопроизводства при ловкости защитника“ [1]) можа даць непажаданыя вынікі. Прычым Вільня дужа прыхільна ставіцца да пропаганды, калі далучаецца да яе і нацыянальнае пытаньне [2]).

Мясцовы віленскі ўрад раіць выслаць толькі мужчын-організатараў. Жанчыны, атрымаўшы гэты „урок, на будущее время далеки будут от повторения обнаруженных ныне с их стороны поступков“ [3]).

Згодна „высочайшему повелению“ былі высланы пад нагляд паліцыі: Іван Вітарт, Іван Савіцкі—у Архангельскую губэрню; Альфонс Жангаловіч—у Аланецкую, Восіп Грабавецкі—у Вяцкую і Ўстын Унароўскі—у Валагодзкую губ.

Якія-ж вывады мы можам зрабіць аб гэтым гуртку? Ці быў ён народніцкім у тым сэнсе слова, як мы гэта разумеем, маючы на ўвазе народніцтва расійскае? Тое, што ў удзельнікаў знайшлі „Вперед“, што пры вобыску ў Жангаловіча была знойдзена пераважна літаратура аб сялянстве, што організатары выключаны з вышэйшых навучальных установ, тымчасам, калі ўстановы віравалі народніцкімі думкамі ды падзеямі, тое, што ў програме маем зблізкэньне з сялянствам і што завуць іх нігілі-

1) Дело 151, л. 24.
2) Ibid., л. 23.
3) Ibid, л. 26.

стымі,—усё гэта сьведчыць аб тым, што гурток быў блізкі да народніцтва „Земл: и Воли“. Аднак, знаходзім тут і такія мотывы, якіх няма ў расійскім народніцтве: 1) упартую барацьбу з клерыкалізмам, 2) нацыянальнае пытаньне. Расійскаму народніцтву змагацца з праваслаўным клерыкалізмам няма сэнсу, бо папы амаль ня маюць уплыву на сялянства. Інакш стаіць справа на Віленшчыне, сярод каталіцкага сялянства, дзе ўплыў ксяндзоў быў большы. Каб падняць сялянства, трэ' было падарваць уплыў на яго тых, хто трымаў вёску ў рэлігійнай цемры[1]). Далей, нацыянальнае пытаньне—мова—сярод вялікарасійскага народніцтва не адыгрывае ніякае ролі. На Беларусі, у абставінах нацыянальнага ўціску пасьля паўстаньня 1863 г. нацыянальнае пытаньне - мова,—зьяўляецца элемэнтам, які можа рэволюцыянізаваць масы. Таму нацпытаньне адыгрывае выдатную ролю ў гуртку.

Можам сказаць—гурток народніцкі, аднак, афарбованы ў мясцовы колер рэволюцыйнага руху 70-х гадоў на Беларусі.

### Менскі гурток 1.

11 чэрвеня 1879 г. вучэнь Менскай гімназіі Іван Уманскі зьвярнуўся да дырэктара гімназіі і сказаў, што студэнт Сымон Гаховіч разам з сэмінарыстымі Васілём Кезэвічам, Міколай Сеўрукам і Аляксандрам Радзялоўскім даў яму прачытаць нумар газэты „Земля и Воля“[2]). На падставе данясеньня дырэктара губарнатару і жандарскай уладзе зроблены быў вобыск у Гаховіча. Пры вобыску знайшлі два чамаданы поўныя рэволюцыйнай літаратуры. Сярод кніжак былі наступныя: 1) Сказка о копейке, 2) Очерки фабричной жизни Гомизынского, 3) Доклад комиссии совета Петербургского университета, 4) Речь Петра Алексеева, 5) Сборник стихотворений, 6) Выйгрыши последней войны, 7) К русским рабочим, 8) К русскому обществу, 9) Речь Мышкина, 10) Казнь Кропоткина, 11) Михайлов. Ассоциации, 12) „Неделя“ ад 2 красавіка 1878 г., 13) „Русское Обозрение“ №№ 3 і 4 ад 22 студзеня 1878 г., 14) „Земля и Воля“ за 1878 г.—№№ 1 і 2, за 1879 г.—№№ 3, 4, 5, 15) часопісь „Вперед“ за 1875 г.—№№ 7, 21, 22, 23 і 24, за 1876 г.—№№ 26, 30, 39, 42, 16) Дзьве фотографіі—адна, магчыма, Веры Засуліч, другая—Сьцяпана Шпілеўскага[3]).

Дазнаньне зыявіла, што літаратура гэта належала студэнту Пецярбурскага унівэрсытэту Сымону Гаховічу, былому сэмінарыстаму, які, прыехаўшы з Пецярбургу, спыніўся на кватэры ў сваіх таварышоў-сэмі-

[1]) Барацьбу ксяндзоў з рухам „Пролетарыяту“ ў Варшаве сваячасна адзначым.

[2]) № 318—15. Дело канцелярии минского губернатора, стол 3. По обвинению студента С.-Петербургского университета С. Гаховича и др. в распростр:нении сочинений преступного содержания, л. 1.

[3]) Ibid., л. 54, 55, 56, 57.

нарыстых В. Кезэвіча, М. Сеўрука і А. Радзялоўскага. Сэмінарыстых арыштавалі, а Гаховічу ўдалося ўцячы і ён апынуўся аж у Жэнэве.

Сэмінарыстых праз месяц выпусьцілі. „Высочайшим повелением“ справа вырашана ў адміністрацыйным парадку. Сэмінарыстым, як кара, быў залічан час, які яны ўжо адседзелі ў турме.

С. Гаховіч прабыў у Швэйцарыі да 1882 г. У канцы 1881 г. ён падаў заяву міністру ўнутраных спраў з просьбай дазволіць яму вярнуцца ў Расію. Рэзолюцыяй цара ад 5 сьнежня 1881 г. гэты дазвол яму быў даны. Справа аб рэволюцыйнай літаратуры была спынена, і за Гаховічам быў устаноўлены толькі паліцэйскі нагляд. Прыехаў ён у Пецярбург і адтуль паехаў да свайго бацькі папа ў Навагрудзкім павеце. Тут ён 2 ліпня быў арыштаваны і пасаджаны ў Навагрудзкую турму за размову „преступного содержания“ [1]). Аднак, гэта абвінавачаньне сьледзтва не пацьвердзіла і Гаховіча хутка вызвалілі. У 1883 годзе яму ўжо выдалі пасьведчаньне аб „благонадежности“ і ён паступіў у Казанскі унівэрсытэт.

Характарызуючы чыннасьць Гаховіча ды інш., трэба адзначыць, што гурток у Менску быў толькі-што організаваны. На пачатку організацыі гурток, з прычыны някрытычнага падыходу да тых членаў, што ў яго ўваходзілі, быў урадам выкрыты. Усё-ж ткі трэба адзначыць, што Гаховіч належаў да пецярбурскай народніцкай організацыі, і тую літаратуру, што ён меў, атрымаў з мэтай організацыі гуртка ў Менску ці на Меншчыне. Сярод дакумантаў справы ёсьць два цікавыя лісты, напісаныя—адзін да паліцмайстара Канчара, другі—да зрадца Ўманскага. Першы ліст абяцае павесіць паліцмайстра на „першай шыбеніцы“, бо ён „преследует союзников нашего общества“. Ліст падпісаны „Соцыялістыя“ [2]). Другі ліст да Ўманскага, наступнага зьместу: „Подлецъ ты, вѣрноподданная ты собака! Напрасно ты ходишь к директору и просишь защиты—будь увѣренъ—не спасешся. Наше общество сословное не искоренишь. Жалѣемъ, что ошиблись в твоей греко-российской глупости. Не сегодня—завтра—тебѣ не жить“ [3]).

Лісты да паліцмайстра і Ўманскага напісаны не адной рукой, прычым трэба адзначыць, што напісаны яны зараз-жа пасьля арышту сэмінарыстых (да паліцмайстра ліст мае паштовы штамп 14 чэрвеня 1819 г.—арыштаваны яны былі, як ведаем, 12 таго-ж месяца). Значыць, напісаны лісты былі другімі членамі гуртка, якіх сьледзтва ня выявіла. Абодва лісты маюць ортографічныя памылкі, хаця напісаны ўпраўнай рукой.

Падпісваюцца, як бачылі, „Соцыялістыя“. Дужа трапная думка аб „сословном обществе“, якога ня выкарчуеш тым, што выказаў некаторых удзельнікаў—на месца іх прыдуць другія.

[1]) Ibid., л. 314.
[2]) Ibid., л. 14.
[3]) Ibid., л. 15.

Гурток, мяркуючы па зьместу літаратуры і па першых удзельніках— папоўскіх сынох — розначынцах, меў быць гуртком агульна-расійскага народніцкага кірунку.

### Менскі гурток 2 [1])

Штуршком для заснаваньня гуртка ў Менску былі арышты выдатных дзеячоў партыі „Пролетарыят" у Варшаве. У сувязі з тым, што тэкст жандарскага данясеньня аб гэтым факце мае значэньне ня толькі для вывучэньня гісторыі Менскага гуртка, але дае некаторыя даныя і аб чыннасьці партыі „Пролетарыят", падаемо яго поўнасьцю: „4-га верасьня мінулага году (г. зн. 1878 г. *Я. В.*) у часе арышту прыехаўшых, з мэтай распаўсюджаньня соцыяльна-рэволюцыйных ідэй: Абрамовіча, двух братоў Грабоўскіх, Гласко, Дробыш-Драбышэўскага (Уманскага), у памяшканьні памянёных соцыялістых, разам з патайной друкарняй, складам розных кніг, брошур соцыяльна-рэволюцыйнага зьместу, быў знойдзены асобны пакунак, нарыхтованы для перасылкі ў Менск, разам з лістом прыехаўшага ў Варшаву віленскага мешчаніна Пасьпелава, у якім гаварылася а пасыланых разам з лістом кнігах ды брошурах соцыяльна-рэволюцыйнага зьместу ў ліку 430 паасобнікаў. Палкоўнік Алыбаў, які рабіў у Варшаве дазнаньне а пропагандзе, паведаміў аб гэтым начальніка менскае губэрскае жандарскае ўправы, прычым дадаў, што ў Менску, паводле яго пераконаньня, ёсьць злачынныя гурткі з мэтай пр паганды. Думка аб заснаваньні ў Менску злачыннага гуртка падмацавана была і паказаньнем менскага мешчаніна Козьліна, які ў часе допытаў сказаў, што ў жніўні 1878 году, калі ён быў у Варшаве, студэнт Абрамовіч і Грабоўскі прапанавалі яму ўзяць якісьці пакунак для перадачы ў Менск і абавязкова самому занесьці яго „ў дом на Захараўскай вуліцы, далёка-далёка, побач могілак" [2]).

Кнігі пры вобыску ў Варшаве знойдзены наступныя:

---

[1]) Успаміны аб Менскім гуртку ўдзельнікаў яго т. т Гальпэрына і І. Гурвіча (у „Былое" за 1907 г., а таксама ў рукапісах гістпарту ЦК КП(б)Б), даюць ужо толькі пераважна падзеі, якія датычаць 80 гадоў. Да гэтага-ж часу належыць выданьнеў Менску трэцяга нумару часоп. „Чорнага Передела" (Богучарский. Активное Народничество. 1912 г., ст. 372).

Разгляданыя намі падзеі ва ўспамінах высьветлены менш, чым высьвятляюць іх архіўныя матэрыялы. Галоўным чынам ва ўспамінах нічога не гаворыцца аб сувязі з варшаўскім рухам і партыяй „Пролетарыят". Гэты факт, а таксама і тое, што не ўспамінаюцца іх прозьвішчы ў архіўных матэрыялах, сьведчыць, што вышэйпамянёныя рэволюцыянэры ў той час, які мы разглядаем, удзелу ў Менскім гуртку, відаць, ня прымалі, ці не стаялі, прынамсі, блізка да кіраўнікоў гуртка і галоўных падзей.

Аб руху 70 гадоў і Менскім гуртку маем некаторыя даныя і ў артыкуле А. Зіміонкі. Соцыялістычны рух на Беларусі II. Партыя соцыялістых-рэволюцыянэраў. Зборнік „Беларусь". Менск, 1924 г.

[2]) № 486. Дело III отделения собственной его императорского величества канцелярии, экспедиции 3. Об организовавшемся в г. Минске кружке с целью распространения преступной пропаганды. 1880 г., л. 57 і 58.

**А. На расійскай мове**

1) Пяць кніг у вокладках, а менавіта: 2 томы часопісу „Вперед“ (I і II) за 1872 і 1873 г. г. Цюрыхскае і Лёндонскае выданьне тых самых гадоў: „Анархия по Прудону“, выданьне соцыял-рэволюцыйнай партыі 1874 г.; „Антропологический принцип в философии“ и „Борьба партий во Франции при Людовике XVIII и Карле X“ Н. Г. Чарнышэўскага, выданьне расійскай соцыял-дэмократычнай бібліотэкі, вып. 2 і 3 1875 г.

2) Творы А. І. Герцэна ў 3-х асобных томах, Жэнэўскае выданьне (1875 г. I т, 1876 г. II т., 1878 г. III т.).

3) „Лессинг, его время, его жизнь и деятельность“ и „Суд над Чернышевским“, выданьне Міхайлы Элпіда ў Жэнэве 1877 г.

4) „Фальшивые монетчики или агенты русского правительства“ (пераклад з нямецкага), Жэнэўскае выданьне 1875 году.

5) „Борьба партий во Франции при Людовике XVIII и Карле X“ Н. Г. Чарнышэўскага, трэці выпуск расійскай соцыял-дэмократычнай бібліотэкі. Жэнэўскае выданьне 1875 году.

6) Тры брошуры Пётры Амосава—„Реквием“, „Процесс 196“ і „Российское брожение, обнаруженное с помощью микроскопа“.

7) „Община“—соцыяльна-рэволюцыйны агляд за 1878 год, выданае ў Жэнэве, №№ 1, 2, 3, 4 і 5 за студзень, люты, сакавік, красавік, травень месяцы, кожнага нумару па тры экзэмпляры.

8) „Записки южно-русского социалиста“, выпуск першы, Жэнэўскае выданьне 1877 году—2 экзэмпляры.

9) Брошура „К русским революционерам“, № 1, выданьне рэволюцыйнай суполкі рускіх анархістых. Верасень 1873 г.

10) Брошура „Детоубийство, совершенное русским правительством“ (жанчыны процэсу маскоўскіх соцыялістых), выданьне рэдакцыі украінскага зборніка „Громада“ ў Жэнэве 1877 году.

11) Газэта „Работник“, выходзіўшая ў Жэнэве, № 13, студзень 1876 г., год другі.

12. „Из-за решетки“ зборнік вершаў рускіх вязьняў па палітычных злачынствах 1873—1877 г. г., засуджаных і чакаўшых суду (чатыры экзэмпляры).

13. Брошура бяз назвы, па зьместу свайму падобная да забароненай брошуры пад назвай „Емелька Пугачев“.

14. Брошура ў жоўтай папяровай вокладцы з назвай „Слово на великий пяток, преосвященного Тихона Задонского, епископа Воронежского“ (выданьне пятае, Кіеў, надрукавана ў друкарні духоўнай акадэміі 1875 г.) па зьместу свайму зьяўляецца забароненай казкай „О Правде и Кривде“.

15. Брошура ў белай папяровай вокладцы з назвай „Мужицкая правда“, апавяданьне селяніна (выданьне другое, Харкаў, друкарня Дэьмітрыева 1875 г.), па зьместу свайму зьяўляецца забароненай казкай проціўрадавага зьместу, вядомай пад назвай „Чтой-то, братцы“.

16. Брошура ў вокладцы выданьняў „комиссии народных чтений христианства“ (Свящ З. В. Певцова. С.-Петербург, 1875 г., цана 8 кап.), па зьместу свайму зьяўляецца забароненым апавяданьнем проціўрадавага зьместу пад назвай „Внушителя словами“ (два экзэмпляры).

17. Брошура пад назвай „Работник“, апавяданьні 1-ае і 2-ое (Масква, друкарня І. М. Уткіна), два экзэмпляры.

18. Частка артыкулу, зьмешчанага ў часопісу „Община“ (№ 3 і 4, 1878 году) пад назвай „За что старика обидели и кто его обижает“.

### Б. На украінскай мове

1. Тры брошуры, якія зьяўляюцца працягам аднаго і таго самага твору „Про богатство и бедность“, беседа 1-я, 1876 года, „Про то, як наша земля стала не наша“ (беседа вторая), Лейпциг, 1877 года и „Про хлиборобство“ (беседа третья) [1]).

Домам, які выклікаў падазрэньне менскіх жандараў, быў дом мулера В. Парафіяновіча. За гэтым домам пачалі сакрэтна сачыць, каб выявіць тых, хто там бываў. У гэты час, Велер, Вігдорчык і дачка Парафіяновіча Разаля былі ў Кіеве.

Аднак, 9 сьнежня 1878 г. менская паліцыя, шукаючы тых, хто хаваўся ад вайсковай павіннасьці, знайшла ў доме Парафіяновіча Льва Іванава Рогалера. У часе вобыску знойдзена „Гісторыя францускай рэволюцыі“ Люі Бляна, зноў „Гісторыя францускай рэволюцыі“ Зыбэля [2]) і перапіска Рогалера з Велерам.

З перапіскі выяўлена, што ў гуртку, апрача вышэйпаказаных кніг, пашыраны былі „Ассоциация“, „Пролетариат во Франции“ ды інш. [3]).

У лістох часта ўспамінаецца прозьвішча Куркіна, як адной з галоўных асоб гуртка, і Гомерава. Хто быў Куркін—сьледзтва ня выявіла, а Гомераў—гэта быў Вігдорчык.

Арыштаваны Л. Рогалер даў пры допыце „не точные и уклончивые об'яснения“ [4]). 26 сьнежня вярнулася з Кіеву Р. Парафіяновіч і таксама была арыштавана.

---

[1]) И. Волковичер.—„Начало социалистического рабочего движения в бывшей русской Польше“. Часть первая. Ленинград. 1925 г., стар. 95 - 96

Пабеларуску брошура „Про богатсво и бедность“ была выдана як пераклад з украінскай мовы ў 1881 г., таксама ў Жэнэве. Поўная назва брошуры з захаваньнем ортографіі наступная: „Про багацтво да бьедносьць“, пьереклад з украинскаго, Жаньева. Друкарня „Работника“ і „Грамады“ 1881 г. На Беларусі гэта брошура была пашырана ў 80-х гадох і пазьней. Пры вобыску ў 1905 г. ў Вільні на варшаўскім зав № 2 было знойдзена да 40 розных беларускіх проклямацый і 5 вышэйадзначаных брошур. Аб гэтым-жа факце гаворыць і А. Бурбіс у працы аб грамадзе „Беларуская соцыялістычная грамада ў першым пэрыодзе яе працы. Зборнік „Беларусь“, Менск, 1924 г. стар. 177.

[2]) Д. 486, л. 59.

[3]) Ibid , л. 60.

[4]) Ibid., л. 60.

Аднак, весткі аб гуртку ўрад меў—і дужа падрабязныя, дзякуючы нейкаму Плоткіну, які служыў за перапісчыка ў сьледчага. Для комэрцыйных мэт Плоткін з 1874—1878 г. выпісваў газэты і даваў чытаць іх за грошы розным асобам. Яго візыты да розных асоб і далі яму магчымасьць выявіць ды паведаміць урад аб наступным. Яшчэ перад 1876 г. у рабіна Ханэлеса зьбіралася моладзь: Велер, Рабіновіч, Іофэ, Эфрон, сястра рабіна Зося Ханэлес, Фундылер, Гаркаві і Рогалер, якому даваў лекцыі Рабіновіч. Тыя-ж самыя асобы і акушэрка Пінэс зьбіраліся ў З. Ханэлес, дзе Рабіновіч чытаў лекцыі і забароненую літаратуру.

У 1876 г. Рабіновіч быў сасланы ў Вяцкую губэрню. Пра гэтага-ж Міхала Рабіновіча-Чорнага, б. студэнта тэхнолёгічнага інстытуту Бухбіндэр казаў, што ён разам з Эвенчыкам працавалі ў сьлясарнай майстэрні і давалі вечарамі лекцыі ў некаторых багатых яўрэйскіх дамох. Да іх далучыліся спропагандаваныя кавалі Чапліеўскі і Матусэвіч [1]).

Арышт і сасланьне Рабіновіча на пэўны час спыніла чыннасьць гуртка. Аднак, ужо вясной 1878 г. Велер вярнуўся ў Менск і жыў у кватэры мулера Парафіяновіча. Велер меў зносіны выключна з „простымі рабочымі“ [2]).

Далей Плоткін даведаўся, што гурток зьбіраўся ў Парафіяновіча, З. Ханэлес і акушэркі Пінэс і што Велер цалком замяніў Рабіновіча і зрабіўся цэнтрам гуртка [3]). Зьбіраліся тыя самыя асобы, што і раней, і, сабраўшыся, чыталі нейкія кнігі „ды вялі гарачыя спрэчкі“ [4]).

У канцы паказаньня шпіён Плоткін выказвае думку, што Менскі гурток мае сувязь „з Кіевам, Варшаваю і другімі гарадамі“ [5]).

Сувязь з Кіевам была, бач, таму, што там вучыліся Велер і Вігдорчык.

У кожнага, каго аславіў Плоткін, быў зроблены вобыск, які, аднак, ня даў ніякіх вынікаў. Усе як арыштаваныя, так і аслаўленыя былі дапытаны, але ні ў чым не павініліся.

Староньнія паказаньні, як, напрыклад, Марылі Круповіч (таварышка Разалі Парафіяновіч) аб сходах гуртка даводзяць:

„У 1877 г. ў Велера (які жыў у доме Парафіяновічаў) часта зьбіралася шмат моладзі, мужчын і жанчын... Гэтыя сходы, на якіх чыталі, пелі песьні, цягнуліся часамі да позьняй ночы“. Прычым Велер прапанаваў ёй вучыцца разам з Разаляй Парафіяновіч, каб паступіць у школу акушэрак.

Паказаньні Р. Парафіяновіч выяўляюць, што Велер, рыхтуючыся ў унівэрсытэт, і яе, і дзяцей яе вучыў бяз грошай. Кніг у яго бачылі

[1]) Н. А. Бухбиндер.—„История еврейского рабочего движения в России“. Ленинград. Академическое издательство. 1925 г., стар. 22—24.

[2]) Справа 486, л. 61.

[3]) Ibid., л. 61.

[4]) Ibid., л. 61.

[5]) Ibid., л. 61.

шмат, між іншым, і па францускай рэвалюцыі, аднак, ёй Велер чытаў толькі вершы Някрасава. Жыла ў Кіеве ў Велера, які перад калядамі кудысь выехаў.

Куды выехаў з Кіеву Майсей Лейбаў Велер, студэнт раней Пецярбурскага, а цяпер Кіеўскага ўнівэрсытэту і вучань 6-ай клясы Менскай гімназіі Саламон Хаімаў Вігдорчык (Гомераў), відаць з іх уласнаручнага ліста на імя губэрскага жандара, дзе яны паведамляюць, што ў сучасны момант знаходзяцца ў Жэнэве і „просяць, каб ён дарма не непакоіў іхных бацькоў ды сваякоў роспытамі аб іх месцазнаходжаньні“ [1]).

Прокурор, які вёў гэту справу, патрабаваў для Льва Рогалера ды Розалі Парафіяновіч, „вінных у прыналежнасьці да гуртка соцыялістых і хаваньні кніг рэволюцыйнага зьместу“, кары ў адміністрацыйным парадку: для Л. Рогалера: „высылка на жыцьцё пад нагляд паліцыі ў адну з паўночна-ўсходніх губэрань імпэрыі“, а для Р. Парафіяновіч—пакінуць яе пад наглядам паліцыі на ранейшым месцы пражываньня, г. зн. у Менску“ [2]).

Міністар юстыцыі, згаджаючыся з прокурорам адносна адміністрацыйнага вырашэньня справы, зьмяншае кару для Л. Рогалера, прапануючы пакінуць і яго ў Менску пад наглядам паліцыі.

3-е аддзяленьне, аднак, патрабуе большай кары для ўдзельнікаў гуртка.

1. Льва Рогалера выслаць пад нагляд паліцыі ў адну з паўночна-ўсходніх губэрань.

2. Разалю Парафіяновіч аддаць пад яўны нагляд паліцыі на адзін год.

3. Зосю Ханэлес аддаць пад яўны нагляд паліцыі.

4. Рабіна Ханэлеса перавесьці на службу ў другі горад, аддаўшы яго пад сакрэтны нагляд паліцыі.

5. Аб усіх іншых справу спыніць, выключаючы Велера, Вігдорыка і Куркіна, справу аб якіх адкласьці да таго часу, пакуль іх ня зловяць.

Згодна рэзолюцыі шэфа жандараў рабіна Ханэлеса выслалі ў адну з паўночна-ўсходніх губэрань.

Усе гэтыя пастановы вынесены ў канцы лютага 1880 году. Тымчасам 31 ліпня 1879 г., паводле загаду міністра ўнутраных спраў, з дазволу шэфа жандараў, Леў Рогалер і Разаля Парафіяновіч былі пераведзены ў віленскую турму ў будынак былой 14 віленскай цытадэлі. 14 цытадэль прызначалася для вайсковых арыштантаў. Будынак у гэты час рамантаваўся. „Пры такіх умовах Рогалер і Парафіяновіч не заўсёды маглі, напрыклад, выходзіць на праходку ды інш., і ў хуткім часе пачалі скардзіцца на хваробу. Нявыгоднасьць памяшканьня абцяжалася для іх і моральна тым, што ніхто з аглядаўшых гэта памяшканьне,—як асобы прокурорскага нагляду, так і вайсковыя начальнікі, ня лічылі сябе ў праве прымаць ад іх заявы“ [3]).

---

[1]) Ibid., л. 79.
[2]) Ibid., л. 70, 71.
[3]) Ibid., л. 79.

Жандарскі генерал Лосеў, па згодзе 3-га аддзяленьня, у сьнежні 1879 г. выправіў Р. Парафіяновіч у Менск.

Л. Рогалер, аднак, прабыў у адзіночцы да чэрвеня 1880 г. Гэтая кара дужа цяжка адбілася на яго здароўі, ён нават захварэў псыхічна: „здароўе яго, а асабліва духоўны стан, ня зусім здавальняючыя“ [1]).

Урэшце, па „высочайшему повелению“ ад 11 чэрвеня 1880 г. справа яго ўжо вырашаецца канчаткова: 1) спыніць далейшае дазнаньне ў адносінах да М. Велера і С. Вігдорчыка, пакуль яны ня зьявяцца ці іх не затрымаюць; 2) залічыць Л. Рогалеру за кару зьняволеньне ў астрозе, дзе ён знаходзіцца па гэтай справе ад 9 сьнежня 1878 г., і аддаць яго пад яўны нагляд паліцыі на 3 гады; 3) залічыць за кару Р. Парафіяновіч папярэдняе зьняволеньне пад вартай і аддаць яе, а таксама і З. Ханэлес, пад яўны нагляд паліцыі; 4) спыніць справу ў адносінах да Ф. Пінэс і г. д.“[2]).

Якую-ж, аднак, характарыстыку дае ўрад Менскаму гуртку і чым тлумачыцца дужа цяжкая кара ў адносінах да Л. Рогалера і Р. Парафіяновіч?

Ужо мы адзначылі, што прокурор называе гурткі „Сообществом социалистов“ [3]). 3-е аддзяленьне заве гурток: „социально-революционное сообщество“ [4]).

Аднак, самым цяжкім для гуртка абвінавачаньнем было тое, што ён меў сувязь з Варшавай. Гэта адзначаецца некалькі раз ва ўсёй справе. Ліст 57 і 58 мы ўжо цытавалі. На лісьце 72 маем, што „гурток меў зносіны з варшаўскімі соцыялістымі“.

Паколькі цяжкая кара для Л. Рогалера, Р. Парафіяновіч была выклікана, бясспрэчна, сувязьзю з варшаўскім рухам канца 70-х гадоў, трэба нам гэты рух коратка ахарактарызаваць, бо інакш не зразумеем адносін ураду да Менскага гуртка.

Рэволюцыйны рух канца 70-х гадоў у Польшчы належыць да гісторыі агульна-вядомай партыі „Пролетарыят“. Узьнікла гэта партыя, як кажа дасьледчык гісторыі гэтай партыі І. Волкавічар, „У дзіўным спалучэньні двух элемэнтаў—расійскага народніцтва і навуковага соцыялізму... Польскія студэнты, прыехаўшы на бацькаўшчыну, знаходзілі ў рабочым зусім іншы, чым іх расійскія таварышы, матэрыял для прыстасаваньня да яго сваіх соцыялістычных ідэй. Утопічны, туманны соцыялізм расійскіх народнікаў тут, на варшаўскай фабрыцы, сярод варшаўскіх рабочых, быў няпрыгодны. Інтарэсы рабочых, хоць і мала разьвітых, накіроўвалі пропаганду сваіх настаўнікаў на шлях заходня-эўропэйскага, навуковага соцыялізму ды яго практыкі“ [5]).

[1]) Ibid., л. 80.
[2]) Ibid., л. 84.
[3]) Ibid., л. 70.
[4]) Ibid., л. 57.
[5]) Гістпарт ЦК РКП(б) па вывучэньні гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі і РКП(б). И. Волковичер. — „Начало социалистического рабочего движения в бывшей русской Польше“. Часть первая. Дзярж. В-ва, 1925 г., стар. 79.

У 1878 г. партыя мела ўжо сваю праграму. У праграме, праўда, адбівалася тая блытаніна, што характарызуе, як мы ўжо зазначылі, ідэолёгаў руху, якія знаходзіліся пад уплывам і расійскага народніцтва, і навуковага соцыялізму, аднак, Волкавічар у праграме партыі (першай рукапіснай) знаходзіць: „прызнаньне політычнага змаганьня, як спосабу ўхіленьня перашкод на шляху да соцыялізму, г. зн. ня зусім ясна выражаная формулёўка *праграмы-мінімуму* будучых рэволюцыйна-марксыцкіх (тады соц.-дэм.) партый. Якраз у гэтым мы бачым адзін з пунктаў грунтоўнага разыходжаньня з поглядамі расійскіх народнікаў „Земли и Воли“ і бакунізму. (Аб уплыве „Народной Воли“ на выпрацоўку праграмы ўлетку 1878 г. ня можа быць і гутаркі)“ [1]).

Гаворачы а праграме партыі „Пролетарыят“ 1878 г., мы ня можам абмінуць, што разьвязаньне нацыянальнага пытаньня ў праграме пастаўлена грунтоўна, ня так, як гэта было ў 60 г. г. нават у левым руху: „9) Прызнаючы згоднасьць усіх народаў у справе грамадзкай рэволюцыі, мы жадаем поўнай незалежнасьці народных соцыялістычных партый: русінаў (украінцаў. *Я. В.*), беларусаў і літвіноў“ [2]).

Сярод кіраўнікоў ды організатараў руху мы побач з галоўным дзеячом Людвікам Варынскім (паходзіў з Украіны) знаходзім прозьвішчы тых, што ўспамінаюцца ў справе Менскага гуртка: Паўла Абрамовіча, братоў Грабоўскіх Аляксандара і Паўла, Дробыш-Драбышэўскага, ён-жа Уманскі і Гласко.

Якую сувязь мела партыя „Пролетарыят“ з рухам на Беларусі—пытаньне нераспрацаванае,—мы ставім яго ў сучасны момант бадай што ўпяршыню?

З ліпня 1878 г. пачаліся, дзякуючы провокацыі, правалы ў партыі „Пролетарыят“. К гэтаму часу ўплыў партыі зрабіўся такі вялікі, што некаторыя пачыналі ўжо палохацца, напрыклад, ксяндзы, якія ў сваіх прамовах кідалі громы і маланкі на „соцыялістых-бязбожнікаў“, і не дапушчалі соцыялістых да „таинств“ [3]).

Арышты адбываліся праз увесь канец 1878 і 1879 г. Усяго прыцягнута было да адказнасьці 137 асоб (з іх рабочых—58 і інтэлігентаў—79) [4]).

Л. Варынскага не арыштавалі, і цікава тое, што ён напісаў да Плевэ (пазьней прэм'ер-міністар) ліст у сувязі з вобыскам на Хмельнай, № 38. З гэтага, як нам ужо вядома, пачалося выкрыцьцё Менскага гуртка. Варынскі ў лісьце, хочучы заступіцца за арыштаваных, кажа, што рэчы, якія знайшлі там, належаць яму. Далей, пагражае, што ў сувязі са зьдзекамі над арыштаванымі будзе ўжыты ў адносінах да ўраду тэрор [5]).

1) Ibid., стар 59.
2) Ibid., стар. 50.
3) Ibid., стар. 34.
4) Ibid., стар. 78.
5) Ibid., стар. 40—41.

Ліст Варынскага да Плевэ даводзіць, што Варынскі ведаў аб існаваньні гуртка ў Менску, магчыма, што ён і сам, нават, прымаў удзел у організацыі яго і перасыланьні літаратуры ў Менск.

Тое, што выкрылі вобыскі ды арышты, дало ўраду магчымасьць шукаць уплыву варшаўскага руху нават у Пецярбурзе, Маскве, Адэсе, Керчы, Віцебскай губ. і Барысаглебску (Тамбоўскай губ.) [1]. Тлумачыцца гэта тым, што варшаўскі рух меў сувязь з расійскімі рабочымі організацыямі канца 70-х гадоў. Чаму ўспамінаецца, аднак, і Віцебск? А таму, што ў Віцебскай губ., у мястэчку Асьвея, улетку 1878 г. ў д-ра Даніловіча разам з яго братам Міхайлам Даніловічам, таксама пролетарыятчыкам, жыла адна з кіраўніц руху—Марыля Гільд.

Чаму яны апынуліся ў Віцебшчыне, сказаць цяжка. Паводле адных вестак, М. Гільд вучылася ў д-ра Даніловіча фэльчарству [2]. З ліста, аднак, таксама выдатнай рэволюцыянэркі, Піліпіны Пласкавіцкай, відаць, што ўлетку 1878 г. частка таварышоў партыі „Пролетарыят“ была накіравана ў розныя месцы: „Вось мая прыкрасьць—расстаньне з дарагімі прыяцелямі, якія разьехаліся ў розныя канцы. Баляслаў (Мондштэйн) — у Адэсу, Дан(іловіч) і Марыля Г(ільд)—у Віцебскую губэрню, другіх не называю“ [3]).

Бясспрэчна, паколькі ў Варшаве знойдзена літаратура расійская і украінская, пастолькі была сувязь ня толькі з Менскам, але і з украінскімі ды расійскімі гарадамі.

Гаварыць аб тым, што літаратура выпраўлялася ў Менск партыяй „Пролетарыят“ толькі для перадачы яе далей, лічым немагчымым, у сувязі з тым, што мы выявілі па справе Гаховіча ды іншых. У тым самым 1878 г. Менск атрымліваў народніцкую літаратуру з Пецярбургу, што было значна цяжэй, бо непасрэднай бесьперасадачнай чыгункі паміж гэтымі гарадамі ня было.

Які-ж можа быць вывад наконт менскага гуртка? Гурток, зьвязаны ў сваёй організацыі з М. Рабіновічам-Чорным, працуючым сярод рабочых, сьвядома шукаў сувязі з партыяй „Пролетарыят“, а не з расійскім народніцтвам.

Побач з гэтым гуртком быў і другі, як мы ўжо казалі,—гурток цалкам зямлявольскага кірунку.

Якія-ж вынікі дае нам крытычны агляд гурткоў.

Вывады мы можам формуляваць наступным чынам. На Беларусі рэволюцыйны рух 70-х г. г. XIX ст. ішоў па чатырох кірунках:

1. Сярод гурткоў мы маем гурткі цалкам народніцкія—з програмай ды мэтодамі рэволюцыйнай работы агульнарасійскага народніцтва, як мы бачылі пры аглядзе гурткоў Магілева, Горы-Горак, Віцебску і Менску (гурток Гаховіча).

[1]) Ibid., стар., 36.

[2]) Ibid., стар., 20.

[3]) Ibid., стар., 31.

2. Народніцкія гурткі афарбоўваюцца польскім нацыянальным пытаньнем. Мэтоды рэволюцыйнай барацьбы маюць мясцовыя колеры, напрыклад, змаганьне з клерыкалізмам. Прыкладам можа быць Віленскі гурток.

3. Народніцкі ўхіл гурткоў афарбоўваецца яўрэйскім нацыянальным пытаньнем. Прыкладам зьяўляюцца гурткі 72 і 76 г. г.

4. Ня гледзячы на тое, што гурткі існавалі ў 70-х г. г., г. зн. у часе росквіту народніцтва, і што Беларусь зьяўлялася краінай не-прамысловай, мы адзначылі гурток, які меў сувязь з партыяй „Пролетарыят“, г. зн. з партыяй соцыял-дэмократычнага кірунку.

Менскі гурток Рабіновіча, Велера і г. д., бясспрэчна, значна перарос усё тое, што мы бачылі ў трох першых кірунках.

Канчатковы вывад народніцтва на Беларусі ў 70-х гадох ня можа быць меркай агульнарасійскага народніцтва таго часу, і таму мы лічым, што наша назва артыкулаў „Рэволюцыйныя гурткі 70-х гадоў“ адзіна магчымая назва таму, дужа рознаму па програме ды чыннасьці, руху, які мы наглядаем на Беларусі ў 70-х г. г. мінулага сталецьця.

## ЛЯ ВЫТОКАЎ МАСТАЦКАЙ ПРОЗЫ ЯКУБА КОЛАСА [1])

**А. Вазьнясенскі**

VII

Мы разгледзелі паасобныя часьціны—тэматычныя ды стылістычныя,—з якіх складаюцца разгляданыя намі апавяданьні Я. Коласа. Цяпер на чарзе стаіць апошняе пытаньне, якое ўваходзіць у склад констатуючага выўчэньня, гэта—пытаньне аб тым, якім чынам вызначаныя намі часьціны злучаюцца ў адно цэлае і даюць адзін мастацкі твор. Мы павінны разгледзець тое, што называецца *сужэтнай пабудовай ці композыцыяй* твору, якая і мае свёй галоўнай мэтай азначэньне таго, як мастацкі твор ствараецца пісьменьнікам у выглядзе скончанага і цэльнага мастацкага будынку. Прыстасоўна да разгляданых апавяданьняў канечна трэба ў межах таго самага разьдзелу аб композыцыі разгледзець і яшчэ адно пытаньне, а менавіта: пытаньне аб композыцыйным аб'яднаньні ўсіх апавяданьняў у выглядзе паасобных зборнікаў. Гэта пытаньне, як будзе відаць далей, заслугоўвае ўвагі і адкрывае цікавыя вывады, каштоўныя для нашага аўтара.

У большасьці выпадкаў пісьменьнік свае апавяданьні будуе па форме невялічкіх эскізаў, у выглядзе зарысовак асобных кароткіх момантаў з жыцьця акаляючай асярэдзіны, галоўным чынам, беларускай вёскі. У гэтых адносінах гэтыя апавяданьні маюць тую, якраз, формальна-тэматычную аснову, што зьяўляецца характарнай для новелі, як пэўнага мастацкага жанру. Гэтыя зарысоўкі, узятыя паасобна, у композыцыйных адносінах становяць сабой мастацкія малюначкі, якія на пярэднім пляне рысуюць тыя ці іншыя дзеі герояў у пэўны, узяты аўтарам момант часу. Фонам гэтых дзеяў, як ужо зазначалася, зьяўляюцца ці бытавыя абставіны, ці-ж малюнак прыроды. Але і тое і тое, якраз, у апавяданьнях эскізнага характару накідаецца самымі кароткімі, часамі зусім выпадковымі штрыхамі; галоўнае ў такіх малюнках—герой і яго дзеяньне. Абставіны, якія так каротка адзначаюцца пісьменьнікам, звычайна зьяўляюцца толькі ўсяго ў ролі паказальніка на месца ды час дзеі, і, такім чынам, становіцца фактарам, яго конкрэтызуючым. Больш цеснай унутранай сувязі між гэтымі дзьвюма часьцінамі твору няма. Пачаткам, які рухае самое апавяданьне, зьяўляецца дынамічнасьць ды паступовасьць асобных эпізодаў дзеяньня ў межах таго моманту, які малюецца аўтарам. Дзеяньне адбываецца, дзякуючы лёгічнай счэпленасьці паасобных ма-

[1]) Гл. „Полымя“ № 3.

ленькіх часьцін яго, адна з аднэй выцякаючых. Такая ўласьцівасьць композыцыйнай пабудовы датычыць, пераважна, апавяданьняў гумарыстычных. Так, напр., эскізнае апавяданьне „Кантракт“ распадаецца на дзьве часьціны, што абазначаецца і аўтарам падзелам яго на два разьдзелы. Першы мае ў сабе эпізод, які малюе абгаварэньне контракту, а другі—яго пісьмовае складаньне. Такім чынам, адзін эпізод лёгічна выцякае з другога, і гэта пераймальнасьць іх зьяўляецца імпульсам, які рухае апавяданьне мастака. Ці ў другім апавяданьні „Андрэй выбаршчык“ мы таксама маем дзьве невялікія часьціны, з якіх кожная становіць сабой асобны разьдзел; першы дае апісаньне праводзін Андрэя на выбары, а другі—як ён вярнуўся. Значыць, і тут адзін момант лёгічна зьвязаны з другім, і гэта сувязь становіць сабой рухаючы пачатак для ўсяго апавяданьня.

Такі самы, прыкладам, композыцыйны характар маюць і другія апавяданьні гэтай-жа катэгорыі—апавяданьні-эпізоды: „Імяніны“, „Адгукнуўся“, „Бунт“, „Кажух старога Анісіма“, „Старыя падрызьнікі“, „Соцыяліст“, „Недаступны“, „Знайшлі“, „Выстагнаўся“, „Злавіў“, „З днеўніка пана Жылкі“, „Старасьць“, „Так і трэба ашуканцу“, „Выбар старшыны“.

У пабудове гэтых апавяданьняў маецца яшчэ адна характарная ўласьцівасьць, якая ёсьць і ў другіх апавяданьнях Я. Коласа, не ўвайшоўшых у гэту групу апавяданьняў-эпізодаў. Вышэй ужо адзначалася, што ў межах пэўнага эпізоду аўтар на першае месца высоўвае выяўленьне галоўных момантаў дзеяньняў,—тых, якраз, якія, на яго думку, варты мастацкага выяўленьня. Гэтае выяўленьне даецца ў пэўных конкрэтных і дынамічных малюнках; тут ёсьць разьвінаньне дзеяньня ці яго паасобных часьцін. Тымчасам побач з гэтымі тут-жа аўтар дае і шэраг малюнкаў скручаных, нераскрытых падрабязна. Пра іх ён гаворыць у агульным абагульняючым відзе. Так, у адзначаным ужо апавяданьні „Кантракт“, малюючы другую яго часьціну, аўтар гаворыць пра тое, што перш, чым пачалі пісаць контракт, прайшла „добрая гадзіна часу“. У гэты час шукалі патрэбных пісьмовых прылад, але пра гэта аўтар гаворыць у агульнай форме, не разьвінаючы, шырокага малюнку; аўтар гаворыць коратка, абагульняюча: „Стараста разаслаў ганцоў на ўсе куты в. Ямішч. Зьмяты аркуш паперы дасталі ў Бэркі. Па атрамант і асадку прышлося ісьці за дзьве вярсты да старога Гірша“ (20). Самога малюнку таго, як здабывалі паперу ў Бэркі і атрамант з пяром у Гіршы, пра гэта пісьменьнік нічога ня кажа. Такім чынам, выяўляецца композыцыйная манера пісьменьніка даваць малюнкі разьвінутых дзеяньняў—*галоўных* і малюнкі абагуленых, скручаных—*двугарадных*. Ці-ж другі прыклад. У апавяданьні „Імяніны“ зазначаецца тое, як кампанія вясковай інтэлігенцыі—сядзелец манапалькі, вураднік, дзякан, фэльчар—ішлі да пісара на імяніны. Пакуль яны ўсе ішлі, сядзелец „гаварыў сьмешныя рэчы“ (23). Але аўтар не падае падрабязна гэтых сьмяхотных гісторый героя і абмяжоўваецца толькі агульнай заўвагай пра іх: „Яго расказы вядомы

былі тым, што ў іх было ў сто разоў больш гразі, як сьмеху і розуму“. Адна з сьмяхотных рэчаў, у якой прымаюць удзел пералічаныя героі, і становіць сабой зьмест усяго апавяданьня. Гэты спосаб дыктуецца выключна вымаганьнямі тэорыіі таго самага жанру, якім карыстаецца аўтар, або новэлі. Яе характарную ўласьцівасьць становіць кароткасьць, якую так вобразна азначыў Эдгард По, заўважыўшы, што час, каб прачытаць новэлю, павінен быць ад поўгадзіны да аднэй, дзьвюх гадзін. Адпаведна з гэтым вымаганьнем, аўтар абмежаваны ў магчымасьцях разьвіваць малюнкі. Адсюль і выходзіць само сабою вылучэньне эпізодаў галоўных і другарадных, і далей—маляўнічае разьвінаньне першых ды скарачэньне другіх.

Наступным спосабам, характарным для сужэтнай пабудовы апавяданьняў Я. Коласа, зьяўляецца роўналежнасьць, пра якую мы ўжо ўспаміналі, разглядаючы мастацкую манеру пісьменьніка ў галіне тэматыкі яго твораў. Паводле свайго зьместу і формальнай прыроды, гэты спосаб неаднолькавы.

Першы від яго, які найбольш часта сустракаецца ў апавяданьнях, ёсьць у роўналежным выяўленьні малюнкаў жыцьця чалавека ды станаў прыроды, г. зн. той від яго, што наогул зьяўляецца самым пашыраным у літаратуры ўвогуле, асабліва-ж у народнай славеснасьці. Але роўналежнасьць гэтага роду ў апавяданьнях пісьменьніка паводле сваіх разьмераў неаднародная. У адных выпадках яна пашыраецца на ўвесь твор уцалку і зьяўляецца, такім чынам, галоўнай композыцыйнай асновай яго. У другіх-жа яна толькі абымае частку твору і робіцца ўсяго толькі прыватным, другарадным момантам у сужэтнай пабудове гэтага твору.

Прыкладам для роўналежнасьці першага шэрагу можа зьяўляцца апавяданьне „Васіль Чурыла“. У ім чаргаваньне малюнкаў прыроды і адпаведных сугучных станаў герояў праходзіць ад пачатку да канца. Пры гэтым усё апавяданьне, апрача лёгічнай сувязі ў апісаньнях абодвух шэрагаў, афарбована адным эмоцыянальным настроем, а менавіта: трывогай ды сумам. Знадворным спосабам гэта выяўляецца ў паўтарэньнях адпаведных штрыхоў, якія падкрэсьліваюць кожны раз гэту псыхолёгічную афарбоўку. Невялічкі малюнак шумеўшага зімовага лесу, з якога і пачынаецца апавяданьне, пачынаецца словамі, якія адзначаюць трывожны стан пэйзажу: „лес шумеў неяк вельмі нудна“ (3). Канчаецца гэты малюнак амаль літаральным паўтарэньнем гэтых слоў—„лес шумеў“: „*Нудна* шумеў стары лес“ (3). Потым тая самая трывога падкрэсьліваецца і далей амаль на кожным кроку. Пасьля пэйзажу ідзе кароценькае апісаньне хаты Васіля. І тут думка аб трывожным стане адзначаецца ў стогне дрэва: „над самым ваконцам зьвісла голая вярбіна і глуха шумела, усё роўна *як стагнала*“. Маленькая лямпка ў хаце лясьніка сьвяціла тады „смутна“. Такі самы настрой пранікае і ў душу герояў: „але чаму-ж так *нудна* і *страшна* за Васіля сягоньня? Алеся і сама гэтага ня знала. Толькі *нейкая глухая трывога* залезла ў душу і, як чарвяк,

грызла сэрца“ (4). Гэта трывога ахапляе і акаляючыя больш шырокія абставіны: „перадумала ўсе няшчасьці і здарэньні, якія маглі прылучыцца з Васілём у гэтую *неспакойную* ноч“ (4). Канчаецца гэты першы разьдзел апавяданьня зноў паўтарэньнем тых самых ранейшых выразаў аб лесе: „А лес усё шумеў. *Нудна* шумеў стары лес“... (4). Такім чынам, і дзеючыя асобы і акаляючыя іх умовы насычаны адным настроем—станам напружнай трывогі.

Другі разьдзел таго самага апавяданьня апісвае стан самога лясьніка Васіля. Ён у поўнай меры адпавядае папярэдняму. Васіль вышаў ад лясьнічага „з горкай крыўдай у сэрцы“... (4). Гэты настрой падтрымліваецца хмурымі ўспамінамі аб мінулым героя, якое „захавала ў сабе яшчэ старыя парадкі таго цёмнага часу, калі-то было права памяняць чалавека на сабаку, таго часу, каторы зваўся „паншчызнай“ (4). Ішоў Васіль „адзінокі, *нудны*“.

Далей у разьдзелах 3, 4 і 5 той самы стан падкрэсьліваецца зласнай суровасьцю зімовай непагоды, пагражаючай жыцьцю чалавека, а потым зноў сумнымі ды цяжкімі ўспамінамі аб мінулым і цяперашнім жыцьці Васіля. Гэты настрой паволі нарастае ў меру таго, як робіцца зусім відавочным, што прырода ў выглядзе пагрозных зьяў яе—ночы, мяцеліцы, сьнегу і т. д.—усё больш ды больш апаноўвае чалавека, і ён ня мае магчымасьці процістаяць яе згубным сілам. І зноў гэта падкрэсьліваецца ў кожным слове апавяданьня; асабліва гэта выразна выпучаецца пісьменьнікам, калі здань сьмерці ўжо была блізка. „Шырокі прастор поля звузіўся ў чорную бочку, і нічога не магло разглядзець вока адзінокага Васіля. Усё роўна як нехта выкінуў яго, непатрэбнага, беднага, у гэтую зяўру страшной ночы, прынёсшы ў афяру сярдзітай буры, каб яго жыцьцём купіць сабе спакой... адразу ахваціў яго страх, самы большы страх чалавечы—страх за сваё жыцьцё“ (6). Далей ужо ідзе напружнае змаганьне між жыцьцём ды сьмерцю. Канчаецца апавяданьне паўтарэньнем таго самага сумнага ды цяжкога настрою, з якога яно і пачалося, але толькі ў больш агульнай форме: „Вецер сьпяваў цяпер „вечны пакой“ слузе божаму і чалавечаму“...(8).

Адзначаючы гэту адзіную эмоцыянальную афарбоўку ўсяго твору, канечна трэба заўважыць, што яна, якраз, злучае ў адно мастацкае цэлае галоўныя часьціны роўналежнасьці, як композыцыйнай асновы апавяданьня. Гэтая роўналежнасьць між прыродаю і чалавекам праходзіць праз увесь твор. Як выяўленьне трывожнага чаканьня ў сям'і лясьніка, так і яго змаганьне з грознай стыхіяй,—усё гэта ідзе, як відаць ужо з папярэдняга, у пэўнай сугучнасьці з адпаведнымі малюнкамі прыроды. Гэту роўналежнасьць, і наогул цесную сувязь між двума компонэнтамі, падкрэсьлівае і сам аўтар, калі кажа: „у тахт думкам Васілія сьпяваў вецер у полі нікому непатрэбныя песьні“ (6); ці крыху далей: „а думкі, бесталковыя, дзікія думкі, заварушыліся ў ім скора-скора, як той сьнег, каторы з усіх старон так бязжаласна сыпаўся на Васіля“ (6).

Нарастаньне трывожнага стану, як ужо зазначалася, што далей, то ўсё больш прогрэсуе. Па меры набліжэньня да канца яно робіцца ўсё што раз, то больш напружным і канчаецца разьвязкай, якая зьяўляецца, такім чынам, заканчэньнем агульнай трывогі. Гэта дае права бачыць у межах роўналежнасьці адначасна і наяўнасьць спосабу нарастаючай градацыі з катастрофай у выглядзе яе разьвязаньня.

Прыблізна такую самую композыцыйную схэму маюць і вось якія апавяданьні з сэрыі сур'ёзных: „Калядны вечар", „Дудар", „У старых дубох", „Малады дубок" і „Злучыліся". Усе яны пабудованы на аснове роўналежнасьці між чалавекам—героем апавяданьня—і акаляючай прыродай.

У першым з іх абедзьве часьціны роўналежнасьці няроўнамерныя: першая—невялічкі малюнак зімовага лесу і другі—апісаньне самой дзеі апавяданьня: сцэны з жыцьця лясьніка. Тут роўналежнасьць выступае ў больш простым выглядзе, чым у апавяданьні „Васіль Чурыла". Там яна ўскладнёная; яна складаецца з шэрагу паасобных зьвяноў, з якіх кожнае мае роўналежнае выяўленьне прыроды, а потым і героя; усё апавяданьне становіць сабой, такім чынам, адзін композыцыйны ланцуг, які складаецца з паасобных частак. Тут-жа мы маем толькі адно зьвяно гэтага композыцыйнага спосабу, без чаргаваньня яго на працягу апавяданьня. Але абедзьве часьціны цесна зьвязаны эмоцыянальна: і ў прыродзе. і ў хаце Тараса—усюль рыхталіся да стрэчы каляднага вечару. Абодва малюнкі, якія рысуюць гэта падрыхтаваньне, і пачынаюцца амаль аднолькавымі словамі; першы: „здаецца, і сам сьвет гатовіўся як можна лепш сустрэць калядны вечар" (42); другі: „цяпер у Тарасавай хаце кіпела работа,—гатовіліся к сьвяту, к каляднаму вечару" (43). Роўналежнасьць гэта канчаецца сумнай разьвязкай, якая, аднак, ня так, як у папярэднім прыкладзе, а знаходзіцца ў контрасьце з агульным эмоцыянальным настроем апавяданьня; у ім, як відаць з папярэдняга, гэты настрой выяўляецца ў радасным, паступова нарастаючым чаканьні сьвята каляд, тымчасам як канец завяршаецца сумнай весткай аб арышце Паўлюка, які таксама быў адным з об'ектаў гэтай чаканкі.

Другое апавяданьне „Дудар" пабудована па тэй самай схэме, толькі малюнак прыроды больш шырокі, чым у папярэднім выпадку. Сувязь між абедзьвюма часьцінамі роўналежнасьці таксама больш глыбокая ды больш цесная. Прырода тут становіцца ў ролі адзінага слухача, бо людзі не разумелі песень поэты: „разьбіраў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы брат свае думкі, бо людзі сьмяяліся з яго слоў і песень"... (8) [1]).

У апавяданьнях „У старых дубох", „Малады дубок" і „Злучыліся" мы зноў маем больш частую роўналежнасьць, у якой малюнкі прыроды

[1]) Падрабязна аб копмозыцыйнай пабудове т. зв. сымболічных новэль Я. Коласа я не гавару, бо аб гэтым ужо ёсьць добрая работа Ю. Бярозкі: „Коласава алегорычная новэля" („Узвышша" № 4, 1927 г.).

паўтараюцца роўналежна з тымі падзеямі і дзеяньнямі, што разьвіваюцца. Усе паасобныя зьявы роўналежнасьці зьвязаны між сабой і лёгічна, і эмоцыянальна. Сувязь першага роду выяўляецца ў тым, што паасобныя зарысоўкі прыроды ў кожным з гэтых апавяданьняў становяць сабой адзін агульны малюнак, цэльны і скончаны; у апавяданьні „У старых дубох" даецца малюнак восені на Нёмне; у апавяданьні „Злучыліся"— малюнак вясновай прыроды. У дзеях герояў гэта счэпленасьць выяўляецца ў лёгічным чаргаваньні адных фактаў за другімі. Эмоцыянальная афарбованасьць ва ўсіх трох творах мае адзін і той-жа характар: увесь малюнак абвеены глыбокім сумам, трывогай ды страхам. Гэта аўтар падкрэсьлівае вельмі часта пры дапамозе таго ці таго стылістычнага спосабу.

„У старых дубох": „у леце пачыналася ўжо тая чуць значная зьмена, той паварот часу, калі жыцьцё прыроды ідзе на ўбытак. Скошаны луг і раскіданыя курганамі стагі, парыжэўшыя ад дажджоў і сонца, ужо гаварылі аб гэтым *уміраньні*" (19); „здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху *сумным* звонам" (20); „разгаворы Базыля і Грышкі аб чэрцях, аб раі, сьмерці" (22—23); „сьпевы былі нейкія невясёлыя, і яму стала *маркотна*"... (25) і г. д.

„Малады дубок": „шырокая, разложная верхавіна і адсечаныя сукі пазіралі *так невясёла, так сумна*, бы тыя пакінутыя бацькам дзеці" (55); „у лесе было ціха і *маркотна*" (56); „Максім *трывожна* азірнуўся вокал" (56); „Максім ніяк ня мог *супакоіцца*" (57); „нейкі *страх і трывога* душылі яго" (58); „чым бліжэй падыходзіў ён (Андрэй) да лесу, тым больш чуў ён *страх*. А змрок, *густы, халодны, няпрыветны*, нярухома аблягаў зямлю"... (61); „нейкая *жуда* ахапіла Андрэя. Пачуваньне *маркоты* і адзіноты агарнула яго" (62); „было штось *страшнае* ў гэтым нямым спакоі лесу, і гэты *страх* перадаваўся Андрэю... (63) і г. д.

У тым ці іншым выглядзе гэта псыхолёгічная афарбоўка ёсьць і далей да самага канца. Тое самае можна адзначыць і ў апавяданьні „Злучыліся": „так было цёмна яму (зернятку) у зямлі пад сьнегам, так халадна і *маркотна*" (204); „столькі ў іх (у зыках песьні) было ласкі, просьбы, радасьці і нейкай *патайной жальбы*" (206); „Юрка помніць, як яна (мама) ляжала з закрытымі вачыма, як *плакалі* ў хаце"... (208); „*плача* беднае дзіця здушаным плачам, і *страшна* яму" (208); „*затрыманыя сьлёзы капалі яму на сэрца, асядалі на дно душы*, і вобраз мамы ўставаў тады перад ім" (209); „Юрка, раскрыўшы роцік, пазіраў сваімі сінімі, як васількі, вочкамі, поўнымі *страху і трывогі*" (209); „цётка пакруціла сама сабе галавою і *паднесла хвартук да вачэй:* ёй жаль было хлопца" (211); „Юрка цэлы дзень, як злодзей, туляўся па зарасьлях за сялом, па густых лозах на беразе рэчкі; але ўсюды даймаў яго *страх, не даваў нідзе яму супакою*" (212) і г. д.

Усе тры апавяданьні канчаюцца вельмі сумна; у першым: Базыль, які зваліўся ў Нёман, але быў выратаваны адтуль, застаецца назаўсёды

нямым; у другім: Андрэй ня мог папярэдзіць вынікаў свайго здрадніцкага ўчынку ў адносінах да свайго сябра Максіма; у трэцім: Юрка памірае, і на яго магіле ставяць крыж з тэй самай елкі, якую ён так любіў.

Гэтая-ж схэма роўналежнасьці ўжываецца аўтарам у апавяданьнях гумарыстычных; так пабудаваны апавяданьні „Трывога“ і „На начлезе“, якія ў сваёй композыцыі паўтараюць плян апавяданьня „Калядны вечар“; у іх роўналежнасьць адназьвяновая: малюнак прыроды і падзеі з жыцьця чалавека. Абедзьве часьціны зьвязаны адна з аднэй эмоцыянальнай сувязьзю. У першым апавяданьні трывога насычае і прыроду („Ужо два тыдні як над сялом павіс нейкі страх і трывога, чаканьне чагось страшнага і неадваротнага. А што паслужыла першаю прычынаю, дык гэта— вялікая суш“, 90) і той момант у жыцьці Міколы Гляка, які малюецца аўтарам; толькі ў другім выпадку гэта трывога, што зазначалася ўжо пры разглядзе тэматыкі гэтага апавяданьня, набывае гумарыстычны характар; яна пераходзіць у такую трусасьць, якая робіцца проста сьмешнай. У другім апавяданьні „На начлезе“ гэта сувязь між прыродаю і чалавекам выяўляецца ў аднолькавым унутраным настроі; у прыродзе панавала цішыня і спакой („Кругом было так спакойна, так ціха і згодна“ ды інш., 100); тое самае адчуваў у душы і Тамаш. („Тамаш маліўся, і нейкая бясприччынная радасьць расходзілася па ўсіх закутках яго цела“ і г. д., 100).

Паданыя ілюстрацыі становяць прыклады роўналежнасьці, якая пашырае свой уплыў на ўвесь твор і зьяўляецца асноўным момантам яго композыцыйнай пабудовы. Але такога самага зьместу роўналежнасьць аўтар ужывае і ў больш вузкіх разьмерах. Яна зьяўляецца ў гэтым выпадках усяго толькі нязначнаю часьцінаю твору, уваходзячы ў яго, як паасобны момант побач з другімі компонэнтамі. Так, у апавяданьне „Соцкі падвёў“ устаўляецца невялічкі малюнак прыроды („цікавы месяц выплыў з-за белай хмаркі і, глянуўшы на гэту працэсію, мусіць засароміўся людзкога глупства“ і г. д., 35), роўналежны невялікай сцэне апавяданьня, малюючага, як вялі арыштаванага нібы „соцыяліста“. Гэты мімалётны пэйзажны малюнак устаўлены з гумарыстычных мэтаў; як відаць са зьместу яго, ён устаўлены, каб павялічыць тое сьмешнае становішча, у якое трапіў вураднік ды яго спадарожнік, вёўшыя „соцыяліста“. У агульнай пабудове апавяданьня роўналежнасьць становіць сабой адно з зьвяноў у нарастаючым комічным становішчы герояў апавяданьня, якое канчаецца такой самай комічнай разьвязкай.

Роўналежнасьць, як композыцыйны спосаб, у большасьці выпадкаў бярэцца пісьменьнікам у тым, якраз, тэматычным выглядзе, які маецца ў паданых ужо прыкладах. Але ёсьць адзін выпадак ужываньня таго самага спосабу, толькі з іншым зьместам. Замест малюнку прыроды, у якасьці першага члена яго выступае пэўнае тэорытычнае *моральнае* палажэньне, і ўсё конкрэтнае апавяданьне, якое будзе далей, зьяўляецца ўсяго толькі яго практычным прыкладам. Такую роўналежнасьць мы маем у апавяданьні „Калодка пчол“. У разьдзеле аб тэматыцы ўжо

зазначалася, што ўсё апавяданьне аб няўдачы з пчоламі зьяўляецца ілюстрацыяй таго становішча, нібы ў прадаўца іх „цяжкая рука“. Пра гэта аўтар гаворыць вуснамі герояў двойчы: у пачатку апавяданьня (14) і ў канцы яго (17).

Апрача зазначаных відаў роўналежнасьці, у Я. Коласа ёсьць яшчэ адна адменнасьць яе, якая ўжываецца ў апавяданьні „Чорт“. Усё апавяданьне пабудавана на пэўнай роўналежнасьці дзьвюх розных па зьместу новэль, але адзіных па сваёй эмоцыянальнай афарбоўцы. Першая з іх, якая займае сярэдзіну апавяданьня, расказвае аб гісторыі панскага служкі Кірыла, якога зрадліва забівае пан і месца сьмерці якога называецца Кірылавай магілай. Другая апавядае аб жартах п‘янага лясьніка Міхася, які ўдаў сябе за чорта, напалохаўшы праяжджаўшага міма Пятруся. Лёгічна гэтыя новэлі зьвязаны тым, што месца дзеі другой з іх адбываецца якраз каля Кірылавай магілы. У эмоцыянальных адносінах сувязь іх выяўляецца ў аднолькавым настроі, якім прасякнуты абедзьве гэтыя гісторыі; усюль падкрэсьліваецца стан страху; у першай новэлі выразна зазначана: „страшна было тут уночы“ (11); у другой гэта падкрэсьліваецца не аднойчы: „у лесе было ціха... Аж *страшна* стала Міхасю“ (10); „знаў ён (Міхась), што п‘яных часта водзяць па лесе чэрці. Знаў, што можна адхрысьціцца, і яму было і *страшна*, і вясёла“ (11); „Пятрусь ехаў з млына; сядзеў ён на возе бяз шапкі і маліўся богу, едучы цераз гэтае *страшнае* месца“ (12); „зноў Пятруся *страх* узяў“... (13). Гэты стан страху ў апавяданьні па меры набліжэньня да канца яго нарастае ўсё больш ды больш і канчаецца разьвязкай, дзе праяжджаўшы Пятрусь прымае за чорта п‘янага Міхася, які пераапрануўся ў перавернуты кажух.

Другі прыклад такога роўналежнага злучэньня дзьвюх новэль маем мы ў апавяданьні „Знайшлі“, хаця тут выразнай самастойнасьці кожнай з іх няма; першая, асноўная і больш вялікая, паглынае другую, значна меншую. Гэтае другое апавяданьне, устаўленае ў асноўнае, тэматычна зьвязваецца з тэй рэчай, якую „знайшлі“ героі яго па дарозе з Менску дахаты; гэта—капялюш, які п‘яныя Мікалай ды Нічыпар Касмык палічылі за свае згубленыя шапкі. Устаўная новэля зьяўляецца лірычным апісаньнем ад імя аўтара (у першай асобе) гісторыі гэтага капялюша. „Я колькі разоў бачыў капялюш на свае вочы, як пехатой хадзіў з Менску ў Беларучы“ і г. д. (149). Па характару выкладу гэта апісаньне зьяўляецца сугучным эмоцыянальнай настроенасьці ўсяго апавяданьня; у ім таксама выразна гучыць гумар пісьменьніка, як і ва ўсім творы яго. Асабліва выразна выяўляецца ён у тэй прамове, якую сказаў, зьвяртаючыся да капялюша, прыяцель аўтара, пісар, што першы зьвярнуў увагу на гэты капялюш: „Капялюш!—казаў пісар,—ляжыш ты цяпер тут адзін, і топчуць цябе людзкія ногі. Цябе даўно забылі і кінулі аднаго, аднаго на зьдзек цэлага сьвету. Пячэ цябе сонца, дажджы паліваюць, топчуць у гразь, нагой падкідаюць“ і г. д. (150). Гумар аўтара тут грунтуецца

на контрасьце: прамова, сур'ёзная з свайго зьместу, зьвернута да занадта дробнай і нязначнай рэчы, да выкінутага, непатрэбнага капялюша.

Нельга, нарэшце, не адзначыць некалькі выпадкаў ужываньня роўналежнасьці, як спосабу для групоўкі дзеючых асоб на два лягеры, звычайна па прыметах іх соцыяльнага пахаджэньня. Больш пуката гэты спосаб выяўляецца ў тых апавяданьнях, дзе героі належаць да розных грамадзка-палітычных груп. Роўналежнасьць у такіх творах заключаецца ў тым, што героі аднэй соцыяльнай групы, звычайна сяляне, проціставяцца другой—ці вясковай шляхце („У балоце"), ці ўладзе („Соцкі падвёў", „Андрэй выбаршчык", „Бунт", „Выбар старшыны" ды інш.), ці, нарэшце, прадстаўніком гарадзкой насельнасьці („Дзеравеншчына").

У межах паказаных відаў роўналежнасьці была адзначана наяўнасьць і другога спосабу, а менавіта, нарастаньня-градацыі, пра што таксама была ўжо гутарка пры разглядзе зьместу твораў Я. Коласа. У некаторых выпадках гэты спосаб выступае ў самастойным выглядзе, зьяўляючыся галоўнай асновай у композыцыйным пляне апавяданьня. Прыклад такой пабудовы на падставе градацыі мы маем у апавяданьні „Соцкі падвёў". У гэтым апавяданьні, якое мае характар зарысоўкі некалькіх бытавых сцэн, паасобныя яго эпізоды праходзяць перад чытачом у парадку нарастаючай градацыі. Галоўным носьбітам эмоцыянальных настрояў, якія паступова ўсё павялічваюцца, зьяўляецца ураднік. Зьявіўшыся ў самым пачатку апавяданьня, ён марыць аб сваёй высокай кар'еры: „Важна ходзіць па мястэчку урадзік, накручваючы рыжыя вусы... Яму здаецца, што ён раскрыў „праступнае саопчаство", захапіў бомбы, пісьмы і рэвольвэры, і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэньне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным, потым прыставам, а там... і пашоў наш урадзік у гару, як цыган па драбінах на неба"... (29).

Апошняя думка з параўнаньнем, па істоце, становіць сабой асноўную композыцыйную думку, паложаную ў аснову апавяданьня; на працягу яго урадзік сапраўды аддаецца высокім марам, якія растуць усё больш ды больш. Яны зноў апаноўваюць ім і ў самы рашучы момант дзеяньня, калі „соцыяліста" ўжо арыштавалі: „усю дарогу думаў урадзік, якую карысьць прыносяць на сьвеце людзям урадзікі... Яму прадстаўлялася цэшка і прыстаўскія наплечнікі" (35).

Для павялічэньня эмоцыянальнага напружаньня і каб надаць большую рэзкасьць ды выразнасьць лятуценьням урадзіка, аўтар карыстаецца яшчэ і другімі дапаможнымі сродкамі. Адзін з іх быў ужо адзначаны раней; гэта—імгненная роўналежнасьць: арыштаваны „соцыяліст" ды цікаўны месяц. Другі сродак—гэта ўвядзеньне дзьвюх сцэн, дзе ўдзельнікі іх—сяляне, на чале з сотнікам Раманам Камлюком, нібыта і сур'ёзна размаўляюць аб падазроным „соцыялісьце" (гл. II і III); унутраны сэнс гэтых размоў, як ужо зазначалася вышэй, падрыхтоўвае чытача да разьвязкі, маючы ў сабе зусім ясныя намёкі на ўяўнасьць соцыялістага, які зьявіўся. Разьвязка, як вядома, рэзка абрывае напружнасьць

чаканьняў вураднiка, ставячы яго тварам перад тым глупствам, якое ён зрабiў.

Процiлежны роўлежнасьцi спосаб—контраст. Ён таксама ўжываецца, як ужо зазначалася раней, пiсьменьнiкам у яго апавяданьнях. Сутнасьць яго ў тым, што, замест роўналежнасьцi мiж зьявамi прыроды i жыцьця чалавека ды iх адзiнай эмоцыянальнай афарбоўкi, у iм выступае контрасны настрой мiж гэтымi компонэнтамi твору. Так, у апавяданьнях „Думкi ў дарозе", „Дзеравеншчына" i „Дзялiцьба" мы маем шырокае выкарыстаньне гэтага способу. У першым з iх, з аднаго боку, выступае ў сваiм характве прырода („Далёкае неба! Сiняе неба! Што ёсьць на сьвеце дзiўнейшае, як ты! Высокае сонца, белыя хмаркi, як пух, плывуць i плывуць адна за аднэю" i г. д., 4), а, з другога боку, процiлежныя гэтаму хараству настроi—пачуцьцё безнадзейнасьцi i нудоты („Далёкае неба! Сiняе неба! I як апаганiлi людзi хараство тваё, божае неба, у сваiх думках... О, мой родны край! Хмурна пазiраеш ты з сiняга туману" i г. д., 4—5).

Цiкава адзначыць, што ў гэтым апавяданьнi пачаткам, якi надае яму дынамiчнасьць, зьяўляецца рух аўтара па дарозе. Гэта адзначаецца з самых першых радкоў: „Грымiць па карэньнях цялежка, мiгацяцца стракатыя вярстовыя слупы, мiгаюцца, пахiлiўшыся, абросшыя мохам хваёвыя крыжы наабапал дарогi; бягуць лясы, гаi, мяшаюцца палi" ды iнш. (3). У далейшым гэты рух адзначаецца ня раз шляхам паўтарэньня амаль адных i тых-жа самых пытаньняў да дарогi: „i куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?" (3), „Куды ты нясеш мяне, няведамая дарога?" (5). Па меры гэтага руху зьмяняюцца, дакладней, рухаюцца i паасобныя малюнкi таго неба, што ён апiсвае. Кожны з iх аддзяляецца ад другога паўтарэньнем аднаго i таго-ж клiчнага звароту да неба: „А неба! Далёкае, няведамае, сiняе неба!" (3) цi больш кароткага: „Далёкае неба! Сiняе неба!" (4). У другiм апавяданьнi таксама ёсьць шэраг малюнкаў, якiя рысуюць хараство вясны i лета, а побач—нудотныя пачуцьцi Мiхалкi, якi сумуе ў горадзе па вёсцы. Нарэшце, трэцяе апавяданьне „Дзялiцьба" таксама пабудована на аснове контрасту, але крыху iншага зьместу. Тут контрастуюцца псыхолёгiчныя ўласьцiвасьцi розных герояў. Сьпярша выступаюць асобы адцягненыя, бяз пэўных назваў: жонкi ды iхныя мужыкi, якiя жывуць у аднэй хаце. Iх контраст падкрэсьлiваецца з самага пачатку: „Калi ў хаце жывуць дзьве бабы, то ўжо спакою няма. Гыр-гыр-гыр! Гыр-гыр гыр! Гыркаюцца яны ад самага раньня" (137). Далей ён падкрэсьлiваецца i ў iхных характарыстыках: „адна—капач, тая—мешалка. Тая—гультай, другая—няўмека. Так i кiдаюць адна аднэй на вочы. А як лягуць спаць, то кожная ўсю ноч шэпча на вуха свайму мужыку, нагаварвае на другую" (137). Мужчыны таксама сьпярша „крыва пaглядаюць адзiн на аднаго", а потым пачынаецца спрэчка, далей бойка i, нарэшце, дзяльба мiж iмi. На фоне гэтага адцягненага малюнку аўтар падае адзiн конкрэтны прыклад заўсёдных сварак мiж двума братамi—Сымонам ды Мiколам.

Дагэтуль мы разглядалі композыцыйныя способы агульнага характару, якія абымаюць сабою твор у цэлым, спыняючыся мімаходам на некаторых композыцыйных сродках прыватнага характару. Цяпер мы адзначым другія способы такога самага прыватнага характару.

Сярод іх, найперш, варта адзначыць адзін способ, які сустракаецца ў розных мясцох некаторых апавяданьняў Я. Коласа. Ён фігуруе і пры апісаньнях прыроды і чалавека. Сутнасьць яго ў тым, што аўтар сьпярша пералічае паасобныя зьявы, звычайна рэальныя, датычныя тэй ці іншай рэчы, а потым робіць агульны адцягнены вывад да яго, у якім ён абагульняе конкрэтныя выпадкі ў адным агульным ды шырокім выразе. Так, у апавядальні „Васіль Чурыла“ мы маем наступны прыклад; сьпярша ідзе пералічэньне: 1) „лаяўся пан лясьнічы, як праўдзівы майстар свайго дзела“; 2) „лаянка яго лілася доўга, плаўна, без запінкі“; 3) „кожнае слова быго ўзважана і біла па сэрцы цяжкім абухом“ (6); потым непасрэднае абагуленьне гэтага пералічэньня: „*адным словам*, думаў Васіль, абмылкаю нейкаю прышоў на сьвет гэты чалавек“ (6). Ці ў другім апавяданьні „Старасьць—ня радасьць“ мы сустракаем такі самы способ у двух мясцох; першы прыклад: 1) „шарасьцяць па пяску вуліцы калёсы і крэкчуць ад цяжару наваленага гною ці дроў“; 2) „забарабаніць пустое вядро на плячах маладзіцы ці дзяўчыны“; 3) „з рэчкі дакоціцца крык плытнікаў і рыбакоў“; 4) „дзесьто з боку звонка гучаць дзіцячыя галасы, *адным словам*, адусюль даносяцца зыкі жыцьця“ (17); другі прыклад, крыху ніжэй: „аб чым-жа Базыль думае? 1) Можа аб тым, што ён такі адзінокі і забыты, 2) што ўсе яго таварышы даўно ляжаць пад крыжамі... *Адно толькі чуецца* ў гэтых думках—старасьць—чуецца ў іх смутак“... (17).

Рэшта-ж прыватных способаў композыцыі датычыць паасобных пэўных часьцін у апавяданьнях нашага пісьменьніка, а менавіта—іх пачатку ці зачыну, апісаньне самой дзеі ды разьвязкі ці эпілёгу.

Прыстасоўна да першага з адзначаных компонэнтаў, трэба адзначыць способ раптоўнага зачыну ex abrupto большасьці апавяданьняў, які ўводзіць чытача проста ў сутнасьць справы ды інтрыгуе яго з самага пачатку. Гэты способ, вельмі пашыраны ў літаратуры, уводзіцца, якраз, каб выклікаць у чытача зацікаўленасьць да твору з першых-жа радкоў твору. Дзякуючы гэтаму, папярэдняя гісторыя дзеючых асоб, іх Vorgeschichte, калі толькі яна ёсьць, звычайна адносіцца да далейшага зьместу твору. Гэты способ, які ўводзіцца, каб павялічыць напружнасьць ды зацікаўленасьць апавяданьнем і які называецца часамі „перабудовай дыспозыцыі апавяданьня“, надта характарны, якраз, для новэлі, як пэўнага мастацкага жанру. Прыкладаў ужываньня гэтага сродку ў Я. Коласа надта многа. Так, апавяданьне „Чорт“ мае такі пачатак:—„Братка ты мой, Іван! Ты ведаеш, як я цябе люблю! Ну, дай пацалуемся! Во гэтак!..“ і г. д. (9). Іх кароткае Vorgeschichte, якая тлумачыць паданы зачын, паведамляецца ў некалькіх радкох крыху ніжэй; аўтар кажа: „Міхась і Іван лясьнікі. Зашлі яны да цёткі Фрумы і трынкнулі, што называецца.

А цяпер ішлі дадому“ (9). Ці другі прыклад; у апавяданьні „Дзеравеншчына“ мы маем зачын: „як яно будзе далей, сказаць трудна. Скарэй усяго, што кепска, і сам Міхалка так думае, стоячы на каленках па некалькі разоў у дзень“... (29). Яго гісторыя, ранейшая, чым стан, які апісваецца, перадаецца значна далей: „Міхалка нядаўна прыехаў з вёскі... проста забралі яго сюды і ўсё, бо дома ня было дзе дзецца. Бацька памёр“ і г. д. (30). Такі-ж самы зачын з Vorgeschichte маюць і другія апавяданьні; сюды належаць: „Кантракт“, „Соцкі падвёў“, „Кірмаш“, „Андрэй выбаршчык“, „Старасьць—ня радасьць“, „Мала́ды дубок“, „Кажух старога Анісіма“, „Старыя падрызьнікі“, „Соцыяліст“, „Дзяліцьба“, „Знайшлі“, „Выстагнаўся“, „Так і трэба ашуканцу“, „Казкі жыцьця“.

Часамі ў апавяданьнях пры наяўнасьці раптоўнасьці ў зачыне, зусім няма Vorgeschichte іх герояў. Так, апавяданьне „У балоце“ пачынаецца такой сцэнай: „загразла ў балоце панская брычка разам з панскаю сям'ёю, слугамі, коньмі, са ўсім панскім скарбам. Урэзалася яна ў гразь па самыя калодкі“ (37) і г. д. У далейшым няма ніякіх вестак ні пра брычку, якая ўтапілася ў гразі, ні падрабязнасьцяй адносна тых, хто ехаў у ёй; іхняя фізыономія застаецца зусім няяснай. Такога-ж характару апавяданьні: „Калодка пчол“, „На начлезе“, „Злавіў“, „Стараста“, „Выбар старшыны“. У некаторых апавяданьнях зачын мае ў сабе заўвагу на прысутнасьць нейкае таямнічае сілы (пра што гутарка ўжо была), якая таксама выклікае ў чытача зацікаўленасьць, падобную да тэй, якая ствараецца ў яго непасрэдным увядзеньнем яго ў сярэдзіну дзеяньня. Такога роду зачыны маюць апавяданьні: „Бунт“ і „Трывога“. Першае пачынаецца словамі: „Нешта трывожнае і патаемнае рабілася ў вёсцы. Мужыкі зьбіраліся ў кучкі, спорылі між сабою, талкавалі“ і г. д. (46). Другі: „Ужо два тыдні як над сялом павіс нейкі страх і трывога, чаканьне чагось страшнага і неадваротнага“ (90).

Шэраг апавяданьняў маюць уступ зусім іншага характару; раптоўнасьці ў іх няма. Яны пачынаюцца ці выкладам Vorgeschichte дзеючых асоб ці малюнкамі прыроды, якія, як ужо зазначалася, вельмі цесна прымыкаюць да самой дзеі.

Так, апавяданьне „Дудар“ з першых радкоў расказвае гісторыю трох братоў, сярод якіх быў і поэта: „Тром родным братом бог даў аднакі розум, аднакія мысьлі і думкі. Толькі не аднакая доля спаткала кожнага брата ў жыцьці. Хоць усім братом ня вельмі салодка жылося, але меншаму брату выпала самая горшая доля“... (7). Тое самае маем і ў апавяданьні „Імяніны“, „Зло не заўсёды зло“, „З днеўніка пана Жылака“.

У апавяданьні „У старых дубох“ зачын становіць сабой малюнак прыроды: „Цэлы гай старасьвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмна“... (18); ці ў „Адгукнуўся“: „Ноч была цёмная, ціхая, цёплая. Ні месяца, ні зорак“ і г. д. (40). Такі самы зачын маецца ў апавяданьнях: „Васіль Чурыла“, „Калядны вечар“, „Зоркі-анёлы“, „Жывая вада“, „Думкі ў дарозе“, „Недаступны“, „Злучыліся“.

Пераходзячы да асноўнай часьціны апавяданьня—апісаньню яго дзеяньня, у якасьці композыцыйцай уласьцівасьці, варта адзначыць адзін спосаб, які часта практыкуецца аўтарам з пэўнымі мастацкімі мэтамі, гэта—увядзеньне побач з галоўнымі героямі і шэрагу другарадных, але патрэбных не саміх па сабе, а ўсяго для выкананьня пэўных мастацкіх функцый, прыстасоўна да галоўнага цэнтральнага героя твораў, звычайна для наданьня яму пэўнай выразнасьці ды пукатасьці. Уся ўвага пісьменьніка ў такіх выпадках групуецца на галоўным пэрсонажы твору, а другарадныя толькі падкрэсьліваюць, якраз, яго цэнтральнасьць, дапамагаючы сваімі дзеяньнямі і прамовамі яго акрэсьленасьці ды шматбаковаму яго выяўленьню. Самі яны, дзякуючы гэтаму, трацяць свой самастойны інтарэс ды хаваюцца ў ценю, які падае на іх ад першараднага героя.

У апавяданьнях, што апісваюць у тым ці іншым сьвятле побыт лясьнікоў, у якасьці такіх дапаможных герояў выступаюць лясьнічыя, г. зн. непасрэднае начальства над лясьнікамі. Усе яны ня маюць імя, называюцца звычайна „пан лясьнічы“ („Васіль Чурыла“, „Малады дубок“) і ўводзяцца ў апавяданьне, каб надаць большую выразнасьць ды контраснасьць соцыяльнай прыніжанасьці лясьнікоў, іх паднявольнага службовага стану. Роўным чынам і ў апавяданьні „Дзеравеншчына“ на сцэне зьяўляецца ў якасьці імгненных пэрсонажаў брат Міхалкі, яго жонка, дачка; яны ўводзяцца, каб стварыць для галоўнага героя—Міхалкі пэўную сытуацыю, сытуацыю чалавека самотнага, адарванага ад вёскі і ня прыстаўшага да гораду. Ці ў апавяданьні „Трывога“ фігуруе другарадны герой—хлопчык Міхаська, каб яшчэ больш узмоцніць тое комічнае становішча, у якім апынуўся яго бацька—Мікола Гляк. Тое самае можна заўважыць і ў апавяданьнях: „На начлезе“—вясковыя дзеці, строіўшыя розныя жарты з Тамаша Чучкі; „Кажух старога Анісіма“—дзеці, якія прабуюць зьняць ашуканствам з дзеда яго кажух; „Старыя падрызьнікі“—Шлёма Цырлік; „Сястрэніч“—Мікалай, каб стварыць ды ўзмоцніць комічную сытуацыю галоўнай дзеючай асобы—Сьцяпана; „Недаступны“—шэраг асоб—цётка Грыпіна, стараста, хлопчык Пятрук, акружаўшыя дзядзьку Арцёма, які схаваўся ў студні; „Дзяліцьба“—Карусь, Базыль ды інш., якія былі пры драме і сварцы галоўных герояў—Сымона ды Мікалая і г. д. [1]).

Побач з гэтым спосабам падзелу герояў на галоўных і другарадных ды вылучэньня першых на пярэдні плян і скарыстаньне другіх толькі ўсяго ў якасьці дапаможных композыцыйных сродкаў, аўтар разьмяркоўвае герояў і крыху інакш; ён часамі надае ўсім ім аднолькавае мастацкае значэньне і адводзіць роўнае месца ў сваім творы. Для аўтара ўсе такія пэрсонажы аднолькава каштоўныя, і ён спыняецца на кожным з іх

[1]) Тое самае ў апавяданьнях „Кірмаш“, „Андрэй выбаршчык“, „Дудар“, „Адгукнуўся“, „Соцыяліст“, „Выстагнаўся“, „З днеўніка пана Жылака“, „Стараста“, „Так і трэба ашуканцу“, „Выбар старшыны“, „Злучыліся“ ды інш.

прыблізна ў роўнай меры, прыкладам, такой самай, у якой ён спыняецца на галоўнай асобе ў апавяданьнях першай групы. Звычайна, яны так ярка ды памастацку акрэсьлены ў іх унутраным ды знадворным аблічча, што выяўленьне іх на фоне асоб другарадных зусім не выклікаецца канечнай патрэбай. Так, у апавяданьні „Калодка пчол“ усе дзеючыя асобы яго, якія трапляюць у сьмешнае становішча з пустым вульлём пчол, аднолькавыя ў сэнсе іх героічнасьці і ў адносінах да таго становішча, якое займаюць яны ў апавяданьні. Тое самае роўнадзеючае значэньне герояў можна адзначыць у апавяданьні „Імяніны“, „Соцкі падвёў“, „У балоце“, „Калядны вечар“, „Старасьць—ня радасьць“, „Бунт“, „Знайшлі“ ды інш. Ва ўсіх гэтых апавяданьнях, як гэта можна ўжо бачыць з разгляду тэматыкі іх, героі з таго ці іншага боку аднолькава героічныя і ўсе стаяць, прыкладам, на аднэй лініі ў пляне апавяданьня.

Нарэшце, апошняя часьціна апавяданьня—разьвязка ці эпілёг—таксама мае пэўныя кампазыцыйныя ўласьцівасьці, якія мусяць быць адзначаны. Часамі разьвязка ці пэўны канец твору прдаугадваецца дзякуючы тым выпадковым, але досыць ясным намёкам, якія кідаюцца аўтарам на працягу таго ці іншага апавяданьня. Прыклад такой пабудовы разьвязкі быў ужо адзначаны раней пры разглядзе апавяданьня „Соцкі падвёў“.

У некаторых выпадках разьвязка ахінаецца ў форму казкі, якая ўстаўляецца ў канец твору. Такі эпілёг маюць апавяданьні „Дудар“ і „Малады дубок“. У першым—казка, расказаная поэтай сваім старэйшым братом, сымболічна малюе тое становішча, у якім знаходзіцца сам апавядальнік яе—дудар—Меншы брат; у ёй ён падае думку аб тым, якая мае, як ужо зазначалася, і агульнае і адначасна нацыянальна-беларускае значэньне, што песьні поэты часта недаступны і незразумелы людзям, з прычыны чаго поэта аказваецца адзінокім: яго слухае поле, балота ды лес. У другім апавяданьні казка, якая ўспомнілася Андрэю, што варочаўся з канторы лясьнічага з адказам, для яго няспрыяючым, таксама малюе сымболічна тыя адносіны людзей між сабою, якія характарны і для тэй конкрэтнай асярэдзіны, дзе жыве цяпер сам герой.

Канечна трэба адзначыць яшчэ выпадак разьвязкі выпадковай і нематываванай. Такі прыклад мы маем у апавяданьні „Трывога“. Ужо зазначалася раней, у разьдзеле тэматыкі, што канец гэтага апавяданьня зьяўляецца нечаканым. Герой ад страху выбягае на вуліцу, накінуўшы ня сябе вывернуты ўверх шэрсьцю жончын кажух; суседка яго—Лэя пякла пірагі і вышла ў сенцы з гарэўшай лучынай; гэты агонь праходзіўшая варта палічыла за пажар. Паднімаецца трывога. Але прыбегшыя людзі прымаюць Мікалая за чорта і разьбягаюцца. Усё гэта адбываецца вельмі хутка, бяз жадных падрабязных апісаньняў, і апавяданьне канчаецца тым, што Мікалай варочаецца ў хату. Такі спосаб алёгічнай разьвязкі, выведзены Я. Коласам, у поўнай меры зразумелы, калі прыняць пад увагу, што ён ужыты ў гумарыстычным апавяданьні. Гумар сам па

сабе, у большасьці сваіх спосабаў, становіць сабой зьяву аналёгічную, і ўвядзеньне такога самага канца зусім натуральна.

Дагэтуль мы разглядалі композыцыйныя спосабы Я. Коласа ў пабудове ім асобных твораў. Цяпер канечна трэба зьвярнуць увагу на ўсе разгледжаныя намі апавяданьні, як адзінае мастацкае цэлае. Разглядаючы іх з гэтага пункту погляду, канечна трэба сказаць, што ўсе яны ўвогуле становяць сабой адзін цэльны твор тыпу роману ці аповесьці, у якім асобныя апавяданьні адыгрываюць ролю яго разьдзелаў. Падставай для такога выводу даюць усе разгледжаныя намі часьціны поэтыкі Я. Коласа і сужэтная пабудова ды стыль.

У аглядзе тэматыкі ўжо зазначалася, што агульны зьмест разгледжаных апавяданьняў становіць быт беларускай вёскі. З гэтага боку, гэта агульнае адзінства тэматыкі яго твораў зьяўляецца адным з паказальнікаў і агульнага адзінства ўсіх гэтых апавяданьняў, магчымасьці іх аб'яднаньня ў той ці іншы апавядальны жанр. Далей, асобныя часьціны гэтай тэматыкі—пэрсонажы і фон, на якім яны выступаюць, таксама ў асобных сваіх часьцінах, зьяўляюцца ўсяго толькі эпізодамі аднаго вялікага малюнку, які рысуе жыцьцё беларускага сялянства. Дзеючыя асобы яго апавяданьняў, як ужо зазначалася, падзяляюцца на дзьве групы: на герояў комічных, якія адбіваюць розныя хібы акаляючай асярэдзіны, што павінны быць так ці іначай зьнішчаны, і на герояў сур'ёзных, якія зьяўляюцца часьцей ад усяго ўвасобнікамі пэўных староўкіх вартасьцяй жыцьця. Апрача таго, пры выяўленьні як адмоўных бакоў акаляючых умоў, так і станоўкіх, каштоўных, увага аўтара спыняецца на *розных межах* іх. Такім чынам, з гэтага боку жыцьцё, як об'ект мастацкага выяўленьня, знаходзіць у творах у іх агульным аб'ёме рознабаковае асьвятленьне. Гэта акалічнасьць таксама сьведчыць на карысьць выстаўленага намі вываду аб цесным адзінстве яго апавяданьняў.

Потым, абставіны дзеі таксама ўвогуле даюць закончаныя і нават шырокія малюнкі, перш за ўсё, беларускай прыроды, а потым быту вясковага ды гарадзкога. І гэты бок сьведчыць аб шырокіх мастацкіх горызонтах аўтара, уласьцівых, галоўным чынам, цэльным і вялікім апавядальным жанрам.

Апрача таго, і даныя стылістычнага характару, паколькі яны знаходзяцца ў цеснай органічнай сувязі з тэматыкай твораў, таксама зьяўляюцца лішнім сьцьвярджэньнем магчымасьці для тых вывадаў, што мы высунулі. У яго мове мы вызначылі два стылі—гумарыстычны і стыль сур'ёзны, якія ўвогуле даюць адзіны многагранны і шматвобразны стыль, уласьцівы больш за ўсё і перш за ўсё шырокім апавядальным палотнам.

Калі будзе на тое дазвол, з мэтай толькі ўсяго папярэдняй спробы накідаць магчымую схэму такога вялікага апавядальнага твору—роману ці аповесьці, дык, на нашу думку, паасобныя апавяданьні разгледжаных зборнікаў павінны, як паасобныя разьдзелы яго, разьмесьціцца ў наступным парадку.

На першым пляне ў якасьці увэртуры ў такім вялікім творы павінны быць пастаўлены апавяданьні: „Думкі ў дарозе“, „Зоркі-анёлы“, „Жывая вада“ і „Дудар“. Першыя два апавяданьні тэорытычна малююць агульны мастацкі сьветапогляд аўтара на жыцьцё ў яго шматвобразных выяўленьнях, як агульна чалавечых, так і нацыянальна-беларускіх, галоўным чынам, у адносінах соцыяльных. Трэцяе апавяданьне—„Жывая вада“ мае ў сабе тую самую думку, але выкладае яе ў форме сымболю, казкі. Увогуле, гэтыя тры апавяданьні даюць у тэорыі мастацкую філёзофію аўтара. Апошняе апавяданьне таксама павінна ўваходзіць у гэты зачын твору, у яго пролёг, бо ён малюе становішча поэты і мастака ў гэтых шматвобразных адносінах акаляючага жыцьця і яго адносіны да іх.

Далей, пасьля пролёгу, павінна ісьці асноўная часьціна твору, якая, як гэта выцякае з папярэдняга, знаходзіцца ў цеснай сувязі з пачатковай яго часьцінай, даючы мастацкую ілюстрацыю для асноўных палажэньняў, высунутых у тэорытычным сьветапоглядзе аўтара. Пры гэтым больш ды шырэй за ўсё аўтар, як вядома, спыняецца на мастацкім асьвятленьні „сіраты людзкой будовы“, на мужыцкай вёсцы, толькі мімаходзь кідаючы свой погляд і на прадстаўнікоў панска-шляхецкага стану. Тут выступае, як толькі што зазначалася, бок гумарыстычны і сур‘ёзны; той і другі прадстаўлены, як вядома, цэлым шэрагам апавяданьняў. Пытаньне аб іх узаемных адносінах адзін да аднаго ды іх композыцыйным разьмяшчэньні на адным шырокім палатне малюнку зьяўляецца пытаньнем мастацкай тэхнікі пісьменьніка, таму тут мы бярэм адвагу ня сябе даць толькі прыблізную ды мо‘ і грубую схэму іх разьмяшчэньня.

Перш за ўсё, канечна трэба паставіць апавяданьні, якія малююць нам герояў—комічных ды сур‘ёзных у іх дзіцячым веку. Дзеці ў апавяданьні „На начлезе“, якія кпяць з дзеда Тамаша, строяць яму розныя штукі—гэта будучыя героі гумарыстычных апавяданьняў. Гэта яны, калі будуць у сталым веку, выступяць у апавяданьнях: „Чорт“, „Калодка пчол“, „Кірмаш“, „Трывога“, „Старыя падрызьнікі“, „Соцыяліст“, „Недаступны“, „Дзяліцьба“, „Знайшлі“ ды інш. З іх-жа, мабыць, выйдуць у канцы іхнага жыцьця такія старыя, як Анісім з яго кажухом. Апрача таго, з іх-жа асярэдзіны выйдуць і прадстаўнікі сельскай улады з іх дурнотай, грубасьцю, нахілам да беззаконнасьці, да вясёлага прабаўленьня часу. Бясспрэчна, калі яны дасягнуць кар‘еры пісара, вурадніка, сядзельца і г. д., мы іх, якраз, сустрэнем у апавяданьнях: „Імяніны“, „Соцкі падвёў“, „Злавіў“. Калі хто-небудзь з гэтых вясковых жартуноў трапіць у горад, дык у ім лёгка будзе пазнаць героя апавяданьня „Так і трэба ашуканцу“. Калі-ж ім проціпаставіць прадстаўнікоў другой клясы—вясковую шляхту, цесна з імі зьвязаную, дык у адзін тон гэтым героям вёскі перад намі стануць бесталковы пан у апавяданьні „У балоце“ ці-ж засёды п‘яны пан Жылака („З дзеньніка пана Жылака“). Гэта граніца жыцьця комічная, пацешная і разам з тым у большасьці выпадкаў цёмная, адмоўная.

Побач з гэтым выступае і другі бок яе—сур'ёзны, станоўкі. Пераходам да яго ад першай можа быць казка „Зло не заўсёды зло“. Тое, што намалёвана аўтарам у папярэднім малюнку, можна ўвогуле кваліфікаваць, як зло, як іменна адмоўную зьяву жыцьця. Але зазначаным апавяданьнем аўтар хоча падкрэсьліць, што зло не заўсёды зло, бо ёсьць і другі бок мэдалю—станоўкі, які можна проціпаставіць адмоўнаму. Гэты сур'ёзны бок і выступае ў цэлым шэрагу яго апавяданьняў, маючых таксама агульную сувязь між сабою, якія знаходзяцца, як зазначалася, у пэўнай роўналежнасьці з апавяданьнямі гумарыстычнымі. Героі гэтых апавяданьняў таксама выступаюць сьпярша ў шчасьлівую пару маленства. Тут мы сустракаемся з сур'ёзнымі дзецьмі беларускай вёскі ў апавяданьні: „У старых дубох“ і асабліва ў апавяданьні „Злучыліся“. Гэтыя дзеці, узятыя з вёскі і перанесеныя ва ўмовы гарадзкога быту, сьпярша трапляюць у тое-ж самае становішча, якое перажывае Міхалка ў апавяданьні „Дзеравеншчына“. На наступнай, аднак, ступені, асвойтаўшыся з новай для іх гарадзкой атмосфэрай, яны дадуць спаміж сябе Паўлюка ў апавяданьні „Калядны вечар“, які становіцца ў шэрагі барацьбітоў за народную справу. Калі-ж гэтыя дзеці застаюцца на вёсцы, дык, якраз, спаміж іх выйдзе і Васіль Чурыла („Васіль Чурыла“) і Андрэй у апавяданьні „Малады дубок“. Яны-ж дадуць і герояў для апавяданьня „Бунт“, якія павядуць змаганьне за сваю справу, праўда, яшчэ няўмела, але гэта толькі спачатку. Гэтыя, якраз, героі, вызначаюць, праўда, у вельмі цьмяных яшчэ, ледзь прыкметных контурах тыя станоўкія вартасьці жыцьця якія адны толькі могуць быць яго асновай—гэта сумленная праца, сумленныя ды шчырыя адносіны да сваіх братоў, змаганьне за колектыўнае шчасьце жыцьця ды г. д. З прычыны таго, што ўмовы, якія акружаюць гэтых герояў, мала спрыяюць разьвіцьцю, якраз, высокіх ды станоўкіх дасягненьняў жыцьця, дык лёс іх пакуль-што глыбока трагічны; гэты герой ці паміpae заўчасна („Васіль Чурыла“), ці-ж дажывае да старасьці, якая, аднак, дае мала радасьці („Старасьць ня радасьць“).

Заключным эпілёгам да гэтага шырокага малюнку можа быць апавяданьне „Казкі жыцьця“. У ім можна бачыць зноў-ткі тэорытычнае абагуленьне тых шматвобразных конкрэтных эпізодаў, якія станавілі об'ект для мастацкага выяўленьня ў асноўнай часьціне малюнку. Гэтае апавяданьне сымболічна—у выглядзе казкі пра вёску, ручаі ды ветры—малюе тую шматвобразнасьць людзкіх адносін, іх нятрываласьць, нават фальшывасьць, якую мае ў сабе акружаючае жыцьцё, прыватна-ж, і тую, што зьяўляецца прадметам абрысоўкі аўтара; у гэтай яе рознахарактарнасьці ды нявыразнасьці хаваецца крыніца і для яе асноўных бакоў—для адмоўнага і станоўкага.

У процэсе ўспрыйманьня ўсіх апавяданьняў Я. Коласа, як адзінага мастацкага выяўленьня, паасобныя героі іх, якія маюць, як гаварылася раней, у большасьці выпадкаў, статычны выгляд, набываюць, дзякуючы ўзаемнаму сваяўству, пэўную дынамічнасьць разьвіцьця: ад падлетка

чытач пераходзіць да героя ў яго сталым веку і далей у старым, прычым гэтыя моманты праходзяць перад ім у розных бытавых сытуацыях—у вёсцы, у горадзе, на ўлоньні прыроды ды інш. Гэты рух, дынамічнасьць зноў становяць ужо прымету апавядальнага жанру значных разьмераў.

Далей складаючы так герояў па асобных групах, мы ў іх унутраных перажываньнях ужо знаходзім не паасобныя эмоцыі, адзінкавыя адчуваньні, але іх комплекс, аб'яднаньне, гэта значыць тое, што называецца характарам. У гэтым стасунку перад намі выступаюць характары гумарыстычныя, часта адмоўныя, і характары сур'ёзныя, станоўкія. Наяўнасьць цэльнага характару зноў-ткі ўласьцівасьць вялікага твору.

Накіданая намі ў агульным выглядзе схэма магчымага разьмяшчэньня паасобных апавяданьняў Я. Коласа, як асобных разьдзелаў, у вялікім апавяданьні, як адным мастацкім цэлым, дае права зрабіць і наступны, які сам сабой выцякае з папярэдняга, вывад, што сапраўднае прызначэньне аўтара, як мастака,—жанры вялікія ды шырокія, такія, як роман ці аповесьць. Разгледжаныя намі апавяданьні, з прычыны гэтага, трэба разглядаць толькі як эскізы, накіданыя аўтарам для адзінай усёахапляючай карціны.

## VIII

Пытаньне гістарычнага тлумачэньня сужэтнай пабудовы ў апавяданьнях Я. Коласа, таксама, як і пытаньні стылю, мае многа перашкод. Яны абумоўліваюцца малым дасьледваньнем проблемы композыцыі наогул і, прыватна, у сфэры тых літаратурных настрояў, сымпатыі да якіх з боку нашага пісьменьніка ўжо вызначаны. Таму і тут, як і пры тлумачэньні мастацкай мовы, умовы чыста об'ектыўнага характару даюць магчымасьць толькі ўсяго высьветліць пастаўленую тэму ў самых агульных абрысах.

Проблема жанру, якім карыстаецца ў сваёй творчасьці Я. Колас, была ўжо намі закранута раней. Мы адзначылі роўналежнасьць ва ўжываньні апавяданьня-новэлі, як мастацкага жанру, і ў Гогаля і Я. Коласа. Але гэта пытаньне можа быць пастаўлена і больш шырока. Карыстаньне новэляй у нашага пісьменьніка мае пачатак наогул у традыцыях „натуральнай школы" як плыні, якая аднаўляе акружаючую рэчаіснасьць у яе сапраўдным выглядзе. Для яе, якраз, гэты жанр аказваецца больш характарным, як для другіх літаратурных кірункаў, прыватна-ж, романтычнага, якія таксама часамі ня цураліся яго, але ніколі ня ўжывалі яго ў такім разьмеры, якія ўласьцівы натуралізму. Ставячы гэта пытаньне шырока, мы з аднакім правам можам узводзіць гэту традыцыю ў Я. Коласа да розных прадстаўнікоў гэтай плыні, напр., такіх, як Бокачыо, Мопасан, Чэхаў ды інш. У стасунку карыстаньня новэляй, як літаратурным жанрам, Я. Колас займае сярод іх роўнапраўнае месца.

Карыстаньне роўналежнасьцю, як спосабам композыцыйнай пабудовы, перш за ўсё зьвязвае нашага аўтара з традыцыяй народнай творчасьці,

у якой гэты сродак аб'яднаньня мастацкага матэрыялу ўжываецца асабліва шырока. Асабліва блізкія да народнай славеснасьці тыя віды роўналежнасьці, якія будуюцца на падставе чаргаваньня малюнкаў прыроды з малюнкамі дзеяньняў чалавека. Гэтыя роўналежнасьці ў нашага пісьменьніка адназьвяновыя ці шматзьвяновыя, у формах апавядальных перадаюць тыя тыпы адначленных ці многачленных параўнаньняў, якія запаўняюць сабою песьні беларускай народнай лірыкі і шлюбна-абрадавай поэзіі. Само сабой зразумела, у руках народнага песьняра гэты спосаб мае кароткі, спрошчаны, прымітыўны выгляд. У ім проста даецца параўнаньне, напр., вобразу прыроды, зары ці зоркі і жыцьця чалавечага: дзяўчыны ці хлапца (маладой і жаніха). Або карціны прыроды могуць накапляцца і стварацьшматчленнасьць роўналежнасьці. Гэта—адыходныя першапачатковыя тыпы роўналежнасьці, якія ў літаратуры асабістай значна ўскладніліся і дыфэрэнцыяваліся ў выглядзе рознастайных комбінацый з адзначаных асноўных. Гэты спосаб у Я. Коласа больш складаны ды шырокі. Апрача таго, многачленнасьць у яго іншая; яна становіць сабой нанізваньне адназьвяновых роўналежнасьцяй; іначай кажучы, традыцыя народнай творчасьці тут выступае ва ўскладненым выглядзе і набліжае гэтую роўналежнасьць да тых, якімі опэруе асабістая творчасьць.

Другія віды роўналежнасьці, вызначаныя ў апавяданьнях, куды бліжэйшыя да тых, што ёсьць ужо ў штучнай літаратуры, прыватна-ж, у пісьменьнікаў тэй-жа „натуральнай школы“. Гогаль таксама карыстаўся гэтым спосабам, прыкладам, у такіх-жа відах, як гэта мы маем і ў Я. Коласа. Так, у яго „Невском проспекте“ даецца роўналежны малюнак, з аднаго боку, грамадзтва, да якога належаць галоўныя героі аповесьці—Піскароў ды Пірогаў, а з другога,—апісваюцца яны самі з тымі падзеямі, што здарыліся з імі. Ці ў аповесьці „О том, как поссорились Иван Иванович с Иваном Никифоровичем“ пісьменьнік будуе свае характарыстыкі герояў на прынцыпе роўналежнасьці („Иван Иванович очень сердится, если ему попадет в борщ муха“, „Иван Никифорович чрезвычайно любит купаться“ і г. д.). Да гэтых гогалеўскіх роўналежнасьцяй больш за ўсё падыходзяць у Я. Коласа тыя, што знаходзяцца ў апавяданьнях „Чорт“ і „Знайшлі“.

Роўналежнасьць у композыцыі дзеючых асоб мае для сябе адпаведнасьць у творах аднаго з найвыдатнейшых прадстаўнікоў тэй-жа самай натуральнай школы—Л. Талстога. Больш паступова ў яго спосаб роўналежнага разьмяшчэньня герояў праводзіцца ў яго буйных творах, такіх, як „Война и мир“, „Анна Каренина“. У першым з іх выразна адчуваецца процістаўленьне групы герояў тыпу Напалеона—Кутузова групе пэрсонажаў у духу П'ера Бязухага—Андрэя Балконскага; у другім: групы Анна—Вронскі групе Левін—Кіці. Але ў Талстога падставай для такой групоўкі аказваюцца прыметы іх маральнага ды разумовага стану—розны зьмест сьветапогляду. Тымчасам у Я. Коласа ў такіх выпадках на першым месцы прыметы социяльнага характару.

Эмоцыянальная афарбоўка гэтых спосабаў, якую так паступова ды поўна праводзіць наш аўтар у іх, таксама знаходзіць для сябе поўную роўналежнасьць у тэй псыхолёгічнай сугучнасьці, якая ўласьціва роўналежнасьці ў папярэдніх прыкладах. Гэтыя спосабы, як у народнай творчасьці, так і ў літаратуры асабістай, у якасьці канечна патрэбнай прыналежнасьці маюць у сабе псыхолёгічную ідэёвую роўналежнасьць, якая яднае абедзьве часьціны роўналежнасьці ў адно цэлае.

Спосаб градацыі, ужываны Я. Коласам, як сродак композыцыйнай пабудовы сваіх апавяданьняў, належыць да такіх, што знаходзяць сваё карыстаньне ў мастацкай творчасьці, незалежна ад тых або іншых літаратурных плыняй ды густаў аб ім. Аднолькава ім карыстаюцца і пісьменьнікі романтычнага складу (асабліва ў лірыцы) і натуралістычнага. Аднак, у межах тэй-жа самай натуральнай школы, імкненьне да якой у нашага пісьменьніка выявілася зусім ясна, можна адзначыць пісьменьніка, які карыстаўся гэтым спосабам з мэтамі композыцыйнымі асабліва часта; гэта—Дастаеўскі. Як адзначае дасьледнік формальных бакоў яго творчасьці [1]), гэты спосаб ужываецца мастаком на кожным кроку, абымаючы сабою самыя рознастайныя зьявы стылю і мастацкага сынтаксу (выказьнікі, назоўнікі, і г. д.) і надаючы ўсяму твору ўцалку характар ступянёванарастаючага разьмяшчэньня ў ім мастацкага матэрыялу.

Больш выразна, якраз так, як гэта мы бачылі ў Я. Коласа, гэты спосаб выступае ў творчасьці другога прадстаўніка тэй самай школы—у Тургенева. Композыцыйная пабудова яго апавяданьняў ды аповесьцяй, паводле нагляданьняў яго дасьледніка [2]), грунтуецца на вылучэньні трох момантаў: нормы (малюнак чалавека ў яго звычайных жыцьцёвых умовах), катастрофы (парушэньне нормы непрадбачанымі акалічнасьцямі) ды фіналу (канец катастрофы і псыхолёгічныя вынікі). Гэтыя тры компонэнты ў іх унутраным псыхолёгічным зьмесьце зьвязаны адзін з адным ды разьвіваюцца ў парадку ўзрастаючай градацыі. Гэта композыцыйная пабудова бліжэй за ўсё падыходзіць да тае, якая была адзначана намі ў апавяданьні „Соцкі падвёў“. Тут у якасьці нормы зьяўляецца ўся фабуля апавяданьня, якая расказвае аб тым, як урадьнік думаў схапіць падазронага чалавека „соцыялістага“ ды зьвязваў з гэтым шырокія для сябе пэрспэктывы. Катастрофай аказваецца тое, што „соцыялісты“ быў фальшывы, з прычыны чаго ўсе меркаваньні ўрадніка зусім рухнулі. Фіналам зьяўляецца сцэна ў прыстава.

Процілежны спосаб композыцыі—контраст ці антытэза, якая ёсьць і ў Я. Коласа, належыць, як і папярэдні, да агульна-літаратурных сродкаў

[1]) В. Виноградов. Стиль петербургской поэмы Ф. М. Достоевского „Двойник“. Зборник „Ф. М. Достоевский“. Статьи и материалы под редакцией А. С. Долинина. Пгд. 1922.

[2]) Фишер, В. М. Повесть и роман у Тургенева. Зборник „Творчество Тургенева“ под ред. Розанава и Ю. М. Соколова, М. 1920 г.

поэтыкі, якія сустракаюцца ў пісьменьнікаў рознастайных кірункаў. У межах „натуральнай школы“ ён знаходзіць для сябе месца ў творчасьці таго самага Гогаля. Той ім карыстаецца вельмі часта; так, у „Мертвых душах“, на аснове контрасту, пабудована ўся гісторыя Плюшкіна, яго цяперашняе становішча процістаўляецца мінуламу, якое зусім іншага характару, чым яго сучаснае. У Тургенева, Дастаеўскага ці Талстога гэты спосаб таксама сустракаецца вельмі часта. Бліжэй за ўсё да Я. Коласа апошнія пісьменьнікі. З іх Дастаеўскі і Талстой у сваіх творах даюць шэраг прыкладаў контрасту, якія бліжэй за ўсё падобны да таго тыпу яго, што праведзены ў апавяданьні „Дзяліцьба“. Яны антытэзуюць, напр., такіх герояў, як Наполеон ды Кутузаў („Война и мир“), кн. Мышкін ды Рагожын („Идиот“), Аглая ды Настасься Піліпаўна („Идиот“). Контраст-жа ў апавяданьнях „Думкі ў дарозе“ і „Дзеравеншчына“ знаходзіць для сябе роўналежнасьць у скарыстаньні гэтага спосабу ў Тургенева, які сустракаецца ў яго, аднак, вельмі рэдка. Такі, напр., эпізод з роману „Накануне“, дзе выступае, з аднаго боку, Елена, поўная трывожных думак ды цяжкіх прадчуваньняў за здароўе свайго хворага мужа, а з другога,—малюнак чароўнай вэнэцыянскай ночы; ці ў романе „Дворянское гнездо“—сцэна нікчэмнага штодзеннага жыцьця (гульня Паншына ў пікет з Марыяй Зьмітраўнай), контрастуючая ўрачыста прыгожай ноччу.

З паасобных часьцін композыцыі варты ўвагі спосаб раптоўнага зачыну—ex abrupto, якім распачынаецца шэраг апавяданьняў Я. Коласа. Ён уласьцівы мастацкім творам розных літаратурных стыляў. Больш часта ім карыстаюцца аўтары твораў з авантурнымі фабулямі. Ужываюць яго і поэты-романтыкі. Конкрэтнае прыстасаваньне яго можна бачыць у романтычных творах Байрона, у т. зв. „Усходніх“ поэмах яго („Гяур“, „Парызына“, „Абідоская нявеста“ ды інш.) ці-ж у „Паўднёвых“ поэмах Пушкіна („Кавказский пленник“, „Цыганы“, „Бахчисарайский фонтан“ ды інш.), дзякуючы ўжываньню гэтага композыцыйнага спосабу гісторыя героеў (Vorgeschichte) звычайна адсоўваецца ў глыб твору і паведамляецца заднім чыслом; тое самае мы бачым і ў Я. Коласа.

Роўным чынам, яго зачыны з малюнкаў прыроды таксама знаходзяць адпаведнасьць у названых творах романтычнага характару. У таго-ж самага Байрона мы маем прыклады малюнкаў экзотычнай усходняй прыроды, у якасьці увэртуры, якая пачынае, напр., поэму „Гяур“, „Абідоскую нявесту“ ды інш.

Назіраньні ў галіне кароткай гісторыі композыцыйных спосабаў аўтара прыводзяць да тых-жа вывадаў, якія ўжо вызначыліся ў папярэдніх частках нашых дасьледнікаў. І тут—больш шырокая роўналежнасьць між нашым пісьменьнікам ды сужэтнымі схэмамі „натуральнай школы“ і больш вузкая—з романтычнымі спосабамі формаваньня мастацкіх твораў. У сфэры карыстаньня роўналежнасьцю, як сродкам пабудовы, зноў ёсьць пэўная блізкасьць да спосабаў народнай творчасьці.

У агульным падрахунку аўтар, як ужо зазначалася, малюе цёмныя, адмоўныя бакі жыцьця; гэта ўласьцівасьць яго апавяданьняў, як цяпер выяўляецца, належным чынам адбіваецца і на характары зьместу яго стылістычных сродкаў.

Эпітэты адцягненьня аўтар звычайна ўжывае для абазначэньня разьмераў тых эмоцый, якія ён фіксуе ў героя. Сюды належаць прыклады: „у галаве (вураднікa) мятушацца тысячы думак“ (29); „Колькі гаспадароў... былі ў яго вялікім падазрэньні“ (58); „страшныя думкі лезьлі ў яго галаву“ (66); „З вялікаю нянавісьцю зірнуў яму ў твар“ (72); самі па сабе адзначаныя выпадкі адцягненых эпітэтаў у сваім зьмесьце ня маюць конкрэтных межаў, таму часамі такія эпітэты аўтар азначае больш дакладна, карыстаючыся звычайным для яго спосабам конкрэтызуючых заўваг; „гэта... не псавала іх крэпкую, вякамі гадаваную дружбу“ („Родныя зьявы“, III).

# ПРОБЛЕМА БЕЛАРУСКАЕ ДЗІЦЯЧАЕ КНІГІ

**І. Цьвікевіч**

„Народ, які ня любіць дзяцей, павінен загінуць“.

*(Японскае прыслоўе).*

„Дзяцей трэба падрыхтаваць да таго, каб у будучыні яны былі будаўнікамі комунізму, змаганьнікамі за комунізм... Прад савецкімі пэдагогамі і пісьменьнікамі стаіць вялікае і адказнае заданьне—зрабіць даступнымі для кожнага дзіцячага ўзросту ідэі комунізму, зрабіць іх вобразнымі і пажаданымі для кожнага дзіцячага колектыву. Трэба замест „нуднай“ дзіцячай кніжкі даць кніжку таленавітую, іскрыстую, якая-б прымушала дзіця сьмяяцца, цешыцца, разумець хараство жыцьця“.

(З часопісу „Книга детям“, № 1, 1928 г., Масква).

Беларуская дзіцячая літаратура адстала ад агульнага ходу разьвіцьця беларускай літаратуры амаль на поўсталецьце. Калі паглядзець на дзіцячую літаратуру іншых народаў, дык усюды мы спаткаем гэты факт адставаньня яе ад літаратуры для дарослых. У Францыі першыя дзіцячыя кнігі зьявіліся пад канец XVII ст., у чэхаў дзіцячая літаратура нарадзілася толькі ў апошнія гады XVIII ст., у японцаў—у другой палове XIX ст., у расійцаў кнігі, напісаныя спэцыяльна для дзяцей, пачалі друкавацца ў другой палове XVIII ст. і г. д. Цікава, што факт спазьненьня дзіцячай літаратуры наглядаецца ня толькі ў нацый прыгнечаных, падняволеных, у якіх і агульная літаратура расла павольна або ледзь існавала. Гістарычны лёс дзіцячай кнігі быў усюды бадай што аднолькавы.

Калі ў гісторыка-экономічным процэсе разьвіцьця народу зьяўлялася нацыянальная буржуазія, яна пашырала і ўмацоўвала ідэолёгію сваёй клясы праз друкаванае слова ва ўсіх яго відах. Пазнаўшы вялізарную ўплывовую сілу літаратуры, буржуазія пачынала выкарыстоўваць яе і для выхаваньня маладога пакаленьня. Яна стварыла спэцыяльна дзіцячую літаратуру, насычаную поглядамі, інтарэсамі і ідэаламі свае клясы. Але стварэньне дзіцячай літаратуры было справай складанай, экономічна мала выгоднай і, апроч таго, літаратура гэта нараджалася і расла пад уплывам пэдагогічных ідэй. Пэдагогічныя-ж ідэі прасочваліся і замацоўваліся сярод настаўніцтва і шырокага грамадзтва дужа павольна. Пэдагогічная думка аб тым, што пры выхаваньні дзяцей трэба да іх падыходзіць іначай, як да дарослых, што для іх трэба мець спэцыяльную, дапасованую да іх узросту літаратуру,—гэта думка прабівала сабе шлях

з вялікімі труднасьцямі. Таму і дзіцячая літаратура ва ўсіх народаў разьвівалася маленькімі крокамі ў параўнаньні з шпаркім бегам агульнай літаратуры для дарослых.

У Расіі першыя дзіцячыя кнігі былі выданы на чужой для рускіх дзяцей, францускай мове. Прычынай было тое, што ў другой палове XVIII ст. у Расіі пашыралася француская сыстэма выхаваньня (ідэі Русо), зьявілася шмат французаў-настаўнікаў, якія выхоўвалі дзяцей дваран і памешчыкаў на францускай мове. Паступова пачала нараджацца і арыгінальная, расійская дзіцячая кніга, але ў працягу ўсёй паловы XVIII ст. расійскія аўтары былі яшчэ цалкам у палоне чужаземнай літаратуры. У тагачаснай расійскай дзіцячай літаратуры пераклады і перайманьні складалі вялікі процант [1]).

| Гады XVIII стал. | Колькасьць дзіцячых кніг | | |
|---|---|---|---|
| | Арыгінальных | Перакладных | Усяго |
| Ад 47 да 60-х г. г. уключна . | 2 | 25 | 27 |
| 70-я гады . . . . | 9 | 18 | 27 |
| 80-я „ . . . . | 19 | 61 | 80 |
| 90-я „ . . . . | 25 | 68 | 93 |
| Разам . . | 55 | 172 | 227 |

З гэтай табліцы відаць, што 76% усяе дзіцячае літаратуры складалася з кніг, перакладзеных з іншых моваў. Калі-ж узяць пад увагу сьцьвярджэньне лепшага знаўца расійскай дзіцячай літаратуры Н. Чэхава, што „ў XVIII ст. амаль няма магчымасьці выдзеліць сапраўды арыгінальныя творы дзіцячай літаратуры“, то сьмела можна гэты процант перакладной літаратуры павялічыць. Пераклады рабіліся пераважна з францускіх (46%) і нямецкіх (35%) арыгіналаў.

Процантныя суадносіны паміж колькасьцю кніг для дарослых і колькасьцю кніг для дзяцей таго часу роўны 0,5. Так, на працягу другое паловы XVIII ст. кніг для дарослых выдана 8.473 назвы, а для дзяцей— 49 назваў.

Расійская дзіцячая літаратура першай чвэрці XIX ст. знаходзіцца таксама пад вялікім уплывам чужаземнай літаратуры. Пераклады з францускай, нямецкай, ангельскай ды іншых моваў складаюць больш паловы ўсіх выдаваных дзіцячых кніг. Так, за першыя 30 год гэтага стагодзьдзя было выдана ўсяго 374 дзіцячых кніг, з якіх арыгінальных 129 (34%), а перакладных—245 (66%).

[1]) Усе лічбовыя даныя аб расійскай дзіцячай літаратуры ўзяты з кнігі „Материалы по истории русской детской литературы“. Том I, вып. I. Под редакцией А. К. Покровской и Н. В. Чехова. Москва, 1927 г.—Артыкул Н. В. Чехова „Очерки истории русской детской литературы“.

Асабліва яскравай ілюстрацыяй таго факту, што дзіцячая літаратура адстае ў сваім разьвіцьці ад агульнай літаратуры, можа служыць расійская дзіцячая літаратура другой чвэрці XIX стагодзьдзя. Гэта быў час пышнага росквіту расійскай мастацкай літаратуры. Тады жылі і пісалі такія волаты мастацкага слова, як Пушкін, Лермантаў, Тургенеў, Гогаль, Ганчароў, Астроўскі, Дастаеўскі, Л. Талстой. Здавалася-б, што і дзіцячая літаратура, якая ўзьнікае і расьце пад уплывам агульнай літаратуры, павінна была ў той час узбагаціцца высока-мастацкімі творамі. Можна было чакаць буйнога росту таленавітай і сапраўды орыгінальнай дзіцячай літаратуры, пабудаванай на сюжэтах з расійскага жыцьця. Аднак гэтага ня было. Перайманьне чужаземных узораў, часамі, праўда, высока-мастацкіх, і пераклады чужой дзіцячай літаратуры займаюць яшчэ значнае месца. Так, за пэрыод ад 1830 да 1854 году вышла ў сьвет дзіцячых кніжак 635 назваў, з іх орыгінальных—416 (66%) і перакладных—219 (34%).

У гэты пэрыод, праўда, зьяўляюцца першыя дзіцячыя пісьменьнікі-профэсіяналы, якія працуюць выключна ў галіне дзіцячай літаратуры і час-ад-часу даюць узоры таленавітай высока-мастацкай дзіцячай кнігі. Але процэс нараджэньня творцаў дзіцячай кнігі адбываецца надта павольна.

Гэта невялічкая гістарычная экскурсія ў мінулае расійскай дзіцячай літаратуры паказала нам, што расійская орыгінальная дзіцячая кніга праходзіла доўгі і трудны шлях. Нарадзілася яна ў чужой вопратцы і з чужым зьместам і пасьля вякамі вызвалялася ад чужаземнага палону. Як і ў іншых народаў, яна вырастала з агульнай літаратуры для дарослых, разьвівалася і ўдасканальвалася пад уплывам гэтай апошняй, але значна адставала ад яе ў часе, мастацкасьці і колькасьці.

У Японіі першыя кнігі, напісаныя спэцыяльна для дзяцей, зьявіліся толькі ў другой палове XIX ст. Слабы і марудны рост орыгінальнай японскай літаратуры прымусіў японцаў скарыстаць ужо багатую ў той час дзіцячую літаратуру іншых народаў. Пачынаючы з 90-х гадоў XIX ст., японцы пачынаюць выдаваць шмат перакладаў з дзіцячай літаратуры эўропэйскай, кітайскай, індускай. І на сёнешні дзень у японскай дзіцячай літаратуры пераклады з іншых моваў займаюць даволі значнае месца.

Нешта іншае мы бачым у гісторыі чэскай дзіцячай літаратуры. Тут можна прасачыць некаторую аналёгію з разьвіцьцём сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры.

Чэская дзіцячая літаратура вырасла зусім асобна, незалежна ад літаратуры для дарослых. Калі ў Чэхіі зьявіліся школы на роднай мове, зьявіўся і вялікі попыт на літаратуру для дзяцей і юнацтва. Нацыянальныя школы былі тым фактарам, які стварыў чэскую дзіцячую кнігу. Спэцыфічны школьны попыт на кнігу адбіўся і на характары першых чэскіх дзіцячых кніжак—яны былі напалову падручнікам. Орыгінальная чэская літаратура нараджалася паступова, і ў першыя часы ў ёй было

шмат перакладаў з нямецкай, польскай, расійскай ды інш. дзіцячых літаратур.

Беларуская дзіцячая літаратура, якая пачала існаваць усяго толькі год таму назад, зьявілася, падобна да чэскай, пад напорам вялікага попыту на яе з боку беларускіх школ. Факт, чаму савецкая дзіцячая кніга на беларускай мове зьявілася надта позна, аж на восьмым годзе існаваньня БССР, мае шэраг об'ектыўных умоў.

Калі лічыць, што беларуская дзіцячая літаратура ёсьць частка агульнай беларускай літаратуры, дык яна не магла зьявіцца ў дарэволюцыйныя часы, бо тады наша літаратура для дарослых сама яшчэ жыла ў трагічна-цяжкіх умовах, баронячы самае права на сваё існаваньне.

Пасьля-ж Кастрычнікавай рэволюцыі, у першыя гады змаганьня і будаўніцтва Савецкай Беларусі, залішне многа было неадкладных першачарговых заданьняў, каб аддаць належную ўвагу стварэньню дзіцячае літаратуры. Пры нашай паліграфічнай адсталасьці і абмежаванасьці ў сродках мы ледзь пасьпявалі здавальняць вялікі попыт на літаратуру для дарослых і яшчэ большы пякучы попыт на беларускія падручнікі. Самае нязначнае ўхіленьне ад асноўных задач пагражала-б зрывам школьнай працы, калечыла-б правядзеньне беларусізацыі. Дзяржаўнае выдавецтва было пастаўлена прад дылемай: або пачаць масавы выпуск дзіцячай і юнацкай літаратуры для пазашкольнага чытаньня і праз гэтае аслабіць тэмп працы па забеспячэньню школ падручнікамі, або даць беларускай школе падручнікі і пачакаць з выданьнем мастацкай дзіцячай кнігі.

Урэшце, пытаньне аб дзіцячай літаратуры распалілася дачырвона. Школьнікі ўпрост задыхаліся ад адсутнасьці мастацкай кніжкі, ад жаданьня адпачыць ад падручнікаў. Дашкольныя ўстановы саматугам раталіся ад голаду на дзіцячую кнігу: настаўніцы самі складалі прымітыўныя вершыкі, песенькі, апавяданьні і вусна перадавалі з аднаго дзіцячага саду ў другі гэтыя імпровізацыі. Беларускае настаўніцтва на зьездах і ў прэсе што раз, то часьцей і мацней падавала голас за дзіцячую літаратуру на роднай мове. Школе патрэбна была дзіцячая кніга ня толькі, як адпачынак школьнікам ад „сухіх“ падручнікаў, але, у першую чаргу, як пэдагогічная зброя, як магутны выхаваўчы сродак, як неаддымная частка пэдагогікі. Чакаць далей было нельга...

Пытаньне, гэтак гостра пастаўленае школай і грамадзкасьцю, захапіла, трэба прызнацца, НКАсьветы і Белдзяржвыдавецтва зьнянацку. Улетку 1926 году ўтвараецца пры НКАсьветы спэцыяльная камісія для організацыі справы па выданьню дзіцячае літаратуры. І адразу-ж, з першых крокаў прад камісіяй паўстаў цэлы шэраг організацыйных і прынцыповых пытаньняў. Ці ёсьць у нас дзіцячыя пісьменьнікі? Дзе ў нас рэцэнзэнты і рэдактары з вялікай пэдагогічнай і пэдолёгічнай практыкай, ідэолёгічна ўзброеныя, каб кіраваць стварэньнем савецкай дзіцячай літаратуры? Дзе знайсьці мастакоў для ілюстраваньня дзіцячае кнігі,

у якой малюнкі адыгрываюць вялікую выхаваўчую, пэдагогічную ролю? Хто вырашыць спрэчныя пытаньні аб антропоморфізьме ў дзіцячай літаратуры, аб мастацкіх кірунках пры ілюстраваньні дзіцячае кнігі? Наогул, якую кнігу мы павінны даць дзецям рознага ўзросту, якога зьместу, у якой паступовасьці ў залежнасьці ад узросту і вакольнага асяродзьдзя дзіцяці? Ці здолее выдавецтва тэхнічна выканаць друкаваньне шматкаляровых дзіцячых кніжак і г. д., і г. д.?

Аднак камісія па выданьню дзіцячай літаратуры падышла да справы даволі формальна. Пытаньне аб арганізацыі літарацкіх сіл для дзіцячай літаратуры было вырашана нязвычайна прымітыўна. На адно з паседжаньняў камісіі запрасілі трох-чатырох пісьменьнікаў і, калі тыя не зьявіліся, зрабілі вывад: беларускія пісьменьнікі ня цікавяцца дзіцячай літаратурай, а значыцца, каб атрымаць матэрыял для друкаваньня, трэба прагледзець расійскую і украінскую дзіцячую літаратуру, выбраць лепшае, перакладаць і друкаваць. Надта проста, а галоўнае лёгка. Ня трэба ламаць галаву, ня трэба шукаць, траціць энэргію.

Гэты адзін толькі факт сьведчыць, наколькі „па-казённаму“ камісія падышла да вырашэньня такога асноўнага пытаньня, як стварэньне кадру дзіцячых пісьменьнікаў. Ніводнага арганізацыйнага кроку, каб зацікавіць літарацкую грамадзкасьць, разварушыць настаўніцкія масы, скарыстаць маладыя пісьменьніцкія аб'яднаньні, як „Маладняк“ з яго філіямі па ўсёй БССР. Ніводнае спробы выкарыстаць практыку працы беларускіх дашкольных устаноў і іх настаўніцкага пэрсоналу. Мала таго, кіраўнікі камісіі не далі сабе працы хоць крыху пацікавіцца тым, што ўжо зроблена ў Маскве ў гэтай галіне, каб выкарыстаць расійскую практыку. А там ужо былі багатыя матэрыялы як па лініі арганізацыйнай, так і па пытаньнях мэтодычных. Практыка маскоўскіх арганізацый, якія працавалі па стварэньню дзіцячай літаратуры, паказала, што толькі праз шырокі ўдзел грамадзкасьці, толькі шырокай колектыўнай працай пэдагогаў, пісьменьнікаў, мастакоў, пэдолёгаў і вучоных можна дапяць пэўных, конкрэтных рэзультатаў. Дэкрэтамі згары, формальным ведамственым падыходам да справы тут мала дапаможаш.

Горай за ўсё, што камісія адразу неяк лёгка абмінула, адмахнулася ад прынцыповых пытаньняў, злучаных з выданьнем дзіцячай літаратуры на беларускай мове.

Так, напрыклад, камісія нават не закранула пытаньня аб тым, які павінен быць об'ектыўны крытэры для аналізу і ацэнкі дзіцячай кнігі. Бяз гэтага крытэрыю фактычна нельга было пачынаць прагляду і адбору расійскай і украінскай дзіцячай кнігі для перакладу яе на беларускую мову. Справа была спрошчана да сьмешнага: выдавецтва брала „ахапам“ усё, што было ў расійскім аддзеле кнігарні, і адсылала ў камісію, а там кніжкі раздаваліся сябром камісіі на рэцэнзію. Кожны з іх разглядаў кніжкі паводле свайго „ўласнага крытэрыю“, уласнага разуменьня, адным словам, як хто ўмеў.

Дзесяткі проблем, паважных, пякучых проблем, злучаных з выданьнем дзіцячай літаратуры, проблем, якія хвалююць пэдагогічны сьвет і наконт якіх увесь час адбываюцца самыя гарачыя дыскусіі ў іншых мясцох Саюзу—для нашай камісіі нібы не існавалі.

Організацыі, якой даручана была дужа складаная, адказная, спрэчная, мала вывучаная і ў нашых беларускіх умовах зусім новая справа, трэба было надаць больш навукова-дасьледчы і разам з тым грамадзкі характар. Трэба было стварыць навукова-дасьледчае ядро з лепшых спэцыялістых—пэдагогаў, пэдолёгаў, знаўцаў літаратуры,—якія-б вырашалі ўсе тэорытычныя прынцыповыя пытаньні, якія-б маглі даваць навуковую консультацыю па спрэчных пытаньнях і трымалі-б камісію ў курсе найноўшых пэдагогічных, пэдолёгічных і мастацкіх ідэй. Дзіцячую камісію трэ' было зрабіць навуковай лябораторыяй, дзе-б маглі выхоўвацца новыя маладыя спэцыялістыя па пытаньнях дзіцячае літаратуры. У програму працы гэтай лябораторыі трэба было паставіць організацыю сходаў і дыскусій з удзелам пэдагогаў і мастакоў або пэдагогаў і пісьменьнікаў. Па пытаньнях дашкольнай дзіцячай літаратуры склікаць спэцыяльныя сходы дашкольных работнікаў з удзелам пэдолёгаў, мастакоў і пісьменьнікаў, асобныя сходы з бібліотэчнымі працаўнікамі, якія ў сваёй працы штодня страчаюцца з дзіцячым чытачом, яго попытам на кнігу і г. д. Шляхам гэтых сходаў, дыскусій, шляхам абмену вопытам і думкамі гэта навуковае ядро камісіі знаходзіла-б правільную лінію, давала-б навуковы і практычна абгрунтованы тон усёй працы.

Побач з гэтым камісіі трэ' было пытаньнем дзіцячай літаратуры зацікавіць грамадзкасьць і ўцягнуць яе ў орбіту свае працы. Праз організацыю навуковых дакладаў па спрэчных пытаньнях, злучаных з дзіцячай кнігай, прыцягнуць увагу шырокіх настаўніцкіх колаў, бібліотэчных работнікаў, дашкольных кіраўнікоў, пісьменьніцкіх організацый, як „БелАПП", „Чырвоная Зьмена", работнікаў часопісу „Піонэр", актывістых з ЛКСМБ і г. д. Выкарыстаць прэсу—„Піонэр", „Чырвоная Зьмена", „Юнгер Арбэйтэр", „Асьвета", „Працаўнік асьветы", „Маладняк",—паставіўшы ў дыскусійным парадку організацыйныя і прынцыповыя проблемы дзіцячае літаратуры. Час-ад-часу рабіць інформацыі ў друку аб працы камісіі, рабіць справаздачы прад грамадзкімі організацыямі, каб пачуць масавую крытыку, паслухаць думку ня толькі свайго абмежаванага кола.

У такой паважнай справе, як кіраваньне дзіцячай літаратурай, на якой ідэолёгічна выхоўваецца маладое пакаленьне, нельга было звужацца да габінэтнай працы з удзелам 5—6 чалавек. Формальны, разьмяркова-чна-рэцэнзёрскі і, я-б сказаў, аматарскі характар дзіцячай камісіі пры НКАсьветы—вось галоўная яе загана. Тут іменна хаваецца прычына, чаму ўся праца камісіі звычайна канчаецца папяровымі пратаколамі аб „ухваленых" ці „забракованых" кніжках для перакладу на беларускую мову. Ня відаць аніякіх пэрспэктыў на навуковую пастаноўку працы, на

паглыбленьне яе, не адчуваецца, што гэта камісія жыве, што яна хоча жыць і будзе жыць.

Але, як-бы там ні было, справа з выданьнем беларускай дзіцячай літаратуры была зрушана з мёртвага пункту.

Бадай на працягу аднаго толькі году Беларускае дзяржаўнае выдавецтва і выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ выпусьціла параўнаўча вялікую колькасьць дзіцячых кніг для ўсіх узростаў і даволі рознастайных па сваёй тэматыцы. Так, на 1-е студзеня 1929 г. дзіцячае літаратуры на беларускай мове выдана. Белдзяржвыдавецтвам па колькасьці назваў:

| На якія тэмы | Орыгінальн. | Перакладн. | Разам | $^0/_0$ |
|---|---|---|---|---|
| Грамадзка-рэволюц. . . . . . | — | 10 | 10 | 9 |
| Грамадзянск. вайна . . . . | — | 3 | 3 | 3 |
| Гістор. рэволюц. руху . . . | 1 | — | 1 | 1 |
| Падарож . . . . . . . | — | 2 | 2 | 2 |
| Прыгодніцк. літар. . . . . | 3 | 2 | 5 | 4 |
| Прыродазн. (пра жывёл) . . . | 3 | 28 | 31 | 27 |
| Б ы т . . . . . . . | 5 | 16 | 21 | 18 |
| Навукова-популярн. . . . . | 6 | 14 | 20 | 17 |
| Палітычная літаратура (спэц. піонэрск. і комсамольск.) . . . . | — | 5 | 5 | 4 |
| Зборнікі (вершы, песьні, гульні) . | 5 | — | 5 | 4 |
| К а з к і . . . . . . . | 7 | 1 | 8 | 7 |
| П‘ е с ы . . . . . . . | 5 | — | 5 | 4 |
| У с я г о . . | 35 (30%) | 81 (70%) | 116 — | 100 — |

Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ выпусьціла дзіцячых кніжак пераважна бытавога і рэволюцыйна-прыгодніцкага зьместу 18 назваў, з якіх толькі 2 орыгінальных. Такім чынам, уся беларуская дзіцячая літаратура складаецца з 134 назваў, з якіх 37 орыгінальных (26%) і 97 перакладных (74%). Тыраж дзіцячае кнігі быў у сярэднім ад 2 да 5 тысяч экзэмпляраў. Усяго Белдзяржвыдавецтвам і выд. „Чырвоная Зьмена“ выдана 530.500 дзіцячых кніг (БДВ—480.000 экзэмпляраў, „Чырв. Зьм.“—50.000 экзэмпляраў).

Аналізуючы гэтыя лічбы, мы бачым, што беларуская дзіцячая літаратура расьце ня зусім нормальна. Так, казкі складаюць параўнаўча вялікі процант (7) у агульнай продукцыі, у той час як кніжкі на палітычныя тэмы складаюць усяго 4%, бэлетрыстыка на грамадзка-рэволюцыйныя тэмы—9%, гісторыя рэволюцыйнага руху—1%. Зусім няма

мастацкай бэлетрыстыкі—узораў нашых клясыкаў, няма вытворчай бэлетрыстыкі, няма вясёлай гумарыстычнай літаратуры, якую так любяць дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту. Прыродазнаўчай літаратуры выдана многа, але выключна пра жывёл, у той час як няма аніводнае кнігі пра жыцьцё расьлін, пра мінэралі і мэталі. Навукова-популярная літаратура па свайму зьместу ў большасьці далёка ад нашых умоў: мы ўбачым кніжкі пра здабываньне нафты, пра каменны вугаль, пра соль і г. д., але ніводнае кнігі няма пра здабываньне торпу, пра лесараспрацоўкі.

Формальны, разьмяркоўча-рэцэнзёрскі падыход дзіцячае камісіі да справы выданьня дзіцячае літаратуры адразу стварыў такое становішча, што беларуская дзіцячая кніга апынулася „ў палоне“ перакладу (74%) з расійскае і украінскае літаратуры. Гэта мела свае адмоўныя і дадатныя вынікі.

Па-першае, наша сучасная дзіцячая кніга—гэта не беларуская дзіцячая кніга, а дзіцячая кніга на беларускай мове. У гэтай літаратуры няма беларускага быту, няма мастацкіх апісаньняў беларускае прыроды, няма малюнкаў з жыцьця нашага гораду, мястэчка, вёскі.

Беларуская дзіцячая літаратура пазбаўлена мастацкіх узораў беларускай народнай творчасьці і лепшых, годных для дзіцячага разуменьня, узораў беларускай поэзіі і прозы. Няма дзіцячых кніг, якія-б малявалі этапы рэволюцыйнага змаганьня беларускіх рабочых і сялян за Савецкую Беларусь. Няма і такіх, дзе-б у бэлетрыстычнай, зразумелай для дзяцей форме паказана было цяжкое жыцьцё беларускіх рабочых і сялян пад панскім уціскам у Заходняй Беларусі. Ня выдана аніводнае дзіцячае кнігі, якая-б у мастацкай форме паказала нашу героіку мірнага будаўніцтва, якая-б была насычана патосам змаганьня беларускіх працоўных мас за лепшую будучыню.

У гэтым ёсьць першая хіба нашай дзіцячай літаратуры.

Другая бяда—гэта мова нашых дзіцячых кніжак. Ніхто не запярэчыць, што ў літаратуры для дзяцей чыстата і прыгожасьць мовы павінна быць на першым месцы. У нашых-жа дзіцячых кніжках, перакладзеных з расійскіх ды украінскіх орыгіналаў, мова часам дужа пакалечаная. Вядома, што пераклад амаль без выключэньня заўсёды горшы за орыгінал. Гэта адно. Другое—мастацкую дзіцячую літаратуру трэба было-б даваць на пераклад лепшым мастаком беларускага слова, а яе перакладаюць звычайныя перакладчыкі, якія далёкі ня толькі ад літаратурнай творчасьці, але нават ад стылістычных тонкасьцяй і часта-густа карыстаюцца нязвычайна мізэрным беларускім лексыконам. На жаль, і да гэтага часу моцна трымаецца пераконаньне, што самым лёгкім і простым відам перакладаў зьяўляюцца пераклады дзіцячых кніжак. Калі мне здараецца гутарыць з перакладчыкамі і зьвяртаць іх увагу на слабое веданьне імі беларускае мовы, я часта чую літаральна такія словы: „ну, дык дайце мне што-небудзь лягчэйшае, якое-небудзь дзіцячае апавяданьне, тут ужо і я здолею“...

Справа з перакладамі пагаршаецца яшчэ болей, калі даводзіцца перакладаць не з першатвору. Шмат добрых расійскіх дзіцячых кніжак, пераважна прыродазнаўчага зьместу, самі зьяўляюцца перакладамі, і ў большасьці дрэннымі, з іншых моваў—з нямецкай, ангельскай, францускай. Тут ужо мала аднаго „голага“ перакладу, тут трэба даць мастацкую апрацоўку, якой нельга вымагаць ад звычайнага перакладчыка.

Стылістычная або літаратурная рэдакцыя перакладаў не магла цалкам выратаваць з бяды. Па-першае, стыльрэдакцыя дзіцячай літаратуры—справа зусім новая, вымагае доўгае кваліфікацыі, пэдагогічнае асьветы і дасканалых ведаў дзіцячае псыхолёгіі розных узростаў. Па-другое, самы лепшы стыльрэдактар ня здолее ператварыць дрэнны пераклад у мастацкую рэч: ён можа толькі выправіць стыль, або, як той казаў, зрабіць „сынтаксычны туалет“ рукапісу. Пераклад астанецца перакладам з усімі адмоўнымі ўнутранымі якасьцямі ўсіх перакладаў.

Насычаючы школьныя бібліотэкі, дашкольныя ўстановы, клюбы, хаты-чытальні і вольны рынак вялікай колькасьцю перакладнай дзіцячай літаратурай, мы прышчапляем дзецям дрэнны стыль, калечым іх мову. Дзіцячая літаратура, пазбаўленая мастацкай вобразнасьці (а гэта галоўны элемэнт дзіцячае кнігі!), мы адвучаем дзяцей мысьліць вобразамі, гасім іх творчыя здольнасьці. Гэта трэба зусім адкрыта сказаць і падкрэсьліць са ўсёй рашучасьцю, каб разьбіць думку аб тым, што ў нас з дзіцячай літаратурай справа ідзе па правільным шляху.

Ня лепш стаіць справа з мастацкім афармленьнем дзіцячай кніжкі. Выдавецтва, каб не падаражаць кнігу і хутчэй пусьціць яе ў друк, занадта захапляецца скарыстаньнем для беларускіх перакладаў гатовых ілюстрацый, зьмешчаных у орыгіналах. Калі малюнкі орыгіналу сапраўды высока-мастацкія і не патрабуюць дапасоўваньня да зьместу перакладу, то было-б нерацыянальным адкідаць іх і абавязкова замяняць малюнкамі беларускіх мастакоў.

Але бывае і так, што чужыя ілюстрацыі, з элемэнтамі, незразумелымі беларускім дзецям, жыўцом пераходзяць у беларускія кніжкі, ствараючы сьмешную дысгармонію з абеларушаным тэкстам. Напрыклад, дзея адбываецца ў нашай вёсцы, а на малюнку дзіця бачыць хаты з вялікарасійскай або украінскай архітэктурай, краявіды небеларускага характару або тыпы сялян вялікарусаў ці украінцаў у іх нацыянальнай вопратцы. Запазычаныя, недапасованыя да зьместу ілюстрацыі або няўдала абеларушаныя выклікаюць адмоўную рэакцыю ў дзяцей і замест таго, каб выхоўваць у іх мастацкі густ—псуюць яго.

Залішне шырокае карыстаньне гатовым ілюстрацыйным матэрыялам расійскіх і украінскіх выданьняў прывучае Беларускае выдавецтва да „лёгкага хлеба“, паралiжуе і ўсыпляе яго ініцыятыву ў шуканьнях беларускага стылю, забівае здаровае імкненьне да орыгінальнага афармленьня беларускае кнігі. Беларускія мастакі, якія працуюць над ілюстрацыяй дзіцячай кнігі, плывуць па цячэньню, не працуючы над стылізацыяй

народных орнамэнтаў, не выяўляючы ў сваіх творах характарных рысаў нашага быту, даючы дзецям малюнкі адцягненыя, умоўныя, якія з посьпехам можна зьмясьціць у дзіцячую кніжку нямецкую, італьянскую, швэдзкую і г. д.

Аднак шлях, па якому пашлі дзіцячая камісія і выдавецтва, шлях выданьня перакладной дзіцячай літаратуры мае і свае дадатныя бакі.

На працягу аднаго толькі году выдана болей сотні назваў і звыш поўмільёна экзэмпляраў дзіцячых кніг на розныя тэмы і для рознага ўзросту. Год таму назад на беларускай мове ня было аніводнае кнігі, і таму гэткую колькасьць продукцыі ў нашых умовах можна лічыць рэкорднай. І, бязумоўна, такі тэмп працы можна было разьвіць, толькі шырока карыстаючыся перакладамі чужой дзіцячай літаратуры, даволі багатай па колькасьці назваў і рознастайнай па тэматыцы. Голад на дзіцячую кнігу на беларускай мове да пэўнай ступені ўжо сьцішаны.

К моманту, калі праца па выданьню беларускай дзіцячай літаратуры пачынала толькі разгортвацца, расійскі і украінскі кніжны рынак меў шмат дзіцячых кніжак. Нам асталося толькі адбіраць самае лепшае, самае каштоўнае. Мы маглі ісьці па працярэбленай сьцежцы, маглі менш ухіліцца ад правільнай ідэолёгічнай і пэдагогічнай лініі, менш траціць часу на шуканьне тэм і г. д. Памылкі здараліся, але лік гэтых памылак мог быць меншым, і вось чаму.

Дзіцячая камісія ня прыняла пад увагу, што аб расійскай і украінскай дзіцячай літаратуры ёсьць ужо крытычная літаратура. Ёсьць ня толькі паасобныя крытычныя нататкі ў розных часопісах і газэтах на тую ці іншую дзіцячую кніжку, але выданы навуковыя зборнікі аб дзіцячай літаратуры наогул, з артыкуламі мэтодычнага характару і, урэшце, выданы спэцыяльныя каталёгі дзіцячых кніг з аннотацыямі Аддзелу дзіцячага чытаньня пры Маскоўскім інстытуце мэтодаў пазашкольнае працы. Ня ведаючы гэтай літаратуры, наша камісія дарма паўтарала ўжо праробленую працу, разглядаючы тыя дзіцячыя кніжкі, з якімі ўжо зроблены ў дзіцячых колектывах масавыя пэдагогічныя досьледы, якія прайшлі некалькі высока-аўторытэтных камісій, якія ўжо ўсебакова ацэнены. Часткова ацэнкі нашай камісіі зышліся з ацэнкамі маскоўскіх аналёгічных організацый, але здараліся, як я ўжо казаў, і памылкі, якія можна было лёгка абмінуць пры больш сталай, больш рацыянальнай організацыі працы.

Расійская дзіцячая літаратура за апошнія гады ўвабрала ў сябе ўсё лепшае, што было ў сусьветнай дзіцячай літаратуры. Шляхам вольнай апрацоўкі расійскіх перакладаў беларуская дзіцячая літаратура адразу прычынілася да лепшае дзіцячае кнігі іншых народаў. Можна адмоўна глядзець на літаратурнасьць перакладаў, зробленых не з першатвораў, але ўзбагачэньне нашых дзіцячых бібліотэк лепшымі ўзорамі эўропэйскіх і амэрыканскіх дзіцячых кніжак трэба толькі вітаць. Было-б, напрыклад, вялікай недарэчнасьцю ня даць беларускім дзецям апавяданьні такіх выдатных аўтараў-прыродазнаўцаў, як Сэтон Томпсон і Чарльз

Робэртс, толькі з тае прычыны, што мы ня можам даць зараз літаратурных перакладаў з ангельскае мовы.

Абмінаючы характарыстыку беларускае дзіцячае кнігі з боку яе зьместу (ідэолёгічная вытрыманасьць, пэдагогічнасьць, падзел на ўзросты, мастацкае афармленьне і г. д.), пераходзім да тых проблем, якія стаяць на чарзе дня.

У сэнсе організацыйным. Камісію па выданьню дзіцячае літаратуры трэба рэорганізаваць так, каб яна была сапраўдным навукова-мэтодолёгічным кіраўнікам. У аснову працы гэтай камісіі трэба ўзяць тыя думкі, якія сказаны ў пачатку гэтага артыкулу. Адным з першых крокаў гэтай камісіі павінна быць вывучэньне ўжо выданай беларускай дзіцячай літаратуры і на падставе гэтага вывучэньня—цэлы шэраг організацыйных вывадаў. Іначай выдавецкая праца будзе ісьці стыхійна, і надалей будзе тая прыкрая няроўнавага ў тэматыцы, калі казкі і літаратура пра жыцьцё жывёл пераважаюць над тэмамі політычнымі, грамадзка-рэволюцыйнымі і г. д.

Гэтая-ж камісія мусіць організаваць падлік інтарэсаў масавага дзіцячага чытача праз бібліотэчных работнікаў і настаўніцтва, каб ведаць, чаго шукаюць дзеці ў сваіх кнігах. Трэба, каб дзіцячая камісія разварушыла грамадзкую думку вакол пытаньня аб дзіцячай кнізе праз прэсу, праз даклады на масавых настаўніцкіх, бацькаўскіх і рабочых сходах, праз організацыю пэрыодычных выставак і г. д. Яна-ж павінна ўкладаць рэкомэндацыйныя сьпісы лепшай дзіцячай літаратуры для школьных і пазашкольных бібліотэк і *актыўна* кіраваць укомплектаваньнем дзіцячых бібліотэк у дзіцячых садох і дамох, у школах, хатах-чытальнях, клюбах. Добра было-б у мэтах кваліфікацыі будучых настаўнікаў распрацаваць программу вывучэньня дзіцячай літаратуры для пэдтэхнікумаў, пэдвузаў, організаваць гурткі па вывучэньню дзіцячай літаратуры для настаўнікаў і піонэрважатых, каб яны маглі кіраваць чытаньнем дзяцей і іх попытам на кнігу. Трэба зацікавіць пытаньнем пра дзіцячую літаратуру профсаюзныя і партыйныя організацыі, выкарыстаць нашы часопісы і газэты („Беларуская Работніца і Сялянка“, „Беларуская Вёска“ „Асьвета“, „Піонэр“, „Чырвоная Зьмена“), каб азнаёміць з гэтым пытаньнем шырокія колы рабочых, сялян і ўсю нашу моладзь і выклікаць абмен грамадзкай думкі. Бо да гэтага часу беларуская дзіцячая кніга жыве бы ў мёртвай пустэчы: пра яе нідзе ані гуку.

Гэтыя думкі ёсьць толькі частка тых кірункаў, па якіх павінна ісьці організацыйная праца дзіцячае камісіі. Шмат трэба зрабіць, напрыклад, па лініі мэтодычнай дапамогі аўтарам і мастаком, каб яны бліжэй падышлі да сучаснай пэдагогікі, да разуменьня дзіцячай псыхікі. Організацыя колектыўнай супольнай працы пэдагогаў, аўтараў і мастакоў над стварэньнем дзіцячай кнігі—адна з першых і галоўных задач дзіцячай камісіі.

Ня меншую колькасьць проблем ставіць сёнешні дзень прад дзіцячай камісіяй і выдавецтвам у сэнсе ідэолёгічным і пэдагогічным.

Тут трэба выразшыць асноўнае пытаньне: якую кнігу даць нашым дзецям, як пабудаваць плян выданьня дзіцячай літаратуры, каб яна адпавядала нашым клясавым мэтам і служыла сродкам комуністычнага выхаваньня моладзі?

Асноўныя прынцыпы нашага выхаваньня—гэта стварэньне матэрыялістычнага і дыялектычнага сьветапогляду. Трэба навучыць дзяцей глядзець на сьвет, як на „арэну для барацьбы, барацьбы біолёгічнай, соцыяльнай, вытворчай“. Разьвіць у дзяцей самадзейнасьць, актыўнасьць, здольнасьць орыентавацца ў вакольным жыцьці, разьвіць у іх клясавую сьвядомасьць, паказаць ім барацьбу пролетарыяту за лепшае будучае, падтрымліваць у іх бадзёрасьць і веру ў недалёкую перамогу працоўных усяго сьвету. Адгэтуль і пэрспэктывы для складаньня пляну па выданьню дзіцячай кнігі.

Цьвёрда і акрэсьлена паставіць на першае месца, па якасьці і колькасьці, дзіцячыя кнігі па пытаньнях політыкі, экономікі і грамадазнаўства. Справа ўжо аўтараў і пэдагогаў *як* падаць гэтыя тэмы дзецям, але гэта трэба зрабіць.

У Амэрыцы, дзе справа дзіцячай літаратуры як па ахопу тэм, так і па ўмелай дапасаванасьці зьместу для дзяцей рознага ўзросту стаіць надта высока, ёсьць, напрыклад, вялікая колькасьць дзіцячых кніг пра сусьветную вайну, пра Лігу нацый, пра політычныя і экономічныя ўзаемаадносіны свайго краю з усім сьветам ад старадаўніх часоў да сягоньнешняга дня. І кнігі гэтыя напісаны ня толькі для дзяцей старэйшага ўзросту, але і для сярэдняга. У амэрыканцаў ёсьць дзіцячыя кнігі пра дзяржаўны лад Амэрыкі, наконт розных соцыяльных пытаньняў і г. д.

Дзе ў нас аналёгічная дзіцячая літаратура? Яе пакуль-што няма, але яна мусіць быць, ня гледзячы ні на якія перашкоды і труднасьці.

У амэрыканцаў ёсьць чаму навучыцца. У іх, напрыклад, высока пастаўлена так званая „деловая“ дзіцячая літаратура, на якую ў нас, на жаль, зьвяртаюць мала ўвагі.

У іх добра пастаўлена краязнаўчая дзіцячая літаратура. „Амэрыканскае дзіця мае магчымасьць азнаёміцца па кнігах у цікавай форме з любым кутком свае бацькаўшчыны; яно можа вывучыць географію, гісторыю свайго краю, кожнай асобнай акругі ці штату, біографіі выдатнейшых дзеячоў сваёй радзімы, прамыслоўцаў і політыкаў—Вашынгтона, Рузвэльта, Лінкольна, Эдысона, Форда, мяснога караля Армора; узаемаадносіны свайго краю з усім сьветам—узаемаадносіны політычныя і экономічныя“... [1])

З гісторыяй цывілізацыі, з мінулым чалавецтва амэрыканцы знаёмяць сваіх дзяцей праз мастацкую дзіцячую бэлетрыстыку і навукова-популярныя, багата ілюстраваныя выданьні. Вялізарная колькасьць дзіцячай

[1]) М. А. Гершензон—„Современная американская детская книга“. Артыкул у кнізе „Новые детские книги“. Сборник пятый. Москва, 1928.

літаратуры прысьвечана пытаньням тэхнікі—вынаходніцтва, электрычнасьць, радыё, прыкладная хэмія, астрономія, мэханіка і машынабудаваньне, авіяцыя, прычым асьвятляюцца самыя апошнія дасягненьні і выпускаецца шмат кніжак аб тым, што і як можна зрабіць самому (самадзейнасьць!). Цікава, што для малых дзяцей выпускаюць цэлыя сэрыі кніжак-малюнкаў, спэцыяльна прысьвечаных паравозу, аўтомобілю, аэропляну і г. д.

У галіне вытворчай дзіцячай літаратуры амэрыканцы выдаюць у бэлетрыстычнай захапляючай форме такія кнігі, як „Гісторыя бавоўны“, „Гісторыя шкла“, „Гісторыя скуры“, „Гісторыя лесаматэрыялаў“, „Як мы жывімся“, „Як мы адзяемся“, „У якіх дамох жывем“, аб шляхох зносін, аб кіно ды інш.

Мала таго, яны выдаюць дзіцячую літаратуру, у якой знаёмяць дзяцей з самымі найноўшымі мэтодамі ў прамысловасьці і гандлі.

Характарна, што такія „да шпіку косьці“ практычныя людзі, як амэрыканцы, выпускаюць вялікую колькасьць дзіцячых кніг па мастацтву: біографіі мастакоў, рэпродукцыі скульптуры і архітэктуры, зборы малюнкаў, гісторыі музыкі і літаратуры. Ёсьць нават „Гісторыя мастацтва“ Ціткомба, якая напісана для дзяцей 9—13-гадовага ўзросту і якую надта хваліць крытыка.

Нязвычайна добра пастаўлена ў амэрыканцаў дзіцячая літаратура даведачнага характару, як, напрыклад, „Дзіцячыя энцыклёпэдыі“. Там гэтыя выданьні карыстаюцца вялікай популярнасьцю сярод дзяцей. Дзякуючы таму, што гэтыя энцыклёпэдыі багата ілюстраваны, імі карыстаюцца і надта любяць разглядаць дзеці, якія нават яшчэ ня ўмеюць чытаць [1]).

У нашых беларускіх умовах яшчэ немагчыма выдаваць дзіцячыя энцыклёпэдыі ў некалькіх тамох з тысячамі ілюстрацый, але рабіць большы акцэнт на палітычную і грамадазнаўчую, „деловую“ і даведачную літаратуру трэба. Час ужо зьмяншаць лік казачак, дзе соладка размаўляюць розныя казюлечкі ды жабкі, і пераходзіць да дзіцячай кнігі, якая-б выхоўвала новых дзяцей, новых людзей, з новай рэволюцыйнай ідэолёгіяй і матэрыялістычным сьветапоглядам.

Каб стварыць новую беларускую дзіцячую кнігу, трэба яшчэ вырашыць цэлы шэраг проблем: організаваць кадр пісьменьнікаў і поэтаў, якія-б спэцыялізаваліся ў творчасьці для дзяцей, падрыхтаваць кадр мастакоў для ілюстраваньня і наогул мастацкага афармленьня дзіцячых кніг, стварыць кадр перакладчыкаў дзіцячай літаратуры, падабраць рэдактароў-спэцыялістых па розных відах літаратуры і для living рознага ўзросту.

У Маскве пры выдавецтвах ужо стварыліся цэлыя групы пісьменьнікаў-профэсіяналаў, якія сваёй творчасьцю абслугоўваюць выключна

---

[1]) Нядаўна ў Амэрыцы вышла ў сьвет „*Дзіцячая энцыклёпэдыя*“ ў 20 томах з 16 тысячамі ілюстрацый.

аддзелы дзіцячых выданьняў і ўвесь час працуюць у контакце з пэдагогамі, пэдолёгамі і знаўцамі дзіцячае літаратуры. У Японіі ёсьць нават „Асоцыяцыя дзіцячых пісьменьнікаў“, якія, апроч таго, што пішуць для розных выдавецтваў дзіцячыя кнігі, самі штогод выдаюць дзіцячы зборнік, куды кожны сябра „Асоцыяцыі“ павінен даць хоць адно апавяданьне або дзіцячы верш. Дзіцячай камісіі НКАсьветы разам з Белдзяржвыдавецтвам трэба безадкладна распачаць працу па стварэньню аналёгічнай групы літаратараў-профэсіяналаў, паставіўшы іх творчасьць у выключна спрыяючыя ўмовы як у сэнсе матэрыянальным, так і ў сэнсе цеснага контакту з спэцыялістымі-пэдагогамі. Беларускія літаратурныя аб'яднаньні, трэба спадзявацца, урэшце зацікавяцца творчасьцю для маладога пакаленьня і дадуць цэлы шэраг высока-мастацкіх твораў, якіх так прагна чакаюць беларускія дзеці ўсіх узростаў.

Ня менш важная проблема, якая стаіць на чарзе,—гэта прасунуць беларускую дзіцячую кнігу ў дзіцячыя масы. Высокая цана дзіцячае кнігі—вось адна з перашкод для яе масавага пашырэньня. Выдавецтву трэба хаця-б часова адмовіцца ад багата ілюстраваных выданьняў, цана якіх уздымаецца аж да рубля, і ўзяць цьвёрды курс на танную дзіцячую кніжку. Няхай сабе яна будзе па-пролетарску „скромной“, але яна будзе масавай і будзе па цане даступна індывідуальнаму маленькаму пакупцу.

Побач з гэтым трэба выкарыстаць усе шляхі для шырокай рэкомэндацыі і рэклямы дзіцячай кнігі. Мала выпусьціць на рынак мільёны кніжак і чакаць, што пакупец сам знойдзе шлях да іх. Мала і таго, што выдавецтва будзе шырока рэклямаваць свае дзіцячыя выданьні. Комэрцыйнага характару рэкляма тут часам можа і пашкодзіць, бо выдавецтва зацікаўлена ў продажу ўсяе свае продукцыі, і з аднолькавым „комэрцыйным запалам“ рэклямуе ўсе дзіцячыя кнігі. У гэтай справе мусяць прыйсьці на дапамогу школы, настаўніцкія організацыі, Навукова-Мэтодолёгічны Камітэт пры НКАсьветы, бібліотэкі, комсамольскія і піонэрскія організацыі. Гэтыя ўстановы і організацыі, зацікаўленыя не комэрцыйным, а выключна культурным бокам справы, будуць рэкомэндаваць і рэклямаваць толькі лепшую дзіцячую літаратуру. Яны павінны зацікавіць шырокія масы дзяцей і юнацтва кнігай, павінны навучыць выбіраць кнігу, навучыць чытаць яе, працаваць з ёю і любіць яе. „Хто навучыўся чытаць кнігу ў дзяцінстве, той не разьлюбіць яе ніколі“. І вось школа, настаўнік, бібліотэкар, піонэрважаты павінны навучыць нашых дзяцей чытаць кнігу, разьвіць у іх любоў да чытаньня.

Усе гэтыя культурныя працаўнікі павінны быць агітатарамі за лепшую дзіцячую кнігу, каб яна мела самае шырокае кола чытачоў. Тут можна выкарыстаць розныя шляхі: вусная рэкомэндацыя кнігі дзецям, гутаркі на сходах бацькоў пра лепшыя дзіцячыя кнігі, артыкулы ў прэсе пэдагогічнай („Асьвета“), піонэрскай, комсамольскай і ў насьценгазэтах.

Зразумела, што гэту працу настаўнікі, піонэрважатыя, бібліотэкары здолеюць правесьці толькі тады, калі яны самі азнаёмяцца і вывучаць

дзіцячую літаратуру, якая ёсьць на рынку. У гэтым сэнсе пажаданы спэцыяльныя сходы гэтых працаўнікоў з мэтай вывучэньня дзіцячай кнігі, навуковыя даклады, дыспуты, крытыка на дзіцячую літаратуру.

Да гэтага часу ў нас няма пэдагогічна і марксыцкі вытрыманай крытыкі пра дзіцячую кнігу. Маленькія, пэтытам надрукаваныя, газэтныя рэцэнзіі на некаторыя дзіцячыя кнігі—па сутнасьці нічога ня варты. Аўтары гэтых рэцэнзій замест таго, каб даць крытычны разгляд, абмяжоўваюцца кароценькім пералічэньнем зьместу кніжкі і звычайна канчаюць свае рэцэнзіі так: „кніжку можна раіць дзецям малодшага (сярэдняга) узросту“ або „гэту кніжку дзеці прачытаюць з цікавасьцю“. А чаму „можна раіць“, якія пэдагогічныя падставы для гэтага „раіць“—сакрэт рэцэнзэнта.

Стварэньне не выпадковай, не дылетанцкай і не „нонпарэльнай крытычкі“ недзе побач з газэтнымі абвесткамі пра зубную пасту, але крытыкі сталай, навукова і ідэолёгічна ўзброенай—гэта таксама адна з шэрагу проблем, ад вырашэньня якіх залежыць будучы рост і росквіт беларускае дзіцячае кнігі.

# ЭСКІЗЫ НОРВЭГІІ [1]).

**Валер'ян Полішчук**

*(Мастацкі рэпортаж з падарожы аўтара па Скандынавіі, дзе фіёрды, Гамсун, электрыфікацыя і высокія золатавалосыя людзі).*

## I. Астравы і параходы

Калі вы станеце за горадам Осло на высокім месцы і глянеце на ваколіцы гэтага гораду, дык убачыце, як Осло-фіёрд, завярнуўшыся каля гораду вялікім клінам, заходзіць амаль назад і канчаецца венцерам затокі, які завецца Бундэ-фіёрд. На вадзяной раўніне перад гаванямі гораду ўбачыце накіданую групу гранітных скал, якія ўтвараюць астраўкі Говэдоен, Ліндоен ды інш. Акінуўшы вокам агульнае разьмяшчэньне гораду, які пад гарою абаграваецца з поўдню сонцам, вы спускаецеся назад у цэнтр падземнае электрычнае чыгункі, якая прадзёўбана ў дзікім каменьні, канец яе каля нацыянальнага тэатру.

## II. Каралеўскі палац і пеўнявыя ўбёры гвардыі

Глянуўшы адсюль на гару, вы бачыце каралеўскі палац у звычайным стылі спрошчанага рэнэсансу, у якім заўсёды будуюць так званыя „присутственные“ месцы, фронтон над калёнадаю традыцыйна выступае перад гэтым вялікім і невясёлым чатырохпавярховым будынкам, што ізолявана стаіць на ўзгорку плошчы, абкружаны з бакоў чыстым і сымпатычным садам.

У гэтым каралеўскім садзе, як і ля самага палацу, ходзіць хто хоча і колькі хоча, бо вартавыя каралеўскай гвардыі, якія шпаркімі крокамі ходзяць узад і ўперад перад палацам у нейкіх сьмешных пеўнявых убёрах, гэтыя гвардзейцы існуюць выключна, як дэкарацыйны рэквізыт, бо ні сілы, ні ўлады норвэскі кароль Гакон (Haakon), звычайна, ня мае.

## III. Норвэскі кароль, або танна і дэкарацыйна

Ен існуе па традыцыі для ўнутранага прадстаўніцтва, для асабліва вызначаных парадаў, адкрыцьця розных выставак, сэсій ды інш. Кароль—танная штука, танейшая за прэзыдэнта, якога трэба выбіраць, траціць на гэта час, энэргію, сродкі на выбары, заводзіць вакол яго барацьбу

[1]) „Эскізы Норвэгіі“ надасланы аўтарам у рукапісным орыгінале, які дагэтуль нідзе не апублікаваны.

партый, аддаваць яму галасы, а значыць, будаваць яго аўторытэт, надаючы яму, значыцца, чыннае ўлады. Выходзіць, што калі абражаць прэзыдэнта—абразяцца выбаршчыкі і г. д.

Зусім іншая справа з норвэскім каралём. Яго ніхто не выбірае, ён абсолютна ні на кога не апіраецца. За недахватам адпаведных бюджэтных асыгнаваньняў ён нават ня мае патрэбнага ліку прыдворных; такім чынам, нават прыдворныя інтрыгі няма каму весьці. Стортынг час-адчасу бярэ і зрэзвае гадавы бюджэт караля, кажучы: усё адно дарэмна грошы ідуць, абы толькі жыў ды трымаўся. Будынак ёсьць, на грашах выбіваюць ініцыялы—і досыць з яго. Пры такім становішчы ня дзіўна, што кароль хутчэй опэрэтачная фігура, якую і паказваюць часам у опэрэтках, нават, кажуць, у цірах трапляецца лялька ў выглядзе караля, у якую страляюць з паветранае стрэльбы, а яна дрыгае і падскоквае, калі яе падстрэляць.

Калі я запытаўся ў адных людзей, як-бы мне пабачыцца з Гамсунам, мне адказалі:

Па-першае, Гамсун жыве на провінцыі, дзе ў яго, кажуць, цэлы ўласны маёнтак, цэлае сяло. Гэтая мясцовасьць у баку ад чыгункі і туды ехаць ня зусім зручна, а па-другое—Гамсун ужо стары, ён нікога ня хоча прымаць, так што Гамсуна ў 10 раз цяжэй пабачыць, чым караля. Пабачэньне з каралём вам можна наладзіць, як чхнуць. Хочаце?

Я адмовіўся.

### IV. Ночная электрычная рэкляма

Вечар... Ноч. Горад грукоча аўтомобілямі, якія шмыгаюць па мокрым каменьні. Зьзяюць рэклямы. Вось з рознакаляровых лямпачак вымалёўваецца цэлая карціна і бледнарогі электрычны месяц нешта хітра вычытвае на гэтай карціне. Рэкляма гасьне.

Над самым дахам на адным месцы круцяцца колы аўтомобіля, складзенага з электрычных лямпачак. Перад гэтым аўтомобілем таксама выскокваюць праменьні з лямпачак, нібы іх выпускаюць прожэктары. Раптам усё гэта гасьне, застаюцца толькі літары, якія зьявіліся неспадзявана. Вы чытаеце прозьвішча свайго старога знаёмага: Форд. Людзі расходзяцца па рэсторанах, кінематографах і рэўю. Вы сьпяшаецеся назад да свайго пристанішча—пансыёну фру Торкільдсэн, каб добра павячэраць, а галоўнае—паглядзець на людзей у іх бытавых абставінах.

### V. Дыялёг з ад'ютантам у спадніцы

Перад тым, як ісьці есьці, вы робіце ўсё тое, што робяць культурныя людзі і думаеце, ці ня час пашукаць свае вячэры, але папярэдлівы ад'ютант жаночага роду—фру Торкільдсэн далікатна стукае ў ваш пакой і аб нечым напамінае. Служачыя ня ведаюць іншае мовы, апрача норвэскае, і таму дыялёг бывае вельмі характарны, амаль клясычны

ў такіх выпадках. Чужаземец адразу пачынае гаварыць на ўсіх мовах сьвету, асабліва часьцей налягае на родную мову ды на выраз вачэй і руху пальцаў, а гаспадар у такім выпадку, гаспадыня краіны (яе ўсе разумеюць, апрача аднаго чужаземца—значыць, ёй турбавацца нечага), трымаецца цьвёрда свае нацыянальнае гаворкі, але таксама пачынае паказваць пальцамі. І калі справа даходзіць да таго месца, калі пальцы жанчыны паказваюць на рот, а рот яе пачынае нібы есьці, у перарывах, паўтараючы яшчэ слова—„сьпісэ“, дык аўтар гэтых радкоў, нарэшце, дагадваецца, што гэта нешта блізкае да нямецкае „шпайзэ“, якое да рэчы пішацца „сьпеісе“—а гэта азначае—яда (бачыце—супольны нямецкі корань), і калі ён ня ведае, што далей рабіць, тады ад'ютант фру Торкільдсэн, паказваючы на дзьверы, бярэ, нарэшце, чужаземца за руку і вядзе за сабою на ніжні паверх. Справа ў тым, што гаспадыня не паінформавала як сьлед чужаземца, што ў Норвэгіі ў пансыёнах трэ' сходзіцца есьці ў адну залю, дзе зьбіраюцца ўсе госьці-пасажыры. Чужаземец думаў, што тут робіцца так, як, скажам, у Нямеччыне, дзе кожнаму падаецца яда ў пакой, і вось, выведзены за руку бялявую жанчынаю на карыдор ды ідучы па сходах на ніжні паверх, ён незразумела аглядаўся і ня ведаў, што з ім хочуць зрабіць. Ці ня думаюць часам тут яго самога „сьпісэ“—нічога падобнага!

## VI. Аўтоматычныя тэлефоны

Мадам Торкільдсэн стаяла ў прысеньні ніжняга паверху і на кручёлцы-аўтомаце набірала 5-значны нумар тэлефону, каб з некім пагаварыць. Пабачыўшы чужаземца, яна ветліва і з нейкай пагардаю прывітала сваім магутным контральта, запрасіла зайсьці ў залю, дзе ўжо госьці вячэраюць, і сама занялася сваёй справай.

Тэлефон, які налічвае дзесяткі тысяч абонэнтаў, працуе аўтоматычна, без тэлефоністак і таму адгукаецца ў тую-ж сэкунду. Вы ня ломіце апарату, не нэрвуецеся. Калі нумар заняты, вам звычайна адкажа аўтоматычны гудок; калі там, куды вы звоніце, нікога няма, дык вы самі дагадаецеся пра гэта. Ніякае блытаніны—ніякіх нэрвовых размоў з тэлефоністкамі. Адсюль вывад: высокая тэхніка спрыяе палепшаньню жыцьця, нізкая тэхніка толькі ўскладняе яго.

## VII. Ня гыркаюцца, а далікатна прыслугоўваюць адно аднаму

Вы заходзіце ў залю, дзе за вялікім сталом сядзіць ужо з дзесятак людзей. Заля поўная таннае электрыкі, ад люстры жолудам зьвісае званок, каб клікаць служачых. Вас зноў-такі ветліва сустракаюць, вітаюцца з вамі, знаёмяцца.

Загадзя вызначаецца вам месца. Госьці рассоўваюцца, каб даць вам мажлівасьць лепш усесьціся, і наперабой пачынаюць падсоўваць вам розныя закускі. Гэта самае яны робяць адзін аднаму, і таму агульнае далікацтва

ў гэтым месцы, куды я трапіў, не зьяўляецца якімсьці выключэньнем да чужаземца. Проста, так прынята.

Гэта пансыён для небагатых, і таму вы сустракаеце тут самых розныхнастайных людзей.

Вось крывенькі, нявысока росту, бялявы студэнт-хэмік. Ён гаворыць нямецкаю моваю, якую павінны разумець усе хэмікі сьвету, бо, як вядома, нямецкія хэмічныя думкі зьяўляюцца вышэйшымі ў цэлым сьвеце.

Студэнт яшчэ малады, але калецтва адкінула яго ад спорту, ён нэрвовы, трохі высахшы, але настойна-гаваркі, шпарка трасе ільнянымі валасамі, якія роўна спадаюць на вочы і на круты высокі лоб. Ён падстаўляе палку пад сваю крывую нагу, каб зручней сядзець. Рукі ў яго ад сулямы жоўтыя, бы ў старога курца ад тутуну. Доўгімі белымі сухарлявымі пальцамі ён з трэскам ломіць кнэке-брод—вось гэту скандынаўскую мацу, якую падаюць замест хлеба,—і, падгортваючы ёю гарачую бульбу з рыбаю, перамаўляючыся есьць.

На стале стаіць цэлая батарэя страў: малінавыя бурачкі, галяндзкі сыр, швайцарскі і нейкі цьвілы і сьмярдзючы пад шкляным каўпаком—норвэскі, каўбаса, шынка, шпроты, марынаваныя селядцы і шмат усяго іншага. Вы можаце браць што хочаце і колькі хочаце, аж пакуль не пад'ясьцё. Таксама робяць і вашы суседзі.

Вось поруч з вамі добрадушны шофэр з грузавіка нейкае фірмы; як і той студэнт, ён заўсёды жыве ў пансыёне і тут-жа харчуецца. Плаціць ён, здаецца, за ўсё рублёў з паўтара-два за дзень—гэта гуртам.

Побач з ім—рабочы з мэханічнае майстэрні, таксама сталы жыхар пансыёну. Рукі ў яго з адзнакаю машыннае чарнаты.

На простым ланцужку яго гадзіньніка шмат усякіх бралочкаў. Ён некуды сьпяшаецца і таму дае магчымасьць пабачыць і свой мэталёвы гадзіньнік, але гэта нікольні не перашкаджае яму далікатна падсунуць бульбу жоўтавалосай масажыстцы, якая сядзіць поруч з ім. Яна мружыць вочы і некалькі разоў, кланяючыся, дзякуе яму. Але ён далікатны яшчэ больш, ён заўважыў, што яго сусед той самы эстонец—артысты, з якім мы ўжо пазнаёміліся, выпіў сваю частку кавы і яму не хапае наліць другую поўную. Мэханік падымаецца, націскае жалудовую кнопку пад люстраю, і другі чарнявы ад'ютант фру Торкіндсэн улятае ў залю з дзьвярэй і пытае, чаго нам трэба. Зьяўляецца другі кавярнік—і вячэра працягваецца.

Я заўважаю яшчэ добра апранутага высокага, з рабаценьнем на твары мужчыну, які сваім энэргічна-моцным тварам, трохі прылізаным, выдзяляецца на фоне гэтага людзкога конглёмэрату. Гэта, як мяне парасійску інформуе эстонец,—прыказчык ці агент нейкае мануфактурнае фірмы.

## VIII. Норвэскі кмін і савецка-дыплёматычны перац

Амаль усе астравы ў Норвэгіі і Швэцыі аздабляюцца розным насеньнем: кмінам, укропам, перчыкам, імбэрчыкам, карэньнямі і лісьцем. „Пряности“ поўдня бы пераклікаюцца з іншымі паўднёва-ўсходнімі экзотычнымі наедкамі Індыі і Аравіі. Нават сухі кнэке-брод (маца) з нейкім кмінам і пахучымі асьцючкамі. Апрача гэтага, прыкметная вялікая колькасьць сыру, малака. Хлеба ўжываюць мала, замяняюць яго, галоўным чынам, бульбаю і living рознымі дадаткамі—гарнірам з бручкі, бруксэльскае капусты, кольрады, рэпы, бурачкоў, морквы, гароху ды іншае смачнае ўсячыны. За ядою многа п'юць сырое вады. Ля кожнага стаіць шклянка з вадою і вялікі агульны шкляны жбан.

Я ўспамінаю, што, як і ў іншых дзяржавах, трэба заявіцца ў паўнамоцнае прадстаўніцтва, тым больш, што ў Норвэгіі я маю пражыць з месяц. Савецкія паўнамоцныя прадстаўніцтвы і консульствы ў іншых дзяржавах—для савецкіх грамадзян быццам нейкая база ратунку сярод бурнага мора мажлівых няпрыемнасьцяй, але і быццам перац у вока рэакцыі.

І калі ты зарэгістраваўся ў сваім консульстве, дык ведаеш ужо, што, пры ўсёй нянавісьці да нас, з нашым дыплёматычным прадстаўніцтвам лічацца вельмі сур'ёзна. І даволі ў якой-небудзь незаконнай сытуацыі дамагацца пагаварыць тэлеграфна з савецкім консульствам, як усе перашкоды ападаюць, нібы зьвялае лісьце, чыноўнікі і паліцыя робяцца асабліва далікатнымі, і вы вандруеце далей.

## IX. Тэлефонны званок да „madame“ Калантай

Я быў вельмі зьдзіўлены, што фру Торкільдсэн яшчэ дагэтуль не дамагалася, каб я запоўніў анкету паліцыі, але я думаў, што можа гэта яна забылася. І вось, каб напомніць гэта ёй, а таксама каб пераканацца самому, я зьвяртаюся да гаспадыні і прашу памагчы мне зьвязацца тэлефонам з „Совет-Дэлегашэн“. Я хацеў пабачыць, якое зробіць ураханьне гэтая мая жахлівая пропозыцыя.

Ніякага ўраханьня.

— О, калі ласка!—загаманіла нізенькім контральта фру Торкільдсэн.—Там-жа наша слаўная мадам Калантай. Я яе бачыла... О, гэта разумная жанчына!..

Фру Торкільдсэн важна стала, выпнуўшы свае магутныя грудзі, і добразычліва схілілася.

Я адчуваў у яе голасе гордасьць жанчыны за перамогу свайго полу. Яна ўсьміхнулася і, падняўшы руку, элегантным гестам старога генэрала падкрэсьліла сваю думку:

— Гэта адзіная жанчына-міністр, дыплёмат у цэлым сьвеце. О, я ведаю мадам Калантай!

— Але-ж дазвольце дадаць, што гэты факт стварыла Вялікая ўсходняя эўропэйская рэволюцыя.

— О-о-о!—працягнула фру Торкільдсэн. Я ня ведаю, што яна схавала за гэтым о-о-о.., думаю, што—добрае самапачуцьцё: бо яна сама таксама ўласнаю галавою і рукамі вядзе цэлую справу, выхоўвае дачку, каманддуе двума ад'ютантамі ў белых фартушкох і, мабыць, мае ў банку пару добрых эрэ (грошай), а далей ужо думкі такія, што жанчына ў нашу эпоху нічым ня ніжэй за мужчыну, доказам чаго ёсьць „мадам“ Калантай.

### X. Колькасьць Гансэнаў, Іогансэнаў, Энсэнаў, украінцаў ды інш. нацыянальнасьцяй

Вось мы рушылі да аўтаматычнага тэлефону, заглянуўшы спачатку ў вялічэзную біблію тэлефонных адрасоў. У гэтай кніжцы мяне адразу зьдзівіла 16 старонак вялікага формату дробнага тэксту (нонпарэль) у дзьве колёнкі і зьдзівіла тым, што на гэтых 16 старонках былі прозьвішчы адных Ослаўскіх Іогансэнаў, якія маюць дома тэлефон. Уяўляеце сабе, якая, значыцца, колькасьць Іогансэнаў у цэлым горадзе, а далей, па цэлай краіне? Столькі-ж прыблізна было ў гэтай кніжцы і Гансэнаў і трошкі менш Энсэнаў. А далей пашлі ўжо Даніэльсэны, Пэтэрсэны, Андэрсэны і інш. Амундсэны. Іогансэн і Гансэн—гэта накшталт расійскага Іваноў.

Выявілася, што наша поўнамоцнае прадстаўніцтва месьціцца на рагу Ураніенборгвэйен № 2, недалёчка ад каралеўскага палацу і што раніцою я магу застаць усіх, каго мне трэба.

Пасьля гэтага прышлося такі запоўніць невялічкую анкету, дзе былі пытаньні: Прозьвішча, нацыянальнасьць, грамадзянства і адкуль прыбыў. Я, мусіць, у Норвэгіі быў 13-ты украінец, бо ў знаёмым нам гадавым статыстычным зборніку за 1928 год на старонцы 14-й сказана, што па вестках на 1-е сьнежня 1920 году чужаземцаў-украінцаў у Норвэгіі 12 чалавек. Хто яны былі, што зарэгістраваліся ў такі раньні час украінскае сьвядомасьці—пятлюраўскія эмігранты, уэнераўскія дыплёматы ці проста людзі накшталт Міраслава Січынскага[1]), які некалькі гадоў жыў ў Бэргене і нават, будучы перад маім ад'ездам у Харкаве, даў мне адрас у Бэрген? Адно можна з упэўненасьцю сказаць, што я быў першым украінцам новае савецкае формацыі, які ступіў на норвэскую зямлю.

Калі прыглядзецца, хто найбольш мае справу з норвэжцамі, дык выявіцца, што з 60 тысяч чужаземцаў, што перабывалі ў Норвэгіі ў 1920 г., 40 тысяч прыпадае на швэдаў, 7 тысяч на датчан, 4 тысячы немцаў, 4 тысячы амэрыканцаў, 2 тысячы фінаў, 1½ тысячы расійцаў і на іншыя прыпадае па некалькі дзесяткаў або 1—2 сотні. І выходзіць, што Нор-

---

[1]) М. Січынскі забіў намесьніка аўстрыйскага імпэратара Франца Іосіфа ў Галіччыне—графа Патоцкага. Патоцкі быў страшэнным украінажэрам.

вэгія жыве сваёю скандынаўскаю групаю, адны адных ведаюць, адны адных разумеюць і адны з аднымі маюць справы. А з іншых народаў цікавяцца Норвэгіяй, наогул Скандынавіяй,—суседзі немцы, суседзі расійцы і амэрыканцы.

Можа вам ужо пачынаюць надакучаць сухія факты статыстыкі, любы чытач, але я, як чалавек, які ўзяўся адкрыць для Украіны Норвэгію, у сілу свайго грамадзкага абавязку павінен гэта зрабіць. Абяцаю, што будуць у нас яшчэ старонкі нават чыстае поэзіі ў апісаньні, напрыклад, Скандынаўскага лесу, гор, фіёрдаў, дзяўчат і г. д.

### XI. У савецкім паўнамоцным прадстаўніцтве

Калі вы раніцою падыходзіце да сымпатычнага адчыненага будынку савецкага прадстаўніцтва, вас перш за ўсё дзівіць поўная адсутнасьць пэўнага і няпэўнага выгляду цывільных людзей, якія туляліся-б пад будынкам ці на процілежным баку вуліцы, як гэта бывае ў добрым польскім стылі. Ніякае крэпасьці, ніякае аховы. Наогул, вы можаце спакойна ўвайсьці ў вароты, у двор і сьцягнуць які-небудзь савецкі кілім, які перасушвае на сонцы свае тэкінскія ўзоры. Бледныя праменьні сонца прыветна выглядаюць з-за нізкіх хмар, каб прыгрэць пасьлядажджовую зямлю. Па Парквэйену клейка коцяцца аўтомобілі. Праз асеньнія дрэвы каралеўскага парку выглядае „присутствие“ каралеўскага палацу, на званок вам проста адчыняюць і ўпускаюць у прыёмную. Пасьля вы гутарыце з прыветным, хударлявым і маладым савецкім джэнтльмэнам Шарманавым, і далей вы заходзіце ў прыёмную Аляксандры Міхайлаўны Калантай.

Тав. Калантай некуды сьпяшаецца і таму яна прымае украінскага пісьменьніка разам з Нам. Торгпрэда тав. Рыхтэрам. Апошні—прыбальтыцкі рэволюцыянэр, здаецца, латыш, пабыў у свой час і на Украіне, вось-жа ён адразу, жартуючы, задае пытаньне:

— А, гэта вы там разводзіце шовінізм! Гэтыя украінцы—яны заўсёды нечага хочуць...

Як вам падабаецца ўяўленьне пра савецкіх украінцаў, як пра людзей, якія вечна нечага хочуць? Звычайна, калі-б гэта было не ў дыплёматычна жартаўлівым тоне, дык для знаёмства можна было-б гостра паспрачацца, а так застаецца адбіцца таксама жартам, бо сакратар Аляксандры Міхайлаўны паведамляе, што нас ужо чакаюць.

### XII. Аляксандра Міхайлаўна Калантай

Перш за ўсё вас прыемна сустракаюць блакітна-шэрыя маладыя і жвавыя вочы ўжо пажылае жанчыны з лёгкаю сівізною каротка абстрыжаных і кучаравых валасоў. Зморшчы, якія паклаў час, праменьнямі расходзяцца ля вачэй, на губах грае прыветная ўсьмешка, зусім маладым з прыемным тэмбрам голас. Яна хутка дае запытаньні, спыняецца,

даючы сабе мажлівасьць нешта абмеркаваць, бо тав. Калантай нават поўжартлівыя словы кажа моцна, з вагою, як жанчына-профэсар або як чалавек, які абапіраецца выключна на сваю думку.

Але дзьве стыхіі ўвесь час змагаюцца ў яе асобе. У тэмбры голасу, у рухах: паважнага профэсара і энтузыястычнай артысткі, наркома і адначасна маладое комсамолкі, якая можа падкусіць, раскаціцца сьмехам, ускочыць і закружыцца, трымаючыся за ясную клясавую лінію ў выразах, якія выліваюцца няпрымушана вольна і разам упэўнена. Ня дзіва, што гэтая жанчына выклікае агульную сымпатыю і зьдзіўленьне. Яна можа быць цалкам агітатарам і гаспадаром цэлага наркамату: жанчына—нарком. Яна можа быць і была правадыром у політыцы і разам з тым вясёлаю гаварліваю таварышкаю за шклянкаю кавы. Таму ў Осло да яе вельмі часта заходзяць госьці-норвэжцы, і, у каго ні запытаеце, усе з захапленьнем вам скажуць, што Калантай—надзвычайна добры чалавек.

Маючы такое бурнае мінулае, столькі барацьбы і прыгод, перанесьці праз парог 50 гадоў душэўную і нават фізычную маладосьць—гэта трэба быць чалавекам выключна таленавітым. Як пісьменьнік-бэлетрысты і аўтар кніжак па жаночаму пытаньню, пытаньню пра мараль і любоў, Калантай увесь час фіксуе на сабе агульную думку аж да апошняга часу.

Вы не заўважыце і рысачкі таго жаноча-падпролетарскага стылю, якімі часта казыраюць жанчыны-рэволюцыянэркі, і на сёньнешні дзень. З усяго гэтага засталася хіба толькі стрыжаная прычоска, якую Аляксандра Міхайлаўна носіць яшчэ з тае пары, як была украінскім наркомам агітацыі і пропаганды ў Кіеве. Але цяпер уся модная жаночая Эўропа носіць кароткія стрыжаныя валасы (праўда, ужо цяпер заводзяць доўгія парыкі). А далей у жанчыны-дыплёматкі эўропэйскія жаночыя ўбёры і нават лёрнэтка. Выяўляецца—Аляксандра Міхайлаўна зусім мала ведае, што цяпер робіцца на Украіне, і таму хоць трохі ёй трэба пачуць пра культурнае жыцьцё гэтага маладога народу.

## XIII. Да кніжных крам

Вы сядаеце ў трамвай, дзе ў кожным вагоне ёсьць правільны гадзіньнік. Тут людзі акуратныя на час і шануюць яго. Ніхто гадзіньнікаў ня выкручвае, ня б'е іх, нават і тады, калі вагоны стаяць у трамвайным парку. Калі трамвай давозіць да канца вуліцы Карл Іоганс Гатэ, дзе шмат кніжных крамак, нахмуранае неба зноў завяло сваю асеньнюю музыку з шэлестам вады па высокіх вострых дахах, з гукавым бульканьнем у трубах з расчыненымі чорнымі грыбамі парасонаў.

Застаецца паглядзець у самае чулае аблічча кожнае культуры—у вітрыны кніжных крам ды ў самыя крамы.

Звычайна, самая раскошная папера, кніжка недарагая, тыражы—украінскія. Але што выстаўлена?

Па-першае, афармленьне кніжкі ня мае яшчэ яснага норвэскага стылю. Кніжкі соліднага парадку—копія нямецкіх і па вокладцы, і па фармату, і тональнасьцю, і шрыфтамі. Калі палавіна вітрыны занята сапраўднаю нямецкаю кніжкаю, дык здалёк не ўгадаеце, дзе нямецкія, а дзе норвэскія. Ва ўнутраным афармленьні соліднае кніжкі таксама пераважае нямецкая культура. Затое кніжкі бульварна-вагоннага тыпу і масавыя часопісы—копія англа-амэрыканскае кніжкі, з прыгожымі парамі зьяднанымі ў пацалунку, з дужым мужчынам ды далікатнымі лэдзі ў чырвонай рамцы на жоўтым фоне. Дзякуючы таму, што асноўны лік рэнтабельных кніжак высоўваецца ў першую лінію, дык на вітрынах вы бачыце англа-амэрыканскі бульвар.

І толькі ў крамах ля унівэрсытэту, дзе кнігарні маюць пах букіністых, вы пабачыце ў вітрынах шматтомныя зборы твораў норвэскіх і сусьветных пісьменьнікаў у добрых аправавах, разам з паказьнікам кошту цэлых комплектаў. Цана такіх кніжак у параўнаньні з нашымі нявысокая.

## XIV. Амундсэнаўская кампанія

Яшчэ адна рыска. Восень 1928 году поўна жывое памяткі пра нядаўна загінуўшага Амундсэна, пра палёт дырыжабля „Італія“ Нобіле на паўночнае канцавосьсе. Дзякуючы таму, што на картах Норвэгіі паўночнае канцавосьсе, Шпіцбэрген і Новая зямля абавязкова зазначаецца прыблізна так, як у нашых картах, прыкладна, Бэсарабія ці Галіччына, дык уся гэтая паўночна-полярная эпопея мае выключную вастрату ў Норвэгіі. І кнігарні гэта адзначаюць як найлепш. У кожнай вітрыне зьверху ўсіх кніжак зьмяшчаюцца кніжкі Амундсэна, успаміны пра палёты дырыжабля „Норвэгіі“ на паўночнае канцавосьсе, выведкі пра адчыненьне паўночнага канцавосься, навуковыя працы пра дзейнасьць Амундсэна, усюды выстаўлены портрэты Амундсэна, аўтографы яго, фотографіі яго спадарожнікаў і г. д., і г. д. Адным словам, вялічэзны культ Амундсэна, як нацыянальнага героя, гучыць з кожнай вітрыны.

І калі вы, ня ўмеючы чытаць па-норвэску, купляеце портрэт Амундсэна, дык вочы прыветных кнігароў сьвецяцца да вас (я не зьмяншаю) сапраўдным замілаваньнем.

Тут вы ўбачыце загалоўкі кніжак пра авантуру італьянскага генэрала Нобіле, які быў капітанам дырыжабля „Норвэгія“, калі Амундсэн ляцеў з ім на паўночнае канцавосьсе. Пасьля Нобіле захацеў уцерці нос самому Амундсэну ў 1928 годзе, але яго авантура лопнула. Дзякуючы ўсяму гэтаму і асабліва таму, што загінуў паляцеўшы дапамагаць свайму ворагу Амундсэн і што, як кажуць, Цапі і Марыяні зьелі швэдзкага вучонага Мальгрэма, у норвэжцаў вялікая антыпатыя да італьянцаў.

## XV. Аўтары, часопісы, колькасьць назваў ды інш.

У кніжных крамах вы пабачыце найбаявейшыя выданьні сучаснасьці і мінулага ў перакладах: тут і Джэк Лёндон, і Цвайг (асабліва „Амок“), і Талстой, і Грацыя Даледда, і звычайна свае: Гамсун, Бюль, Кіелянд, Ібсэн, Ліе і новая левая пісьменьніца Барбара Рынг. Калі сказаць, што тыражы кніжак 3-5 тысяч экз., то для Норвэгіі (2¾ мільёны насельніцтва) гэтую лічбу трэба лічыць за дастатковую, нават колёсальную. Але калі дадаць, што ў Норвэгіі ёсьць 1.250 бібліотэк на дзяржаўнай субвэнцыі ды звыш 1.200 бібліотэк грамадзкіх, дык нават калі палавіна бібліотэк возьме па кніжцы—то палова тыражу ўжо забясьпечана. У Норвэгіі ў 1926—27 акадэмічным годзе ў Осло паступіла 344 экз. розных часопісаў, выданых норвэскай мовай, бюлетэняў, муніцыпальных і рознае пэрыодыкі—877 экз. ды кніжак 1.883 назвы. Як бачым, паказьнікі кніжнага разьвіцьця даводзяць, што культура Норвэгіі вельмі высокая.

## XVI. Ад дажджу ў карцінную галярэю

Дождж. Дождж. Ён не дае разгледзець надворны бок сталіцы Норвэгіі—пойдзем усярэдзіну. Лягчэй гэта зрабіць, пачынаючы з музэяў і карцінных галярэй.

Вы падыходзіце да суворага будынку банкаўскага тыпу. Тут-жа ля унівэрсытэту і ля нацыянальнага тэатру. Праз дождж вы прыкмячаеце шэра-чырвоную палоску і жоўтую маляваную цэглу будынку ў два паверхі з 3-ю шкляною страхой. Гэта і ёсьць будынак нацыянальнае карціннае галярэі, якая існуе з 1903 году і заложана адным Норвэскім банкам.

Ніжні паверх застаўлены копіямі з клясычных грэцкіх і рымскіх скульптур, копіі ў натуральную велічыню, каля іх папрымошчваліся студэнты нацыянальнай школы мастацтва. Вы бачыце, як юнацтва алоўкамі і вугальлем вымалёўвае абламаныя рукі Ахілаў, выгінастыя і магутныя фігуры Дыян, выпнутыя грудзі малочных Вэнэр, кучаравыя аблічны Зэўсаў ды паадбіваныя фалёсы Геркулесаў. Я прыкмячаў нават ружовасьць на дзявочым твары, які знаменаваў творчае захапленьне рысавальніцы, я бачыў трошкі бледны твар юнака, які нікога не прыкмячаў — ён, сагнуўшыся, сачыў за рухам ліній скульптуры і за сьледам свайго ўласнага вугаля.

## XVII. Там, дзе малярскі твар Норвэгіі

Другі паверх—там сапраўдны твар малярства Норвэгіі ад раньняга пачатку да самага росквіту. Мы ідзем у цемнаватай прасторы. Сьцены цесна застаўлены і завешаны карцінамі. Вы пачынаеце высмоктваць барвістую душу норвэскага народу. Для старэйшых часоў яна ў аснове

цёмная, пахмурая, грузная. Нават рэалізм іх краявідаў вызначаецца падборам суворых, зацемненых фарбаў. Я не магу сьцьвярджаць, што гэты матэрыял фарбаў пацямнеў ад часу.

## XVIII. Сьляды ператварэньня сялянскае краіны ў прамысловую

Не, тыя норвэскія часы былі цёмныя, суворыя, сялянскія, дзе ў дрыўляных хатах і каменных будовах душылася стогодняе жыцьцё, яшчэ не зачэпленае тэхнікаю. І толькі Ібсэн, Бэрнсон, Гамсун гадоў 50—60 таму назад занатавалі пякельную барацьбу старога быту і псыхолёгіі з новымі формамі людзкога жыцьця, якія вырасьлі на фоне паходу новых экономічных і тэхнічных сіл. Тое, што мы чытаем у вышэйпамянёных клясыкаў, таго ўжо даўно няма ў жыцьці. Гэта дзесяткі год таму назад так занатованы быў пераход сялянска-рыбацкай краіны з амаль фэўдальнымі формамі жыцьця—у краіну прамысловую, пры гэтым ператварэньне ішло вельмі шпаркім тэмпам. І калі мы скажам, што на сёньня з агульнага запасу воднай энэргіі Норвэгіі, якая складае 12 мільёнаў конскіх сіл, ужо выкарыстоўваецца амаль 2 мільёны конскіх сіл (на $2^{3}/_{4}$ мільёны насельніцтва), дык гэтая лічба скажа нам, наколькі прамыслова разьвілася Норвэгія. З гэтых лічбаў мы толькі пабачым, што Норвэгія са сваіх запасаў воднае энэргіі, якой больш чым на Украіне, Расіі і на Каўказе, узятых разам, выкарыстала ў 9 раз больш, чым увесь Савецкі Саюз, і па колькасьці выкарыстаных сіл Норвэгія ўступае толькі Амэрыканскім злучаным штатам, Канадзе ды Італіі. Дык вось гэтыя 2 мільёны конскае сілы нешта робяць, нешта круцяць—і, відаць, ня ўпустую. Вось гэтыя конскія сілы, як і шмат іншых, і перавярнулі Норвэгію з цёмнае сялянскае рыбацкае краіны на асьветленую электрычнасьцю культурную краіну Эўропы. І ясна, што гэтыя дзьве паласы жыцьця Норвэгіі не маглі не адбіцца на малярстве як сужэтамі, так і тональнасьцю.

## XIX. Грамада норвэскіх мастакоў

Цяпер пойдзем па залі і будзем разглядаць. Зьвярнеце ўвагу — мастак Даль (1788—1857), пад яго пэндзлем суровая ў фіялкавых тонах прырода Скандынавіі. Грузныя скалы. Ён шырокі і прызнаны мастак. У Гюда—мора, якое давала тады шырокі размах Норвэгіі, яно таксама суровае. У Ганстэйена — таксама. Не прыфарбованы клясычны рэалізм. Вось Тыдэманд, які малюе прапаведнікаў протэстантаў у цёмнай хаце ў абкружэньні сялян, якія слухаюць „слово божие“, як відаць, пакладаючы на яго ўсе свае надзеі. Тональнасьць цёмная, прыглушаная. Далей Бойэ з яго пэрлямутравымі нацюрмортамі. Вадаспад, пэндзля Фарлея, потым Нільсэн, які рэалістычна малюе мора і фіорды,—асноўныя малярскія сужэты таго часу. Гэта ўсё аляёвыя фарбы. За гэтымі ідуць Ерыхсэн з пахмурымі краявідамі, нават карціна „Раніцы“ ў яго ня зусім вясёлая. Яшчэ далей Карстэн, дзе ўжо сьвеціцца вясёлкавы імпрэсыянізм.

Дырыкс дае шэры салатны краявід, таксама закрануты імпрэсыяністычнаю манераю. Як бачыце, у малярскай прыродзе сьвятлее. Стрэн паказвае прыгожых норвэскіх жанчын у ясным летнім асьвятленьні, і, нарэшце, прыгожая дзяўчына мастака Пэтэрсэна, якая задуменна стаіць у летнюю ноч перад купаньнем, абапёршыся на дрэва. У месячным зьзяньні (месяц адбіўся ў крышталёвай вадзе возера) ціха гучыць пахучая медзь яе валасоў. Вадзяныя лілеі цьвітуць поруч і непарушаны смутак маладога чаканьня агравае цішыню ўсяго малюнку. Можа гэта праводраз тагочаснай Норвэгіі? Але і ў Пэтэрсэна пераважаюць бледныя фарбы. Далей яшчэ адна золатакосая дзяўчына на малюнку Цорна. Яна стаіць з распушчанымі валасамі высока на гары над фіёрдам. Гэты маляр дае ўжо ясьнейшую тональнасьць. Мастак Янсэн паказвае нам бурную норвэскую сельскую прыроду і яшчэ лепей—гарадзкія будынкі. Бруно Лільефорс пабачыў і намаляваў быццам у руху маланкі малую лятучую птушку. Яна доўга застаецца ў памяці.

### XX. Запісаныя малюнкамі легенды

І, нарэшце, я закончыў-бы гэты пэрыод малярства хімерным Кітцельсэнам (1857—1913), які сабраў самыя цікавыя легенды свае, у тыя часы яшчэ досыць сялянскай, краіны і ўвязаў іх у малюнак. Гэта байкардэмонолёг. Ён, нібы Ягужынскі украінскую чартаўню, падабраў легенды норвэскіх глухіх куткоў і намаляваў прыгожаю пастэляй. Праз гэтыя малюнкі вельмі лёгка зьвязацца з мінулым норвэскае душы, з яе верою, забабонамі, пераказамі простага народу, з яе страхамі і сьвядомасьцю поўнае нікчэмнасьці проці тых вялічэзных стыхій—гор, лясоў, з сьнягоў і вод, сярод якіх прыходзілася тым людзям жыць і змагацца за жыцьцё цэлымі стагодзьдзямі. Тут вы ўбачыце, як з багавіньня возера, асьветленага праменьнямі позьняга вечара, высоўваецца ў страшным выглядзе вадзяньнік з зялёнымі вогненымі вачыма, якія упіраюцца у глыб ціхае вады.

Вы адчуваеце пах казак Скандынавіі. Вы ўбачыце на малюнках, як да нейкае пячэрнае царэўны прыходзіць вялічэзны мядзьведзь (можа гэта яе ўладар). Іх асьвятляе і агравае цяпло з вялікага комінку, дзе гудзе агонь смольных сонаў і ялін. Вы бачыце старых ведзьмаў, аднаго ліса белага, а другога рыжага, калматага, якія на верхавіне гары ўзьнялі страшэнную бойку і ад гэтага на скалах сьвішча страшэнная завіруха, зьмятаючы сьнегам дзікі камень.

За гэтым малюнкам вы ўспомніце недзе прыціхшую, напалоханую постаць закінутага жыцьця гор. Вы ўбачыце ў Кітцельсэна прадаўнюю гіронію скандынаўца, які малюе пачатак горнае крынічкі такою легендаю: сядзіць вякамі забыты, парослы лесам старац-волат. Сядзіць на верхавіне гары і дрэмле, бы скала. У яго старэчае нятрыманьне мачы. Вось і цячэ яна струменчыкам, пачынаючы горную крыніцу.

У Кітцельсэна ўбачыце і старажытнае прадаўнае этнографічнае вясельле, якое праходзіць лесам ад маладое да маладога. Папераддзе—



**Андрэй Упіт**

Латыскі пролетарскі пісьменьнік

адзіны скрыпач хітра рэжа нейкі марш. Скрыпка яго ў пэрлямутры, за ім хлопец набожна нясе футляр гэтае чароўнае скрыпкі, маладая з каронаю каралевы і вясельна адзеты малады—абое едуць верхам на ўбраных конях, а ўжо далей, пяшком—цэлы маскарад, за імі „судзьдзі“ ды інш. „сильные мира сего“. Яны звычайна толькі пяшком ходзяць на вясельле да беднага селяніна, а яшчэ далей—цэлы паход гасьцей. Навакол зьдзіўлена паглядаюць дрэвы на гэтае вясельле і бласлаўляюць маладую пару сваім зялёным гольлем.

Але над усім гэтым старажытным мінулым жыцьцём скандынаўца вісіць непераможная магутнасьць стыхіі, якая адбіта ў Кітцельсэна ў такім малюнку: у горах была навальная завея, нейкі страшны волат-стыхія, аглядаючы свае ўладаньні, прайшоўся ўночы па мяккім кіліме засланых сьнегам гор. На адным месцы ўнізе стаіць забытая хатка, у вакне якой сьвеціць агоньчык, але волат, які мог, ідучы, наступіць на яе і раздушыць,—пераступіў яе і пашоў далей. Толькі вялізнымі ямамі вызначаюцца яго сьляды ў горах, і каля самае хаткі таксама знак волатнага сьледу. Цёмнае неба, фіялкава-белы пухлы сьнег і цішыня жоўтага агоньчыку ў вакне.

Вось такое мінулае сялян даўняе Норвэгіі, калі яго разглядаць праз тоны, лініі і вобразы малярства.

## XXI. Галяндзкія ды іншыя майстры

У карціннай галярэі ў Осло ёсьць і старое эўропэйскае малярства і колекцыя яго зусім нядрэнная. Я не спэцыялісты адрозьніваць орыгінал ад добрай копіі, а, на вялікі жаль, каталёга норвэскае галярэі я дастаць ня мог, затое я меў асалоду разглядаць вялікіх голяндзкіх майстроў, скажу ўпэўнена, у орыгіналах. Тут цэлых 3 Рэмбрандты, 3 Рубінсы, Ван-Дэйк, Іорданс, далей чужаземцы: Гойя, цікавы Кранах, у якога так сакавіта і пяшчотна жывуць ружовыя целы, далей яшчэ Тэнэр, Гізэнэ і шмат іншых.

## XXII. Вялікія францускія новатары

Але чым сапраўды можа гардзіцца, і крыху ўжо гардзіцца, норвэская нацыянальная галярэя—гэта вялікімі французамі новага часу. Акадэмічны пералом у жыцьці Норвэгіі, які ўвёў яе ў кола сусьветных культур дзякуючы рашучасьці супольнай эволюцыі і магутнаму культурнаму ўзрастаньню, штурхнуў норвэжцаў узяць для свайго духоўнага карыстаньня ўсё найцікавейшае, што рабілася ў час таго пералому на Захадзе і што робіцца яшчэ і цяпер у Эўропе. І вось, як паралель да трошкі падобнага становішча, якое было ў Расіі, перадавыя норвэжцы першымі ацанілі і ўспрынялі навейшае францускае малярства. Больш таго, норвэжцы пачалі купляць тады яшчэ няпрызнаных вялікіх францускіх мастакоў, як гэта рабілі Шчукін і Марозаў у Расіі. І вось мы бачым у карціннай

галярэі ў Осло найлепшыя орыгіналы Сэзана, Гогена, Мане, Ван-Гога, Рэнуара, Пікасо, Манэ, Курбэ, Дэга ды інш. Мы бачым цэлы шэраг культур Родэна ня толькі ў музэі, але і на плошчах. Вы бачыце тыповы малюнак Сэзана. Далей два натур-морты работы Сэзана, портрэт яго-ж пэндзля. Цэлых 7 рэчаў Гогена. З іх асабліва цікавыя два натур-морты ў характары тайцянскіх яскравых малюнкаў і 2 малюнкі Скандынавіі, дзе Гоген, як відаць, быў і знайшоў сюжэты для свае палітры. Пікасо— яго карціны „Бедны шлюб" у чорна-сініх сланёва-касьцяных тонах далі тыповыя разложаныя на элемэнты гітары яго работы з 1903 году. Манэ— карціна „Дождж на моры". Асабліва добра прадстаўлены Рэнуар. Тут ня толькі яго прыгожая „Дзяўчына пасьля купаньня", але нават і яго скульптуры—„Суд Парыса" і „Афродыта" ў форме сучаснае провінцыяльнае тоўстаногае і плоднае француажанкі з маленькімі яшчэ юнацкімі грудзямі.

Вы пабачыце таксама цікавы аўтопортрэт Ван-Гога, зложаны з буйнага віхру каляровых рысачак-мазкоў ды яшчэ яскравы „Цырк Сімона".

## XXIII. Масток паміж двума малярскімі пэрыодамі

Ясна, што гэтыя майстры не маглі не адбіцца ў малярстве Норвэгіі. З другога боку, мастацкая культура, якія-б яна скачкі ні рабіла, усё-ж павінна мець непарыўную лінію пераходаў, як-бы мастацкі масток. На гэтым мастку звычайна было шмат майстроў. Яны, насьледуючы з невялічкім спазьненьнем тэхніку Захаду, яшчэ не маглі выйсьці ўперад і паказаць цалкам сваё новае аблічча. Тут ужо рознакалёрны і глыбокі лірык Скандынаўскае прыроды Вілюмсэн яскравымі фарбамі малюе тыповыя сюжэты Норвэгіі. Гляньце, узьбярэжжа мора пасьля буры. Перакінуты човен прыбілі хвалі да берагу. Жанчына ў роспачы, каля яе дзіця. Сінь мора і над горамі вагністае сонца.

Асабліва надоўга застаецца ў памяці мастак Сольбэрг, які з новаю манераю на вялікіх палотнах дае адчуць усю сілу прыгожасьці Скандынаўскае прыроды: летні вечар, зялёны фіёрд, сіня-фіялкавыя горы або зноў зімовыя ночы ў горах і, нарэшце, сучасны горад пасьля мяцеліцы.

Мастак Лунд малюе портрэт яшчэ маладога Гамсуна. Гамсун на яго портрэце—бялявы чалавек з блакітнымі вачыма. Валасы яго—як жоўтая асеньняя трава ў дождж. У розныя бакі пырснулі рудыя вусы, нібы ў ката ці ў старажытнага польскага шляхціца. Наогул на гэтым раньнім портрэце Гамсун падобны да цырульніка.

## XXIV. Мастак-модэрністы Эдвард Мюнх

Вы ідзяце далей і, упіваючыся вачыма ў сьцены, абвешаныя малюнкамі, трапляеце ў залі, прызначаныя цалкам найбольшаму мастаку модэрністаму Норвэгіі і аднаму з найбольшых мастакоў Эўропы— Эдварду Мюнху. Гэты мастак нарадзіўся 12 сьнежня 1863 году ў

Лейтэне (Гедмарк)—у Норвэгіі. Малярству вучыўся на бацькаўшчыне, а пасьля—у Парыжы, жывучы на дзяржаўнай стыпэндыі. Шмат часу вандраваў па Францыі, Італіі, Нямеччыне. Затрымаўся на доўгі час у Нямеччыне, дзе і быў найбольш прызнаным як вялікі майстар модэрністычнага малюнку. Выстаўляецца ў Бэрлінскім Сэцесыёне „Левых майстроў“. У часе вайны ён жыў часткаю ў Осло, часткаю ў іншых краінах і, нарэшце, акадэмізаваўся, як маляр, у той-жа Нямеччыне з 1920 г., наладжваючы свае выстаўкі ў Мюнхэне, Бэрлінскай Акадэміі (1923 год), у Швайцарыі (Цюрых—1925 г.) і, нарэшце, сабраў поўную выстаўку сваіх карцін у Нацыянальнай галярэі ў Бэрліне. Як бачым, шлях да сусьветнага прызнаньня Мюнх меў праз Нямеччыну, хоць і вучыўся ў Парыжы.

### XXV. Немцы як трамплін культур

Трэба сказаць, што немцы наогул сталі для Скандынавіі тым трамплінам, з якога норвэжцы скочылі на сусьветную арэну ў літаратуры і малярстве.

### XXVI. Творчыя палосы вялікага норвэскага малярства

Калі глядзець на карціны Мюнха, сабраныя ў Осло, дык убачым, што, як і трэба спадзявацца, першая паласа яго прац, асабліва між 1889 і 1896 г.г., ёсьць напружны шлях шуканьня, каб адарвацца ад рэалізму і перайсьці ў чысты імпрэсыянізм і сымболізм. У гэтай новай манеры, якая цалкам выявіла модэрністычнае аблічча Мюнха каля 1900 гг., Мюнх паказаў сябе, як пэўнага псыхолёга, майстра прасякненьня ў глыбіні трагізму чалавека, які мяжуе з вар‘яцтвам. Сьмертны жах і экзальтаванасьць жывуць у яго постацях, намалёваных рашучымі цёмнымі і выразнымі мазкамі. Зялёна-чырвоная і цёмна-белая тональнасьць зьвініць, як паўночны лёд.

Яго аўто-портрэт характарна малюе самога пісьменьніка, які з вар‘яцкім жахам углядаецца ў пустэчу цемры, у якой хаваюцца твары катастроф. Ён нібы прадчуваў сусьветную вайну, намаляваўшы ў постацях мужчын і жанчын людзкую „обреченность“.

На карцінах Мюнха мёртвыя і напалоханыя і глыбокія ў перадпачуцьцях ракавое бяды постаці. Асабліва захапляюць такія карціны, як „Маці і дачка“, „Дарасласьць“, „Каля нябожчыка“ ды інш. І над усім гэтым уздымаецца пакутнае аблічча ў вобразе „Мадонны“ долі чалавецтва—людзкое жыцьцё.

Разам з тым Мюнх выявіў сябе як вядомы портрэтысты. Яго портрэт Вальтэра Ротэнау, таго, які быў забіты, як міністр замежных спраў пасьлярэволюцыйнае Нямеччыны, агульна прызнаны шэдэўр. Таксама выявіў сябе Мюнх выдатным майстром фрэскі. Яго росьпіс музычнай

залі „Аўля“ ў Осло захапляе перш за ўсё тым імпрэсыянічным лёдавапразрыстым і рознакалёрным і разам халодным пырскам, які назаўсёды застаецца ў памяці.

Нарэшце, пасьля ўжо 1916 году, на палітры гэтага мастака зьяўляюцца цёплыя зялёна-ружовыя фіялкавыя тоны. Творчасьць Мюнха, нібы веха, стаіць на мяжы дзьвюх эпох норвэскага малярства.

## XXVII. Рознакалёрная моладасьць

Яшчэ вышэй, на 3-м паверсе, у сьветлай залі (на другі ці на трэці дзень) вы пасьпяваеце пабачыць ня толькі графіку, дрэварыты і офорты норвэжцаў, а што найцікавей—маладых сьвежых мастакоў сучаснай Норвэгіі.

Бадзёрая жыцьцярадасная рознакалёрная моладасьць! Вы гляньце на Тыгенсэна, які пашоў ад Сэзана далёка-далёка наперад. Цёплаю вясёлкаю граюць яго малюнкі. Вы ходзіце па залі маладых мастакоў і п'яце той жыцьцярадасны мажор, якога зусім ня было ў старых мастакоў. Новая прамысловая і багатая Норвэгія пасьля экономічнага пералому дала вялікую колькасьць рознакаляровага малярства. Праўда, яно ідзе цалкам у ногу з сучасным малярскім Парыжам, але таксама мае і тое, чаго ня можа мець поўнасьцю Парыж: мае сваю скандынаўскую спортыўную бадзёрасьць, дзе павінна выявіцца душа гэтых сакавітых мяшчаначак ды іх высокіх партнёраў, абвеяных ветрам мора і агрэтых электрычнымі печкамі ў пакоях. Я знарок кажу—„мяшчаначак і іх партнёраў“, бо рабочага сюжэту і вобразаў працы вы ня ўбачыце ў гэтых залях. Вы ўбачыце па-новаму паданую прыроду Скандынавіі ды іншых краін Эўропы і сьвету, паказаных пэндзлем гэтых маладых маляроў, бо на сваіх пераходах Норвэгія заглянула ўсюды.

## XXVIII. Усё, апрача жыцьця працоўных

Вы ўбачыце буржуазны антэр'ер (унутранае жыцьцё), вы ўбачыце парыскіх голенькіх простытутак у ружовых тонах, але вы ня ўбачыце рабочых з фабрыкі сардынак. Вам Нільсон падасьць чыстую глыбокую пэрспэктыву. Вы зьдзівецеся сьмеласьці маладых шукачоў у сфэры малярскіх форм у Гайбэга, Іогансэна, а асабліва Сорэнсэна. Маляр Кронг пакажа вам нават тэмы поўдню, вярблюдаў у адпаведным каляровым і яскравым асьвятленьні.

Нарэшце, Рэвальд закране тэмы імпорту. Рольфсон дае сухія каляровыя і графічна ўмоўныя малюнкі, Бойрэ, Торстэйнсэн—таксама блішчаць новым. Якая процілежнасьць папярэднікам! Паглядзеўшы на адно малярства, сьмела можна сьцьвердзіць, што за кароткі час, некалькіх дзесяцігодзьдзяў, у структуры Норвэгіі адбыліся вялічэзныя зьмены як у экономіцы, так і ў побыце.

## XXIX. Галярэя падтрымлівае творчую моладзь

Яшчэ заўвага: усе гэтыя памянёныя мастакі—параўнаўча маладыя. Ніводзін з іх не радзіўся раней 1890 году, большасьць з іх пачала жыць на парозе XX стагодзьдзя. Іх будучыня наперадзе, але, не зважаючы на іх моладасьць, неўсталяванасьць і шуканьні, Нацыянальная карцінная галярэя ўжо набыла іхныя творы і зьмясьціла іх у адпаведнай залі па суседзтву з Пікасо. Значыць, у Норвэгіі падтрымліваюць творчую моладзь, наладжваючы выстаўкі, маюць скарбніцу малярства—карцінную галярэю, дзе паказваюць дасягненьні сваіх маладых творчых сіл ня толькі сваім гледачом, а тым тысячам турыстых, якія вандруюць па Норвэгіі і якія потым выслаўляць дасягненьні Норвэскага генія.

Адно няпрыемна, што норвэская карцінная галярэя ня мае каталёгу. Так і відаць, што турыстыя, якія бываюць там, у пераважнай большасьці ня маюць ні мастацкіх запатрабаваньняў, ні густу.

## XXX. Родэн, Вігелянд і норвэская скульптура

Нарэшце, яшчэ крыху пра норвэскую скульптуру і на гэтым закончым агляд карціннае галярэі.

У скульптуры норвэжцы ідуць ад Родэна, выкарыстоўваючы, аднак, ня толькі мармур і гіпс, але і свае матэрыялы—дрэва, граніт.

Найцікавейшым бясспрэчна зьяўляецца Вігелянд, ужо стары, 59-гадовы мастак. Яго работа „Жанчына“, разьба на дубе, жыве магутнымі абсягамі матэрыялу. Уплыў Родэна асабліва вызначаецца на творы „Бацька і дачка“, дзе ў овальна-сфэрычную форму композыцыйна ўкладаецца уся постаць маленькае дачкі, бы ў нябачнае яйка. Таксама надзвычайна цікавая і глыбока псыхолёгічная работа яго „Маці і сын“.

Другі цікавы скульптар—Ніэльсэн. Гэтаму вядомы ўжо ўплывы нэгрыцянскае, асабліва індыйскае скульптуры. Доказам гэтага зьяўляецца яго пазалочаная бронза.

Няхай чытач ужо сам зробіць вывады пра стан норвэскага малярства, але ў адным ня мае права ён пярэчыць, што норвэскае малярства тоіць у сабе ня толькі вялікія мажлівасьці, а ўжо мае і вялікія дасягненьні, якіх пакуль што не адкрыла як сьлед Эўропа.

# ЧАТЫРЫ БУЙНЕЙШЫЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ СУЧАСНАЕ ЛАТВІІ

**К. Езавітаў**

Невялічкі латыскі народ, які налічвае ўсяго адзін мільён з паловай чалавек, здолеў, аднак, стварыць літаратуру, якая ўжо атрымала агульна-эўропэйскае прызнаньне і высунула шэраг аўтараў, творы якіх перакладзены і перакладаюцца на францускую, ангельскую, нямецкую ды іншыя мовы. Да ліку такіх эўропэйска-вядомых латыскіх пісьменьнікаў належыць і вядомы прыяцель беларусаў—поэта Ян Райніс (праўдзівае прозьвішча Плекшан).

З сучасных пролетарскіх пісьменьнікаў Латвіі, як найбольш буйных, яркіх і шырока вядомых—ня толькі ў Латвіі, але і па-за межамі,—трэба вылучыць трох: Андрэя Упіта, Лінарда Лайцэна і Андрэя Курці (Куршынскі).

*Андрэй Упіт* нарадзіўся у 1877 г. ў Скрыверах. Бацька яго, бедны „іспольшчык" (арандатар, які аддае палову ўраджаю гаспадару, а палову бярэ сабе за працу), ня меў сродкаў вучыць сына, аднак Упіт, працуючы ў лесе і ў полі, дапамагаючы бацьку, усё-ж-ткі скончыў пачатковую школу ў Скрыверах, а потым самавукам падрыхтаваўся да экзамену на народнага і хатняга настаўніка. З 1897 па 1908 год працаваў настаўнікам, а потым перашоў выключна да працы літаратурнай і грамадзкай. У 1917 годзе працуе ў Савеце Рыскіх Рабочых Дэпутатаў і ў Рыскай Думе, арыштоўваецца нямецкімі окупантамі і сядзіць пэўны час у турме, потым працуе ў Камісарыяце Асьветы. У 1920 годзе вяртаецца ў Латвію, але тут арыштоўваецца латвійскім урадам, два разы сядзіць у Цэнтральнай Турме, нарэшце звальняецца па амністыі і, вышаўшы на волю, аддаецца немаль выключна літаратуры. У сучасны момант прыймае ўдзел у самай левай латвійскай партыі—незалежных соцыялістых.

У літаратуры Андрэй Упіт вядомы, як выдатны романісты, драматург, поэта і аўтар вельмі цікавых новэль. Ва ўсіх яго творах відаць надта ўважлівае вока сумленнага аўтара-філёзофа. Вядомы Упіт і як крытык і рэдактар літаратурна-крытычнага штомесячніка „Domas" (Думка).

*Лінард Лайцэн* нарадзіўся ў 1883 г. 3-16 лістапада ў Яўнпрозкіх Мерумах. Бацька Лайцэна, як і А. Упіта, быў іспольшчык і пераходзіў працаваць з месца на месца. Хлопец паступіў у школу 9-ці год, але скончыць яе ня меў сродкаў. Паступіўшы ў навуку да садоўніка, папаўняў сваю адукацыю самавукам, а потым паступіў у рэальнае вучылішча, але быў звольнены з 5-е клясы за пашырэньне нелегальнае літаратуры. 18-ці год пачаў пісаць вершы і апавяданьні, якія друкаваліся ў латыскай „Пецярбурскай газэце“. Шмат якія работы гэтага часу згінулі, бо Лайцэну прышлося перамяніць шэраг профэсій і мясцовасьцяй, быць пад судом і ў турме, хавацца пад чужымі прозьвішчамі ў Фінляндыі, Рызе, Петраградзе. З 1909 году па 1912 год, згодна пастановы судовае палаты, Лайцэн прасядзеў у турме, дзе пазнаёміўся з тымі тыпамі „злачынцаў“, якіх потым так пamастацку маляваў у сваіх творах. Вышаўшы з турмы, Лайцэн пэўны час працуе ў розных рэдакцыях, а потым паступае ў маскоўскі народны унівэрсытэт Шаняўскага, дзе вучыцца да 1916 году, працуе, ў бежанскіх організацыях і прэсе, баронячы ідэю аўтономнай Латвіі ў фэдэрацыі з Расіяй. Па звароце ў Латвію, яго, з групай іншых дзеячоў левага кірунку, арыштоўваюць і трымаюць у Цэнтральнай Турме, скуль выпушчаюць у пачатку 1923 году. У сучасны момант Лайцэн зьяўляецца адным з кіраўнікоў левага профсаюзнага руху і часта падпадае пад рэпрэсіі латвійскага рэакцыйнага ўраду; быў арыштаваны і ў часе рабочых дэмонстрацый 22-га жніўня гэтага году ў Рызе.

У літаратуры вядомы, як дужа плодны поэта, драматург і пісьменьнік ярка выяўленага пролетарскага кірунку. Рэдагаваў некаторыя левыя газэты і часопісы, спыненыя ўладай, а зараз рэдагуе штомесячнік маладых пролетарскіх пісьменьнікаў „Крэйса Фронтэ“ (Левы фронт). Гэты штомесячнік зьяўляецца такой-жа школай для пачынаючых пролетарскіх пісьменьнікаў Латвіі, як на Беларусі штомесячнік „Маладняк“.

*Андрей Курці (Куршынскі)* нарадзіўся ў 1884 годзе 19 верасьня ў Айзупскай воласьці, дзе бацька меў хутар. Дзяцей было шмат і жылося даволі цяжка, аднак Курці, працуючы летам на гаспадарцы ў бацькі, а ўзімку зарабляючы прыватнымі лекцыямі, здолеў скончыць у Лібаве сярэднюю школу і паступіць у Рыскі політэхнікум. Ужо ў Лібаве ён пазнаёміўся з соцыялістычнымі работніцкімі організацыямі, а ў Рызе прыняў удзел у падзеях 1905 году; ледзь ня быў забіты 13-га студзеня 1905 году ў часе дэмонстрацыі каля жалезнага мосту і змушаны быў выехаць за межы, дзе прабыў да 1911 году, выўчаючы мэдыцыну ў Ене. Прабыўшы два гады ў Петраградзе, Курці выяжджае ў Лібаву, дзе працуе да часоў эвакуацыі, а потым зноў працуе ў Петраградзе, блізка стоячы да літаратурна-грамадзкае працы. У 1918 годзе вяртаецца ў Латвію, прыймае ўдзел у політычнай і культурнай працы, як сябра Ўстаноўчага збору і організатар Народнага унівэрсытэту. Пасьля рэпрэсій, якія распачаліся ў Латвіі супроць леванастроеных політычных дзеячоў, Курці ў 1922 годзе выяжджае на некаторы час у Нямеччыну, дзе выўчае мастац-

тва і літаратуру, а потым зноў вяртаецца ў Латвію, дзе працуе як доктар, як грамадзкі працаўнік, політычны дзеяч і пісьменьнік. У сучасны момант зьяўляецца старшынёй Цэнтральнага камітэту партыі незалежных соцыялістых Латвіі і, у зьвязку з рэпрэсіямі супроць гэтае партыі, арыштываны латвійскім урадам і сядзіць у цэнтральнай турме ў Рызе.

У літаратуры вядомы, як аўтар некалькіх зборнікаў вершаў, прысьвечаных Эўропе і латвійскай сучаснасьці, вельмі цікавых і па форме і па зьместу, а таксама—як аўтар кароткіх психолёгічных апавяданьняў.

Асобна стаіць *Кароль Дээльзыт*, які зьяўляецца адным з левых латвійскіх поэтаў. Нарадзіўся ў 1892 годзе, 25-га чэрвеня, у Нурміскай гміне, Рыскага павету ў фальварку „Коні“. Сын селяніна, гаспадара памянёнага фальварку. Першую асьвету атрымаў у Зэгевольдзкім прыходзкім вучылішчы, а потым скончыў Мітаўскае рэальнае вучылішча. Вышэйшую асьвету атрымаў у Петраградзкім і Рыскім унівэрсытэтах, скончыўшы юрыдычны факультэт і дапоўніўшы сваю асьвету ў Парыжы. Ведае, апрача роднай латыскай, яшчэ расійскую, нямецкую і францускую мовы. Шмат вандраваў па Расіі і Эўропе. З 1914 па 1917 год быў у войску. У Латвіі быў членам Латвійскага ўстаноўчага збору ў фракцыі соцыял-дэмократаў. Цяпер з гэтае партыі вышаў і зьяўляецца адным з заклaдальнікаў партыі латвійскіх незалежных соцыялістых. Займаецца адвакатурай, выступаючы пераважна ў політычных процэсах. Прымае чынны ўдзел у політычным і культурным лева-рабочым руху ў Латвіі; у зьвязку з падзеямі 22-га жніўня быў арыштаваны, але зараз выпушчаны на парукі.

У літаратурным латвійскім жыцьці пачаў выяўляць сябе з 1920 году. Цяпер працуе ў літаратурных левых часопісах і ў газэтах. Да гэтага часу выйшлі гэткія ягоныя зборнікі: „Паўстаньне штандару“ (вершы), „Сьнег на палаючае сэрца“ (вершы) і „Паход у будучыню“ (зборнік апавяданьняў).

З апошняга зборніку, які толькі што вышаў, і ўзята ніжэй друкаванае апавяданьне „Вечны вандроўнік“.

# ЯШЧЭ АБ ПОЛЬСКІМ ІМПЭРЫЯЛІЗЬМЕ [1])

**Ан. Сталевіч**

## Польскі імпэрыялізм і фашызм

Па меры завастрэньня антагонізму паміж сусьветным імпэрыялізмам і СССР узрастае і значэньне Польшчы, як форпосту гэтага імпэрыялізму ў рыхтаваньні праз яго збройнай інтэрвэнцыі СССР. Становячыся ўсё больш экономічна і політычна залежнай ад міжнароднага імпэрыялізму, Польшча тым больш сьпешна рыхтуецца да нападу на СССР.

Імпэрыялізм Польшчы, выкарыстоўваючы сваю ролю ў антысавецкім блёку, імкнецца як мага зьдзяйсьняць свае захопныя пляны. Супярэчнасьці капіталізму ў Польшчы, якія ўсё паглыбляюцца, якія з асаблівай яскравасьцю выяўляюцца ў сучасным нарастаючым гаспадарчым крызісе, штурхаюць фашыцкую Польшчу шукаць новых тэрыторыяй, новых колёній для збыту прамысловых тавараў і рабаваньня прыродных багацьцяў, шукаць новых мас для эксплёатацыі. Польская буржуазія ў кожным заваяваньні і ўзмацаваньні соцыялізму ў суседніх БССР і УССР бачыць набліжэньне сваёй пагібелі.

Усе гэтыя міжнародныя і ўнутраныя чыньнікі ўзмацняюць экспансію польскага імпэрыялізму на Ўсход і адгэтуль сьпешная падрыхтоўка паходу на СССР.

Польскі фашызм, як і фашызм наогул, зьяўляючыся тэрорыстычнай формай дыктатуры організаванага капіталу, зьяўляючыся спэцыфічнай крайняй формай буржуазнай імпэрыялістычнай рэакцыі, ажыцьцяўляе пляны міжнароднага і польскага імпэрыялізму. І каб стабілізаваць капіталізм у Польшчы, фашыцкая дыктатура праводзіць павялічаную эксплёатацыю рабочае клясы, нішчыць і душыць рэволюцыйны і нацыянальнавызваленчы рух, мілітарызуе край дзеля нападу на СССР. Фашыцкі ўрад, дзеля зьдзяйсьненьня пастаўленых перад ім задач, імкнецца пашыраць сваю базу на паняволеных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны і ўцягнуць пад свой уплыў эксплёатаваныя працоўныя масы. Вось гэткае азначэньне і разуменьне польскага імпэрыялізму і фашызму было

[1]) У маім артыкуле, надрукаваным у № 1 „Полымя“ за 1929 г., з прычыны вельмі кароткага тэрміну, данага мне рэдакцыяй, і адгэтуль — надзвычайнае сьпешкі шэраг закранутых пытаньняў быў недастаткова высьветлены або дрэнна формуляваны і таму політычна няправільны. Каб папярэдзіць скажэньне і няправільнае тлумачэньне маіх думак, даю ў гэтым артыкуле разьясьненьне тым хібам папярэдняга артыкулу, якія заўважыў пры яго пераглядзе, а таксама даю грунтоўнае тлумачэньне аб польскім імпэрыялізьме.

ў мяне і ў папярэднім артыкуле. Фраза „імпэрыялізм ёсьць неадменная адзнака польскага фашызму“—па сутнасьці няправільная, бо фашызм зьяўляецца найбольш крайняй формай наступленьня імпэрыялістычнай рэакцыі, а не наадварот. Гэтае няправільнае формуляваньне атрымалася таму, што я гэтую фразу ўжываў у сэнсе агрэсыўнасьці польскага фашызму, а не як асобную стадыю разьвіцьця капіталізму.

## Генэральная лінія фашызму адна

Перш за ўсё трэба адзначыць, што курс палітыкі, генэральная лінія фашызму на Заходняй Беларусі і на Заходняй Украіне аднолькавы: няшчадна граміць і душыць нацыянальна-вызваленчы рэволюцыйны рух, нішчыць компартыю—адзінага правадыра барацьбы эксплёатаваных і прыгнечаных мас, і як на пляцдармах, у будучай вайне аднолькавым тэмпам рыхтавацца да нападу на СССР.

Калі разглядаць соцыяльную базу фашызму на украінскім і беларускім грунце, дык становіцца ў вачавідкі ясным колькасная розьніца, таўшчыня пластоў гэтых баз, гэтых апор фашызму ў яго палітыцы вызыску, уціску і вайны. На Заходняй Украіне украінская гарадзкая і сельская буржуазія, а таксама верхавіна дробнай буржуазіі, бязумоўна, становіць больш буйнейшае напластаваньне, чым гэта мы бачым на Заходняй Беларусі. Тут беларуская гарадзкая буржуазія пакуль сябе ня выявіла, як асобны соцыяльны пласт, а сельская буржуазія абмяжоўваецца кулаком. Пры гэтым верхавіна серадняцтва таксама лічбова меншая чым на Заходняй Украіне.

Аднак, колькасная розьніца зусім *не зьмяняе якаснасьці*, не зьмяняе *контррэволюцыйнай ролі тэй і другой буржуазіі*, якія па сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці займаюць роўназначнае месца ў фашыцкім лягеры, у роўнай меры зрастаюцца з польскай буржуазіяй.

Таму фашыцкі ўрад, хоць у некаторай меры патанчае сваю тактыку ў адносінах да украінскай і беларускай буржуазіі, аднак, наогул і ў цэлым падыход яго аднолькавы: шляхам уступак і падачак цясьней зрошчываць буржуазію паняволеных народаў з польскай буржуазіяй, каб мець загартаваных граміл на антысавецкім і антыпролетарскім франтох фашызму. Палітычныя партыі буржуазіі паняволеных народаў за сваю працу па ўзмацаваньню фашыцкай окупацыі і падрыхтоўкі вайны супроць СССР маюць поўнае матэрыяльнае і палітычнае падтрыманьне ад фашыцкага ўраду. Адначасна ўрад як мага ўзмацняе соцыяльнае і нацыянальнае прыгнечаньне ў адносінах да шырокіх працоўных і эксплёатаваных мас Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

## Пра беларускую буржуазію і распластаваньне ў беларускім народзе

Беларускі народ, як і ўсе іншыя народы, *няміняча павінен мець і мае клясавыя падзелы, клясавыя супярэчнасьці і дзеліцца на два варожыя лягеры:* рэволюцыйны (пролетарыят, бядняк і асноўная маса

серадняцтва), які ідзе разам з працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяй на чале з пролетарыятам, і контррэволюцыйны (буржуазія, кулак, верхавіна заможнай дробнай буржуазіі), які ўваходзіць у фашыцкі лягер Польшчы. *Паміж гэтымі лягерамі адбываецца зацятая клясавая барацьба.*

Калі я ў папярэднім артыкуле казаў, што беларускай буржуазіі няма, а ёсьць тонкая праслойка верхавіны дробнай буржуазіі, дык гэта, бязумоўна, была памылка. Аднак, гэта ня ёсьць мая ўстаноўка, што відаць і з усяго артыкулу, дзе я ўсюды кажу аб наяўнасьці беларускага кулака, аб уваходзе яго ў фашыцкі лягер, аб палітычнай актыўнасьці беларускага кулака і яго організацый ва ўсёй палітыцы фашыцкага ўраду і аб расспластаваньні ў беларускім народзе. Цяпер даю больш падрабязнае тлумачэньне гэтым пытаньням.

Беларуская сельская буржуазія—кулак, асабліва пасьля фашыцкага перавароту, пашла на ўздым, на абагачэньне за кошт абядненьня і руйнаваньня асноўнай сялянскай масы. Пры палітыцы фашыцкага ўраду на ўмацаваньне і пашырэньне свае соцыяльнае базы на Заходняй Беларусі, палітыцы, якая прысьпяшае разьвіцьцё капіталізму на вёсцы, немінучае зьяўленьне больш буйнай беларускай сельскай буржуазіі і гарадзкой. Пры капіталістычным ладзе, згодна законаў буржуазнага разьвіцьця, для беларускай буйнай сельскай і гарадзкой буржуазіі месца ў будучыні вызначана. Беларускі кулак, нажыўшы грошы на эксплёатацыі і квотніцтве, купіць сабе фальварак ці млын, заложыць цагельню ці тартак. Палітычныя авантурнікі, як Аляксюк і Валэйша, нажылі сваёй службай окупанцкаму ўраду—адзін камяніцу ў Вільні, другі—адчыніў магазын.

Той час (да майскага фашыцкага перавароту), калі беларускі кулак быў занядбаны польскім урадам і стаяў з боку нацыянальна-вызваленчага руху, даўно мінуў. Цяпер кулацкая гаспадарка на Заходняй Беларусі ўзмацнілася, яна павысіла тэхніку земляробства, павялічыла інтэнсыфікацыю сельскае гаспадаркі. Кулак уводзіць ўжываньне штучнага ўгнаеньня, машыны, мае большы збыт збожжа, а ў вызыску і ўціску незаможнай часткі вёскі мае поўнае падтрыманьне з боку фашыцкага ўраду. Такім чынам, беларускі кулак набірае ўсё больш рысы вясковага прыгнятацеля—павука.

Экстэрмінацыйная палітыка ўраду стварыла абшарніку і кулаку галодную беспрацоўную армію на вёсцы, якую яны нячувана эксплёатуюць. Зруйнаваны падаткамі, душачыся ад безьзямельля, бядняк трапляе ў жорсткую кабалу кулаку і абшарніку, а зямля яго часта пераходзіць у рукі кулака. Вясковы незаможнік, ратуючыся ад галоднай сьмерці, рэквізыцый за падаткі, ад штрафу ды інш., часта шукае матэрыяльнага падтрыманьня ў кулака, якое той пасьля ўтрая спаганяе. Зразумела, што паміж кулаком і серадняком ёсьць яшчэ верхавіна серадняцтва. Фашызм вабіць гэтую верхавіну высокаю цаною на сельска-гаспадарчыя продукты, крэдытамі, уцягваньнем у коопэрацыю ды інш., і ў выніку верхавіна серадняцтва ідзе за кулаком у лягер фашызму.

*Процэс разьвіцьця капіталістычных адносін на вёсцы і ў зьвязку з гэтым паглыбленьне дыфэрэнцыяцыі*—вось характарныя рысы ў палажэньні сучаснай вёскі Заходняй Беларусі. Побач з узмацненьнем гаспадарча-экономічных сіл абшарнікаў і ўзбагачэньнем асадніцтва і кулацтва, да якіх цягнецца верхавіна заможнага серадняцтва, адбываецца шпаркае драбленьне і памяншэньне адноснае вагі асноўнай серадняцкай масы і сьпіхваньне яе на становішча беднякоў, адбываецца поўпэрызацыя і часткова пролетарызацыя шырокіх безьзямельных і малазямельных мас.

**Нацыяналізм беларускай буржуазіі—зброя фашызму**

Соцыяльныя карэньні беларускага нацыяналізму растуць з сельскай буржуазіі і верхавіны заможнай дробнай буржуазіі. Політычна афармляе гэты нацыяналізм беларуская інтэлігенцыя, якая выходзіць і рэпрэзэнтуе інтарэсы кулацтва і заможнага серадняцтва. У зьвязку з пашырэньнем і ўзмацненьнем кулацкай базы польскага фашызму на Заходняй Беларусі набірае політычнай актыўнасьці і сілы беларускі контррэволюцыйны нацыяналізм.

На падпарадкаваных польскай дзяржаўнасьці збройнай сілай Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне польскі нацыяналізм вядзе наступленьне на паняволеныя народы, праводзячы нахабную полёнізацыю так званых „усходніх крэсаў“, імкнучыся прышчапіць шырокім працоўным масам польскі вялікадзяржаўны шовінізм. Зрошчваючы беларускую буржуазію з польскай праз політыку ўступак і падачак, фашыцкі ўрад пры дапамозе той-жа беларускай буржуазіі і тэй часткі інтэлігенцыі, якая выяўляе яе інтарэсы, узмацняе тэрор і нацыянальнае прыгнечаньне ў адносінах да працоўных мас Заходняй Беларусі.

З свайго боку беларуская буржуазія як мага актыўна памагае фашызму праводзіць яго пляны: душыць нацыянальна-вызваленчы рэволюцыйны рух і рыхтаваць напад на СССР. Клясавыя інтарэсы беларускай буржуазіі, напор рэволюцыйнага, што ўзрастае, руху працоўных мас Заходняй Беларусі, надзеі праз захоп БССР польскім імпэрыялізмам атрымаць большыя ўступкі, падачкі, прывілеі—усё гэта кідае беларускую буржуазію ў абоймы фашыцкага лягеру.

Каб мець сутычнасьць з масамі і свой уплыў на іх і гэтым мець вагу ў вачох польскага фашызму, а спэкулюючы на нацыянальным уціску шырокіх мас, вытаргоўваць у польскай буржуазіі тыя ці іншыя падачкі, беларуская буржуазія ахоўвае свой нацыянальны твар, атручвае масы нацыяналізмам, цкуе Савецкую Беларусь і ЎсеКП(б).

Беларускія заможныя слаі на Заходняй Беларусі ды іх згодніцкія партыі шырока карыстаюцца нацыяналізмам, маючы на мэце пасеяць нацыянальны антагонізм паміж беларускімі працоўнымі масамі і польскімі, каб гэтым адцягнуць увагу гэтых мас ад супольнай рэволюцыйнай барацьбы, адарваць гэтую барацьбу з-пад кіраўніцтва пролетарыяту ды яго компартыі. Робіць гэта беларуская буржуазія пры дапамозе сваіх

лёзунгаў: усе нацыянальныя сілы на творчую культурную працу, адзіны нацыянальны фронт, зямля *толькі беларускім* сялянам, саюз *беларускіх* рабочых і сялян, захаваць нацыянальную самабытнасьць і т. п.

Маючы ў беларускім нацыяналізьме сваю верную зброю, польскі фашызм дабрадзейна адносіцца да гэтага нацыяналізму і падтрымлівае яго сейбітаў—беларускія згодніцкія партыі, адначасна ўзмацняючы нацыянальнае прыгнечаньне і тэрор у адносінах да шырокіх працоўных і эксплёатаваных мас ды іх нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Сямейныя спрэчкі, якія ёсьць унутры фашыцкага лягеру, ідуць не па лініі клясавых супярэчнасьцяй, не вынікаюць з глыбокіх процілеглых ідэолёгій і таму яны лёгка згладжваюцца і прыкрываюцца агульнасьцю іх клясавых інтарэсаў. Беларускаму кулаку зусім не перашкаджаюць яго нацыянальныя рысы (як мова, звычаі) быць актыўным удзельнікам фашыцкага лягеру, наадварот, ён пажаданы сябра для польскага абшарніка і капіталістага ў наступленьні на рабочых і працоўнае сялянства, ён пажаданы, як канава для пранікання фашызму ў беларускія працоўныя масы, як перадатчык і ўзмацняльнік беларускага нацыяналізму ў БССР, як актыўны элемэнт у падрыхтоўцы да вайны. *Страх перад рэволюцыяй, што набліжаецца, наступальная палітыка на кулака і нэпмана ў СССР, разгортваньне падрыхтоўкі вайны супроць СССР—усё гэта шчыльней зрошчвае і нітуе ўсе элемэнты, фашыцкага лягеру, надае больш жорсткасьці і ваяўнічасьці гэтаму лягеру ў зьдзяйсьненьні крывавых плянаў фашызму.*

Польскі фашызм і яго агенты—беларускія згоднікі, прышчапляючы нацыяналізм шырокім масам і ўмела выкарыстоўваючы ўсякія нацыянальныя настроі сярод мас, імкнуцца гэтым адарваць барацьбу працоўных мас за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне з-пад ярма капіталу, вырваць з-пад уплыву компартыі і ўцягнуць на шлях згоды з фашызмам, уцягнуць яго ў ваенную палітыку.

**Актыўнасьць беларускіх і украінскіх контррэволюцыйных сіл**

Як на Заходняй Беларусі, так і на Заходняй Украіне буржуазія, кулацтва і верхавіна дробнай буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяй ня толькі гаспадарча ўзмацняюцца за кошт эксплёатацыі пролетарыяту і асноўнай сялянскай масы, але і палітычна актывізуюцца.

Буржуазія і кулацтва ўваходзіць у фашыцкі лягер, *актыўна памагае разграмляць рэволюцыйны рух, рыхтаваць вайну супроць СССР*. Яны—праваднікі ўсяе палітыкі ўраду. Абшарнік, асаднік, кулак—вось апора і база фашызму на вёсцы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, яны ёсьць і будуць носьбітамі фашызму і выканаўцамі яго крывавых плянаў; яны—крыніцы, адкуль залучаюцца сілы для фашыцкіх банд, фашыцкіх ваенных і напоўваенных організацый. Хоць лічбова беларускай буржуазіі менш, чым украінскай, хоць апошняя мае свае партыі з большымі згодніцкімі традыцыямі, большую практыку ў збройных выступленьнях

супроць саветаў (скарападчына, пятлюраўшчына ды інш.), мае большую колькасную апору на кулака і нэпмана ў СССР, аднак, гэта ня робіць розьніцы ў агрэсыўнасьці і ваяўнічасьці тае і другое буржуазіі ў адносінах да СССР, у якім яны бачаць свайго сьмяротнага клясавага ворага, і ў адносінах да рэволюцыйнага руху.

У гмінных радах, сойміках. камасацыйных камісіях і да т. п. беларускі кулак нароўні з асаднікам, абшарнікам, ксяндзом рэпрэзэнтуе фашыцкі лягер і праводзіць яго політыку на ўзмацненьне стабілізацыі і падрыхтоўкі да вайны.

Гэты антысавецкі контррэволюцыйны фашыцкі лягер—капіталістых, абшарнікаў, асаднікаў і кулакоў усіх нацыянальнасьцяй пад правадырствам сваёй фашыцкай дыктатуры, адналіта ідзе па крываваму шляху польскага імпэрыялізму, адзіным фронтам выступае супроць рэволюцыйнага лягеру—пролетарыяту, беднаты, асноўнай серадняцкай масы ды іх кіраўніка—компартыі.

## Роля рэнэгатаў і згоднікаў

Частковая і гнілая стабілізацыя капіталізму ў Польшчы, уваход беларускага кулака ў фашыцкі лягер і ўся політыка фашыцкага ўраду выклікала і выклікае адыход ад рэволюцыйнага лягеру тае часткі беларускай інтэлігенцыі, якая выяўляла інтарэсы кулацтва і часова брыла за рэволюцыйным лягерам. Такія Луцкевічы, Астроўскія ды іншыя часовыя спадарожнікі нацыянальна-вызваленчага руху сваім нацыяналізмам і дробна-буржуазнай ідэолёгіяй увесь час імкнуліся затармазіць нацыянальна-вызваленчы рух і адарваць яго з-пад гегемоніі пролетарыяту і кіраўніцтва компартыі. Узмацненьне беларускага кулака, завастрэньне клясавай барацьбы, сьпешнае набліжэньне нападу Польшчы на СССР і адгэтуль надзеі на разгром вогнішча сусьветнай рэволюцыі, надзеі на стварэньне беларускай буржуазнай дзяржаўнасьці ў так званай фэдэрацыі з Польшчай—вось асноўныя фактары, якія спрыяюць перабежкам у фашыцкі лягер, якія даюць рашучасьць у контррэволюцыйнай дзейнасьці рэнэгатаў Луцкевіча, Астроўскага ды інш.

Цяпер яны, стаўшы агентамі фашыцкага лягеру, стаўшы беларускімі нацыянал-фашыстымі разам з Я. Станкевічам, Ярэмічам ды іншымі згоднікамі, толькі больш замаскавана і дэмагогічна афармляюць політычна нацыянальна-гаспадарчыя і нацыянальныя жаданьні свае соцыяльнае базы, а менавіта: кулака і верхавіны заможнага серадняцтва, а таксама тэй беларускай інтэлігенцыі, якая ўвайшла ў рэчышча фашыцкай політыкі. Па-іхнаму, шлях да зьдзяйсьненьня гэтых жаданьняў ляжаць праз угоду і супрацоўніцтва з фашыцкай Польшчай у яе разгроме і ўдушэньні нацыянальна-вызваленчага рэволюцыйнага руху, а таксама падрыхтоўцы нападу на СССР.

Дзеля зьдзяйсьненьня сваіх імпэрыялістычных плянаў фашыцкі ўрад ня толькі пашырае і ўзмацняе сваю кулацкую базу на Заходняй Бела-

русі—ён праз кулака і яго політычныя партыі шчыльней зрошчвае верхавіну дробнай буржуазіі з кулаком і хоча пашырыць ілюзіі сярод асноўнай сялянскай масы аб магчымасьці палепшаньня іх становішча пры фашыцкім рэжыме і гэтым адарваць працоўныя масы ад рэволюцыйнай барацьбы з-пад уплыву компартыі і ўцягнуць іх у рэчышча сваёй ваеннай політыкі.

### Тэрор—галоўная зброя фашызму

Галоўнай зброяй фашызму ў правядзеньні яго імпэрыялістычных пляяаў зьяўляецца белы тэрор. Рост супярэчнасьцяй і труднасьцяй у гнілой часовай капіталістычнай стабілізацыі Польшчы, прысьпешаная падрыхтоўка да вайны супроць СССР, разгортваньне контрнаступленьня пролетарыяту і палявеньне шырокіх сялянскіх мас павялічае ваяўнічасьць польскага фашызму ў яго разгроме і ўдушэньні нацыянальна-рэволюцыйнага руху.

Белы тэрор прымае ўсё больш жорсткі і адкрыта масавы характар і зьяўляецца неадменнай прыладай як ва ўсёй, так і нацыянальнай політыцы фашыцкага ўраду. Найменшае праяўленьне масавага вызваленчага руху, найменшае выяўленьне сапраўднай клясавай опозыцыйнасьці, а не, рэч зразумелая, опозыцыйнасьці паказнай беларускіх згоднікаў, праcьледуюцца з усёй жорсткасьцю фашыцкага рэжыму. За рабочымі і сялянскімі масавымі організацыямі заўсёды сочыць шматвокая дэфэнзыва, яны штодзенна тэрорызуюцца паліцыяй і мясцовай уладай або ўшчэнт разграмляюцца. Рабочы і вясковы бядняк знаходзяцца пад пастаяннымі ўдарамі белага тэрору.

Побач з нахабнымі адкрытымі формамі белы тэрор набывае ўсё больш вышуканыя і хітрыя спосабы ў разгроме рэволюцыйнага руху. Працоўнае сялянства той ці іншай вёскі, якая выявіла сваю рэволюцыйнасьць, ці то ў галасаваньні за рабоча-сялянскіх кандыдатаў, ці то падаўшы школьную дэклярацыю, дамагаючыся роднай школы і т. п., падлягае праз мясцовую ўладу пастаяннаму тэрорызаваньню і вызыску. Начныя налёты, вобыскі, арышты ў самы гарачы час палявых работ, заўсёдныя штрафы, нясупынныя гмінныя павіннасьці, шарваркі ды інш., словам, яны—сталая ахвяра белага тэрору, яны па-за законам, яны грамадзяне другога гатунку.

Скрозь дэфэнзывай ужываецца і такі спосаб перацягваньня ў фашыцкі лягер дзеячоў ці беларускіх інтэлігентаў, якія маюць уплыў сярод мас: яны заклікаюцца ў дэфэнзыву і пад пагрозай арышту і біцця пры пасулах падачак і прывілей іх прымушваюць выступіць перад масамі па якому-небудзь конкрэтнаму выпадку з агітацыяй за фашызм. Выкарыстаўшы і скомпромэтаваўшы перад масамі і таго, хто паддаўся на фашыцкую вуду, фашызм найчасьцей выкідае з сваіх шэрагаў.

З ажыўленьнем стачачнай барацьбы прадпрыемцы пачалі ўжываць і экономічны тэрор, які набывае масавы характар. Выкідваньне больш

актыўных барацьбітоў з рабочых і парабкоў, ня гледзячы на іх нацыянальнасьць, цяпер сталая зьява на фабрыках і ў маёнтках.

Зьмена констытуцыі, што рыхтуецца праз фашызм, ідзе таксама па лініі ўзмацненьня белага тэрору, па лініі ажыцьцяўленьня імпэрыялістычных плянаў. Фашызм хоча зьмесьці са шляху нават ліпавыя буржуазна-дэмократычныя законы, нават куртатую констытуцыю 3 мая, каб разьвязаць і ўзаконіць сыстэму разгромаў, расстрэлаў, забойстваў і зьдзекаў у адносінах да рабочых, працоўнага і эксплёатаванага сялянства ды іх правадыра—компартыі.

*Белы тэрор узрастае*—польская буржуазія крывавым гвалтам пračышчае сабе шлях да вайны, да нападу на СССР, а гэтая імпэрыялістычная контррэволюцыйная вайна будзе вышэйшай ступеньню гвалту буржуазіі, будзе найбольш яскравым і жорсткім яго выяўленьнем.

**Львоўскі пагром**

*Жорсткія рэпрэсіі ўраду, яго крывавы паход супроць нацыянальна-вызваленчага руху працоўных і эксплёатаваных мас паняволеных народаў паглыбляюць распластаваньне сярод гэтых народаў і выклікаюць завастрэньне клясавай барацьбы.* Згодніцкія украінскія паслы ў той час, калі паліцыя і фашыцкія банды грамілі украінскія ўстановы, тапталіся ў прыёмных пакоях львоўскага ваяводы і выяўлялі свае „верна-подданіцкія чувства“, а пасьля ў сваіх соймавых выступленьнях салідарызаваліся з пагромнай палітыкай ураду. Львоўскі пагром яшчэ больш яскрава выявіў адзінства украінскай буржуазіі і яе згодніцкіх партый з польскім фашызмам. Аднак, маючы на ўвазе рост рэволюцыйных настрояў, яны яшчэ больш старанна будуць маскавацца псэўда-радыкальнымі і паказна-опозыцыйнымі фразамі, каб павялічыць сваю зрадніцкую работу і контррэволюцыйную ролю.

Адначасна львоўскі пагром выявіў банкроцтва нацыянальнай палітыкі фашыцкага ўраду і паслужыў для ажыўленьня і паглыбленьня нацыянальна-рэволюцыйнай барацьбы украінскіх працоўных мас, ён лішні раз паказаў сапраўдны твар нават і тым працоўным масам, якія яшчэ ішлі ці ідуць за рознымі згодніцкімі украінскімі палітычнымі групоўкамі. Рэч зразумелая, што калі я казаў, што львоўскі пагром „паказаў сапраўдны твар польскага фашызму нават усім украінскім групоўкам“, дык я меў на ўвазе толькі масы, якія ідуць за гэтымі групоўкамі, бо, напрыклад, кожнаму відаць, што УНДО ня толькі бачыць крывавы твар польскага фашызму, але і само мае гэткі твар, само актыўна ўдзельнічае ў разгроме нацыянальна-рэволюцыйнага руху.

**Ажыўленьне дзейнасьці фашызму ў нацпалітыцы**

Абагульняючы вышэйсказанае, трэба адзначыць, што шэраг выдатнейшых падзей, якія адбыліся ў даволі кароткі час на Заходняй Беларусі, сьведчаць аб ажыўленай дзейнасьці фашыцкага ўраду ў яго нацы-



**Лінард Лайцэн**

Латыскі пролетарскі пісьменьнік

янальнай політыцы. Разгром ТБШ, закрыцьце і ўдушэньне беларускай радыкальнай прэсы, выяўленьне контррэволюцыйнасьці ў спадарожніках Луцкевічах, разгром Камітэту дапамогі галадуючаму насельніцтву, падзеі ў беларускіх гімназіях, апэляцыйны процэс над Грамадой ды іншае—вось фон, на якім яскрава выяўляюцца мэтоды нацыянальнай політыкі фашыцкага ўраду і мэты гэтай політыкі, накіраванай *да шчыльнейшай уніфікацыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны з польскай буржуазнай дзяржаўнасьцю і ператварэньня іх у пляцдармы пры нападзе на СССР.*

Мэты гэтыя фашыцкі ўрад праводзіць, як мы ўжо бачылі, двума спосабамі—тэрор і падачкі. У правядзеньні сваіх ваенных плянаў на так званых „усходніх крэсах"—аванпостах польскага імпэрыялізму ў яго экспансіі на Ўсход, фашыцкі ўрад мае вялікія труднасьці. Яму прыходзіцца падаўляць магутны, высокага напружаньня нацыянальна-вызваленчы рэволюцыйны рух, а каб забясьпечыць і пашырыць базу для сваёй політыкі вызыску, уціску і вайны,ісьці на тыя ці іншыя ўступкі і падачкі для беларускай і украінскай буржуазіі і кулацтва.

*Актыўнасьць фашыцкага ўраду ў нацыянальнай політыцы,* яго асаблівая „зацікаўленасьць беларускім і украінскім пытаньнямі (тэрор і падачкі) *цесна ўвязваецца і выцякае з павялічанай актыўнасьці яго ваеннай політыкі,* вынікае з яго ліхаманкавых падрыхтовак і „ўспакаеньня" пляцдарму Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў вайне, якая набліжаецца, супроць СССР.

**Роля компартыі**

Апошнія падзеі на Заходняй Беларусі з усёй выразнасьцю паказалі, што працоўныя і эксплёатаваныя масы на штодзеннай практыцы свае клясавае барацьбы ўсё больш пераконваюцца, што нацыянальнае вызваленьне нельга адлучыць ад барацьбы за сваё соцыяльнае вызваленьне, што дабіцца нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня можна толькі рэволюцыйным шляхам супольна з працоўнымі масамі ўсёй Польшчы, на чале з пролетарыятам і яго компартыяй.

Па меры паглыбленьня гэтай рэволюцыйнай сьвядомасьці з выпінаньнем соцыяльна-клясавых момантаў у нацыянальна-вызваленчай барацьбе адбываецца адсейваньне рознай трухі і шумавіны, розных спадарожнікаў на манер Луцкевіча-Астроўскага і ўсё гэта надае больш монолітасьці і клясавы характар нацыянальна-рэволюцыйнаму руху, шчыльней яднае яго вакол компартыі.

Рабочыя і працоўнае сялянства пад кіраўніцтвам компартыі вядуць няшчадную барацьбу з беларускай буржуазіяй, з беларускімі агентамі фашызму, таксама як і з усім фашыцкім лягерам і яго дыктатурай. Зарука перамогі рабочых і працоўнага сялянства Заходняй Беларусі ў іх рэволюцыйнай барацьбе за клясавае і нацыянальнае вызваленьне ляжыць у далейшай мацнейшай увязцы з рэволюцыйным рухам усёй Польшчы,

у шчыльнейшым яднаньні сваіх шэрагаў пад сьцягам свайго правадыра— КПЗБ, якая непадзельна зьвязана і змагаецца пад кіраўніцтвам КПП— гэтай аднэй з выдатнейшых сэкцый Комінтэрну.

Рабочыя і працоўнае сялянства Заходняй Беларусі ўсё больш усьвядомліваюць сабе, што дабіцца свайго вызваленьня і аб'яднаньня з БССР можна перш за ўсё пасьля рэволюцыі ва ўсёй Польшчы, пасьля ўтварэньня рабоча-сялянскага савецкага ўраду ў Польшчы. Шлях да Савецкай Польшчы вядзе праз рэволюцыйную барацьбу пад сьцягам компартыі, якая толькі адна заклікае масы на няшчадную барацьбу супроць падрыхтоўкі нападу на СССР і падрыхтоўвае масы, каб на выпадак выбуху імпэрыялістычнай вайны ператварыць яе ў вайну грамадзянскую, на абарону СССР, у вайну супроць буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяй Польшчы ды іх фашыцкай дыктатуры.

# КНІГАПІС

1) **М. І. Касьяровіч. Краязнаўства.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.* Менск—1929 г. (стар. 158. Цана 1 р.).

2) **Інстытут Беларускае Культуры. Асіпавіцкі раён, Бабруйскае акругі. Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры.** *Менск, 1928 (выпуск І—прырода. Стар. 152+2 табліцы—цана 2 р., выпуск ІІ. Стар. 88—цана 80 к.).*

3) **Інстытут Беларускае Культуры. Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі пад рэдакцыяй проф. А. Смоліча, правадзейнага члена Інстытуту Бел. Культуры. Том І.** *Менск, 1928 г. (стар. 216. Цана 4 р. 50 к.).*

Усё наша савецкае будаўніцтва грунтуецца на дакладных ведах, сярод якіх асабліва важнае месца належыць даным географіі і краязнаўства. Перад намі некалькі кніжок. Пабачым, што новага і карыснага можа знайсьці ў іх чытач.

*Краязнаўства М. І. Касьяровіча* мае на мэце даць чытачу ў сьцісьлым выкладаньні энцыклёпэдыю данае галіны. Мэтавая ўстаноўка—падрыхтаваць тэорэтычна і практычна адукаванага краязнаўца, дапамагчы яму ў яго нялёгкай рабоце. Тымчасам кніжка, хоць вельмі цікавая, мае адну бясспрэчную загану—дыспропорцыю частак. Агляду гісторыі краязнаўства і яго сучаснага стану у нас і суседзяў прысьвечана 116 старонак, а практычныя парады займаюць усяго толькі 40 старонак.

Фактычных памылак заўважыць мне не ўдалося. Аўтар добра знаёмы з гісторыяй і з сучаснасьцю краязнаўства ў розных краінах. Мы бачым і тэндэнцыйных расійскіх і польскіх вучоных, якія дзеля нацыянальнага шовінізму бяссорамна і сьвядома пісалі няпраўду, гвалтам залічаючы беларусаў да расійскае або да польскае нацыі. Бачым і краязнаўчыя спробы „Нашае Нівы“ і студэнцкія краязнаўчыя гурткі і першыя крокі сапраўды навуковага беларускага краязнаўства. Далей мы знаёмімся з сучасным станам гэтае справы ў нас і ў суседзяў.

Аўтар ставіцца да справы зусім об'ектыўна. Краязнаўства ў буржуазных дзяржавах мае часам староньнія, ненавуковыя, тэндэнцыйныя мэты „любви к отечеству и народной гордости“, калі гаварыць словамі Карамзіна, але яно мае і высокія тэхнічныя якасьці. М. Касьяровіч аддае належнае нашым заходнім суседзям. Тэхніка краязнаўчае працы ў іх добрая.

У Фінляндыі цэлыя кнігі пішуць аб адным нейкім раёне. Амаль уся сьвядомая грамадзкасьць прымае чынны ўдзел у краязнаўчай рабоце. На гэта не шкадуюць грошай. На высьпе Фэлізон фіны зрабілі музэй зусім новага тыпу. Там стаяць не модэлі будынкаў, а самыя будынкі, тыповыя для розных мясцовасьцяй. Там бачыш сапраўдныя паселішчы ўсіх частак краіны. У краязнаўчую працу ў бальтыцкіх дзяржавах уцягнута ў поўнай меры і школьная моладзь.

Усё гэта вельмі цікава; падана шмат прыкладаў, статыстыкі; ёсьць нямала спасылак і цытат.

Аднак было-б добра даць і другую чыста практычную частку больш поўна—з большай колькасьцю рэаль-

ных прыкладаў і ўзораў краязнаўчае работы.

*Апісаньне Асіпавіцкага раёну*, Бабруйскае акругі, зьяўляецца спробаю даць узор краязнаўчага дасьледваньня. У першым выпуску мы знаходзім артыкулы некалькіх аўтараў: Б. К. Тэрлецкі даў гідрографічнагеолёгічнае апісаньне раёну, Т. Рагавы—глебазнаўчае, Г. Г. Маслакавец—кліматолёгічнае, М. Зьбіткоўскі —ботанічнае, проф. А. Фядзюшын—зоолёгічнае (нарыс фаўны). Да зоолёгіі-ж належыць і артыкул І. Аўчыньнікава—„Прэснаводныя малюскі Асіпавіцкага раёну“. Як бачым, тэма—прырода раёну—ахоплена, хоць ня цалкам, але з магчымаю пры даных умовах паўнатою.

У другім выпуску мы ўжо ня бачым асобнага падзагалоўку (у першым такі падзагаловак—„Прырода“).

Гэта таму, што тут зьмешчаны: па-першае, апісаньні аднаго сельсавету, аднаго мястэчка і аднае вёскі і па-другое — апісаньне помнікаў старасьветчыны ў цэлым раёне. На наш погляд гэта нядобра, — лепш было-б цэлы выпуск прысьвяціць апісаньням адзінак, драбнейшых за раён, а археолёгію далучыць да таго выпуску, дзе будзе сказана нешта і аб гісторыі раёну (апроч тых кароткіх гістарычных зьвестак, якія знаходзяцца ў апісаньні мястэчка Асіпавічаў).

З знадворнага боку кніжкі выданы добра—з картамі і малюнкамі, наагул ня кепска выкананымі (паміж іншым у „Краязнаўстве“ Касьпяровіча колькасьць малюнкаў добра было-б пабольшыць).

Апісаньне Асіпавіцкага раёну ня скончана. Будзем чакаць наступных выпускаў, дзе павінны зьявіцца артыкулы аб фольклёры, мове ды інш.

Асаблівасьцю другога выпуску зьяўляецца тое, што ён увесь напісан мясцовым краязнаўцам А. Немцавым. Толькі адзін артыкул—аб мястэчку Асіпавічах, напісан А. Немцавым ня выключна, а пры ўдзеле М. Азбукіна. Гэтае карыстаньне працаю аднае асобы мае і добры і нядобры бок. Добра, што цэлая кніжка тады мае адзінства дасьледчага мэтоду. Нядобра тое, што ня выкарыстаны для апісаньня розных тыпаў мясцовасьцяй розныя асобы, з якіх кожная ўнесла-б у работу нешта сваё, орыгінальнае. Можна пажадаць, каб наступныя выпускі паказалі нам вынікі працы некалькіх навуковых дасьледцаў.

Зьбіраньне географічных і статыстычных матэрыялаў, дакладных лічбавых даных—праца нялёгкая, асабліва з прычыны свае маруднасьці. Аднак гэта бясспрэчна адзіны шлях, каб даць поўны адбітак мясцовага жыцьця.

Перад намі—багаты на лічбы і цытаты том. (З кароткім зьместам, у чужой мове, або часам з перакладам артыкулаў на чужаземную мову: ангельскую або нямецкую). Гэта „*Матэрыялы да географіі і статыстыкі Беларусі*“ том І. Менск, 1928 г. Пасьля прадмовы А. Смоліча (дзе гаворыцца аб канечнай патрэбе выкарыстаць лічбовыя матэрыялы), мы знаходзім артыкул Г. І. Гарэцкага „Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы“. Гэты цікавы артыкул (зусім дарэчы) дадзен і ў ангельскім перакладзе. Заходнія вучоныя павінны ведаць, якую значную ахвяру прышлося нам прынесьці дзеля ўсеагульнага спакою, аддаўшы паводле Рыскага трактату не адзін мільён беларускага насельніцтва пад белапанскую ўладу. Павінны яны ведаць і тое, што, забараняючы беларускія школы і наагул беларускую грамадзкую актыўнасьць, — польскі ўрад гвалціць правы нават ня меншасьці, а бясспрэчнае большасьці крэсавага насельніцтва. Такім чынам даны артыкул пры ўсёй яго набуховасьці мае шчыльную сувязь з жыцьцёвымі пытаньнямі сучаснага моманту. Мяжу беларусаў з палякамі аўтар праводзіць згодна з акадэмікам Карскім, а мяжу паміж беларусамі і украін-

цамі, здаецца, вядзе значна далей на поўдзень, чымся гэта мы бачым у Карскага (стар. 23). Наагул артыкул напісан з вялікаю стараннасьцю: прыняты пад увагу ўсе чыста крыніцы—перапісы і да г. п. На стар. 33 ды інш. аўтар слушна зазначае на нядобрасумленнасьць польскіх перапішчыкаў, якія не паказваюць саусім беларусаў-каталікоў і аж 22 проціанты праваслаўных залічаюць да польскае нацыянальнасьці.

Аднак ня варта было-б згаджацца цалкам і з Канстантынам Срокоўскім, які саусім не прызнае існаваньня праваслаўных палякаў. Палякі праваслаўныя існуюць. Яны, зразумела, складаюць не 22 процанты польскага насельніцтва на беларускіх „крэсах“, а нейкую вельмі малую велічыню, але існуюць бясспрэчна. Гэткім праваслаўным палякам быў, напрыклад, Уладзімер Спасовіч. Іншае пытаньне—хто былі продкі гэткіх палякаў-праваслаўных і шмат якіх палякаў іншых вызнаньняў? Але цяпер гэта ўжо сапраўдныя палякі. Такім палякам быў, як вядома, нават праваслаўны духаўнік і польскі літаратар—Плакід Янкоўскі ды інш. Але цыфра такіх палякаў бяссорамна перабольшана польскімі статыстыкамі. З мухі зрабілі вялізарнага сланя. Арк. Быкаў даў цікавы артыкул аб грашовым балянсе сялянскае гаспадаркі на Беларусі. Артыкул гэты яшчэ раз пацьвярджае думку некаторых дасьледчыкаў аб тым, што Беларусі, таксама як і Даніі, сама прырода раіць абапірацца ў сваёй гаспадарцы галоўным чынам не на ральніцтва, а на жывёлагадоўлю. Аднак і ральніцтва павінна паляпшацца, бо цяпер усе галіны гаспадаркі шчыльна зьвязаны паміж сабою. Пэўнае значэньне маюць і іншыя даходы (ад гародніцтва, садоўніцтва, пчалярства і ад дадатковых асабістых заробкаў).

Артыкул М. Азбукіна—аб паселішчах гарадзкога тыпу ў БССР дае нямала цікавага. Так, напрыклад, на стар. 193 паказана на такія факты, як сымбіёз—сужыцьцё мястэчка з вёскай. У Лоеве частка паселішча—падобна да гораду, а другая частка—сапраўдная вёска—чыстага сельскагаспадарчага тыпу (стар. 193). Цікава таксама паказаньне росту паселішчаў, рознага тэмпу гэтага росту і прычын данае зьявы.

Такім парадкам з сухіх цыфраў атрымліваецца жывы вобраз. Пры артыкулах дадзена і бібліографія.

**Смаляціч.**

**Інстытут Беларускае Культуры. Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кніга 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. I, сшытак 1.** *Менск—1928 г.* (*стар 210, цана 2 р. 50 к.*).

У гэтай кніжцы мы знаходзім некалькі цікавых артыкулаў.

Усе мы ходзім міма старых архітэктурных помнікаў, якіх ня так ужо мала ў Менску, і ня бачым у іх нічога вартага ўвагі—„Старыя муры і дахі—трэба іх рамантаваць“, вось звычайнае ўражаньне ў шмат якіх нават даволі культурных людзей. У сваім артыкуле „Помнікі старадаўняе архітэктуры XVII—XVIII сталецьцяў у Менску“ М. Шчакаціхін тлумачыць нам тую старажытнасьць, якую мы бачым штодня і ня ўмеем належным спосабам зразумець і ацаніць; старыя касьцёлы дамініканцаў, бэрнардынцаў, бэрнардынак, Кацярынінскую царкву, „Халодную“ сынагогу, катадральны касьцёл і езуіцкія будынкі, старыя камяніцы на Юраўскай вуліцы і ў Музыканцкім завулку, дом Гродзкага суду на Замчышчы, „Пішчалаўскі замак“ (цяперашнюю турму) ды інш. Гэтая мінуўшчына вакол нас варта ўвагі і ня можна так нядбайна ставіцца да яе.

Артыкул В. Красьнянскага „Чарцёж“ места Віцебску 1664 г., як дакумантальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва, паказвае нам, як можна выкарыстаць старыя пляны (непадзельна

злучаныя з малюнкамі) у якасьці матэрыялу да гісторыі архітэктуры. Есьць і рэпродукцыя самага „чарцяжу“.

П. Красавіцкі даў нататку аб Віцебскай Ільлінскай царкве.

І. Хозераў даў нарыс полацкага будаўніцтва старадаўняга пэрыоду, а таксама і новыя матэрыялы да гісторыі смаленскае архітэктуры.

Артыкул В. Красьнянскага аб батлейцы Віцебскага аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю дае нам поўнае ўяўленьне аб гэтым вельмі старадаўнім узоры тэатру марыянэтак асаблівага тыпу.

Асаблівае ўвагі заслугоўвае вельмі цікавы і каштоўны артыкул Т. Ржавускай „Насьценныя росьпісы ў царкве б. Тупічэўскага манастыра ў Мсьціслаўлі“, ілюстраваны самім аўтарам. Дасьледчыца дала зробленыя ёю перарысоўкі з сямі малюнкаў. Копіі добрыя. Чытач дакладна ўяўляе сабе аўтэнтыкі. Апроч таго, у тэксьце мы знаходзім падрабязнае тлумачэньне як агульнае композыцыі, гэтак сама і дэталяў кожнага малюнку, з крытычнымі заўвагамі.

Ёсьць і параўнаньні з іншымі аналёгічнымі помнікамі (напрыклад, з малюнкамі магілеўскай Пакроўскай царквы). Глыбокае разуменьне сутнасьці композыцыі і ўсіх меркаваньняў мастака—надае гэтаму артыкулу вельмі цікавы і зьмястоўны характар. Гэтаму-ж аўтару належыць артыкул аб „орнамэнтаваных фонах у Магілеўскім мастацтве XVII—XVIII сталецьцяў“.

Матэрыял „запісак“ цікавы, але, на жаль, вельмі аднастайны. Малярству прысьвечаны толькі артыкулы Т. Ржавускай ды нататка Шчакаціхіна аб маляру Рыгору Мядзьведзкім, ёсьць і артыкул Красьнянскага аб батлейцы, а рэшта — гісторыя архітэктуры. Варта было-б зрабіць зьмест зборніка больш разнастайным, тым больш, што артыкулы тут напісаны проста, без надмернае колькасьці спэцыяльных тэрмінаў і таму шырока даступны.

Ц. Л.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Літаратура

* *Якуб Колас* рыхтуе да друку трэці том збору твораў, у які ўвойдуць усе дробныя апавяданьні.

* У суботу 14 красавіка ў клюбе мэдыкасанпрацы адбыўся вечар беларускай літаратуры. На вечары чыталі свае творы члены пісьменьніцкага аб'яднаньня „Полымя" Якуб Колас, Міхайла Грамыка ды інш.

* Усерасійскае таварыства сялянскіх пісьменьнікаў паведаміла праз Галоўмастацтва БССР, што ім дана тры месцы для беларускіх пісьменьнікаў на ўсерасійскі зьезд пісьменьнікаў, які адбудзецца ў чэрвені бягучага году. Галоўмастацтва перадало паведамленьне пісьменьніцкім організацыям для разгляду.

* У панядзелак 25 сакавіка г. г. адбыўся ў памяшканьні Беларускага дзяржаўнага тэатру вечар, прысьвечаны творчай працы Ул. Галубка і наданьня яму годнасьці народнага артысты. Вечар гэты організаваны быў літаратурным аб'яднаньнем „Полымя", членам якога зьяўляецца Ул. Галубок.

Урачысты вечар, прысьвечаны літаратару і артысту Ўладыславу Язэпавічу Галубку з прычыны наданьня яму годнасьці народнага артысты, адкрывае Міхась Чарот.

З дакладам аб літаратурнай і тэатральнай дзейнасьці Ў. Я. Галубка выступіў пісьменьнік Цішка Гартны.

Першыя спробы творчасьці Галубка зьявіліся яшчэ ў 1908 годзе, у адзінай тады крыніцы беларускага друкаванага слова „Наша Ніва".

У пэрыод з 1908 да 1915 году Галубок у „Нашай Ніве" зьмяшчае цэлы шэраг новэль, вершаў і гэтак далей. Асаблівай увагі з твораў таго часу заслугоўваюць новэлі „Навальніца" і вершы „Будучыня" і „Сярмяжнік". Галубка не задавальняе адно „пісаньне", ён становіцца драматургам і артыстым. Навакол сябе ён яднае рабочых чыгуначнікаў, у яго драматычны гурток ідуць друкары, настаўнікі ды інш. Галубок пачынае займацца драматургіяй: ён піша п'есы для свайго драматычнага гуртка. Першыя п'есы, якія вышлі з-пад пяра Галубка—„Бязьвінная кроў", „Апошняе спатканьне" і „Пісаравы імяніны".

Трэба дзівіцца надзвычайнай энэргіі Галубка: увечары ён іграе ў спэктаклі, удзень урыўкамі піша свае драмы, п'есы. Тэатр Галубка працуе бяз ніякай дапамогі. Асабліва цяжка было працаваць Галубку ў час польскай окупацыі, пад канец якой ён едзе ў Слуцак, дзе організуе аматарскую трупу. Зразумела, польскім паном прышлася не па густу тэатральная праца Галубка, калі ў сваіх пастаноўках ён бічаваў гэтых паноў, і Галубку прышлося пакінуць Слуцак.

Толькі з прыходам савецкай улады Ўладыслаў Галубок прыблізна ў пачатку 1921 году зноў організуе беларускую трупу.

З канца 1921 году Галубка пачынаюць ведаць у ваколіцах Менску. Яго пастаноўкамі захапляліся працоўныя масы, і трупа Галубка стала жаданым госьцем у кожным рабочым клюбе.

Бяз жаднае дапамогі за 1921, 22, 23 і 24 гады трупа Галубка аб'езьдзіла шмат куткоў Савецкай Беларусі. Толькі з 1925 г. на Галубка пачы-

наюць зварачаць увагу, і Наркамасьветы даў трупе яго невялікую грашовую дапамогу. Разам з дапамогаю Галубку даюць і заданьне паехаць абслужыць пастаноўкамі Мазырскую акругу і ён з гонарам выканаў гэтае заданьне.

З таго часу Наркамасьветы трупе Галубка надаў назву Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатру.

Уся чыннасьць Ул. Галубка за час з 1914 да 1928 г. зьяўляецца самаадданай працай на карысьць беларускай пролетарскай культуры і тэатру. Адданасьць Уладыслава Язэпавіча Галубка цалкам ацэнена ўрадам БССР, які надаў яму ганаровую годнасьць народнага артысты.

У заключэньне Цішка Гартны выказвае ўпэўненасьць, што Галубок з яшчэ большай адданасьцю будзе весьці сваю вялікую працу і прынясе яшчэ многа карысьці беларускім працоўным гушчам.

Ад імя НКА БССР тав. Галубка вітае нам. нар. кам. асьветы т. Слонім. Наданьне т. Галубку такой ганаровай годнасьці зьяўляецца падагуленьнем вялікай працы яго на карысьць беларускай тэатральнай справы. Трэба, кажа т. Слонім, мець надзвычайна вялікую бадзёрасьць, вялікае культурнае пачуцьцё, каб у цяжкія гады царызму будаваць асновы беларускай пролетарскай культуры. Тав. Слонім зачытвае і перадае Галубку грамату аб наданьні яму годнасьці народнага артысты.

Горача віталі народнага артысту прадстаўнікі літаратурных аб'яднаньняў „Полымя“, „БелАПП'у“, „Узвышша“, прадстаўнікі таварыства беларускіх драматургаў і кампазытараў, Беларускай дзяржаўнай капэлі і ад колектыву Бел. дзярж. вандроўнага Тэатру. „Полымя“ дало Галубку адрас.

Міхась Чарот зачытвае прывітальныя тэлеграмы Галубку ад Бел. дзяржаўнага яўрэйскага тэатру і ад дырэктара і рэжысэра гэтага тэатру.

Пасьля ўрачыстага пасяджэньня вандроўным тэатрам пры ўдзеле студэнтаў музтэхнікуму організавана была мастацкая частка.

* *Д. Васілеўскі* надаслаў у Беларускую акадэмію навук свой досьлед аб поэме „Тарас на Парнасе“, дзе ён даводзіць шляхам аналізу слоўнага матэрыялу поэмы „Тарас на Парнасе“ і слоўніка Віцебшчыны, што твор гэты напісаны Арцёмам Вярыга-Дарэўскім у Віцебшчыне.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Галоўмастацтва БССР набыло для Дзяржаўнага музэю вядомую „Працу“ скульптара Грубэ.

* Інспэктарам Галоўмастацтва, замест перайшоўшага ў Акадэмію М. Грамыкі, запрошаны Я. Дыла.

* Белдзяржкіно намеціла экспэдыцыю для здымкі беларускага атлясу прыроды.

* Алесь Ляжневіч з дапамогаю рэжысэра Белдзяржкіно Тарыча працуе над новым фільмам з эпохі імпэрыялістычнае вайны і бежанства.

* 21 красавіка ў Маскве адбыўся грандыёзны беларускі мітынг-концэрт з удзелам артыстых беларускіх дзяржаўных тэатраў.

* На выстаўцы міжнароднага т-ва кніжнага знаку ў Лос-Анджэлосе (Паўночна - Амэрык. Злуч. Штаты) у маі 1928 г. ад БССР удзельнічалі мастацкія працы Е. С. Мініна з кніжнымі знакамі, А. А. Шлюбскага, Б. М. Гурэвіча і восем знакаў С. Б. Юдовіна, з якіх 3 належаць вядомаму знаўцы мастацтва Фурману. Юдовіч за свае знакі атрымаў ганаровы водзыў-дыплём. Гравюры Мініна „Стары Віцебск“, зьмешчаныя ў выданьні „Віцебскія мастакі“, надрукаваны ў лёндонскім англьскім штогодніку. 23 гравюры на дрэве Юдовіча ў лютым 1929 г. ўдзельнічалі на выстаўцы ў Нью-Ёрку.

На чарговай выстаўцы ў маі 1929 г. міжнароднага т-ва кніжнага знаку ў Лос-Анджэлосе ўдзельнічаюць працы наступных віцебскіх мастакоў:

1) Е. С. Мініна з кніжнымі знакамі Мініна, Касьпяровіча і Фурмана і 2) Л. М. Леймтан з знакамі Фурмана.

На выстаўцы Асоцыяцыі рэволюцыйных мастакоў Украіны таксама дэмонстраваліся экспонаты некаторых беларускіх мастакоў. На гэтай выстаўцы музэй Кіеўскага мастацкага унівэрсытэту набыў усе гравюры Е. С. Мініна.

* Этнографічная катэдра Акадэміі навук сабрала каля тысячы беларускіх народных песень і мэлёдый, запісаных у Савецкай і Заходняй Беларусі. У мінулым годзе быў выпушчаны першы зборнік народных песень. У сучасны момант рыхтуецца зборнік з 50 калядных песень. У зборнік увойдзе значная частка такіх песень, якія да гэтага часу нідзе ня былі надрукаваны.

* Белдзяржкіно мяркуе ў бліжэйшы тэрмін прыступіць да здымкаў фільмы з жыцьця Парыскай Комуны.

* Галоўмастацтвам зложаны плян пяцігадовага будаўніцтва мастацтва ў БССР. Пяцігодка прадбачыць у галіне тэатральнага будаўніцтва: заснаваньне тэатральнай драмстудыі з наступнага году, пабудову тэатру ў Менску і тэатраў у Воршы ды Полацку, утрыманьне трох дзяржаўных і трох вандроўных тэатраў, дапамога маладому колектыву „Беларускі рабочы тэатр“.

У процэсе працы тэатраў, запроектаваны гастролі дзяржаўных тэатраў у Маскве, Ленінградзе, Харкаве і за межамі СССР.

У галіне музыкі прадбачана: перавод к канцу пяцігодкі музтэхнікуму ў консэрваторыю і організацыю опэры; адчыненьне па аднэй у год ніжэйшай музычнай школе; заснаваньне сымфонічнага концэрту і дзяржаўных капэль (беларускай і расійскай).

У галіне вобразнага мастацтва: наладжаньне пэрыодычных выставак, адчыненьне ніжэйшай мастацкай школы ў Магілеве, пераход мастацкага тэхнікуму ў Акадэмію мастацтваў. Для музычных, мастацка - вобразных і літаратурных твораў прадбачыцца асобная штогадовая прэмія; таксама ўносіцца ў штогадовы каштарыс па Наркамасьвеце асобны фонд для дому пісьменьніка, пісьменьніцкіх організацый, організацый мастакоў і фонд на набыцьцё твораў мастакоў.

Апроч гэтага, у пяцігодцы Галоўмастацтва намечаны яшчэ шэраг мерапрыемстваў у галіне мастацкага будаўніцтва БССР.

* Оркестра народных інструмантаў (цымбалы, леры, жалейкі) заснавалася аматарскім спосабам па ініцыятыве кіраўніка гэтае оркестры тав. Захара. Рэпэртуар оркестры складаецца выключна з беларускіх народных песень. На жаль, оркестра гэтая не карыстаецца з боку належных устаноў тым падтрыманьнем, якім яна павінна была-б карыстацца як за сваю мастацкую вартасьць, так і, галоўным чынам, за тую вялікую ролю, якую яна грае ў разьвіцьці і популярызацыі мастацка апрацаванай роднай песьні. Толькі ў гэтым годзе гэтая оркестра, прымушаная раней бадзяцца па клюбах, шукаючы прытулку для сваіх заняткаў, далучана да музтэхнікуму, дзе кіраўніку оркестры т. Захару вызначана і невялікая пэнсія.

* Балетмайстра тав. Сямёнаў напісаў лібрэта для беларускага балету. Музыку для балету напісаў т. Маркевіч. Балет пойдзе ў наступным сэзоне.

* Белдзяржкіно распачало сваю дзейнасьць з студзеня 1925 г. і зьяўляецца самай маладой кіно організацыяй у СССР. За 4 гады існаваньня ў працы Белдзяржкіно ёсьць значныя дасягненьні. Створаны шэраг нацыянальных фільм („Лясная быль“ „Кастусь Каліноўскі“, „Песьня вясны“ і інш.), організавана ўласная вытворчая база—кіно-фабрыка ў Ленінградзе. Праводзяцца мерапрыемствы па выхаваньню беларускіх кваліфікаваных мастацка-вытворчых сіл праз пасылку ў рэжысэрскія аддзя-

леньні Дзяржаўнага кіно-тэхнікуму ў Маскве, праз практычны стаж асыстэнтаў-консультантаў на кіно-фабрыцы Белдзяржкіно і г. д. Значна пашырылася з моманту організацыі Белдзяржкіно кіно-сетка як у горадзе, так і ў вёсцы. Калі ў 1925 г. было 53 стацыянаркі і 3 кіно-перасоўкі, то зараз мы маем 204 стацыянаркі і 170 кіно-перасовак. Белдзяржкіно цяпер мае ўласных 11 кіно-тэатраў. Да гэтага часу Белдзяржкіно выпушчана 16 кіно-фільмаў. Некаторыя кіно-фільмы, як: „Лясная быль“ „Кастусь Каліноўскі“ і інш. карыстаюцца значным посьпехам ня толькі ў СССР, але і за межамі (у Нямеччыне, Літве, Латвіі ды інш.).

Пяцігадовым пэрспэктыўным плянам разьвіцьця кіно-справы ў БССР прадугледжваецца пашырэньне кіносеткі як у горадзе, так і на вёсцы. Да канца пяцігодзьдзя прадугледжваецца організаваць ня менш 3-х кіно-перасовак і па аднэй стацыянарнай кіно-ўстаноўцы на кожны раён. Гэтым плянам таксама прадбачыцца кінофікацыя школ, будаўніцтва кінотэатру ў рабочых раёнах, пабудова ўласнай кіно-фабрыкі на тэрыторыі БССР, выпуск цэлага шэрагу фільм ды інш.

* СНК зацьвердзіў вытворчы плян Белдзяржкіно на 1928-29 год. Гэтым плянам прадугледжваецца сканчэньне пастаноўкі 3-х мастацкіх фільмаў, пачатых у мінулым годзе, пастаноўка 8 новых мастацкіх карцін і 4 культур-фільм і бягучая хроніка.

У зьвязку з тым, што разьвіцьцё кінофікацыі ў гарадох патрабуе пабудовы новых будынкаў для кіно і рамонту існуючых, Белдзяржкіно запрапанавала распрацаваць і ўнесьці на разгляд у Дзяржплян проект новага кінобудаўніцтва, а таксама рамонту існуючых кіно-тэатраў.

* Беларуская асоцыяцыя рэволюцыйных мастакоў („Ромб“) зараз вядзе перагаворы з украінскім мастацкім аб'яднаньнем „Арму“ (асоцыяцыя рэволюцыйных мастакоў Украіны) і „Асму“ (асоцыяцыя сучасных мастакоў Украіны) аб організацыі ў Менску выставак гэтых мастацкіх аб'яднаньняў. З свайго боку аб'яднаньне мастакоў „Ромб“ мяркуе організаваць у Харкаве і Кіеве свае выстаўкі.

Мяркуецца таксама ўвайсьці ў згоду з расійскімі мастацкімі аб'яднаньнямі „Ост“ (т-ва станковістаў) і „Омх“ (т-ва маскоўскіх мастакоў) аб організацыі апошнімі сваіх выставак у БССР.

* Беларускі дзяржаўны музэй у хуткім часе атрымае з Ленінградзкага Эрмітажу каля 40 мастацкіх карцін Заходня-Эўропэйскіх мастакоў 17—19 стагодзьдзя.

* Наркамасьветы выдаў 500 руб. Бел. ДВТ пад кіраўніцтвам Галубка на пастаноўку вядомай п'есы „Кастусь Каліноўскі“.

Тэатр гэту п'есу ўжо падрыхтаваў і можа ў любы момант яе паставіць. Такім чынам, популярная п'еса „Кастусь Каліноўскі“ будзе прасунута ў самыя гушчы беларускай вёскі. П'еса падрыхтоўвалася пад кіраўніцтвам рэжысэра Ф. Ждановіча.

* Цяпер адбываецца здымка Белдзяржкіно новай фільмы з жыцьця беларускай вёскі пад назвай „Яна“.

* Пры Галоўмастацтве адбылася нарада дырэктароў беларускіх тэатраў. Нарада ўхваліла, каб палова наступнага сэзону была разьмеркавана для тэатраў так: БДТ 1 у Гомелі, БДТ 2—у Віцебску. У Менску будзе працаваць яўрэйскі тэатр.

* БДТА 2, які цяпер працуе ў Магілеве, прыступіў да падрыхтоўкі новай пастаноўкі—п'есы украінскага пісьменьніка Куліш „Міна Мазайла“.

П'еса напісана Кулішам на тэму аб украінізацыі. Беларускім другім дзяржаўным тэатрам п'еса Куліша перароблена на тэму аб беларусізацыі.

Па ходу п'есы БДАТ 2 для ажыўленьня ўводзіць куплеты аб беларусізацыі, скокі, музычныя нумары. У шэрагу сцэнак даюцца шаржы на

некаторыя дзяржаўныя організацыі, якія няпісьменны ў беларускай мове (ЦРК, Белдзяржкіно ды інш.).

П'еса пойдзе ў красавіку г. г.

**Рознае**

* Аддзел прыроды і гаспадаркі Бел. акадэміі навук узьняў пытаньне аб увядзеньні ў склад аддзелу яшчэ некалькіх акадэмікаў з прычыны сур'ёзнасьці навуковай работы па вывучэньні прыроды і гаспадаркі БССР. Для розгляду высунутых кандыдатур выдзелена камісія ў складзе проф. А. Смоліча, акадэмікаў Блюдухо і Гарэцкага.

* Гэтым летам у Маскве адбудзецца ўсесаюзны археолёгічны зьезд, на якім прыме ўдзел і Беларуская акадэмія навук. Да зьезду прыстасоўваецца выпуск археолёгічай бібліографіі Беларусі, а таксама чарговы том „Правы катэдры археолёгії".

* У канцы лютага адбылося пасяджэньне Акадэмічнай рады Беларускай акадэміі навук супольна з прадстаўнікамі ВСНГ, Дзяржпляну і Наркамзему па пытаньню організацыі Інстытуту прамысловасьці, задачай якога зьявіцца ўсебаковае вывучэньне прамысловасьці Беларусі. Інстытут будзе існаваць пры Беларускай акадэміі навук на аўтономных пачатках, кіраваць ім будзе ВСНГ.

Акадэмічная рада ўхваліла організаваць Інстытут прамысловасьці і даручыла Прэзыдыуму БАН прапрацаваць проект Інстытуту і падаць яго на зацьверджаньне СНК БССР.

Водлуг проекту пабудова Інстытуту павінна распачацца сёлета. На будаўніцтва яго ў гэтым годзе павінна быць асыгнавана 300.000 руб.

Інстытут прамысловасьці мае складацца з 3-х аддзелаў: хэміка-тэхнічнага з цэлым шэрагам ляболаторый; энэргетычнага з ляболаторыямі: цёпласілавой, гідра-дынамічнай і электратэхнічнай; аддзелу будаўнічых матэрыялаў і органічнай прамысловасьці.

* Галоўнавука канчаткова распрацавала плян навуковых экспэдыцый і дасьледваньняў на 1929 год. Усяго мяркуецца організаваць 80 экспэдыцый і навуковых паездак у розныя раёны СССР.

Гідралёгічны інстытут пасылае экспэдыцыі ў Ахоцкае і Японскае мора для акіянаграфічных дасьледваньняў па програме, распрацаванай Інстытутам супольна з Акадэміяй навук. Мурманская біолёгічная станцыя будзе весьці работы па вывучэньні паўночных мораў па ўзгодненай міжнароднай програме. Для гэтай мэты на поўнач, да кромкі ільдоў, будзе паслана толькі што набытае ў Норвэгіі і нанава абсталяванае судна „Мікалай Кніповіч". Плаўморнін організуе навукова-прамысловыя і акіяна-графічныя экспэдыцыі ў Белае і Барэнцава моры, а таксама на Мурманскае ўзьбярэжжа.

У зьвязку з проблемай узьняцьця ўраджайнасьці вялікія экспэдыцыі накіроўваюцца Дзяржаўным інстытутам па вывучэньні засушлівых вобласьцяй у Астраханскую і Сталінградзкую губэрні для дасьледваньня глебы і культуры розных расьлін. Інстытут мінэралёгії пасылае экспэдыцыі ў Прыбайкальле і Туркастан для абсьледваньня месцанараджэньняў сьлюды і ванадзія. Акрамя таго, навуковыя работнікі гэтага інстытуту прымуць удзел у экспэдыцыі, якая організоўваецца трэстам „Редкие элементы" ў Забайкальлі для дасьледваньня вольфрамавых месцанараджэньняў.

Намечаны таксама цэлы рад экспэдыцый па вывучэньні народнасьцяй Алтаю, зыран, асяцін, бурата-манголаў, інгушоў ды інш. Археолёгічныя інстытуты пасылаюць экспэдыцыі на Паўночны Каўказ, у Ольвію, Судак і на Таманскую поўвыспу. Навуковыя работнікі інстытуту географіі будуць праводзіць далей геолёгічнае дасьледваньне ўсходніх Саян.

Усяго на організацыю навуковых экспэдыцый адпускаецца ў бягучым годзе 135.000 руб.

**Беларуская культура ў СССР і за рубяжом**

* Ленінградзкая ілюстраваная часопісь „Красная Панорама“ ў № 12 за бягучы год надрукавала артыкул „Молодая Белоруссия“ Л. Белоруса, у якім робіцца агляд сучаснай беларускай літаратуры ў асобах яе важнейшых прадстаўнікоў. Артыкул ілюстраваны портрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Цішкі Гартнага.

* Выдавецтва Ленінградзкай газэты „Красная Газета“ падрыхтавала да друку беларускі зборнік, які прысьвячаецца лютаўскаму прыезду беларускіх пісьменьнікаў у Ленінград. У зборнік уваходзяць ужо друкаваныя творы. Уступны артыкул да зборніка дае вядомы публіцысты-літаратар, знаўца беларускай літаратуры Л. М. Клейнборт.

* У Ленінградзе залажылася беларускае навуковае таварыства. На чале таварыства стаіць проф. Ленінградзкага унівэрсытэту Е. Канчар.

* Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР намеціла да выданьня зборнік выбраных твораў Янкі Купалы. Уступны артыкул да зборніка піша Л. М. Клейнборт. Перакладчыкамі— выдатныя расійскія поэты, як Н. Асееў, Сяргей Гарадзецкі ды інш.

* Тым-жа выдавецтвам прыгатаваны да друку зборнікі М. Зарэцкага, Я. Нёманскага ды інш.

* Вядомым расійскім поэтаю Сяргеем Гарадзецкім зроблена шмат перакладаў з беларускага. Ім перакладзены на расійскую мову вершы Цішкі Гартнага, Міхася Чарота, Алеся Дудара ды іншых. Частка перакладаў друкуецца ў першым альманаху „Страна Советов“, які выдаецца пад рэдакцыяй Максіма Горкага.

* Пры Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук засноўваецца беларускі аддзел. Да працы ў гэтым аддзеле запрашаюцца праз Галоўмастацтва БССР т. т. Шукайла, Е. Хлябцэвіч, Л. Клейнборт і выдатнейшыя беларускія пісьменьнікі.

* Дзяржаўн. выдавецтвам РСФСР выдаецца альбом з маленькімі аўтобіографіямі савецкіх поэтаў і пісьменьнікаў. У альбоме адведзена значнае месца беларускім пісьменьнікам.

* У аддзеле „Творчасьць народаў СССР“ выдавецтва РСФСР маецца быць выданы альманах беларускае поэзіі ў перакладзе вядомых расійскіх поэтаў.

* У № 5 за бягучы год чэскай ілюстраванай часопісі „Reflektor“ зьмешчаны вершы Алеся Гурло, прысьвечаныя Цішку Гартнаму „Zàpasnikovi“ („Ваяку“) у перакладзе проф. доктара Ф. Ціхага.

* У дадатку да чэскай газэты „Овчапа“ (Абарона), якая выходзіць у Нью-Ёрку (Амэрыка), № 17, зьмешчана апавяданьне Цішкі Гартнага „Дойдзем, сынок“ у перакладзе проф. д-ра Ф. Ціхага.

* У № 64 за бягучы год чэскай комуністычнай газэты („Чырвоны вячэрнік“), зьмешчаны артыкулы „Ленінградзкае атэлье Белдзяржкіно“.

* У Празе-Чэскай вышаў першы нумар славяназнаўскай часопісі на нямецкай мове „Slavische Rundschau“, у якой адведзена шмат месца хроніцы з беларускага культурнага жыцьця. Гэтак у часопісі адмечаны заснаваньне Беларускай акадэміі навук, сьвяткаваньне юбілею Цішкі Гартнага ды інш.

* Вядомым культурным працаўніком з эпохі „Нашае Нівы“ Яўг. Хлебніцкім напісана і здана ў Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР вялікая праца на тэмы „Адбітак рэволюцыі ў беларускай літаратуры“.

* Віленскі самаўрад вызначыў штогадовую так званую „меншасьцёвую“ прэмію ў 1.500 злотых за лепшую літаратурную працу на беларускай, літоўскай і яўрэйскай мовах.

* У № 3 латыскага штомесячніка „Домас“ (Думка) надрукаваны артыкулы Матыльды Езавітавай „Агляд беларускай літаратуры“. Гэта зьяўляецца першым артыкулам у латыскім друку пра беларускую літара-

туру. Артыкул выданы таксама асобнай кніжачкай.

* Моладзь і настаўнікі рыскай беларускай школы прыслалі прывітаньне часопісі „Полымя".

* У нумары першым украінскай часопісі „Авангард", якую выдаюць сьпіралістыя на чале з вядомым поэтаю Валер'янам Полішчуком, зьмешчаны прывітальны артыкул Цішку Гартнаму з прычыны яго дваццацігадовага юбілею, які адбыўся ў канцы 1928 году.

* Чэская „славянская кнігарня" пры міністэрстве замежных спраў зьвярнулася ў рэдакцыю часопісі „Полымя" з просьбаю высылаць ёй часопісь у абмен на любое, выбранае рэдакцыяй па каталёгу кнігарні, выданьне.

* Праз аддзел міжнароднага кнігаабмену Усесаюзнага таварыства культурнай сувязі з замежамі за тры месяцы (студзень—сакавік) бягучага году выслана за межы БССР 2328 экз. розных выданьняў.

* Літаратурны аддзел ВОКСА мае выдаваць літаратурныя бюлетэні. У бліжэйшым бюлетэні будзе адведзена месца артыкулу і хроніцы аб беларускай літаратуры.

* У кніжцы чэскага славіста Франка Вольмана „Slovesnost Slovanû" (Praha) 1928, сэрыя „Slovane Kulturni obraz Slovanskèho Svêta Die II) адведзена месца і беларускай літаратуры. Гэта першая спроба ўвесьці ў агляд славянскіх літаратур беларускую літаратуру. Аднак, беларускай літаратуры проф. Вольман прысьвяціў усяго адну старонку. Тут ён у кароткіх словах гаворыць пра творы Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, С. Плаўніка, А. Прушынскага, М. Багдановіча і Ф. Аляхновіча. Пералікам гэтых імёнаў і вельмі кароткаю характарыстыкай паказаных пісьменьнікаў ды некаторых іх твораў і абмяжоўваецца аўтар у сваёй досыць вялікай працы. Між іншым, гэта кароткасьць—агульны недахоп кніг, якія ў значнай меры зьяўляюцца простым, часамі бяссыстэмным пералікам імёнаў і твораў розных поэтаў і пісьменьнікаў.

* У канцы красавіка г. г. беларускія культурныя організацыі г. Рыгі (Латвія) наладжваюць Дзень беларускай культуры. Прэзыдэнт Бел акадэміі навук—акадэмік У. Ігнатоўскі і рэктар БДУ акадэмік У. Пічэта атрымалі запрашэньне прыехаць у Рыгу. Акадэмік Пічэта прачытае лекцыю на тэму: „Галоўныя моманты ў гісторыі разьвіцьця беларускага народу і беларускай культуры", а акадэмік Ігнатоўскі—„Асноўныя моманты беларускага нацыянальнага адраджэньня".

* У украінскай часопісі „Червоний Шлях" № 1 за 29 г. надрукаваны некалькі вершаў беларускага поэты М. Багдановіча ў перакладзе М. Драй-Хмары, і ў другім нумары за люты месяц артыкул А. Вазьнясенскага—„Сучасны беларускі тэатр".

* Мясцкомам Украінскай акадэміі навук, у Кіеве, была наладжана вечарына беларускае культуры. Ініцыятарам гэтае вечарыны было Беларускае кіеўскае студэнцкае зямляцтва. Цалкам насустрач жаданьню яго інформаваць украінскія культурныя колы пра дасягненьні белар. культуры пайшоў і мясцком Украінскае акадэміі, які наладзіў вечарыну ў сваёй вялікай (на 500 асоб) залі. Наладзіўшы гэтую вечарыну, мелася паказаць цяперашнюю беларускую культуру, прадэмонстраваць яе перад пролетарскім Кіевам. Гэта, думалася, будзе вялікім зьвяном у проблеме культурнае сувязі савецкіх рэспублік.

Справа ў тым, што на Украіне (ці лепш сказаць — нават на Украіне) мала ведаюць пра беларускую культуру. Толькі ў апошнія гады нешта зроблена. Зьявіліся некаторыя артыкулы пра цяперашнюю Беларусь і яе жыцьцё і культуру ў украінскай прэсе.

Пісалі украінскія пісьменьнікі, якія былі ў 1928 годзе ў Менску. Але наогул гэта—нешматлікія артыкулы.

Вечарына была наладжана 10 сакавіка. Програма была зложана з разьлікам на прыезд таварышоў з Менску.

На жаль, выйшла так, што прыехаў толькі квартэт 1 тэатру. І ўсё-ж такі концэрт прайшоў вельмі добра. Шмат публікі пабачыла ў гэты вечар заля мясцкому ВУАН.

З уступным словам і з невялічкім дакладам пра беларуска-украінскія адносіны выступіў вядомы украінскі гісторык-марксысты проф. Гермайзэ. У цікавай прамове ён гаварыў пра вялікае значэньне культурнай сувязі паміж савецкімі рэспублікамі, паміж Украінай ды Беларусьсю. Тав. Гермайзэ ўспомніў старыя часы, калі яму ў яго рэволюцыйнай рабоце шмат давялося сустракацца з беларускімі дзеячамі.

Пасьля прамовы тав. Гермайзэ, якую прысутныя прадстаўнікі профсаюзных мас ды пролетарскага студэнцтва праслухалі з вялікай увагай, выступіў квартэт 1-га Белдзяржтэатру. Перад концэртам таварышы з квартэту баяліся, ці спадабаецца мінорная, сумная беларуская песьня прысутным. Але прыём беларускіх артыстых быў самы гарачы і песьня зрабіла вялікае ўражаньне. Шумнымі воплескамі публіка выяўляла сваё здавальненьне.

Пасьля антракту выступіў украінскі поэта Драй-Хмара. Тав. Драй-Хмара друкуе цяпер кніжку перакладаў з М. Багдановіча. Некаторыя з гэтых перакладаў ён і прачытаў на вечарыне. З гэтых твораў украінская публіка магла пабачыць усю мастацкасьць беларускага поэты і з гэтага зрабіць вынік, што беларуская поэзія з формальна-мастацкага боку стаіць высока.

Перад другім выступленьнем квартэту некалькі слоў пра беларускую музыку ды пра адносіны яе да украінскае музыкі сказаў вядомы украінскі вучоны, выдатны спэцыялісты ў музычнай этнографіі К. Квітка. Пасьля гэтага зноў выступаў беларускі квартэт сьпевакоў. На гэты раз ён меў яшчэ большы посьпех. Шмат якія сьпевы публіка прасіла паўтарыць.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ СССР

## РСФСР

* „Межрабпом-фільм“ падпісаў дагавор з „Кіно-Сібір'ю“ на сумесную здымку чатырох карцін. Першай працаю пойдзе карціна „Калчак“.

* У канцы траўня бягучага году экспэрымэнтальны тэатр дае новую опэру „Сын сонца“. Паказаная ім опэра композытара Шышова „Тупейны художнік“ цікава як зьместам, так і пабудовай музыкі.

* Маскоўскі мастацкі тэатр намеціў да пастаноўкі інсцэнізацыю роману Н. Чэрнушэўскага „Что делать?“.

* Пісьменьнік Кос. Большакоў працуе над новым романам—назваю „Другая дзяржава“.

* Старшынёю ўсерасійскага саюзу пісьменьнікаў абраны Б. Пільняк, а сакратаром—А. Эфрос.

* 120 лет таму назад, 19 сакавіка (па ст. ст.) 1809 г. у мястэчку Сарочынцах на Украіне нарадзіўся адзін з найвялікшых пісьменьнікаў-сатырыкаў 19 веку, Мікалай Васільлевіч Гогаль. Творчы пэрыод жыцьця Гогаля супаў з рэакцыйным часам эпохі Мікалая Палкіна. Даведзенае да абсурду прыгнечаньне ўсякай жывой думкі, пышны росквіт самага немагчымага бюрократызму, хабарніцтва, падхалімства—вось характарныя рысы тэй эпохі. Гогаль выступіў з надзвычайна трапнымі і ўдалымі сатырамі на норавы і быт свайго часу. Творы Гогаля на першы погляд поўныя яркага комізму, сьмеху і вясёласьці, у сапраўднасьці мысьлячымі сучасьнікамі расцэньваліся, як „сьмех скрозь сьлёзы“.

Фэўдальная, самадзяржаўная, бюрократычна-чыноўніцкая Расія ў творах Гогаля жорстка высьмейвалася. І ў гэтым—рэволюцыянізуючае значэньне твораў Гогаля для свае эпохі.

На жаль, слабасьць фізычнага здароўя пісьменьніка і ўроджаная схільнасьць да містыцызму ў канцы жыцьця адхілілі Гогаля ад таго шляху, па якім ён ішоў у пачатку. Нарастаньню гэтых настрояў нямала дапамагаў і той цэнзурны ўціск, якога гэтаму яскраваму і моцнаму таленту прышлося выпіць поўны келіх у эпоху росквіту сваіх сіл.

* З першых месяцаў 1929 г. рэорганізуецца і абнаўляецца літаратурна-мастацкі штомесячнік Закаўкаскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў „На рубеже Востока“. Журнал мецьме аддзелы: 1) літаратурна-мастацкі, 2) літаратурная спадчына, 3) нарысы, 4) тэорыя літаратуры і мастацтва, 5) крытыка, 6) літаратурны штодзеньнік, 7) мастацтва, 8) на літаратурных організацыях, 9) хроніка тэатру, кіно, малярства, архітэктуры і 10) бібліографія.

* Акадэмія Навук СССР аднавіла прыпыненае перад лютаўскай рэволюцыяй выданьне твораў Пушкіна. Апошні 4 том вышаў у 1916 годзе. У бліжэйшы час выходзіць 9-ты том, у якім сабраны палітычныя, публіцыстычныя, полемічныя і крытычныя артыкулы Пушкіна. Вельмі цікавымі зьяўляюцца ўрыўкі Пушкіна аб расійскай журналістыцы.

### Савецкая Украіна

* Поэта П. Тычына піша лібрэта да опэры „Маруся Богуслаўка“. Музыку піша композытар Гліэр.

Лібрэта другое опэры „Залаты абруч“ па роману Франка „Захар

Беркут“ напісаў драматург Якаў Мамонтаў, а музыку піша Леташынскі Б.

* У Харкаве вышаў з друку і паступіў у продаж № 1 за бягучы год часопісу сьпіралістых „Авангард“ пад рэдакцыяй В. Палішчука. Часопіс багаты зьместам і надзвычай цікава аформлены. Некаторыя артыкулы і вершы надрукаваны адначасна на дзьвюх мовах. Па арыгінальнасьці і навізьне „Авангард“ зьяўляецца адзіным часопісам ва ўсім СССР.

* У парадку далейшае культурнае сувязі паміж УССР і РСФСР Маскоўскі вялікі тэатр запрасіў на гастролі прэм'ера Харкаўскае опэры украінскага драматычнага тэнора М. Голыньскага.

* 13 красавіка г. г. Харкаў наведалі нямецкія пролетарскія пісьменьнікі—Курт Клебер, Ганс Лойбейер, Карл Грюнберг, Курт Пэтэрсон і Ганс Мархвіц. Пісьменьнікаў на вагзале сустракалі амаль ня ўсе украінскія пісьменьнікі, шмат рабкораў. Пасьля спатканьня быў наладжаны концэрт і таварыская вячэра.

* *Рамановіч-Ткачэнка М.* (Украіна)—закончыла і здала ДВУ да друку роман-трылёгію ў 3-х частках „Мандрывныця“.

* Камітэт па пабудове помніка Т. Шэўчэнку апавясьціў на 2 гады сусьветны конкурс на помнік Т. Шэўчэнку.

* *Цярэшчанка М.* (Харкаў) падрыхтаваў да друку зборнік вершаў пад назваю „Рэспубліка“.

* „Книгоспілка“ на працягу 1928-29 опэрацыйнага году выдасьць поўны збор твораў М. Гогаля на украінскай мове.

* Укрфіл організуе па СССР і УССР концэртнае падарожжа артыстых—заслужанай артысткі Літвінэнка-Вольгемут, Голынскага, Рудэйцкага.

* Украінскі поэта Ўладзімер Сасюра працуе зараз над вялікай поэмай „Мазэпа“, якую ён распачаў яшчэ ў 1926 годзе.

* У Харкаве, у будынку літаратуры адкрыта цікавая выстаўка мадэляў і проектаў помніка Шэўчэнку. Тут-жа выстаўлены купленыя на Сэмаршчыне і ў Ленінградзе карціны работы Шэўчэнкі. Выстаўка мае на ўвазе падрыхтаваць грамадзтва да шырокага дыспуту: „Якім павінен быць помнік на магіле поэты?“.

* Інжынэр Дахаў правёў надзвычайна цікавую работу па аэро-фотоздыманьню мясцовасьці запаведніка магілы.

* Тыдзень сустрэчы пісьменьнікаў з чытачамі праходзіць з надзвычайным пад'ёмам. Вялікая зацікаўленасьць да украінскае літаратуры адзначаецца ў рабочых Данбасу. Пісьменьнікі атрымліваюць многа запрашэньняў з розных прамысловых цэнтраў Украіны.

* Дзяржаўная опэра паказала опэру „Русалка“ у пераапрацоўцы рэжысэра С. Каргальскага і композытара М. Вярыкоўскага. У опэру ўведзены украінскія танцы і ўвесь вясельны рытуал. Аформленьне зрабіў мастак Хвастоў.

* Ва ўсіх прамысловых цэнтрах Украіны адбываюцца тыдні украінскае культуры. Задачаю гэтых тыдняў зьяўляецца азнаямленьне рабочых з украінскаю культураю і ўцягненьне іх у нацыянальнае культурнае будаўніцтва.

Усюды прымаюць удзел спэцыяльна прыехаўшыя з Харкаву выдатныя поэты і пісьменьнікі, а таксама адказныя работнікі Наркамасьветы. Тыдні праходзяць з надзвычайным посьпехам. З боку рабочых надзвычайная зацікаўленасьць.

* Цяпер у Харкаве знаходзіцца дэлегацыя рабочае моладзі Арцёмаўскай акругі ў ліку 625 чал.

Дэлегацыя наведала музэі, тэатры. У доме асьветы адбыўся вечар-спатканьне рабочае моладзі з украінскімі пісьменьнікамі.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНЫХ КРАІН

## Чэха-Славаччына

* Надоечы памёр на 61 годзе жыцьця вядомы чэскі пісьменьнік Отокар Бжэзіна. Пахаваньне пісьменьніка мела грамадзкі характар. Увесь чэскі друк аддаў памяці памершага вялікую ўвагу.

* Проф. д-р Здэнэк Няедлы, вядомы знаўца музыкі, піша зараз манографію пра творчасьць і жыцьцё нядаўна памершага ў Празе чэскага композытара Остручыла.

* У Празе-Чэскай пачаў выходзіць пад рэдакцыяй Язэпа Горы новы штомесячнік мастацтва і ведаў „Plan“ (Плян). У другім нумары месячніку зьмешчаны новыя вершы Язэпа Горы, Кон. Бебля, Ст. Нэймана, працяг новага роману Ўл. Ванчуры „Апошні суд“ і шмат перакладных рэчаў з расійскіх ды іншых аўтараў.

* Колка мараўскіх пісьменьнікаў за апошні час выдала на сяброўскай падставе цэлы шэраг выданьняў сваіх членаў. Гэтак ім выдадзены кнігі пісьменьнікаў Б. Бухлавана, П. Безруча, Бёгнела, О. Пжыкрыла, Ад. Весэлега, Ант. Весэлега, Р. Тэспоглідка, І. Ціпра, Е. Сокала, Ст. Ціляка, І. Халупскага, М. Яна, Ф. Кропача, І. Мархі, В. Марціка ды інш.

Увогуле, продукцыя колка перавысіла продукцыю Мараўскага выдавецтва.

* У Праскім выдавецтве „Рокчок“ вышла асобнай кніжкай апавяданьне Язэпа Горы „Сьмерць мужа і жонкі Півадавых“, якое друкавалася раней у часопісу „Полымя“ за мінулы год.

* У тым-жа выдавецтве вышла з друку другая частка вялікага роману трылёгіі з часоў чэскага народнага вызваленьня Б. Беняшовай „Падземнае полымя“. Б. Беняшова зьяўляецца аднэй з выдатных чэскіх сучасных пісьменьнікаў, роман якой „Удар“ атрымаў прэмію. („Удар“ Б. Беняшовай друкуецца ў Бел. дзяржаўным выдавецтве).

* Брыскі нацыянальны тэатр ушаноўвае Антона Дворжака і паставіць у траўні месяцы цэлы цыкль опэр Антона Дворжака. З ліку гэтых твораў становяць выключэньне толькі „Арміда“ (нядаўна адноўленая ў Празе) ды „Кароль і вугляр“. Два оркестравыя концэрты ахопяць у сваім зьмесьце паважныя творы з галіны програмнае музыкі і сымфоній. Дырыжэрам пры выкананьні аднае з гэтых сымфоній будзе Таліх.

## Нямеччына

* Нядаўна ў Бэрлінскім аддзеле Гэтэўскага саюзу проф. Оскар Вальцэль зрабіў даклад на тэму пра ўдзел Шыльлера ў напісаньні Гётэўскага „Фауста“. Проф. Вальцэль дакладна разабраў той вялікі ўплыў, які кантыянец Шыльлер меў на свайго вялікага сучасьніка. Ён цьвёрда ўстанавіў, што Гётэ толькі пад уплывам „наіўнага простадумнага чалавека“ ператварыўся ў „сантымэнталістага“, з поэты, якога здавальнялі ўражаньні сьвету—у чалавека з вышэйшай орыентацыяй. Пад узьдзеяньнем Шыльлера Гётэ напісаў шмат твораў і канчаткова аформіў першую і другую часткі „Фауста“.

Даклад Вальцэля меў вельмі вялікі посьпех.

* У Нямеччыне на 1-га студзеня 1929 г. лік радыё-слухачоў дасягнуў

2.635.567 асоб (за адзін год павышэньне на 625 тыс. слухачоў). Англія паказвае 2.594.168, Аўстрыя—318.396, Данія—244.359, Чэха-Славаччына—231.189, Вэнгрыя—134.498, Швайцарыя—68.835, Норвэгія—62.832, Італія—53.000 удзельнікаў.

* Паміж рэчамі, скрадзенымі ў банку „Дзісконто Гезэльшафт", знаходзіцца орыгінальны манускрыпт „Трыстана" пяра Рыхарда Вагнэра.

* *У сувязі з сьвяткаваньнем* памяці Лесінга Гамбург заснаваў вялікую дзяржаўную прэмію імя Лесінга ў 15 тыс. марак, якая выдаецца кожны чацьверты год пісьменьнікам, поэтам і вучоным.

* *Саксонскі ляндтаг* устанавіў прэмію Лесінга ў 5.000 марак для саксонскіх пісьменьнікаў, якія сваімі творамі найлепш узбагачаюць саксонскі народ і найлепш служаць саксонскай бацькаўшчыне".

* У Бэрліне адбыўся аукцыён рэчаў—памятак Гётэ. На гэты аукцыён зьявілася шмат шанавальнікаў Гётэ і прадстаўнікоў музэяў і архіваў. Аукцыён адбываўся толькі ў працягу 20 хвілін і дасягнуў сумы 300.000 марак. Збор 17 лістоў Гётэ да аднэй графіні, з якою ён зышоўся ў 1812 годзе, ацэненых у 10.000 марак, не знайшоў пакупніка, бо лісты прадаваліся толькі разам, а не паасобку.

* Нямецкі проф. Вальтэр Бэрэндсон, напісаўшы біографію Кнута Гамсуна, нарабіў шмат недарэчнасьцяй, супраць якіх Кнут Гамсун выступіў у нарвэскім часопісу з протэстуючым артыкулам. У гэтым сваім артыкуле, між іншым, Кнут Гамсун абвяргае даведкі свайго біографа наконт спатканьня Кнута Гамсуна з нямецкім пісьменьнікам Томасам Манам, які нібы дапамог Кнуту Гамсуну сваім стылем. Кнут Гамсун кажа, што ён, калі і мог бачыць у Мюнхэне Томаса Мана, та нічога з ім не гаварыў, бо ня ведаў і ня ведае нямецкае мовы. Адказваючыся ад уплыву Томаса Мана, Кнут Гамсун прызнае, што ў юнацкія гады на яго зрабілі найбольшае ўражаньне Дастаеўскі, Ніцшэ і Стрындбэрг. „Магчыма,—піша Кнут Гамсун у сваім артыкуле, —што я чамусь навучыўся і ад усіх іншых, гэтага я ня ведаю. Але я ведаю тое, што ні адзін пісака ня можа няправільна прыпісаць мне ўплыў тых пісьменьнікаў, якіх я ніколі ня чытаў.

У літарацкіх колах чакаюць далейшага разгортваньня полемікі Кнута Гамсуна супраць свайго нямецкага біографа.

* 6 лютага прайшло 65 гадоў ад нараджэньня Джона Генрыка Макая, біографа Макса Штырнэра. Прыяцелі Макая, якія спрыялі гэтай працы, рыхтуюць падпіску на поўнае выданьне твораў Штырнэра. У гэтым томе зьмястоўнага шрыфту ў тысячу старонак будуць зьмешчаны: галоўны твор Штырнэра: „Адзіны і яго ўласнасьць", выданыя Макаем „Дробныя творы" Штырнэра і яго біографія, напісаная таксама Макаем.

* Нядаўна памёр у Гамбурзе 32-х гадоў з роду Вальтэр Граматэ. Ён зьвярнуў на сябе ўвагу сьпярша сваімі малюнкамі з салдацкага жыцьця, дзе апісаў свае вайсковыя перажываньні, ілюстраваў Гогаля, апублікаваў графічныя нататкі да вайны і меў вялікі посьпех на бэрлінскай выстаўцы 1925 г. На другой выстаўцы ў Мэльлера ў 1927 г. ён выставіў графіку, акварэль і малюнкі алеем з падарожы па Гішпаніі, а таксама малюнкі да Бюхнэравых фрагмэнтаў. Усё гэта абяцала вялікае мастацкае разьвіцьцё нябожчыка Граматэ.

**Амэрыка**

* У Паўночна-амэрыканскую кіновытворчасьць у бягучы час укладзена два мільярды доляраў. У ёй працуе да 400.000 чалавек.

* Амэрыканскі інстытут архітэктуры прысудзіў гадавы мядаль вядомаму мэксыканскаму рэволюцыйнаму мастаку Дзіега Рывера.

* Як вядома, зараз на паўднёвым полюсе знаходзіцца амэрыканская экспэдыцыя Бірка. Яна адрэзана ад усяго сьвету. Надоечы ў Нью-Ёрку быў наладжаны вялізарны радыёконцэрт для экспэдыцыі. Пастаўленыя радыё-прыёмнікі адсылалі радыё-хвалі на 12 тысяч вёрст. Бірк праз радыё падзякаваў рэдакцыю газэты „Нью-Ёрк Таймс“ за ўладжаны для яго концэрт.

* Амэрыканскія пролетарскія пісьменьнікі наладзілі нядаўна ў Нью-Ёрку „Ноч чырвонае поэзіі“, дзе чыталіся творы ангельскіх, расійскіх, яўрэйскіх, вэнгерскіх, паўднёва-славацкіх, італьянскіх, гішпанскіх і кітайскіх пісьменьнікаў. З амэрыканскіх пісьменьнікаў прымалі ўдзел Міхась Гольд, Язэп Фрэман, Давід Гордон, Герман Спэктар, Лангстон Гугес, Ціян і Вільям Вэйнбэрг.

* У невялічкім гарадку рэспублікі Экуадор Эсьмеральдасе гішпанскім архэолёгам Меркада, які на працягу васьмі гадоў вёў раскопкі, сабрана вагромністая колекцыя рэчаў з эпохі інкаў і яшчэ папярэдняй ёй. Колекцыя мае звыш адзінаццаці рэдкіх прадметаў. Сярод іх мноства замуміфікаваных людзкіх галоў. Спосаб муміфікацыі, які складаў тайну інкаў, надзвычайна цікавы. Галовы рабіліся імі не таўсьцей людзкога кулака, ні нарысы чэрапа, ні характарнасьць рысаў твару не цярпелі ад гэтай опэрацыі. Меркада даводзіць бясспрэчную сувязь культуры інкаў з старадаўнаю монгольскаю культурай.

**Італія**

* Італьянскае выдавецтва Барбэры,—вядомая выдавецкая фірма ў Флёрэнцыі,—пачало выдаваць збор твораў Галілея ў 20 томах, аздобленыя фотографіямі, малюнкамі і факсыміле, якія датычаць жыцьця і творчасьці Галілея.

* У 1930 годзе адбудзецца двухтысячная гадавіна з дня нараджэньня аўтара „Энэіды“. З прычыны гэтага інстытут веды і навукі ў Лёмбардыі абвясьціў конкурс на два крытычныя творы аб аўтары.

Апрача таго, пастаноўлена зрабіць вялікія грашовыя выдаткі на аднаўленьне магілы Віргілія пад Неаполем і аздобіць яе маляўнічым гаем з алеандраў, аліўкавых дрэў і міртаў.

* Марыо-Пуччыні закончыў першы з дзесяці томаў свайго роману цыклю „Fine di secola“ („Канец веку“).

**Гішпанія**

* Дзяржаўную літаратурную прэмію Гішпаніі атрымаў у 1928 г. выдатны малады мадрыдзкі літаратар Хозэ Мантэро Алёнзо за... вельмі ўдалы школьны падручнік. Складаецца ён з выняткаў вершаў і прозы з кароткай характарыстыкай данага аўтара. Да гэтага часу Алёнзо быў мала вядомым аўтарам некалькіх аповесьцяй і новэль.

* У Барцэлёне нядаўна памёр адзін з выдатных таленавітых драматургаў Ігнацыо Іглезіас.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ

**ЦАНА 1 р. 25 к.**